пад дровы. Там ціха і моўчкі пацiскалі яму руку, а стары машыніст Арлоў расцалаваў яго, і жартуючы пацягнуўшы за нос, ціха сказаў:

— І які-ж ты яшчэ малы, мой хлопец! Але справы можаш рабіць вя-л-і-лікія... Ну, расці, ды немцам не пападайся. Яны, брат, такіх большэвікоў, як ты, не паважаюць...

«Такіх большэвікоў, як ты...»—ад такога гонару можна было падскочыць, прайсціся калясом на руках сярод дроў. «Большэвікоў!—гэта не дзедавы турэцкія крэпасці, а куды важней...—думаў і радаваўся Міколка. Але трэба было хутка і непрыметна разыходзіцца з дроў, ды хавацца, каб не папасціся на нямецкае вока. Так вызваліў Міколка арыштаваных прыяцеляў свайго бацькі, якому пашанцавала яшчэ раней пазбавіцца ад нямецкага арышту.

Яшчэ не выспаўся Міколка, як след, пасля начных прыгод, прачнуўся і падумаў: «а што-ж будзе там, ля пакгаўза?» І тут успомніў, а дзе-ж дзед? Учора як разыходзіліся ад пакгаўза, не заўважыў Міколка сярод людзей, куды дзеўся яго стары таварыш.

Міколка агледзеў вагон—няма дзеда. Вышаў за дзверы—і там нямашака. Запытаў у мацеры, тая адказала, што з самае начы не бачыла дзеда і не ведае, дзе ён цяпер.

Няйначай там...—мільганула думка, і Міколка хуценька падаўся з вагона, дабраўся да дэпо і, каб не быць заўважаным нямецкімі часавымі, разам з рабочымі перабраўся праз пуці пад штабелямі дроў. Даволі высока забралася ўжо сонца і мякка прыгравала зямлю. Пад пакгаўзам кружыліся галубы, усё вышэй і вышэй узнімаючыся над страхой, паблісквaючы на сонцы беласнежнымі крыллямі.

— Відаць, нехта папужаў іх...—падумаў Міколка.

І сапраўды, на пуцях каля пакгаўза варушыліся людзі. Манеўровы паравоз падганяў пад пакгаўз арыштанцкі вагон, які сурова пазіраў на Міколку сваімі грознымі вокнамі з тоўстымі жалезінамі кратаў. На падножках вагона стаялі нямецкія часавыя. Ля вагона і паравоза механічна завіхаліся стрэлачнік і сцэпшчык, машыніст панура курыў цыгарку і злосна пляваў праз сваё акенца. Заўважыўшы Міколку, ён сярдзіта замахаў на яго рукой з паравознай будкі і крыкнуў ціха:

— Уцякай, падшывалец, а то дадуць табе немцы пытлю, што ходзіш ты, дзе не трэба...

— Відаць, падаюць вагон пад арыштаваных, што ў пакгаўзе...—падумаў Міколка. Але ўспомніў ноч і пусціўся ў рогат.

— Цяпер будзе камедыя... вось заскачуць немцы, калі даведаюцца...

Міколка хацеў яшчэ бліжэй падыйсці да паравоза, каб разам з машыністам пасмяяцца над дарэмнымі клопатамі немцаў. Машыніст жа свой, бацькаў знаёмы. Але той рашуча замахаў на Міколку рукой, нібы хацеў сказаць...

— Знаю, усё знаю... Не лезь на ражон дарэмна...

Зразумеў Міколка яго знак, падаўся далей ад вагона. Толькі зірнуў на пакгаўз. Той стаяў, як і раней. Той-жа цяжкі замок вісеў на дзвярах. Тая-ж самая пячатка нямецкая вісела на замку. І толькі часавы быў не той, што ноччу.

У гэты час паравоз, бразгнуўшы буферамі, ціха падаўся ад вагона на стрэлкі. І тут успомніў Міколка пра дзеда.

— Дзе-ж ён падзеўся аднак?

І толькі падумаў, як учуў моцны храп са штабеляў дроў. Насцеражыўся адразу Міколка і паціху падаўся ў дровы. Храп быў такі моцны, што станцыённыя вераб'і, прыляцеўшыя на дровы, палахліва круцілі з боку ў бок сваімі дзюбамі. Яны скоса пазіралі на зямлю і палахліва падымаліся цэлаю стайкай далей ад такога небяспечнага месца, дзе чуюцца такія страшэнныя, незразумелыя для іх гукі. Нават часавы ля пакгаўза трывожна пазіраў часам на штабелі дроў, але добра прыслухаўшыся, пачынаў так пазяхаць, што чутно было, як падтрэскваюць яго сківіцы. Відаць, зайздросць брала чалавека такому важнецкаму сну.

На храп і дабраўся Міколка да дзеда. Той, палажыўшы пад галаву бярозавы цюльпак, спаў, як пшаніцу прадаўшы.

— З такім гучным носам можна лёгка і ў турму патрапіць...— падумаў Міколка і пачаў асцярожна будзіць дзеда, торгаючы за руку.

Дзед нечакана раскрыў рот ды як грымне:

— Другая арудзія па бастыёну карцеччу, агонь!

Аж прысеў тут Міколка, ды пакгаўзныя галубы зноў узвіліся спалоханай стайкай. Да крыкнуў часавы па-нямецку:

— Эй! Хто там?

Аднак не ісці-ж Міколку да часавога і растлумачваць яму, што ў дровах нічога страшнага няма, што дзед Астап проста сніць свае турэцкія баталіі, ад якіх цяпер нікому ні холадна, ні горача. Міколка хуценька прыкрыў дзеду рот далоняй і лёгка таргануў яго за бок. Адкрыў дзед вочы, схамянуўся, нешта гаварыць захацеў. Але Міколка рашуча замахаў яму рукой пад самым носам і ціха шапнуў:

— Ні шкні, дзед!

Часавы паслухаў, паслухаў—не чуваць нічога—і паклыпаў на другі канец дэпо.

— Ну, цяпер выбірайся, дзеду, з дроў і блізка сюды не падыходзь. Аднак і падкачаў ты, дзед, можна сказаць, на баявым пасту...—хацеў Міколка сказаць: «заснуў», але не хацелася крыўдзіць дзеда.

— Што падкачаў, то падкачаў...—вінавата прамовіў дзед.—Гады бяруць свае, мой унучак... Сядзеў я тут ноччу, сядзеў, пакуль ты пад пакгаўз лазіў, ды неяк і задрамаў... А тут і сняцца мне ўсякія туркі ды крэпасці... Усё наступаю ды наступаю... І вось-вось ужо ў атаку павінен быў кінуцца, а ты і разбудзіў...

— А дарэмна ты дзед у атаку хадзіў!

— Як так дарэмна?

— А для чаго ты турэцкія дывізіі лажыў, людзей біў? За цара ваяваў? А ты-ж вось уведаў пасля, што гэта за птушка твой цар?

— Дык вось у тым-та і справа, што пасля... А цар? Які ён мой? Па дурасці сваёй, унучак, мы кроў пралівалі, і сваю, і турэцкую...

— Ну вось!—пераможна сказаў Міколка і, захапіўшыся, яшчэ

колькі хвілін ушчуваў дзеда за яго турэцкія прыгоды. Дзед спачатку ўсё аднекваўся, апраўдваўся сваёй мінулай цемнатой, але потым у спрэчкі ўкінуўся:

— Добра табе так разважаць, калі ты ўсяго старога жыцця не бачыў, а пражыў-бы з мае гады...

Слова за слова, спрэчкі набылі такі гарачы характар, што нашы субяседнікі і не заўважылі як апынуліся пасярод нямецкіх салдат, якія акружылі іх і чакалі далейшай каманды рыжавусага і надзвычай злоснага на від нямецкага каменданта.

— Ну вось, і прыехалі...—сказаў з перапуду дзед і змоўк. Маўчаў і Міколка, праклінаючы ў думках дзедавы арудзіі і турэцкія бастыёны, праз якія так нечакана трапілі ў нямецкія лапы. «Гэта-ж трэба, надумаліся дзе спрачацца з дзедам!»

Па загаду каменданта іх павялі да пакгаўза. А справа ўся адбылася такім чынам. Нямецкі камендант, які прышоў з атрадам салдат, каб пераправіць арыштаваных з пакгаўза ў арыштанцкі вагон, учуў гучныя спрэчкі Міколкі з дзедам. Наяўнасць лішніх людзей ля пакгаўза паказалася яму падазронай, ды і хто, наогул, мае права блізка хадзіць ля такога месца... Так натрапіў ён на Міколку з дзедам, і каб высвятліць, што яны за людзі затрымаў іх да пары, да часу. Нельга сказаць, каб Міколка з дзедам адчувалі сябе зручна пад нямецкімі штыхамі, але далейшыя падзеі нямнога ўзнагародзілі іх за якія поўгадзіны іх нечаканага палону.

Паставіўшы дзеда і Міколку каля пакгаўза, камендант важна рушыў да дзвярэй, сарваў пячатку на замку, адамкнуў замок і пацягнуў дзверы. Дзверы не паддаваліся.

Міколка сачыў за камендантам, за яго работай і хітра падміргваў дзеду. Але дзед Астап быў не ў гуморы і ў адказ на Міколкавы падміргванні так сурова зірнуў на яго і так рашуча ўзяўся парадкаваць пецярней сваю бараду, што Міколка палічыў за лепшае «не падсыпаць дзеду солі на раны», як казала часамі маці. Калі дзед бярэцца за бараду гэта знача, што ён узрушаны, узлаваны.

А камендант усё завіхаўся ля дзвярэй. Ён і пыхцеў і соп, аж каплі поту ўкрылі яго лысіну, а дзверы ўсё не паддаваліся. Ён ужо некалькі разоў грозна крычаў, мусіць прапануючы арыштаваным адразу-ж адчыніць дзверы і не заводзіць такой непрыемнай бузы.

— Як-жа, адчыняць табе...—пасмейваўся сам сабе Міколка, успамінаючы, як уцякаючы ноччу з пакгаўза, вызваленыя ім арыштаваныя асцярожна, каб не пачуў часавы, замкнулі дзверы знутры на вялікую жалезную засаўку.

Камендант грымнуў каманду, адышоў у бок, і чалавек з дзесятак салдат наляглі на дзверы. Але яны ні з месца, як моцна не калацілі па іх дзесяткі чалавечых рук. Яшчэ спрытней наляглі салдаты на дзверы, увесь пакгаўз трэсся ад моцнай калатнечы, але дзверы не паддаваліся. І толькі са страхі праліліся некалькі струменчыкаў вады і трапілі за каўнер каменданту. Той падняў галаву ўгару, разгублена паглядзеў на неба, адкуль то дождж. Але ярка свяціла сонца, на небе не відно было ні воблачка, над пакгаўзам

мірна ляталі белагрудыя ластаўкі, нідзе не было аніякага, хоць бы маленечкага намёку на дождж.

Пакруціў галавой камендант, пацяў плячыма недаўменна, на салдат накінуўся з лаянкай. Тыя яшчэ дружней узяліся за працу, і цэлы струмень вады ізноў ёмка трапіў за каўнер каменданта. Аж ашалеў тут камендант, хапіўшыся рукой за спіну, дзе пад мундзірам пацяклі халодныя струменчыкі вады. Тут і салдаты пазіралі на яго, як на цуд, глядзелі ўгару, але неба па-ранейшаму было і чыстае, і яснае, без воблачка, без хмурынкі.

А Міколка з дзедам гэтым часам закрывалі раты далонямі рук, каб не засмяяцца голасна, не прарвацца шалёным рогатам. Хто, хто, а яны то ведалі, адкуль бярэцца нечаканы дождж.

— Узяць бервяно!—закамандваў тут па нямецку камендант. Прынеслі тэлеграфны слуп, які ляжаў на пакгаўзным двары. Узяліся дружна салдаты і ну дзяўбсці слупам ў дзверы. Такі стук паднялі, што народ пачаў збягацца, усім хацелася падзівіцца на незвычайную работу. І тут здарылася такое прадстаўленне, што дзед, расказваючы аб ім пасля, за бокі хапаўся ад вялікага смеху. Толькі гэта слуп разышоўся, як след па дзвярах, як па страсе нечакана раздаўся страшэнны грукат. Ледзь не абамлеў ад страху камендант, але паспеў грымнуць каманду:

— Лажыся! Агонь!

І выхапіў рэвальвер з кабуры.

Ляснуўся вобземлю слуп. Салдаты маланкай сіганулі ў бок і заляглі на зямлю, нацэліўшы вінтоўкі на дзверы. І ў гэты момант скацілася са страхі нешта круглае, чорнае, вялікае, абдаўшы каменданта цэлай рэчкай вады. Яшчэ секунда, і гэтае круглае, чорнае, прабіўшы дно аб камендантаву каску, уссела на каменданта, той толькі і паспеў, што пекануў разы са два з рэвальвера па гэтаму страшнаму ворагу. А потым стаяў, як мыла з'еўшы, лыпаў вачыма. З вусаў ліліся струмені вады і ўвесь ён быў такі прыгажун у гэту хвіліну, такі ваяўнічы з выгляду, што цяжка было салдатам захаваць строгую дысцыпліну ў такі ўрачысты момант. І яны, паўставаўшы з зямлі, заліваліся дружным рогатам, ды энергічна махалі рукамі ў бок дзеда і Міколкі. Тыя зразумелі гэты просты намёк і не прамінулі даць драпака.

Дзед бег так шпарка, што зачапіўся за кастыль і пакінуў на ім халявіну адарванага бота. Ды ў дадатак згубіў красадла, якім выкрэшчваў заўсёды агонь для свае піпкі. Гэтае красадла, як і ўсё ў дзеда, пачынаючы з яго медаляў і канчаючы піпкай, было па яго словах вельмі гістарычным. Таму і зразумелы тыя вохі і ахі, якія апанавалі дзедам, калі ён не далічыўся красадла. Яно заўсёды было прывязана танюткім раменьчыкам да пояса.

— Гэта-ж не са звычайнага жалеза, а з турэцкае крывое шаблі была зроблена гэтая рэч. А шабля належала самаму заядламу турэцкаму салдату-янычару...—успамінаў пасля дзед пра сваю страту і вельмі-ж сумаваў і жалкаваў.

— Яно і відаць!—паддакваў дзеду Міколка.—Калі ты пачынаеш красаць, дык нібы шабляй махаеш, і не падыходзь блізка...

І сапраўды, калі дзед выкрасаваў агонь для піпкі, дык махаў так заўзята рукой, што лепш было адыйсціся далей, каб не атрымаць па ілбу. Дый выгляд тады ў дзеда быў надзвычай суровы і грозны.

Так закончыліся ўцёкі для дзеда. Міколка-ж кінуўся ў другі бок. Як маладзейшы і спрытнейшы, ён пабег пацiху паміж вагонаў, перабег пуці і схаваўся за вадакачку. Апынуўшыся тут, ён не мог уцярпець, каб не паглядзець, а чым жа урэшце скончыцца ўся пакгаўзная справа. Па вітай чыгуннай лесніцы ён спрытна забраўся на вадакачку і, прымасціўшыся пад самай страхой пільна сачыў за пакгаўзам.

Там варушыліся ля каменданта салдаты. Яны вызвалілі яго ад уссеўшай на яго бочкі, разабраўшы яе па клёпцы і паперасякаўшы цесакамі абручы. То была самая звычайная пажарная бочка, якая стаяла на пакгаўзнай страсе, на самым вільчыку, з вадой. Калі пачалі салдаты грукаць у дзверы і трэсці сцены пакгаўза, бочка скранулася ад стуку з месца, пахілілася троху. Вось адкуль былі тыя струменчыкі вады, якія ліліся згары за каўнер каменданту, хоць быў такі ціхі і ясны дзень. А калі салдаты ўзяліся за слуп і ўзяліся не на жарты за дзверы, бочка зусім пахілілася і, пакаціўшыся з грукатам наніз, нагнала вялікага перапалоху на каменданта... Ад нечаканасці той падумаў, што тут цэлая дывізія варожая наступае.

Калі салдаты вызвалілі каменданта з яго вымушанага паланення бочкай, яны зноў узяліся за перарваную справу.

Якія ні моцныя былі пакгаўзныя дзверы, але падаліся яны пад тэлеграфным слупам, бразнулі засаўкі, разляцеліся. Каб падтрымаць свой крыху падмочаны аўтарытэт, камендант храбра кінуўся ў насцеж раскрытыя дзверы, высока трымаючы аднак перад сабою неразлучны рэвольвер.

— А ну, выходзь, бандыты, рукі ўгару!—грозна скамандаваў камендант па нямецку. Але ў пакгаўзе было ціха як у магіле. І толькі пары з дзве галубоў са свістам пранесліся міма падмочаных каменданцкіх вусоў, прымусіўшы яго для перасцярогі разы са два стрэліць у пусты пакгаўз. Ды клубы пылу, узнятыя галубамі, паволі плылі з дзвярэй і ад гэтага пылу папярхнуўся начальнік, зачыхаў. Зачыхаў і ўзлаваўся.

— Смірна!—зароў начальнік і тут-жа: «чых...чых....чых!

— На плячо-о-о!.. чых... чых... чых...

— Шагам... арш... чых-чых-чых...

Выстраіліся салдаты і каб замаскаваць свой вялікі рогат над начальнікам і залішне яго не канфузіць, пачалі дружна чыхаць. Так і пашла што называецца, з носам чыхаючая каманда. І кожны ўяўляў сабе расправу, якую ўчыніць генерал над незадачлівым камендантам, не сумеўшым усцерагчы арыштаваных большэвікоў.

А па станцыі шла ўжо ваенная трывога. Замітусіліся немцы, наладжваючы пошукі ўцекачоў. Але дзе ты іх зловіш! Сядзеў, сядзеў Міколка на вадакачцы і, урэшце, наважыўся падацца ў больш спакойнае месца, бліжэй да дзеда. Каб не папасціся пад гарачую руку немцам, Міколка з дзедам рашылі перасядзець у лесе начы са тры, пакуль кінуць немцы пошукі ўцекачоў.

## СТРЭЛ НА ПАЛЯНЕ

То-ж гэтыя мацеры!

Яны заўсёды плачуць. Бацька на катарзе быў,—маці плакала. Бацька ад немцаў уцякаў—маці ў слёзы. Вось і цяпер, калі сабраўся дзед з Міколкам рушыць у паход, маці таксама пусцілася ў слёзы:

— І куды-ж вы пойдзеце? Каб забілі дзе-небудзь, такі-ж час неспакойны...

— Не заб'юць...—казаў важна дзед.—А калі тут сядзець, то можна да немцаў у лагер канцэнтрацыйны трапіць... А гэта горай, чым заб'юць...

І дзед паказваў мацеры нямецкую адозву да рабочых-чыгуначнікаў. У ёй нямецкі генерал пагражаў рабочым куляй і катаржнымі лагерамі, калі яны будуць выступаць супроць нямецкага войска, нястраўна працаваць на чыгунцы. І асабліва, калі будуць падтрымліваць большэвікоў і думаць аб нейкай там свабодзе.

Маці не спрачалася доўга. Яна ўжо звыклася з такім неспакойным жыццём, гатовая кожную хвіліну да яшчэ горшага. Перад тым, як пайсці ў лес, дзед схадзіў да Міколкавага брата Паўла, які хаваўся дзесьці ў горадзе, і вярнуўся адтуль са зброяй. Ужо ў лесе паказаў дзед Міколку сваю зброю. Гэта быў стары пісталет, які мог бы справядліва канкурыраваць з дзедавай славутай «арудзіяй», якая калісьці ўзарвалася ад Міколкавага стрэлу. Пісталет быў вялікі і цяжкі, але дзед любоўна пачысціў яго, прывязаў рамень, пералічыў і пераацэнілся... і пераацэр патроны і схаваў зброю за пояс.

Так і пашлі.

Ужо цямнела, як прыселі яны адпачыць у лесе, недалёчка ад чыгункі. Адзін за адным шлі таварныя цягнікі. Часта з вагонаў чуваць быў роў жывёлы, рохканне свіней, гагатанне гусей.

— Куды гэта такую процьму жывёлы вязуць?—запытаў Міколка ў дзеда.

— Куды? У Нямеччыну, куды-ж інакшай...

— А дзе яны бяруць гэтую жывёлу?

— Як дзе? У сялян, па вёсках... Рабуюць немцы ўсё, што трапляе пад рукі, сялян жабракамі пускаюць, адбіраючы ўсё да ніткі.

— Ну, я-б ім паказаў як рабаваць!

— А што-б ты ім зрабіў?—запытаў дзед.

— А пастраляў бы ўсіх!—і Міколка многазначна паглядзеў на дзедаву зброю.

— Вось у тым-то і бяда, што мала ў нас зброі, цяжка з ёй супроць нямецкай вінтоўкі да кулямёта выступаць... Вось калі арганізуемся як след, тады ніякі вораг нам не страшны...

Ціха гутарылі Міколка з дзедам, адпачываючы на ўскрайку леса. Але, заўважыўшы нямецкі патруль на чыгунцы, рашылі падацца глыбей у лес, каб выбраць дзе зручную мясціну для начлега.

Несці пісталет відаць было ў вялікі труд дзеду, і ён часта спыняўся, папраўляючы свае не досыць зручнае аружжа. Тады Міколка прасіў дзеда даць яму паднесці пісталет, каб крыху ён, дзед, адпачыў. І Міколка ўрачыста нёс зброю, любоўна пагладжваючы вя-

лікую чорную рулю, праўда вельмі заіржавелую і аблупленую. Міколка цэліўся з пісталета ў дрэвы, у прыдарожнае каменне і быў вельмі задаволены такім важнецкім аружжам.

— Усёроўна, як вінтоўка і страляе мусіць, як з гарматы... Цяпер ніякія немцы нам не страшны... Вось-бы паспрабаваць ды пекануць з яго!—і Міколка прыстаў як смала да дзеда:

— Давай паспрабуем, ці спраўна страляе!

Не было асаблівай ахвоты дзеду займацца стрэльбай, але дзе ты адчэпішся ад унука.

— Ну, добра, вось раскладзем агонь, тады і паспрабуем...

Мейсца для начлега выбралі надзвычай добрае. Старыя яліны высока ўзнеслі свае лапы ў чорнае начное неба, на якім мігцелі рэдкія зоры. Пад ялінамі быў сухі ўзгорак, на якім густа разрасліся верасы, папараць і бліскучы брусьнічнік. Яловыя лапы так моцна перапляліся, што праз іх цяжка было прабрацца. Пад імі-ж было ціха, утульна. Сюды не дасягалі вятры, што глуха гулі па верхавінах дрэў і ніякі дождж не прабіўся-б тут праз гэтыя густыя яловыя нетры.

На ўзгорак нацягалі сухога лісця, моху і, падаслаўшы на зямлю яловых лапак, змайстравалі такія мяккія пасцелі, што дзед аж крактануў ад вялікага задаваленьня.

— Гэта, браце, лепш, чымся твой тапчан у вагоне! Простор, чысціня, мякка і пах які духавіты, ну, не раўнуючы, як буржуйская пасцеля!

— А ты калі-небудзь спаў, дзеду, на буржуйскай пасцелі?—запытаў Міколка.

— Спаць не спаў, але думаю, што пасцелі ў буржуяў важныя, мяккія... Не зручна-ж з іх тоўстым пузам да на падлозе спаць, як нам з табой.

Назбіраўшы яшчэ сушняку, Міколка з дзедам расклалі невялікі агонь, і ён весела патрэскваў, асьвятляючы бліжэйшыя дрэвы і згушчаючы цені за імі. З агнём стала куды весялей. Ён нібы разганяў і тыя гукі лесавыя, да якіх уважліва прыслухоўваўся Міколка і, не разумеючы іх, распытваў дзеда:

— А хто гэта там крычыць?

— А гэта заяц дзе-небудзь каля лесу...

— А хто гэта нібы рагоча так страшна?

— Гэта сава. Яна майстар на ўсе рукі.

— Дык давай, дзеду, пеканём цяпер з пісталета. Весялей будзе, і воўк уцячэ, калі пачуе...

— Ваўкі, браце, не страшны! Цяпер страшней двуногія зверы... А страляць дарэмна не варта, шкада патронаў...

— А ўсё-ж паспрабуем, паглядзім, як страляе...

Дзе ты тут адчэпішся ад Міколкі. Згадзіўся дзед. Міколка ўсё намагаўся, каб самому стрэліць. Але дзед, узгадаўшы колішняе паляваньне, рашуча адмовіў і стаў сам рыхтавацца да стральбы. Зрабіўшы нажом метку на яліне, дзед важна стаў у баявую позу і падняў пісталет угору. Але калі пачаў цэліцца, дык адвярнуў так да-

лёка галаву ад пісталета і так далёка адставіў руку са зброяй, што відаць было, як дзед яўна непакоіцца за вынікі стрэлу, баючыся, каб не паўтарылася старая гісторыя з «арудзіяй». І сапраўды ён хутка крыкнуў унуку:

— Хавайся, Міколка, за яліну, а то чаго добрага...

Падаўся Міколка за тоўстае дрэва і, высунуўшы з-за кары сваю кірпаўку, пазіраў за дзедавым практыкаваннем. А той стаяў усё з выцягнутай рукой і глядзеў зусім у другі бок ад мішэні, відаць, баючыся выбуху.

— Правей, дзеду, правей трымай, а то не ўцэліш!—дапамагаў Міколка сваімі парадамі.

Урэшце дзед адважыўся і, зажмурыўшы вочы, націснуў на курок. Міколку здалося, што ў яліну стукнуў пярун, бо ўся яна моцна здрыганулася, страсянуўшы з сябе цэлы дождж іглiцы і шышак. Аж шорхат пашоў па лесе—так цярушыліся шышкі. Ды агеньчык ледзь не згас ад стрэлу.

Дзед і Міколка ўрачыста пераглянуліся:

— Вось гэта дык арудзія, вось гэта дык б'е!

— Важнецкі б'е не раўнуючы, як батарэя...—задаволена адказаў дзед і пачаў масціцца на нач, схаваўшы пад бок сваю слаўную батарэю.

Аднак спалі трывожна. Насіліся па лесе нейкія таемныя гукі, пагрозліва шумелі верхавіны ялін, і абамшэлыя ствалы гудзелі працягла і сумна. Зрэдку падалі каплі дажджу. З ціхім шолахам скочваліся яны з ялін і сіпелі, трапляючы ў прысак вогнішча. Дзесьці раздаваліся ні то раскаты далёкага пяруна, ні то прыглушаныя стрэлы. А з поўначы палавіна неба зрабілася барвовай. Барвовасць то рабілася цмянай, то набракала залацістай чырванню, нібы падміргвала неба налітым крывёю зрокам. Барвовыя спалохі неба наганялі жудасць і страх. Верхавіны дрэў нібы загараліся тады празрыстым полымем і яшчэ гусцей быў змрок на зямлі.

А з ветрам, што кідаўся зверху, з высокіх вершалін, даносіліся водгукі нейкіх слоў, крыку. Нібы нехта кідаў у чорныя прасцягі ночы прыглушаныя словы ці то просьбы, ці то адчаю, ці гарачага закліку да расправы, да помсты.

Міколка бачыў, як дзед уважліва прыслухоўваўся да нечага, прынікшы вухам аж да самай зямлі. Твар дзеда быў трывожны.

— Што слухаеш, дзеду?

— Нічога, унучак, гэта я так...—схамянуўся дзед, заўважыўшы, што за ім назірае Міколка.—Ты сабе спі спакойна...

Але адзін за адным даляцелі выбухі стрэлаў, і тады Міколка рашуча запытаў дзеда:

— Ты не хавайся ад мяне, а скажы, што гэта робіцца ноччу?

— А што можа рабіцца цяпер? Няйначай немцы вёску паляць, грабуюць. Бачыш, зарава на поўнеба, значыць, хаты гараць.

З апоўначы крыху паспакайнела, і Міколка з дзедам моцна заснулі пад яловым дахам. Але пад самую раніцу, калі пачало ўжо шарэць на ўсходзе неба, ізноў упаўзла трывога ў лес. Прыслухаўся

Міколка да палахлівых гукаў, насцеражыўся. Нейкачай хто плакаў у лесе, да таго-ж выразна чуваць былі паасобныя словы:

— А божа-ж мой, божа...

І яшчэ чуваць былі нейкія словы, але былі яны зусім незразумелымі і ніколі Міколка іх не чуў.

Заварушыўся Міколка.

— Уставайма, дзед! Вунь плачуць, ды блізка недзе... Дапамагчы трэба...

Прыслухаўся дзед.

— Так... плачуць... Ну што-ж, пойдзем, унуча... Вазьмі толькі ў мяшок наша снеданне.

Міколка выкарпаў з цяпла дзесяць печаных бульбін, якія паклаў у прысак, калі лажыліся спаць. Укінуў бульбу ў торбу, якая вісела ў яго цераз плячо. Смачна пахла бульба і ад торбы шла прыемная цяплыня, прыграваючы Міколкаў бок. У самы раз была гэтая цяплыня, бо ў лесе стаяў густы халодны туман, у расе былі лесавыя травы, кусты і дрэвы. Аж пальцы на руках адубелі ў Міколкі ад золкае вільгаці раніцы. Прыкладзеш руку да торбы і добра, як ля печы ўсёроўна.

Развідняла.

Галасы раздаваліся ўсё мацней і мацней, выразна чуўся плач. Вось і вышлі на самы ўскраек лесу да невялічкай палянкі, акружанай непралазным хвойнікам, хмызнякамі. Троху не дашлі да самай палянкі, як спыніліся, схаваўшыся ў хваёвым гушчарніку. Стаялі і моўчкі глядзелі на паляну. І праз якую хвіліну да Міколкі нахіліўся дзед, праказаў гарачым шэптам:

— Ідзі, Міколка, назад, адсюль... Не табе глядзець на брудныя людскія справы...

Але сцяўшы зубы стаяў Міколка і, нічога не адказваючы дзеду, глядзеў на паляну. Пад высокай разгалістай хвояй стаяў чалавек. Быў ён сярэдняга роста, шырокі ў плячах, прысадзісты. Быў ён без шапкі, буйныя пасмы валасоў у беспарадку звісалі на бледны лоб. На чалавеку была звычайная сялянская світка, такія-ж зрэбныя штаны. Ён быў босы і зябка пераміналуся з нагі на нагу. З-пад разарванага каўнера палатнянай сарочкі відаць быў матроскі цельнік у сінюю з белым палосамі.

— Марак, відаць,—падумаў Міколка, успомніўшы матросаў, якія цэлымі эшалонамі праходзілі праз станцыю ў часе рэволюцыі.

Але, што асабліва кідалася ў вочы, гэта быў позірк гэтага чалавека. Ён быў повен вялікае ненавісці да людзей, што стаялі вакол яго з вінтоўкамі, са штыкамі. То былі немцы. Трое вартавалі чалавека, двое таропка, хапаючыся, рылі лапатамі зямлю, капалі яму—магілу. Свежы пясок жаўцеў на палянцы, бразгалі каменьчыкі аб лапаты. Завіхаліся людзі. І відаць было, нібы чаго саромяцца гэтыя людзі, унікаюць глядзець у вочы адзін другому і нібы чакаюць нецярпліва, каб хутчэй скончыць гэтую нудную справу. Толькі адзін з іх, што быў без вінтоўкі і трымаў у руцэ рэвольвер, хадзіў абыякава па палянцы, грозна падганяў тых, што капалі зямлю, крычаў, лаяўся.

— Афіцэр...—ціха шапнуў Міколку дзед і замоўк.

З ямы вылезлі салдаты, кінулі ў бок лапаты, узялі вінтоўкі, што стаялі прыхіленыя да дрэва. Афіцэр падышоў да чалавека пад хвояй, выняў з кішэні нейкую паперу. Страшэнны плач раздаўся на паляне, і Міколка заўважыў тут, што з боку паляны пад зламанай бярозай стаяла жанчына з дзіцем на руках. Другое, большае, стаяла побач, трымаючыся адной рукой за падол мацеры, другой расцірала слёзы на перапалоханым і запэцканым тварыку. Жанчына кінулася была да чалавека, што стаяў без шапкі, але грозна закрычаў афіцэр, і, наставіўшы на яе рэвальвер, адагнаў назад.

Афіцэр, спяшаючыся, чытаў прысуд:

— За пасягненне на маёмасць і жыццё мясцовага пана... за парушэнне закону аб уласнасці... за супраціўленне імператарскім нямецкім войскам... за падбухторванне сялян супроць падаткаў... батрак Сямён, былы матрос і член былога бальшэвіцкага совета, па загаду яго імператарскага вялічаства імператара ўсяе Германіі Вільгельма II прысуджаны ваенным судом да расстрэлу...

Пара салдат кінулася да чалавека пад хвояй і сталі надзяваць яму мяшок на галаву. Але чалавек рашуча скінуў яго і, кінуўшы мяшок у твар афіцэру, крыкнуў:

— Прэч, нягоднікі!.. Не мне баяцца смерці, як вам, сабакам... Але памятайце, нават з магілы я падыму свой кулак, як грозную перасцярогу вам... І многа яшчэ жывых...

Далейшыя словы былі не чутны. Нешта грозна крычаў афіцэр. Бразнулі затворы вінтовак. Міколка сцяўся ў халодны камяк, нібы ўліп у зямлю. Яго слых абвастрыўся да таго, што ён чуў, як шархаціць пясок на магіле, як скочваюцца каменьчыкі на дно ямы. Ён чуў, здаецца, сваё ўласнае дыханне. Ён бачыў, як непакойна стаў варушыцца дзед, дастаючы нешта з-пад пояса. І гарачыя слязінкі павіслі на расніцах. Вось, вось расплачацца Міколка, выдасць сябе і дзеда ў гэтай лесавой схованцы.

Грымнуў стрэл. Празрысты дым пасцілаўся над палянай. У ім губляліся фігуры салдатаў. Бачыў Міколка: чалавек як стаяў, так і стаіць. Вось яшчэ цэляць салдаты, але бачыць Міколка, як неўпэўнена ходзяць іх рукі, як дрыжаць вінтоўкі, паднімаючыся то задужа высока, то нізка. Яшчэ грымнуў залп, а чалавек усё стаіць пад хвояй, і вочы яго гатовы, здаецца, спапяліць усё перад сабою, да таго гараць яны палаючым блескам. І вось бачыць Міколка, як азвярэлы афіцэр кідаецца да салдат, выхватвае ў аднаго вінтоўку і пачынае цэліцца ў чалавека пад хвояй.

І не заўважыў Міколка, як над самым яго вухам грымнуў незвычайны стрэл. Афіцэр упаў, як падкошаны, нязграбна раскінуўшы рукі на жоўтым пяску. Выразна бачыў Міколка падэшвы яго ботаў з прыстаўшаю да іх зямлёй. Ды яшчэ бачыў, як кінуліся у бок напалоханыя салдаты, ды блізка каля іх шпарка прабег той чалавек, што стаяў дагэтуль пад хвояй. Чалавек, якому хацелі завязаць вочы, каб ніколі, ніколі не бачыў ён ні зары, ні яснага сонечнага ўсходу, ні чыстых зор, ні ўсяго, што ёсць на прыгожай зямлі. Гэта быў

адзін толькі момант, калі здавалася, нібы прыкуты быў да месца Міколка. Не мог скрануцца, ні паварушыцца.

— Пойдзем хутчэй адсюль, унучак! Не варта тут доўга аставацца...

Дзед быў узрушаны не менш, чым Міколка і торапка хаваў сваю зброю за пояс.

І тут не вытрымаў Міколка. Ён кінуўся к дзеду на шыю. Ён церабіў яго сівую бараду, ласкава гладзіў шурпатыя шчокі ў маршчынах, і што раз цалуючы, гаварыў, гаварыў:

— Які-ж ты, дзед, слаўны чалавек... Які-ж харошы, дзядуля... Які-жа ты, мой дзеду, храбры...

Але дзед тут паморшчыўся крыху.

— Пра храбрасць ты кінь... Не ў ёй справа, унуча! Кожны павінен дапамагчы свайму чалавеку, які з мазаля жыве і якога крыўдзяць...

Міколка з дзедам, спяшаючыся, пашлі ад таго месца, дзе вызвалілі яны ад смерці чалавека, якога яны нават не ведалі, пра імя якога не чулі ніколі. Вызвалілі таму, што на чалавеку было зрэбнае палатно, у чалавека былі мазалі, чалавека хацелі забіць насільнікі, прыгнятальнікі.

(КАНЕЦ БУДЗЕ)

*Булат Ішэмгулаў*

## ПРАВАДЫР

Ленін...
Імя яго—нібы сонца ўначы...
Імя яго—як паўстанне гучыць...

У дзікі буран, што стрыножвае дух,
У пустэчах, дзе к сонцу патаемна ўцякае вада,
У мядзвежых лясах, дзе з бурай змагаецца дуб,
Дзе лісінымі сцежкамі не ляжыць чалавека хада,
У дарогах вялікіх, дзе па вехах бягуць правады,
У дарогах глухіх, дзе людзям не пазбыцца бяды,
Чулі светлыя зоркі вінтоўкі бяссоннае стук,
Вобраз яго на варце стаяў з намі тут.

Мы былі змагарамі самай найлепшай вайны,
І кожны, як сэрца, пякучы штандар той сцярог,
Мы былі змагарамі непрымірымай сваёй стараны—
І там, дзе мы йшлі—супрацiўніку мала дарог!
На зямлю пралівалі штандары гарачую кроў
І ў рэках раўла людская гарачая кроў.
У зімовыя ночы кастры паўставалі, як знічкі
І пад свісты буранаў, у кругавароце вятроў
Надзвычайны народ нараджаўся ў грымотны Кастрычнік!

Зямля на дыбы станавілася ў дыме, у агні,
Стагнала галеча і па вуліцах голад палёг...
Але мары квітнелі пра пераможныя дні,
Адзінае сэрца ў нас клекатала ў грудзёх
Мы, як вецер, ляцелі ў даліны, лясы і палі,
Мы пераходзілі безліч нястрыманых рэк,
Мы ішлі на разведку па гудах гудзеўшай зямлі
І ў доўгай начы мала сноў выдумляў чалавек...

Мы ворага гналі абходам тады за Урал,
Пакідаючы ззаду трупы яго і шрапнелі
І з кожным снарадам, каторы масты разрываў,
Шляхі пераможныя нашы святлелі...

Адскакалі гады...
Але ў памяці сэрца гудзе
Пульс вялікіх,
Гарачых і ўзмыленых дзён.
Васілій Чапаеў дывізію к славе вядзе,
Пад Кашырыным скача
Буяны, ўстрывожаны конь...

Адшумелі гады...
Але зноўку ўзнімаецца дым,
Скрозь выростае праца
У мільёнагалосы хор.
І краіна ўстае,
І вядзе яе словам жывым
Правадыр, што памёр...

Ленін...
Імя яго—нібы сонца ўначы.
Імя яго—як паўстанне гучыць...

*Пераклаў з башкірскай мовы*
Юр. ЛЯВОННЫ

*Даут Юлтый*

## НАЧНОЕ СПАТКАННЕ

Гэтай ноччу —
        крывавы залом,
Ноч паўзе над башкірскім сялом,
Там за каменем белабандыт,
Змрок журбой і трывогай спавіт.

Калі ноччу пагібель ідзе —
Яна нас даганяе і ў дзень.
А прамень —
        да вар'яцтва прыгож,
А прамень —
як навойстракы нож...

Дзень—ён знойдзе ў лясах і ў жытах
І атукне,
        Ўзнімаючы страх —
Дапаможа знайсці бандыту
Пешахода, што будзе забіты.
Нашы сёлы ўціскае Калчак,
Ён збірае з кібітак ясак.

Толькі ноччу
        мне дыхаць глыбока,
Толькі ноччу
        кябачны я воку,
Шорах ног маіх па траве
Бурай страху гудзе ў галаве,
І грыміць, як гармата, ў той час
Сук, мне трапіўшы пад абцас.

Але ўсё бліжэй
        мой дом —
Праз туманаву воўну
Я іду напралом,
Нецярплівасці поўны.

Хто ўстрывожыў сабак.
Ён стары ці дзіця
Хто хіснуўся неўзнак,
Цемру промнем праця̆ў...

Я ў акно свайго роднага дома
Стукнуў тройчы. Вядомая рэч:
Рыпяць палавіцы знаёма
І маці
 ідзе насустрэч.

Я ішоў сюды з цёмных завулкаў,
Чакаў: небяспека міне...
Ад стомы ў горле прагоркла,
І момант —
 на ўліку ў мяне...

І маці імкнецца да сына, —
Ні гуку
І ціха наўсцяж,
Як быццам у жудаснай стыні.
Застыг анямелы прасцяг.

О, мама. Я ведаю: з вамі
Мне нельга застацца цяпер,
Але навакол зацкаваны,
Яшчэ я не злоўлены звер.

Маці шэпча: на Захад ідзі ты, —
Мы сціяты жалезным кальцом,
Яшчэ ўчора былі тут бандыты,
Перарылі, шукаючы дом.

За маім ненаглядным сынам,
Па даносу Гафіз-муллы,
Шнырацъ ваўкі з сэрцам змяіным
І душой, што чарней ад смалы...

Заглядзелася руля вінтоўкі
На трынаццаць большэвікоў...
Іх няма... Але, смелы і лоўкі,
Чатырнаццаты—будзь здароў.

Гавару я табе, сыночак —
Чорным-чорна ў муллы душа,
За табою таксама сочыць
Крыважорны Ярмат—ляўша.

Вось наш гнеды: скачы падалей,
Стэп як бачыш, падаць рукой,
Ёй не быць ужо за адміралам,
За нялюбым ёй Калчаком.

— Добра, маці мая:
твой сынок не баіцца
Ні Гафіза—ханжы, ні Ярмата.
Добра, маці мая, —
'шчэ блісне заранiца
Па-над згорбленай нашай хатай.

*Пераклаў з башкірскай мовы*
Юр. ЛЯВОННЫ

*А. Оршын*

# НА ВАЛААМЕ

*(З кнігі „Паўвека“)*

I

Загады граданачальніка Грэсэра выконваліся хутка: ужо на трэці дзень гарадавы з арыштнага дома вёў мяне на Выбаргскую старану, на маю кватэру, за рэчамі. А восьмага, раніцою, была прызначана мая адпраўка.

Елізавета Паўлаўна з Юркам абедалі. Убачыўшы мяне з гарадавым, абое яны акамянелі.

— Зноў?!—схапілася за галаву Пакроўская.—Зноў пераварачваць усё будзеце?!

— Выдайце вось ягоныя рэчы,—абыякава праказаў гарадавы.

— Госпадзі! Ды збаўце вы мяне ад напасці!.. Во-ось пакараў мяне бог за маю дабрату!.. Якія тут яго рэчы! Вунь падушонка ды коўдра нейкая...

— Сарочкі мае там яшчэ... а пасцель я не вазьму.

— Ды каму гэты твой брудны мяшок патрэбен? У памыйную толькі. У-у-у... Змяёныш! Каб табе шчасця не было! Хамскі вырадак—дабраты людское не адчуваеш!..

— Мадам, лаяцца няможна!—перарваў гарадавы.—Давайце ягоныя рэчы без лаянкі.

— Я не лаюся... Я... У мяне з-за яго ўсё сэрца паранілі,—яна раптам устала перад самым косам гарадавога.—Ты не думай! Я з шляхетных! А калі я працую, дык гэта толькі беднасць мяне прымушае. І хлопчык мой працуе. І мой хлопчык сабе на хлеб зарабляе! А з-за яго,—паказала яна на мяне,—а з-за яго, яго цягалі па следчых, ды па часцях цэлых два месяцы... За таварыша палічылі, з завода зволілі...—Пакроўская выцерла слёзы.—Хацела студэнта якога наняць, каб хоць навучыць хлопчыка на першы класны чын... а цяпер воўчы пашпарт яму далі...

— Гэта нас не тычыцца, мадам. Гэта, як вы ёсць благародная, можаце даходзіць па начальству,—суцяшаў гарадавы.

Юрка сядзеў за сталом, схудзелы, хмурны. Ён унікаў маіх позіркаў. Было відаць: нашай дружбе быў пакладзен рашучы канец.

Сабраўшы свае манаткі і закруціўшы іх у коўдру, я ўскінуў клунак сабе на плечы. Гарадавы ўсё яшчэ чагосьці стаяў. Нарэшце сказаў:

— Ну, хадзем.

— Да пабачэння, Юра! Мяне высылаюць на Валаам!—павярнуўшыся, крыкнуў я.

Юрка пачырванеў. Ягоныя вочы бездапаможна забегалі, ён адвярнуўся:

— На Сахалін-бы цябе, трэба за тваю подласць!—прашыпела Елізавета Паўлаўна.

Восьмага чэрвеня з раніцы нахмурылася, а да часу адыходу парахода заімжэў дождж. Мяне здалі параходнай адміністрацыі пад расьпіску і заперлі ў арыштанскую каюту. Замкнуты, «зняволены» я плыў усю Няву, да Шлісельбурга, а калі «вышлі ў мора» мяне выпусцілі на палубу.

Дзьмуў моцны поўночна-усходні вецер. Возера хвалявалася. Параход мерка гойдаўся. Пасажыраў наогул было мала, а цяпер, у часе качкі, і тыя зьніклі з палубы ў цёплыя каюты. Чалавек з пяць, між іншым, бадзяліся, трымаючыся за што можна. Таго-сяго пачало кудзіць. Я на свежым паветры адчуваў вельмі добра. Я пахаджваў ад кармы да носа, мераў крокамі даўжыню парахода: 62 крокі—гэта дваццаць сажняў. Быццам схаваўшыся, штосьці рабілі матросы. У рубцы стаяў бязвусы, але з бародкай, пажылы фін і трымаўся рукой за калясо.

Больш ужо гадзіны ішлі возерам. Вецер мацнеў. Берага даўно не відаць, навакол адна вада. Паблізу яна клубілася быццам нехта выпіхаў яе зьнізу і, вырваўшыся на паверхню, клубкі каціліся, завастраліся ў грабяні, а грабяні пеніліся і разляталіся.

Возера ўжо гнеўна стогне і ўздыхае. Я стаю, трымаюся за жалезны прэнт каля спуску ў каюты і гляджу, як узнятыя вадзяныя грабяні ападаюць на параход і заліваюць палубу.

— Утопімся! О, госпадзі!—роспачліва выглядвае з спуску нейкі багамолец, купецкай складкі.

Яго словы скіроўваюць і маю ўвагу на гэтае... Але я адчуваю, што мне не страшна. Не страшна мне! Няхай сабе мы не даедзем да Валаама. Мне страшна, што я высланы. Страшна, што даведаюцца аб гэтым дома, на вёсцы. Я выслан бязвінна... Але... хіба там будуць разбірацца: правы я ці вінаваты? Калі выслалі, значыць—было за што. Не жыццё бацьку. Сарамата!

Возера кіпела і шыбалася вадою. Раз'юшаная стыхія настройвала да барацьбы, да супраціўлення... «Гэткая несправядлівасць... Гэткі здзек з безабароннага вясковага хлапчука!»—абураўся я. Упершыню мною авалодала злосць і скавала маё сэрца ў камок. Над галавою свішча вецер, вакол кіпіць вадзяная бездань, сячэ вадою мой твар, мае грудзі і быццам разбівае скаваўшую мяне тугу.

— Лепш памерці вось так, вось у гэтай буры!—мільгае не думка, а ўзроджаны істынкт волі і помсты за ўсё, што давялося перацярпець. Стала лягчэй. Я адразу адчуў, што цяпер ужо не буду падстаўляць сваю галаву пад удары сустрэчнаму і папярэчнаму, не: я цяпер буду змагацца!

— Гэй, ты туз козырны! Марша ў каюты!—узяў мяне за плячо матрос,—а то начальства непакоіцца: як-бы за борт не выкаціўся,—дадаў ён.

Пад палубай быў толькі адзін паверх. У насавой частцы, на ўсю шырыню парахода і ледзь не палавіну ўдаўжкі была не то агульная, не то буфетная. Стаялі столікі і прышрубаваныя да падлогі крэслы. У такое надвор'е нікхто не піў і не еў. Чалавек з паўсотні сядзелі, ляжалі, качаліся... Палову нудзіла. Тут з «нудных» гутарак я даведаўся, што ўсе едуць на Валаам, да святых угоднікаў Сяргея і Германа, на тройцу.

Качка зкясіліла ўсіх. Гадзін каля сямі вечара параход падышоў да острава Канеўца і ўвайшоў у невялічкую бухту. Каневіц таксама манастыр. Парашылі чакаць да раніцы, з надзеяй, што качка ўтаймуецца. Набожныя пасажыры пайшлі да ўсяночнай, а мяне, каб я не збег, зноў замкнулі ў арыштанскай.

На Валаам мы прыехалі каля пяці гадзін раніцы.

II

На прыстані нас сустрэлі дзесяткі два пажылых манахаў, у грубых белых палатняных падрасніках і гэткіх-жа скуфейках.

Не адыходзячы з прыстані, адабралі ў усіх пашпарты і тут-жа запыталіся: «Хто хоча ў гасцініцу, а не ў страннапрыёмны дом». Вылучылася чалавек дзесяць. І зараз-жа манашскія спіны зрабіліся асабліва гнуткімі перад імі, вочы ласкавымі, а галасы пяшчотнымі. Іх багаж быў падхоплен манахамі.

Пыталіся яшчэ: «Хто прыехаў па абяцанню». Выйшаў толькі адзін, апрануты ў парваны падраснік.

— Качуючы?—смяяўся, дапытваючыся, барадач-валаамец.—На тыдзень, мусіць, не больш? Пад'есці? а? Ці-ж тут, брат, працаваць прымушаюць. Ведаеш гэта?

Мяне гэтаму барадачу, гэтак-жа, як і на параходзе, здалі пад распіску.

І павялі мяне з «качуючым» кудысьці ў глыб вострава. Прайшлі міма царкваў, міма цэлага каменнага гарадка, спусціліся ў раўчак і там, у вялікім каменным корпусе, падобным да казармы, здалі нас абудвых бруднаму сівому манаху, у чорнай расе і з крыжам на грудзях. Ён сабраўся да абедні і, блаславіўшы нас, накіраваў на другі паверх, запытаўшыся пры гэтым:

— Стаміліся? А можа да абедні пойдзеце?

Мы надта стаміліся, хацелася спаць, але як ты адмовішся ад такой «далікатнай» прапановы? Пакінуўшы клумкі ў прыёмнай, мы пайшлі следам за манахам у царкву.

Першых 4—5 дзён багамольцаў не трывожаць. Усе прыезджыя першыя дні абавязкова «гавеюць і прыабшчаюцца». А потым тых, якія засталіся на доўгі тэрмін, запрашаюць папрацаваць. У гасцініцы, напрыклад, айцец гасцінічны, увойдзе ў нумар, нізка пакloніцца і пасля абавязковага ўсеманастырскага «пароля»: «божа наш, памілуй нас» прапануе:

— На карысць абіцелі, ва славу прэабражэння госпада нашага Ісуса хрыста і яго прападобных угоднікаў Сергія і Германа, папрацаваць ці не жадаеце?

А ў странна-прыёмным доме, айцец назіральнік зойдзе да багамольцаў і запытае:

— Хто ўчора прыабшчаўся цела і крыві хрыстовай?

Выйдуць «прыняўшыя тайн» і чакаюць, што будзе далей.

— Хто сёння думае ехаць?

— Бацюшка, хацелася-б тыдзень-другі тут пажыць.

— Можна.

І пачне выбіраць.

— Ты ідзі ў сад, ты ў пільню, ты ў гарод, ты касіць, а ты, раб божы, у каменаломні прыгодны будзеш...

Так усіх і размяркуе. А рабіць у манастыры ёсць што і ёсць дзе. На 10 астраўках больш, як тры тысячы дзесяцін зямелькі. Лес, сады. Каменаломня, рыбалкі. Іканапісная майстэрня... Дзве тысячы чалавек працуюць «бога для».

Гавеем—гэта значыць выконваем адзін з пунктаў манастырскага ўстаўнага рэжыму. Пачынаюцца суткі: з 12-ці гадзін ночы да гадзіны—поўночніца—слухаем чытанне псалтыра, малітваў і пеяння. Пасля ідзем спаць. У пяць раніцы—заўтрэня—дзве гадзіны малітваў, пеяння і паклонаў. А з дзевяці да 12-ці дня—абедня. Пасля абедні трапеза. Пасля трапезы да пяці гадзін, да вячэрні, дазваляецца прайсціся па востраве; пасля вячэрні «кялейны адпачынак», а калі ў каго ёсць чаёк з цукрам, дык і напіць чайку, пачытаць «Жития святых» і г. д. У восем вячэрняя трапеза.

Гэта рэжым прычаснікаў. Але гэты рэжым абавязковы і для так званых «царкоўнікаў»: чытальнікаў, пяўцоў і ўтараслужыцеляў, яны за тое вызвалены ад усякай іншай работы. Такіх каля 250 чалавек.

## III

Праз тыдзень мяне прызначылі келейнікам да іераманаха, айца Макарыя—рызнічага (загадчыка саборнай рызніцай).

Айцец Макарый—невысокі, касалапы і каржакаваты старык, год пад шэсцьдзесят, з галавой, якая так зарасла валасамі, што цяжка разабрацца дзе ў яго твар. Валасы пачыналі расці амаль ад самых брывей, яны раслі пад вачмі... Маленькі ўздзёрты носік, як маленькі астравок, аплятаўся вакол морам пегіх валасоў. Да пояса валасы спушчаліся і ззаду і зпераду.

Яму, як іераманаху, была дадзена келля з двух пакояў і келейнік—гэта штосьці падобнае на дзеншчыка.

Айцец Макарый выдаваўся за строгага падвіжніка і хрысталюбца, а таму яго запрашалі нават на нарады да настаяцеля манастыра, да ігумена, айца Сергія.

Макарый прыняў мяне з уласцівым яму дастоінствам.

— Падыйдзі!—коратка загадаў ён.

Я падышоў.

— Як цябе зваць?

— Аляксей.

— А ці ведаеш ты, раб божы, Аляксей, што трэба прыняць блаславенне?

Я склаў рукі, як належыць у такіх выпадках, і падышоў бліжэй.

— Па ўставу патрэбен земны паклон.

Я пакланіўся да зямлі і ўстаў.

— Ну, вось, цяперака... У імя айца і сына і святога духа, амінь— падняў ён сваю руку к маім губам для пацалунку.—А цяперака слухай, што ты павінен рабіць. Ты прысланы сюды на пакаянне. Айцец ігумен даручыў цябе мне, сірэч майму смірэнню... І загадаў, у славу святыя жыватварашчыя тройцы і прападобных Сергія і Германа валаамскіх цудатворцаў, цябе «началіць».—Макарый паглядзеў на сваю тоўстую раменную лестоўку, абвешаную трохкутнымі, выразанымі з поўвала, чоткамі.—Ты будзеш рабіць усё, што я табе загадаю... Вось... Зімою ў гэты час трэба ісці ў дрывянік за дрывамі, накалоць іх і распаліць печы... Цяперака лета і гэтае рабіць непатрэбна. А замест гэтага станавіся на калені і кладзі сто паклонаў.

Я стаяў. Навучаны многаму, я ўсё-ж не мог зразумець: жартуе са мною гэты корчападобны пегі манах ці насур'ёз прымушае ні з таго, ні з сяго біць паклоны. У нас у вёсцы быў манастыр, я наглядзеўся на розных дзівакоў, але гэткага вар'яцтва не чакаў.

... Цераз плячо, уздоўж спіны, са свістам і клёкатам, лягла раменная лястоўка. Апякла.

— Ну-у?.. Што табе загадваюць? Зело началіць буду за непаслушанне! Ну, станавіся на калені... Вось так!.. Цяперака хсціся* і кланяйся ў зямлю, ды чытай: «божа міласціва будзі мне грэшнаму». Так.

Я стаю на каленях, хрысціўся, чытаў малітву і біў лобам аб пол. Крадкам я «спрабаваў» азірнуцца, каб убачыць яго. Ён стаяў, лічыў паклоны, а калі я аглядваўся, яго лястоўка лажылася цераз плячо ўжо не на плечы, а на грудзі.

Дзевяць дзён я келейнічаю ў іераманаха Макарыя. Я «распальваю лампады перад боскім міласэрдзем». Я настаўляю самавар; я падмятаю і мыю падлогу, і кладу тысячу паклонаў па самых непрадбачаных прычынах. Я наведваю ўсе царкоўныя служэнні разам з ім. У сераду і пятніцу—поскыя дні—ён сам не ходзіць на агульную трапезу і мяне не пускае. У гэтыя дні ўся наша ежа—адна прасфора на двух.

Началіць ён мяне па рознаму поваду. Ён жорстка б'е сваёй лястоўкай, па яго словах, без злосці, але мне ад гэтага не лягчэй: у мяне няма сінякоў толькі на твары, а пад адзеннем усё цела сінебарвовае і апухлае. Я адчуваю, што цярплівасці маёй надыходзіць канец. Я часта плачу. Кэлары нашага корпуса, айцец Якаў, аднойчы ўбачыўшы мяне ў слязах, спыніў:

— Цяжка, хлопчык? Ведаю. Суровы твой Макарый, суровы і нясхільны,—падумаўшы, Якаў дадаў:—Б'е... жорстка б'е. Але ён б'е і сам сябе... да сінякоў б'е сябе, да крыві!... Святога жыцця чалавек.

— Не б'е ён сябе!—вырвалася ў мяне.

— Не хлусі! Не ўсцяшай беса!—сурова перарваў мяне Якаў.

— Я не хлушу. Ён толькі мяне катуе, а сам...

* Хрысціся.

Айцец Якаў падумаў, паглядзеў на мяне і зноў падумаў. Нарэшце, быццам нечага асцерагаючыся, азірнуўшыся, сказаў:

— Ты схадзі да айца аканома паскардзіцца,—і яшчэ раз азірнуўшыся, спешна пашоў.

«Яны тут адзін за аднаго ўсе»...—думаў я гаручы ад крыўды. Усяго мяне ахапіла зусім новае для мяне пачуццё, пачуццё пратэсту, пачуццё самазахавання... Было тут і неўсвядомленае пачуццё абражанага гонару. Мае мускулы гэтак-жа рашуча, як для выкліку, напружыліся, як гэта было ў буру на параходзе, і гэтак-жа зрабілася лягчэй у грудзях, быццам прадуху адкрыў.

У пятніцу, пасля вячэрні, Макарый прымусіў мяне памыць у келлях падлогу. Я вымыў і корпаўся на дварэ з анучамі. Пятніца—у нас спрэс пост і я, аслабеўшы, скардзіўся суседнім манахам на голад. Кэлары—айцец Якаў—вынес мне прасфору.

— З'еш ды глядзі, як-бы Макарый не ўбачыў,—папярэдзіў ён.

Макарыя ў келлях не было: выйшаў «прамяццца». Я праглынуў прасфору не жуючы і толькі раздражніў страўнік. Я перавярнуў усе скрынкі і скруткі, спадзяючыся знайсці дзе-небудзь хоць які закінуты сухар, прынесены выпадкова з трапезы. Мне пашэнціла: я знайшоў невялічкую скарынку хлеба. Я ўкусіў раз і два, і тры. Мой страўнік вар'яцеў ад асалоды. У гэты момант у келлю ўвайшоў Макарый. Ён працягнуў руку за астачаю хлеба... Я загырчэў як дзікі звер і адскочыў з хлебам, стараючыся хутчэй яго даесці.

— Хто дазволіў табе укушаць хлеб?—І, не чакаючы майго адказу, ён размахнуўся лястоўкай.

І тое, што здарылася было нечаканасцю для абудвых. Я не прыняў удару: я, злавіўшы на ляту лястоўку, вырваў яе з яго рук. Вырваў і стаў у баявую позу. Макарый схапіў пасох—я і пасох вырваў і пераламаў. Тады ён схапіў мяне за грудзі і пачаў біць па галаве кулаком.

Я азвярэў канчаткова.

Я ўчапіўся ў ягоную вялізную бараду і павіснуў на ёй.

На шум, на мой і яго крык да нас у келлю сышліся суседзі—манахі, усе барадатыя, суровыя... Прыйшоў і айцец Якаў. Нас разнялі. Абудвы мы былі ў крыві.

Я выскачыў у калідор, з калідора на двор да студні і пачаў змываць з твару кроў. Я не ішоў у келлю. Надышоў вечар, распасцірала белыя крыллі паўночная ноч, а я бадзяўся ў садзе, па дварэ.

Перад самай палуношчніцай да мяне падышоў айцец Якаў і ўзяў мяне за руку.

— У келлю ідзі, Аляксей... Няможна так... ідзі, пакланіся айцу Макарыю, благаславіся ў яго. Не будзе ён больш цябе так «началіць».

— Не пайду!—рашуча заявіў я.—Будзе што будзе, а кланяцца гэтаму тыгру калматаму не стану!

— Ну дык як-жа?—здзівіўся а. Якаў.—Цябе-ж яму даручылі? Дзе-ж ты дзенешся?

— Нідзе. Буду хадзіць па востраве, а ў келлю не пайду!

— Ну, пойдзем да мяне.

— І да вас не пайду!

Я бачыў, я адчуваў, што мой Макарый і нават а. Якаў, ды і ўсе, якія жылі ў нашым корпусе, манахі, збянтэжаны, аціхлі. І мая крыўда патрабавала куража. Мяне ўгаварвалі ўжо чалавек пяць барадачоў, абяцалі мне ўсякую абарону, абы я не ўзнімаў шуму на ўвесь манастыр.

— Госці, багамольцы, могуць пачуць... Бог ведае, што разнясуць па свеце пра святую абіцель,—уздыхалі яны.

А я дэманстрацыйна не ішоў ні да каго ў келлю, я пераспаў на мастках у дрывяніку. Я не хадзіў ні да палуношчніцы, ні да заутрані, ні да абедні, нават на трапезу не хадзіў.

Двое сутак я ўтаймоўваў сваю злосць. Нарэшце, кэлары айцец Якаў вымушан быў далажыць аб падзеі айцу аканому. Праведаў пра нашу баталію і сам ігумен. Ігумен захацеў бачыць мяне.

Ігумен Сергій—элегантны мужчына—гвардзеец у расе. У яго манеры залішняе часта брацца рукою за бараду, за густыя пасмы валасоў за вушамі—стойвалася непрызвычаенасць да доўгіх валасоў. Ад празмернай тлустасці ўсе рухі яго былі вялыя і няўпэўненыя. Калі мы прыйшлі да яго, ён быў адзін у сваіх аграмадных апартаментах, сядзеў у мяккім крэсле за вялікім авальным сталом, піў чай. і чытаў газету. Ён быў апранут па хатняму: у белым часучовым падрасніку і дывановых туфлях. На стале, пад вялізным букетам кветак, у крыштальнай вазе струменіла арамат клубнічнае варэнне.

Сергій адарваўся ад газеты і ўпіўся зацікаўленымі заплыўшымі тлушчам, вочкамі ў мяне. Паклаў на стол пакамечаную газету, не трывожачы свайго тулава, дацягнуўся лыжачкай да варэння, не спяшаючыся выбраў буйнейшую ягаду, паклаў яе ў рот, выцер пальцам запэцканыя вусы і запытаў:

— Гэты?

Аканом пакланіўся.

Сергій яшчэ зачэрпнуў лыжку варэння і адправіў у рот.

— Ты за што сюды прысланы?—строга запытаўся ён.

— Не ведаю.

— За што?—запытаўся ён у аканома.

— Палітычны.

Пад ігумена быццам нехта вады гарачай плеснануў.

Ён ускочыў, рвануўся і, не верачы сваім вушам, перапытаў:

— Палітычны?! Такое шчанё?!

На незвычайны голас ігумена, з-за драпры на дзвярах суседняга пакоя, выплыла постаць паслушніка...

Паслушнік быў малады, з цудоўнымі каштанавымі валасамі, яго вялікія шэрыя вочы глядзелі не па-мужчынску напалохана,—ды і ва ўсёй яго стройнай фігуры было столькі жаноцкасці...

— Ты што-ж буяніш?—нахмурыўся ігумен.

Я як на цуд пазіраў на такога маладога келейніка. Не было прыметка, каб яго білі і марылі голадам. Можа гэта толькі Макарый такі злы...

— Я не буяню, айцец ігумен,—стараючыся надаць сабе пакорны выгляд, сказаў я.—А толькі айцец Макарый вельмі б'ецца,—Я агаліў грудзі і плячо, паказваючы сінякі.—І голадам морыць.

— Ах, які жах!—пляснуў рукамі паслушнік і знік за драпры.

— Т-та-ак!—нахмурыўся ігумен і ўздыхнуў.—Ну, што-ж... не хочаш келейнікам быць...—Н-ну-у... Пашліце яго на рыбу,—звярнуўся ён да айца аканома.

V

Лайба «Благодать»—невялікае аднамачтавае парускае судзёнышка, з вялікім «ларом»—скрыняй для рыбы. Лайба трымае чалавек 12—15 каманды і бярэ запас харчоў на тыдзень—на паўтары, не больш, і «гуляе» паміж валаамскіх астраўкоў, закідваючы альбо буйную сетку для сіга—забаткі і для ласосак, альбо дробную—для рапушкі. Бывае, што вецер зганіць лайбу на захад, да Канеўца. Не адзін раз прышвартоўваліся да канеўскай прыстані, як госці. Хадзілі на ўсяночную і на трапезу. Але каля Канеўца рыба зборная, дзікая. Сапраўдная лоўля паміж сваіх астравоў. Тут манастырскі рыбагадоўчы завод кожны год выкідвае каля 3—4 мільёнаў малькоў «забаткі» і ласоскі.

На лайбе 12 лаўцоў. Капітан судна, вопытны рыбак і наш начальнік—расафорны манах айцец Фядос. Гэта рухавы мужчына, год сарака. Яго выразна акрэсленыя мускулы цела былі вельмі падобны на зрошчаныя вяроўкі. Аланчанін. Ён выгадаваўся на азёрах. Раскольнік спасаўскага толку, ізувер. Дваццаць год ён выпрабоўваў сваю «старую» веру, а дзесяць год таму назад адзін валаамскі манах яго «пераламаў, давёў, што самая ісцінная вера праваслаўная. І ён з таго часу застаўся ў манастыры. Ён вопытны рыбак. Ён жалезная аснова для сярэдневяковага манастырскага парадку. «У славу боскую» ён ловіць рыбку, выконвае «апостальскую работу» і ў кожны момант гатовы ўзыйсці на агонь за «веру апостальскую». У памочнікі яму дадзен таксама расафорны манах—старык Ануфрый. А мы ўсе астатнія дадзены ім «падруку» і завемся «падручнымі». Усе, апрача мяне, самыя звычайныя людзі. Мяне Фядос называе «сарванцом». У манастыр звычайна прыходзяць альбо па абяцанню адрабіць год-два, ці ратавацца, альбо ўжо ёсць прафесіянальныя рэлігійныя валацугі... а я—ні тое, ні другое, ні трэцяе! «Сарванец», вядома.

Вось наша арцель «падручных», каманда на лайбе «Благодать» Серога Курносы, ноўгарадзец, з Валхова, лепшы грабец. А плавае і нырцуе, быццам у вадзе нарадзіўся. Ім дарожаць.

— Мянтуз, а не хлопец,—захапляецца Фядос.

Сярогу 20 год. Ён адбывае на Валааме абяцанае маці: адрабіць два гады. У яе паміралі дзеці, а мужык быў слабы. Застанецца баба пасля смерці мужыка без дзяцей—чужы чалавек у доме. І вось яна абяцала Сергію і Герману: калі выжыве сын, вырасце—пашле яго на два гады ў манастыр.

— Да прызыву выйду,—падміргвае Сярога.—Тут праматаюся два гады, ды цару-бацюшку—чатыры. Усіх з майго жыцця будзе выхерана шэсць год. Яшчэ хопіць часу!

А вось «Алёша Паповіч»—гэтак празвалі яго за тое, што ён сын рыбінскага саборнага протаіерэя. Алёшку яшчэ з духоўнага вучылішча выгналі за п'янства. Пасля бацька рыхтаваў яго хоць у

дыяканы. Справа дайшла ўжо да пастрыжэння. Напярэдадні запіў. Жонка сышла. Прataiрэй махнуў рукою: як хочаш. Алёша прыехаў на Валаам.

Асабліва вылучаўся з усяго нашага невялікага экіпажа паслушнік Фомушка. Фомушку 17—18 год. Ён стройны і гібкі. Не гледзячы на тое, што ён звычайны паслушнік, але валасоў ужо не стрыжэ: ён строгі, шукае падвіжніцтва. Родам ён з Ціхвіна. Сірата. Быў у чатырох манастырах—не спадабалася. Ён з дзяцінства начытаўся «Жития святых» і «даў абет» «заслужыць збаўення».

— Міршчына і спакусы навакол,—тужыць ён.

Яго мара: трапіць на Афон. І на Валаам ён прыехаў толькі таму, што гэта самы строгі ў Расіі манастыр, куды, як і на Афон, жанчын не дапускаюць нават у якасці багамольцаў.

Маўклівы, поснік і багамолец, рабіў ён за трох. Нават у часе начлегу, на беразе, падыйдзе да Фядоса, пакланіцца ў ногі і папросіць якой-небудзь работы.

Тры былі старыя валаамцы, «божыя работнічкі». Рослыя, моцныя, сытыя. У трыццаць год абраслі барадамі і нічога, апроч возера, лайбы, сетак, а зімою—пелек—не ведалі. У іх былі здаровыя глоткі, дужыя рукі і зыркія вочы. Яны арудвалі з сеткамі на вадзе, быццам гуляючы, крычалі і смяяліся. Мы іх празвалі «старыкамі».

Самага большага і самага вясёлага звалі Галахам; другога, вузкаплечага і шыроказадага—Анісімам, і трэцяга белатварага з шэрымі вачмі, прыгажуна—Кірылам. Усе ўтрох, раней былі беспрытульнікамі ў прыазерных вёсках і з дзяцінства іх «падабраў» манастыр.

А яшчэ тры—прафесіянальныя манастырскія валацугі, вандроўцы. Гэта тыя, што ходзяць з манастыра ў манастыр і нідзе больш двух тыдняў не жывуць. Яны добра ведаюць царкоўную службу, умеюць спяваць, носяць падраснікі, ёмка хлусяць і не любяць, ды не ўмеюць працаваць.

Фядос іх ледзь цярпеў.

— Ох, ужо гэтыя страннікі! Гультаі!

— Работа дурняў любіць,—адказвалі яны.—Калі-б не адабралі пашпарты, тут-бы вось дзе-небудзь на бераг вылезлі. Добрая справа: у мяне тэнар, а я павінен лавіць рыбу.

— Які-ж гэта манастыр: ні выпіць, ні ў карцішкі перакінуцца!..—падміргвае другі, на злосць Фядосу.

Начлег знайшлі толькі каля берагу. На ўсіх валаамскіх астраўках здаўна аблюбаваны месцы для начлегаў.

Касавіца. Над астравамі струменяць у паветры пахі ўвядаючых траў.

Прычал. Фядос па-гаспадарску ходзіць па лайбе і кіруе работай. «Старыкі» прыладзілі «сходкі» і першыя сышлі па іх на бераг. За імі вылезлі і ўсе астатнія. Толькі дзед Ануфрый застаўся там: ён усеўся каля руля і пачаў напевам чытаць псалтыр.

— Лам'ё ёсць?—запытаў у «старыкоў» Фядос.

— Ё-ёсць, здаецца.

— Ну, вы, тымоны-гулімоны, айда хоць па лам'ё,—крыкнуў ён на валацуг у новых манастырскіх падрасніках, якія разваліліся на тра-

ве.—Во! Ужо яны разлягліся, чакаюць гатовенькае! «Старыкі» вынеслі жалезныя трыножкі і кацёл, а курносы Сярога прынёс два вядры вады. Потым Фядос з старыкамі выбралі ў садку заснуўшую рыбку для ўхі. Страннікаў з лам'ём яшчэ не было. Курносы тут-жа, вакол сябе, сабраў вялізкы груд суччa і карчоў і разлажыў «грудок»

Да вячэры паразвешвалі сеткі. Стары Ануфрый, паклаўшы псалтыр, сам абыйшоў абедзве сеткі, знайшоў дзве «прорвы» ў дробных сетках, уваткнуў каля дзірак пучкі травы, каб было відаць дзе заплесці, калі сетка высахне.

Уха зварылася. Фядос, Ануфрый, старыкі, а за імі і ўсе астатнія пасталі на ўсход тварам і заспявалі «Ойча наш»...

Мы спявалі, а з левага боку сонца апускалася ў ваду. Два сонцы і абудвы распухлыя, як-бы абвугленыя і зацмянелыя так, што на іх можна было пазіраць, набліжаліся адно да другога на пурпурова залатым фоне небасхіла.

Пасля вячэры Фядос і Ануфрый пайшлі спаць на лайбу, а мы пачалі бадзяцца па беразе. Нас падводзіў пах сена. Мы думалі знайсці добры і мяккі начлег, а на паляне, як бачылі вочы, спрэс рос вусаты зялёны ячмень.

Паселі і пакладіся на падрасніках, каля агню. Спаць не хацелася. Начы ў гэтую пару года не было зусім. Поўнеба бялела, як матавы абажур—можна было чытаць.

— Праспяваем «ныне сілы нябесныя»... прапанаваў адзін страннік.

— Лепш «Среди долины ровныя»,—запярэчыў Серога Курносы.— І так ужо—усё бажэственае і бажэственае...

— Вам старык Ануфрый такую даліну роўную задасць—месца не знойдзеце,—засмяяўся Алёша паповіч.—Галаву дам адсеч, што ён цяпер на лайбе псалмы распявае і паклоны б'е.

— Праведнага жыцця чалавек,—заўважыў Фомушка, не падымаючы галавы.—Мала такіх цяпер...

— Праведнага жыцця, кажаш?—падняўся адзін страннік. Ну, ладна. А вы вось што скажыце... Вы тут свае,—звярнуўся ён да старыкоў.—Як у вас тут? Ну, вось нам, напрыклад, далі новае адзенне... А калі я не хачу тут заставацца? Адпусцяць мяне?

— Трымаць не стануць,—засмяяўся Галах.

— А як вопратка? Адбяруць?

— А хто іх ведае.

Фомушка адмоўна заківаў галавою.

— Не будуць адбіраць,—пераканаўча сказаў ён.

— Выпіць-бы цяперака, Серога, а?—трасянуў курносага за плячо тэнар.

— Ву-унь, цэлае возера, пі,—адмахнуўся той.

— А калі мы вернемся ў манастыр?—запытаўся ў «старыкоў» Алёшка паповіч.

— Наловім цэлы садок і—дахаты.

— Турма... Уцяку! Не магу!..—пляваўся Алёшка.—А ты? Няўжо табе тут падабаецца?—запытаўся ён у Сярогі.

— Мне што-ж... мне трэба матчыну задачу выканаць. Вясною прыехаў, вясною і паеду.

— Аднаму—турма, другому—сума, трэцяму яшчэ які ражон... І чаго-ж вы толькі сюды едзеце?—не сцярпеў Галах.—Хіба вы не ведаеце, што тут за смак? Э-эх! Не-е-э! Ужо калі я адсюль выберуся, дык ужо ў самы раззалаты манастыр не загляну. За вярсту абыйду! Во-о яшчэ трымае вось гэтая куцця!—падняў ён крысу падрасніка.—Куды ты ў ёй кранешся, а ў кішэні тут за сто гадоў граша не завядзецца.

— Што казаць: нястача трымае тут,—пацвердзіў Кірыл.—Я вось каторы год мару сыйсці, а...—ён развінуў рукі.—Ну, ладна. Мы цёмны народ, падабраны з зямлі, а вось разумовыя на што сюды ідуць?! Ну, вось, хоць-бы ты?—звярнуўся ён да Алёшкі.—Чалавек з духоўнага звання, усё адно што благародны і вучаны на дыякана...

— Чаго я сюды ехаў?—хмыкнуў Алёшка.—Ехаў, браце, я па сур'ёзнай справе,—ён шчоўкнуў па шыі пальцам.—Зразумеў? Уціхамірыцца тут, у вас, думаў, а тут пажыўшы—горш запяеш.

— Уціхамірыцца...—абапёрся на локцях Сярога Курносы.—Умора! Далібог!—аглядзеў ён гаварыўшых.—Як падумаеш: ходзяць, шукаюць... аднаму выпіць хочацца, іншаму ўціхамірыцца трэба. Дзівакі! Вунь, неяк днямі, пад раніцу, купацца я хадзіў... Гляджу, з наперснымі крыжыкамі, ад ігумена выйшлі,—Сярога пырснуў смехам.—Удрызг абодвы. У аднаго і крыж на спіне... Знайшлі сваё нікуды не ездзіўшы.

— Ад ігумена—гэта што-о,—боязна аглянуўся Кірыл.—У ігумена для гасцей, якія важныя, усё ёсць. А калі-б мне далі волю, дык бы я ва ўсіх нашых прападобных не адну саракавую бочку сабраў-бы. Гэта толькі для нас, для быдла, няма...

— А ў ігумена кажуць, і за келейніка баба,—гаварыў Сярога Курносы.

Галах трэснуў Сярогу па плячы, потым сарамліва абвёў усіх нас позіркам і, знемагаючы ад смеху, ткнуўся тварам у зямлю.

— Ба-аба... что-о баба? Айцец Арсеній Кожын, які абразы малюе, не хаваючыся ўтрымлівае ў Сердаболе бабу і ездзіць туды, да яе. Нашы доўгагрывыя адзін на аднаго зарацца! Смех і гора: прыгожым паслушнікам жыцця няма. Ды вось: узяць хоць-бы Кірылу... У дзесяцярых келейнікам быў. Тыдзень пакелейнічае—і ўжо не добры. А што?—кулакі ў хлопца добрыя. Цяпер зусім на рыбу паслалі—не трывожаць.

Кірыл сцвярджальна кіўнуў галавою. Потым кінуў позірк на лайбу і ўхмыльнуўся.

— Пачуюць—не баюся. Толькі пра мяне даўно ўжо гаворка змоўкла. Ды і цёмны я чалавек. А вось...—кіўнуў ён галавою на Фомушку.—Грамацей, голас андзельскі і спявае па ўсіх нотах, а з намі, на рыбе. Чаму? Пра цябе гаворка ідзе, Фомушка. Чуеш?

Фомушка пачырванеў, сарамліва сабраўся і падсунуўся да мяне. Нашыя гады зблізілі нас. Фомушка не любіў смеху, не любіў «гра-

хоўных» гаворак. І калі загаварылі аб ім, ён адвярнуўся, прыціснуўся тварам да майго пляча і загаварыў шэптам:

— Ісцінная праўда... Сорамна... У айца Аркадзія, у прасфорніка, я келейнічаў. Прыдзе, бывала, пачне мяне абнімаць, цалаваць... Я адбіваюся, а ён як звар'яцелы. Альбо ноччу... Саскочыць з сваёй пасцелі, ды ка мне... Пасля вялікадня была справа... Выбег я з келлі, а ён вабіць, усякімі словамі мяне называе. Я прасядзеў у калідоры да раніцы, а раніцай пайшоў да айца аканома. Я яму кажу, як была справа, а ён: га-га-га! Не хочаш быць калейнікам—ідзі ў пільню... А вясною я падаўся рыбу лавіць, з Фядосам. Гэты строгага жыцця чалавек.—Падумаўшы, ён дадаў:—На Афон пайду.

## V

Дзевяць гадзін раніцы. Імжыць дробны-дробны дождж.

Не разбярэш: ці гэта пыл дажджавы ці туман. За левым скалістым берагам бухты чуваць гукі вялікага звана—сёння нядзеля.

Мы плывём да «загона». Загон гэты—натуральны садок для рыбы. Гэта адгароджаны штучнай каменнай сцяною конус бухты, плошчаю ў паўтары-дзве дзесяціны. Туды, у гэты загон, лавецкія лайбы здаюць жывую рыбу.

Загон перагароджан на тры аддзелы: для буйнай рыбы, для сярэдняй і для дробнай. З-загонаў, калі патрэбна, рыбу чарпаюць сакам.

Мы прычалілі здаваць сваіх «забачоў». Ласосак было мала, а шчука тут не рыба.

Каля памосту стаіць ваенны кацер «Резвый». Ён чакае рыбы для прыдворнай кухні. Кацер прысылаецца сюды праз дзень па свежыя сігі, ласоскі і рапушку. На яго палубе стаіць, заняўшы ўсю карму, чан з вадою. Туды, у свежую ваду, нагружаюць «моцнае жыўнасці» пудоў паўсотню. Ды ў другі маленькі чан грузяць пудзікаў пяць яго высокапрасвяшчэнству Ісідару, мітрапаліту санктпецербургскаму і ладажскаму.

На плаціне айцец аканом, мерна перастаўляючы посах і прытрымліваючы на грудзях крыж, паходжвае пляча ў пляча з лейтэнантам і ўважліва яго слухае. Убачыўшы нашу лайбу, аканом і лейтэнант падыходзяць да памосту. На барту лайбы стаіць Фядос.

— Малітвамі святых айцоў нашых Сергія і Германа—будзьце здравы, айцец аканом!—вітаецца Фядос.

— Амін!—гаворыць а. аканом і зверху благаслаўляе адразу ўсю лайбу, з усімі намі.

— І вы здравствуйце, ваша высокаблагароддзе!—звяртаецца Фядос да лейтэнанта.

Лейтэнант прыветна махае пальчаткай.

— Загадаеце, айцец аканом, адразу з нашай пасудзіны перагрузіць рыбку: самая свежая!.. Парачка асятроў ёсць... за здравіе нашаму бацюшку гасудару, са чады, і з усімі прыснымі.

— Цудоўна!—басіць лейтэнант, пазіраючы на а. аканома. Аканом усміхаецца, махае рукою, як дазвол, яны падымаюцца на бераг.

Лайба прышвартоўваецца да барта кацера і мы пачынаем выбіраць з скрыні самых гуллівых забачоў.

— Але-ж жаруць там!—не можа стрымацца Сярога Курносы.

У канцы жніўня, невядома па чыйму загаду, мяне і Фомушку з «рыбы» перакінулі ў абразную майстэрню.

Фомушка, праўда, гады два таму назад, працаваў там, у пазалотнай, а я?..

Абразная майстэрня займала ўвесь двухпавярховы каменны корпус, побач з хлебапякарняй. Уласна, гэта была не толькі абразная, а праўдзівей: кляштарная.

На першым паверху працавалі цесляры, рэзчыкі, леўкасчыкі, і тут рыхтавалі леўкасы і фарбы, іх церлі на машынах, на плітах і на вальцах. На другім паверху было чыста: там у двух вялікіх пакоях пазлачалі і паліравалі. а ў двух другіх сядзелі за мальбертамі пятнаццаць жывапісцаў. Усіх у майстэрні працавала каля пяцідзесяці чалавек іараблялі для манастыра чысцюткіх сорак тысяч!

Наглядчыкам, кіраўнікам і настаўнікам тут быў а. Арсені Кожын. Вялікі майстра, лепшы вучань акадэміі мастацтваў. Няўдачная любоўная гісторыя прымусіла яго з акадэміі мастацтваў бегчы ў манастыр. Пяць год ён «падвізаўся», паступіў у манахі, а на шосты пачаў піць. П'е ён і цяпер, але... ён павысіў якасць абразоў. З майстэрні «для ўласных патрэб» валаамская абразная майстэрня зрабілася адной з найбольш даходных частак манастырскай гаспадаркі.

А. Арсені гэтае бачыў і разумеў, што варта толькі яму кінуць майстэрню, дык усё і распадзецца: кляштары заказваліся на Валааме таму, што галоўныя абразы пісаў ён, вялікі мастак.

І ён, насуперакі ўставу, патрабаваў, каб яму выплачвалі штомесяц па сто, па сто пяцьдзесят рублёў на выдаткі. Ён піў. Ён меў любоўніцу ў Сердаболе і ездзіў туды амаль кожную нядзелю. І ніхто не хацеў гэтае бачыць.

У супрацоўнікі сабе ён падбіраў сапраўдных майстроў, якія ведалі сабе цану.

Мне спачатку даручылі церці бялілы на машыне, а праз два дні я ўжо цёр яркія фарбы на пліце. Фомушка-ж пэндзалем накладваў леўкас на выразаныя з дрэва арнаменты.

Мы бачыліся амаль сто разоў за дзень.—Тут, у майстэрні была не зусім манастырская абстаноўка. Трымаліся тут усе незалежна; у царкву хадзілі толькі ў святы, ды і то да абедні, а нас не пасылалі. Гутаркі тут былі вольныя, спакушальныя. І Фомушка пакутваў.

Нашы ложкі стаялі побач. Фомушка не прапускаў ні адной палуношчніцы. Працу пачыналі ў шэсць раніцы і Фомушка хоць на гадзінку ды збягаў да заўтрані.

Вось ён строгі, быццам старык, вялікімі вачмі пазірае на абраз і слёзы цякуць па шчоках.

— Хіба тут знойдзеш збавенне?—звяртаецца ён да мяне.— Тут Садом і Гамора! Тут Вавілон! Вунь: у царкву—і то няможна!

Гаворыць богахульнае... брыдкае. Сядзяць—пішуць абраз господні, а ў саміх смуродны дым табачкы з роту ідзе!

Ён зноў пазірае на абраз.

— Не-э!.. ужо лепш да твайго Макарыя пад начал. Макарый праведны чалавек. Ад яго і пацярпець можна душы на збавенне.

Я паспрабаваў аднойчы гаварыць яму аб Эрмітажы, аб цудоўных карцінах.

— Нябось усе голыя... Спакусы...—адмахнуўся ён.

У манастыр прыязджалі не адны «абетнікі» ды богамольцы. За лета не мала перабывае і папоў, якія прыязджаюць выключна з мэтай азнаёміцца—з «паўночным Афонам». У царкву яны заглядвалі на «хвілінку», за тое іх абавязкова вадзілі на рыбагадоўчы завод, у пільню, у сады і да нас у майстэрню. Выхваляліся культурай.

Фомушка заўсёды распытваў у гасцей, дзе знаходзіцца Афонская гара. Яму адказвалі, што Афон у Грэцыі. Тады ён дапытваўся: колькі патрэбна будзе грошай, каб туды даехаць...

У вольную хвіліну я ўзлятаў наверх і застываў за спіною якога-небудзь майстра—жывапісца. Мяне не адганялі і я так асмялеў, што падыходзіў да мальберта самога айца Арсенія.

— Ну, што «раб божий, обшитый кожей?»—жартаваў ён.— Дрыжыш? Хочаш быць—мастаком?—Бачу!

Аднойчы ён быў зусім цвярозы. Убачыўшы мяне каля свайго пляча, ён кіўнуў мне.

— Ты, хлопчык, бачу я, не на жарт хварэеш?.. Ты што?.. Вучыцца хочаш?

— ... Я быў у Эрмітажы...—прашаптаў я ў экстазе.—Ах, якія там карціны.

— Любіш?

— І вы як хораша пішаце...

— Ну, вось што... Лёнька, здаецца?

— Так.

— Дык вось, Лёнька, хадзі ты пасля вячэрні да нас на верх. Скажы, што я загадаў.

І я пачаў, вечарамі, па дзве гадзіны вучыцца рысаваць. Удзень мяне прымушалі церці фарбу, рабіць леўкас, пазлачаць танныя абразікі для багамольцаў, паліраваць пазалоту, а вячэрнія дзве гадзіны я выводзіў вуглем шаты, вуглы, а пасля і чалавечую галаву.

Так прайшла зіма.

У маі месяцы мяне паклікалі да айца аканома. У яго сядзеў капітан парахода «Півач».

— Ты Ефімаў, Аляксей—запытаў мяне а. аканом.

— Так.

— Атрымай сваю вопратку і рэчы і вось гэты пан возьме цябе на параход. Твой тэрмін скончыўся.

А я ўжо прызвычаіўся да абразкай майстэрні, прызвычаіўся да айца Арсенія, да строгага Фомушкі. Я ўжо ўмеў намаляваць галаву хрыста і бласлаўляючую руку.

Праз дзве гадзіны ў сваім вылежалым пінжаку, у сваіх ботах я хадзіў па барту «Ківача»... а за два аршыны ад мяне стаяў Фомушка і плакаў. Мне было шкада яго. Каб хоць чым яго ўсцешыць, я кажу:

— Прыязджай да нас на Ворміна. У нас таксама манастыр і таксама можна знайсці збавенне.—Я хлусіў: у нас у манастыры, апроч п'янства і самага адкрытага ліхвярства як і тут, я нічога не бачыў.

*Пятрусь Броўка*

## ПАЛЕССЕ

Возера глыбокае, як памяць...
Ад вады узняўся сіні дым —
І дубы з шырокімі лістамі
Пляскаюць далонямі над ім.

Па чаротах цішыня такая,
Толькі ўсплёскі самавітых рыб,
Ды дазорцы-качары гукаюць
Караваны сем'яў на зары.

Кнігаўкі галёкаюць па лесе,
Дзятлы выбіваюць: дук-дук-ду...
Гэта ты багатае Палессе
З кадвясенняй прыгажосцю дум.

І ледзь сонца вылятае з бору,
Загаворадь так, што не суняць —
Адусюль шумлівыя маторы...
І тады знікае цішыня —

Гукі абдымаюць кругам цесным
І тугі маўклівай ані-ні...
Хлопцы і дзяўчаты,
Песні, песні...
Неба выгінаецца, звініць.

Адплываюць качары ў асокі,
Зайцы уцякаюць сугрунём
У гушчар забіўшыся далёкі
След губляе матчынваўчанё.

І дрыжыць пужлівае ад гора,
І сава спрасоння не крычыць,
Барсукі стаіліся па норах
У чаканні ціхае начы.

Навакольны звон ім недарэчан,
Што балота высушыў у рад —
Сеў апошні чараўнік на печы,
З барадой зялёнаю да пят —

Зажурыўся, клумак пыльны выняў,
Паглядзеў трывожна на абраз —
І, расклаўшы косці па цаглінах,
Над вадою шэпча многа раз...

Толькі чарам зачапіцца нечым,
Ападаюць крыллі чорных мар —
Праз акно, як толькі рушыць вечар,
Электрычнасць б'е яму у твар.

Вось такой прарэзлівай віхуры
У жыцці ягоным не было,
Ён дарэмна вочы свае жмурыць,
Прылятае ў вушы многа слоў.

Гэта б'ецца несуцішна радасць,
Вый звярыны там адвечны змоўк —
Гэта позна вуліцай брыгады
З песняю вяртаюцца дамоў, —

Як жыццё яснее з кожным годам,
Паляшук як вышаў у народ,
Як плывуць на Тураў параходы,
Як лісты прывозіць самалёт, —

Што ўсюды вораг больш не страшан,
Ні зямлёй, ні небам, ні ў чым...
Што кругом пяе радзіма наша —
Чалавецтву шчасце несучы...

Як-жа выйдзе месяц над узлессем
Да сябе ўсе зоры сабіраць...
Спіць маё багатае Палессе,
Толькі пагранічнікі не спяць.

Лістапад 1935 г.

*Влад. Глазырын*

# СМЕРЦЬ ПАЎЛА КОРМШЧЫКАВА

Сонца ўзлавалася на горад, рэчку і людзей. У поўдзень з вышыні зяніта яно прымушала горад і яго жыхароў млець пад сваімі праменнямі. Нясцерпна паліла камевні бруку, зялёныя жалезныя дахі цэркваў і гандлёвых радоў. Нават галубы не лcraталі па плошчы і казёл «Васька»—грамадская маёмасць горада, аматар паласавацца афішамі, расклеенымі на парканах, забраўся ў цень недарэчна вялікага цвінтару царквы святога Грыфана.

Рака Вятка без адзінага ўсплеску каціла паўночную бірузу сваёй вады. Такія спякотныя дні нярэдка магчымы на поўначы ў сярэдзіне лета.

Душна ад сонца, ад распаленых жалезных дахаў і бруку. Душна ад прэлага паху конскага гною, які цэлымі месяцамі не прыбіраецца з базарнай плошчы. Афарбаваная ў белы колер, але парыжэлая ад часу, грамадская прыбіральня пасярод саборнай плошчы разносіць нязноскы смурод і людзі абыходзяць яе бокам.

На саборнай званіцы, якая замяняла гораду і пажарную каланчу, звесіўшы за парэнчы галаву ў медным шлеме, як сыч, тырчыць пажарнік.

У гэты час Сямён Сямёнавіч Калупаеў, уласнік вялікай крамы, перакульвае ў прыкуску з разынкамі дзесятую, а то і адзінаццатую шклянку чаю, абліваючыся няпершым потам. У краме нудотнасалодкія пахі рыбных тавараў,—яны павольна псуюцца ад спякоты,—але разам з тым і крыху халадок. Сямён Сямёнавіч прымушае адчыняць насцеж усе дзверы, каб быў скразнік, але і апошні не асабліва асвяжае паветра. На скразным ветры яшчэ мацней адчуваюцца пахі конскай мачавіны і перапрэлага гною. Гэтыя пахі ідуць з задніх дзвярэй, якія выходзяць на саборную плошчу і, змешваючыся з пахамі тараноў і соленага ляшча па 9 капеек фунт, становяцца да блеваты агідлівымі. Дый што за дзіва пахі! Да іх прывыклі, а ўсё-ж скразны вецер...

Пакупніка ў такі час няма. Хіба хто-небудзь з гаражан або сялян, якія аказаліся выпадкова ў горадзе, прыдзе купіць на пятак тараноў... А таму калупаеўскія малайцы ў адным з цёмных кутоў прасторнай крамы жараць у ачко ад нуды на ўдары ўсёй калодай па косе.

Заўсёды паўгалодны, я любіў стаяць ля дзвярэй калупаеўскай крамы і ўнюхвацца ў саладкаватыя пахі соленай рыбы, змешаныя

з вострым пахам гною. Я з прагнасцю глядзеў на горы сухіх абаранкаў, вывешаных на вушаках галоўнага ўваходу ў краму, і на тараны ў бочках. Ад абаранкаў і тараноў у роце згортваўся клубок салодкай сліны. Хацелася есці. Нясцерпна хацелася есці. Ах, каб мне ды пятак! Я купіў-бы поўфунта абаранкаў і два тараны, бегма паімчаўся-б на прыстань і пад ценем лабазаў, прапахлых тухлай мукой, з'еў-бы і абаранкі, і тараны. Калі-б пятак... Але доўга стаяць каля дзвярэй крамы было сорамна, і я адыходзіў. Пад дахамі гандлёвых радоў варкавалі лянівыя галубы. Стая галубоў скакала на дзеравянай падлозе радоў. У кішэні былі каменні. Схаваўшыся за шула, я цэліўся ў галубоў. Механік толькі што адкрытага кінематографа «Фурор» за кожнага забітага голуба плаціў пятак. Ён быў аматар на галубоў, аб гэтым ведалі гаражане і гэта было для іх дзіва—калі ён праходзіў па гораду, жыхары тыкалі яму ўслед пальцамі, гаворачы адзін другому: «Вунь механік Нікіфараўскі (гаспадаром кінематографа быў Нікіфараў), што галубоў есць»—і са здзіўленнем глядзелі.

«Забіць-бы голуба. Пятак. Абаранкі і тараны. І механік Загоскін пусціў-бы вечарам да сябе ў будку карціну паглядзець праз акенца».

Камень са свістам ляціць у стайку галубоў. Стайка з глухім шумам узлятае пад высокі дах радоў і на падлозе не застаецца ніводнага падбітага голуба. З прыкрасцю плюеш і бяжыш на раку, падскакваючы на аднойназе і думаючы: кудысьці купацца, пад Кацярыну ці на пяскі?

— Давай на пяскі—загараць можна.

Па дарозе да цябе далучаюцца яшчэ некалькі сарванцоў. Спуск паміж Кацярынай і Срэценкай агалашаецца крыкам і свістам. У доме Грэхава-купца набожная старушэнцыя, яго матка, з перапуду хрысціцца, ды дворнік Анкудзі з вялікай барадой і злымі вачыма крычыць з варот услед: «Залатаротцы»—і зачыняе дзверы. Услед за гэтым, злым і працягла-глухім брэхам узвые грэхаўскі сабака. Анкудзін і сабака думаюць, што мы іх зноў дражніць прыйшлі. Сабаку і Анкудзіна, верных вартаўнікоў грэхаўскага двара, ведаў увесь горад і калі вечарам людзі праходзілі па вуліцы, яны, не даходзячы да варот дома Грэхавых, зварачвалі на другі бок. Да таго ўжо яны абодвы, Анкудзін і сабака, былі злосныя.

Супроць прыстані стаіць двухпавярховы з абчасаных бярвенняў дом без варот. З таго берага ракі ён падобны на танны пернік, дзякуючы сваёй ружовай афарбоўцы. А калі пад'язджаеш адкуль хочаш к гораду на лодцы, ён першы з усіх гарадскіх будынкаў кідаецца ў вочы. Тут піўная, тракцір і чайная Сабачкіна, ліхвяра і ўтрымальніка прыватнага ламбарда. Тут заўсёды поўна кароду—і ў доме, і каля яго «параднага» ганку.

З раніцы да вечара з піўной чуваць гукі двухрадкі, п'яныя галасы і выкрыкі. Сталы госць і гуляка тут—грузчык прыстані. Увесь заработак прыстанскай галыцьбы застаецца тут, за гаспадарскай стойкай. Тут казённая гарэлка і таннае александраўскае піва, моцнае, як палын, колеру каламутнай карычневай бурды. Тут

разухабістыя трэлі гармонікі, сатанеючай пад вечар, і гуляшчыя набярэжныя дзеўкі. П'янка грузчыкаў і хмяльны чад, начная панажоўшчына і цяжкое ранішняе пахмелле.

На ганку, на лаўцы, з рання да вечара сядзіць гаспадар гэтага бойкага прадпрыемства Сабачкін—старык, Сямёна Калупаевага цесць. Ён цэлыя дні грызе семячкі сланечніка, а калі зазваняць у царкве Срэцення, устае і моліцца на абшарпаныя і аблезлыя сцены прыстані, бо яна ад яго ганка—на ўсход. Сам ён не гандлюе. Гандляваць ёсць каму: дочкі, сыны, два зяці, апроч Сямёна Калупаева. Старэйшы сын «загадвае» ламбардам. У ламбардзе таксама скупка крадзенага.

Старык Сабачкін ведае ўсіх па імя. Ён з кожным пагаворыць:

— Міцька, Сапожнікаўскую соль сваёй арцеллю выгружалі?

— Сваёй,—прабурчэў Міцька. Ён многа гаварыць не любіў.

— Напэўна вазоў дзесятак на старану маханулі. Сапожнікаўскае пуза сцерпіць, тоўстае.

— Можа і маханулі, а табе што?.

— Эх, які ты нелюдзяшчы...

— А ідзі ты к ліху.

Міцька знікаў у піўной. Ён моўчкі піў піва і жменямі глытаў мочаны гарох. З ім баяліся заводзіць гутарку. Выпіўшы некалькі бутэлек піва, Міцька заказваў гарманісту «Разлуку» і «Магілу».

Каля Сабачкінскага прадпрыемства сабралася народу больш, як звычайна. Натоўп гарланіў, чутны былі паасобныя мацерныя выкрыкі. У сярэдзіне натоўпу штосьці адбывалася—ён стаяў натуральна утвораным кругам.

Мы гуртам беглі к натоўпу. Як-жа іначай! Не інакш, нейкая падзея! А можа бойка? Цікава-ж! А можа шарманка або папугай шчасце па білеціках выцягваюць?

Пасярод натоўпу стаяў Міцька Паўлаў. Скарняка Паўла сын. Сіняя сатынавая рубаха была ўся расшпілена, шырокаверхая суконная шапка была заламана набякрэнь, з-пад шапкі выбіваліся кучаравыя валасы. Твар быў чырвоны, вочы гарэлі. Проці Міцькі стаяў сын гільдзейскага купца Сапожнікава. Ён мацюгаў Міцьку. Міцька маўчаў. Сапожнікаў падступіў да Міцькі зусім усутыч. Правая рука купецкага сына, сціснутая ў кулак, з кожным новым рухам усё набліжалася да Міцькавага падбародка. Міцька трымаў рукі ў кішэнях і стараўся здавацца абыякавым, але вочы яго мімаволі пачыналі разгарацца ўсё больш і больш яркім бляскам, станавіліся пранізваючымі і наліваліся злосцю. Міцька праз зубы плюнуў. Гэта вывела купецкага сына з цярплівасці:

— Скажы, колькі вазоў солі сплавіў, лешман? Пяць?

— Дзесяць.

— Скажы, а то...

— Ну, ну, рукам волі не давай!

Натоўп маўчаў.

Сапожнікаў не сцерпеў, і ён абодвымі рукамі ўчапіўся ў горла Міцькі, але ў гэты-ж момант,—натоўп нават не паспеў ахнуць,—чырвонаморды сын купца стрымгалоў упаў пад ногі натоўпа. Упаў

нячутна, як падрэзанае, камлістае, але кароткае дрэва і, крэкнуўшы, распластаўся ў тоўстым пласту пылу.

І не паспеў Міцька засунуць правую руку назад у кішэнь, як сапожнікаўскія лабазнікі як сабакі наляцелі на Міцьку і акружылі яго з усіх бакоў. Міцька быў ужо на зямлі, яго цела мясілі, як месяць цеста ў дзяжы на перніку—і нагамі, і рукамі.

Людзі бязуважна стаялі, моўчкі назіраючы карціну ўбою жывога чалавека. У гэты час раздаўся хрыплы голас:

— Гэй, батожнікі, ратуй Міцьку, ратуй сына!..

Гэта быў сухотны скарняк Павел, бацька Міцькі, пра якога на скарняжнай слабодцы «Вясёлцы» гаварылі, што ён доўга не пражыве. Ён ледзь ішоў з тоўстай сукаватай палкай у руках і, спыніўшыся дзе-небудзь каля скрыўленага плата, на вуліцы, з сухім надрывам кашляў па паўгадзіны. Павел з палкай у руцэ рушыў у натоўп адбіраць Міцьку. Натоўп устрапянуўся, падаўся наперад, як рачная хваля на плыты, і абкружыўшы сапожнікаўскіх лабазнікаў з усіх бакоў, пачаў іх лупцаваць. Білі лабазнікаў, як папала і чым папала. Усё было пушчана ў ход—і кулакі, і грузчыцкія кручкі з «обезьянками», і палкі,—нічым не пагарджалі: што было ў руках, тым і білі. Праз дзве-тры хвіліны бойка грузчыкаў з лабазнікамі скончылася. Пачуўся свісток прыстанскага гарадавога, «вадзянога кручка», як называлі яго грузчыкі, які да гэтага часу спакойна драмаў у цяньку кулёў і расцягнутых брэзентаў на прыстанскай дамбе. Але разнімаць не было ўжо каго—людзі разыходзіліся: сапожнікаўскія малайцы з гаспадарскім сынам у горад, а грузчыкі—хто на прыстань, хто ў тракцір.

Твар Міцькі быў у крывападцёках, з роту па падбародку цякла сукравіца. Левае вока была закрыта прыпухшым павекам. Павел ляжаў на зямлі ў непрытомнасці. Можна было падумаць, што яго забілі на смерць. Міцька толькі цяпер яго заўважыў. Узяўшы бацьку з другім грузчыкам на рукі, яны пасадзілі яго на ганку. Я стаяў каля Паўла. Дастаўшы з кішэні залатоўку, Міцька сунуў яе мне, загадаўшы:

«Шкалік!»

У адзін міг я са шкалікам быў каля Міцькі. Міцька ўвесь шкалік залпам выліў бацьку ў рот, павярнуўшы яго тварам уверх і прыўзняўшы галаву. Павел ачуняў і, першае, чым ён заявіў—аб сваім прыходзе да прытомнасці, быў доўгі і сіплы кашаль. Кашаль, якім, здаецца, ніяк і адкашляцца не можна. Пасля кашлю з горла хлынула кроў. Міцька палажыў бацьку на спіну, тварам угару і, калі кроў перастала ісці, сказаў мне: «Сень», адвязі бацьку дамоў.

Мы павольна падымаліся па Срэценскаму спуску. Праз кожныя пяць крокаў Павел спыняўся. Яго душыў кашаль. З ракі пачуўся моцны параходны гудок—ён разносіўся далёка навокал. Па гудку я пазнаў «Камерсанта». Павел ледзь чутно вымавіў: «Соль цягне, Міцьку заработак».

Сонца ўжо стаяла над Кузнецкай слабадой. З Вяткі павеяў ціхі ветрык. Мы падняліся на гару і ўжо ішлі па Саборнай плошчы. Павел адной рукой трымаўся за маё плячо, у другой руцэ была палка.

З плошчы была відаць рака, плыты на ёй, лес за ракой і дальні перавоз. Пузаты «Камерсант» цягнуў на буксіры высокую камскую баржу з соллю. Ён быў падобен на вадзянога павука, які цягне на павуціне доўгую асу. Баржа пракладвала барозны ў рачной вадзе. Рака сінела. Бірузовае неба купалася ў ёй. Ад гэтага яна і здавалася блакітнай. «Грамадская маёмасць» горада—казёл «Васька» ўжо гуляў па плошчы ў пошуках перадвячэрняй ежы і, пасля мінутнага прыпынку, падумаўшы, накіраваўся ў бок пажарнай часці, дзе на паркане наклейваліся гарадскія афішы аб любіцельскіх спектаклях у купецкім клубе і манежы. Засохшы клейстар і папера, як відаць, цалкам задавальнялі непатрабавальны смак і апетыт «Ваські».

На плошчу выходзілі ўсе прысутственна-казённыя ўстановы. Работа ў іх закончылася—з будынкаў выходзілі кучкі чыноўнікаў і пісароў. У вузкіх унізе, са штрыпкамі, штанах яны спяшаліся па вуліцы, якая выходзіла на плошчу, абганяючы друг дружку.

Стайка галак уселася на саборнай званіцы, абляпіўшы верхні купал і крыж. Сваім непакойлівым крыкам яны парушалі цішыню гарадской плошчы. На рагу плошчы ў перадвячэрніх праменнях, на Платунаўскім магазіне блішчэла золатам вялізных літар шыльда «Чай Губкіна і Кузняцова». У доле былі два скрыжаваныя якары. Сажнёвыя ліхтары былі відаць з усіх канцоў плошчы. Гаварылі, што калі павесілі гэтую шыльду гадоў дваццаць таму назад, дык прыезжыя сяляне на яе маліліся, прыймаючы яе за цудатворны абраз. Сумуючы гарадавы пахаджваў каля гандлёвых радоў, падтрымліваючы левай рукой «сялёдку» і сочачы вачыма за дзеяннямі казла Ваські. А той ужо абнюхваў афішы каля пажарнай часці, выбіраючы свяжэйшую. Выяўленне казлом гастранамічных густаў да якасці афіш забаўляла сумуючага гарадавога.

Цераз плошчу, насустрач нам ішоў саборны пратапоп. Няўмеру доўгімі нагамі ён узнімаў пыл і пры кожным кроку ўзмахваў доўгай клінападобнай барадой, згінаючы пры гэтым спіну. Цяжкі пыл вышэй кален не падымаўся і таму пратапоп быў падобны на нейкага прэпадобнага згорбленага старца, які плыве ў воблаках.

— Завернем, не люблю вадалазаў,—сказаў Павел, і мы павярнулі да гандлёвых радоў, каб абмінуць сустрэчу з папом.

— Зойдзем да Сямёна Калупаева.

Мы былі якраз каля яго крамы. На парозе стаяў сам гаспадар. Твар яго блішчэў ад тлушчу і быў барвовым ад вялікай колькасці выпітага чаю. Павел сеў каля галоўнага магазіннага ўвахода на перакуленую скрынку і закашляўся.

— Паміраць табе, Павел, даўно пара, а ты яшчэ жывеш...— разглядаючы Паўла вузкімі, заплыўшымі ад тлушчу, вачыма, прамовіў Сямён Калупаеў.

— А я вось і яшчэ буду жыць, на зло вам, лабазнікам, на зло табе, Калупаеў.

— І што ў цябе за жыццё, Павел: сын басяк, дачка ў прастытуцыі, сам ты... паміраць табе трэба, Павел, а то з'ядуць цябе сукоты...

— А вось і не з'ядуць... Ты менш, купец, балбачы... Ты лепш дай мне на сотку, чуеш, ваша сцяпенства...—«ваша сцяпенства» Павел знарок расцягнуў.

Сямён Калупаеў і Кормшчыкаў Павел былі землякамі. Ім было аднолькава год. Гадоў дваццаць пяць таму назад з далёкай, закінутай у імшарніках і балотах, вёскі Залiссе яны разам прыйшлі ў горад на заработкі. Тады гэта былі дружныя таварышы, маладыя хлапцы. Сямён Калупаеў пайшоў па гандлёвай часці—да купца ў «мальчики» наняўся. А Павел пайшоў у вучні да скарняка.

Калупаеў Сямён стаў купецкім зяцем. А пасля смерці першай жонкі—і адзіным уласнікам былых Вараксінскіх наяўных капіталаў і гандлю. Ажаніўшыся на адной з дачок абдзіралы Сабачкіна, ён пасагам падвоіў свой капітал і зараз меркаваў адчыніць на цэнтральнай вуліцы горада магазін, накшталт Карданоўскага ў Вятцы, каб былі—і галантарэя, і скураныя вырабы, каб і абаранкі, і калбаса... Парфумы там розныя, і калёсная мазь... Цвікі і хамуты... І прадукты харчовыя розныя... Адным словам—універсальны магазін.

Павел-жа Кормшчыкаў як не меў нічога, так і на старасць застаўся без прытулку, без даху і куска хлеба. Доўгія гады работы ў сыравіннай футровага прамыслоўца Папова з'елі лёгкія Паўла, мездраная гніль высушыла грудзі, цела зачахла ад пылу вавёрчыных скурак, як і ў дзясяткаў яго таварышоў, пайшоўшых у магілу раней Паўлавага ўзросту. Моцны быў арганізм ў Паўла, вясковы, кондавы. Але і ён пасля дваццаціпяцігадовай работы ў смярдзючай сыравіннай майстэрні, якая нагадвала памыйную яму, зверху да нізу напоўненую кускамі гніючага і смуроднага мяса,—здаў. За работу гаспадар плаціў нікчэмныя грашы. На заробленае можна было жыць—толькі ўпрогаладзь, каб ўтрымоўваць сям'ю. Меў ён дваіх дзяцей—сына Міцьку ды дачку Анну. Жонка памерла год дваццаць таму назад. Павел цяпер працаваць не мог. Дачка пайшла ў губерскі горад прыслугай. Сын стаў грузчыкам і заўсёды адразу прапіваў заробленыя грошы. Толькі крыху памагаў бацьку, калі што заставалася ад прапоя. Хадзілі чуткі, што Міцька раскрадае гаспадарскія грузы.

Павел не раз прабаваў гаварыць з Міцькам, каб ён не піў, пасталеў. Малады ён яшчэ быў, дваццаць пяць не было. У рэкрутах хадзіў—у салдаты не ўзялі: «у нутрах» штосьці неладна, а што няладна—і сам не ведаў.

— Кінуў бы ты, Міцька, піць,—загінеш, Міцюша...

— Эх, бацька, не гавары! Надта ўжо жыццё наша горкае; вось я яго і адмочваю і за цябе, і за матуху, і за сябе... і, эх! за Анютку. Ты вось, бацька, увесь свой век вавёрчыныя ды куніцчныя футры рабіў—пані ў губернях ды заграніцах у іх ходзяць, вольна дышуць... а табе і дыхаць няма чым: футры твой дых з'елі... нават пінжака ў цябе ватнага людскога на зіму няма не то што аўчынкі якой...

Павел і сам быў не ад таго, каб выпіць, і кожная такая гутарка канчалася бутэлькай гарэлкі.

У Паўла была свая філасофія, ён часамі ўголас разважаў: «Усе мы памром—хто ад туберкулёза, хто ад сухотаў, а хто і ад тлушчу лопне. Вось, Калупаеў Сямён або Папоў—тыя ад тлушчу памруць... А, скажам, чыноўнік Трапезнікаў, гэты ад беркулёза памрэ таму, што антылігент, ён... Нам-жа масцеравым—сухоты. Таму тлушчу ў нас у нутрах не хапае: сох, сох і высах чалавек. Эх, памру я, хутка, памру... і нічога мне не шкада так і нікога, а Анюткі, дачкі маёй, Анны Паўлаўны. Вочы ў яе шэрыя, у Анюткі, а ў сонечны дзень яны робяцца блакітнымі...

Пра Анютку на гэтым гутарка і канчалася. Утойваў штосьці аб Анютцы Павел, не любіў да канца, да яснасці, дагаварваць. І калі Сямён Калупаеў напамянуў Паўлу пра Анютку, ён зморшчыўся, але змаўчаў, і па вачах відаць было,—заміргалі яны ўзмоцнена,—заплакаць хацеў, толькі стрымаўся.

— Дай, Сямён Калупаеў, на шкалік, а яшчэ зямляк, даруй госпадзі, жыган чортаў...

— Няма ў мяне для п'яніц грыўняў...

— Ды не грыўню, чортава квашня, а дванаццаць капеек.

— Пасядзеў і правальвай, няма чаго тут каля крамы тарчаць.

— Эх ты, сыч лясны, лопнеш ад тлушчу, ніхто аб табе і слова добрага не скажа, клопамор.

— Ідзі, правальвай, а то гарадавога гукну...

— Пойдзем, Сеня, ён сваю жонку першую на той свет адправіў, капіталістам стаў... Крыв-васмок, з мужыка-ж, Сеня, а мужыку не спагадае. Ды ты мне рубель зараз давай—я не вазьму, прайдзі-свет чортаў.

Павел закашляўся. Калупаева каля дзвярэй крамы ўжо не было, ка яго месцы стаяў у дзвярах адзін з здаравенных прыказчыкаў, закасаўшы рукавы і разглядаючы нас з Паўлам.

— Халуй,—скрозь зубы вылаяўся Павел, аздобіўшы лаянку нецэнзурным словам. Вылаяўся і зноў закашляўся.

Мы ўсталі і пайшлі па галоўнай вуліцы ў «Вясёлкі». Я павёў Паўла дамоў. І трэба было адвесці яго, і шкода было страчанага часу. Павел ішоў хістаючыся, а таму моцна абапіраўся на маё плячо. Каля папоўскіх саборных дамоў, дзе нам трэба было зварачваць на другую вуліцу, стаяў гарадавы, вядомая ўсяму гораду асоба—Аксёнаў. Ён падазрона нас аглядзеў, палічыўшы Паўла п'яным і сярдзіта прамовіў, хутчэй не прамовіў, а забрахаў, робячы злосны твар.

— Давай у бок, з галоўнай незнарок на паліцмейстра наткнецеся... ды жыва ў мяне, а то ў часць.

Не звярнуўшы ніякай увагі на сярдзіты крык кручка, мы звярнулі на другую вуліцу.

Узнімаючы на ўсю вуліцу пыл, ліха звонячы бубянцамі і шаркунамі, з намі параўнялася паштовая тройка. Гнедыя прысцяжкі, збочваючы галовы, ліха скакалі, звіваючыся вужамі, а карэнны—плаўна ішоў шырокім трухам.

Паштовая брычка грукацела па сухой калеіне ўсім сваім жалезам, бразгочучы на некалькі кварталаў. У брычцы, у незапаясанай чырвонай рубашцы і шырачэзных штанах, крыху нагадваўшых пліс, стаяў ямшчык Колька Пагода. Ямшчыцкая шапка з бляхай была, як заўсёды, набякрэнь. Нацягнуўшы лейцы, ён ссябаў паджарых прысцяжак пугай,—хутчэй не для быстрыні, а для форсу. Шчукінскі паштовай станцыі ямшчык Колька Пагода сваёй зухлівасцю і ўдальствам быў вядомы на ўвесь горад.

Пагода быў таксама земляком Паўла, але быў маладзей гадоў на пяць.

Убачыўшы тройку і Пагоду, Павел закрычаў:—Мікалай, Пагода, ідрыт тваю налева, колькі год узімку не бачыліся.

Як відаць, Павел быў рад сустрэчы з Пагодай і крычаў з апошніх сіл, задыхаючыся.

Пагода адразу асадзіў тройку, так што прысцяжкі на месцы ўздыбіліся, і спыніўся проці нас, падаючы з брычкі Паўлу руку.

— Ездзіш усё, Коля?

— А што нам малярам? Усё жыццё ездзіць буду, пакуль не здохну. А ты ўсё кашляеш?

— Кашляю, Пагода, кашляю. Усе мы, Мікалай, памрэм ад кашлю,—і я, і ты, і Міцька, і ўсе... Людзям хлеб, хлеб ды масла, а нам—кашаль. Калупаеў вунь ад кашлю не памрэ, у ім тлушч кашаль перабівае, ён ад тлушчу лопне...

— Усе там будзем, але не ў адзін час,—рэзюмаваў Пагода.—Сто-о-оай, лешыя, нeўцерп? Не бі нагой, чорт!—і тузануўшы лейчынай, ён хлестануў карэннага пугай, асадзіўшы на месцы цуглямі. Мухі даймалі коней. Коні білі хвастамі, маталі мордамі і ніяк не маглі стаяць на месцы.

— Усё сокалам, Коля, лятаеш на сваіх вясёлых!

— І не кажы, Павел, усё жыццё ў іх і памру, капэўна, у вазку. Была-б сотка, ды коні мае сокалы, ты тракт паштовы, а там ходзь... Але вось, Павел, чуеш, кажуць чыгунку да нашага горада пралажаць. Эх, Паша, прападзе тады наша ямшчыцкае саслоўе, прападзе,—а як-жа свет без паштовых ямшчыкоў будзе, скажы? Хіба-ж можна без ямшчыкоў жыць, баз званочкаў паштовых, Павел, э-эх... Сядай, Павел, пракачу, можа да восені і не дацягнеш, памрэм і больш не пакатаешся.

Павел, крэкчучы, сеў у брычку. «Значыць пракацім на паштовай тройцы па гораду! А гэта-ж лепш, чым кінематаграф. Калі паштовая тройка імчыць па тракце або ўскраіне горада, дык на сядакоў заўсёды глядзіш з затоенай зайздрасцю, лічыш іх за найшчаслівейшых людзей. На тройцы па гораду!.. Але ці пасадзіць Пагода мяне, басаногага хлапчука? Ці пасадзіць сярдзіты ямшчык Колька, зух Колька, па прозвішчы Пагода? Ці пасадзіць да сябе ў брычку? Не пасадзіць. Не, не пасадзіць».

Павел ужо сядзеў у брычцы, трымаючыся рукамі за сядзенне ямшчыка. Пагода разбіраў прысцяжныя лейцы і, быццам незнарок, кінуў на мяне сярдзіты позірк. Пагода заўсёды быў сярдзіты.

— А гэты чый выскрабак?

— Уюгі сын...,—адказаў Павел.

— У-ю-гі? Мікалая?.. Сядай, хлопча, сядай... У былыя часы мы з тваім бацькам, царства яму нябеснае...

Я ўжо не дачуў, што ён там з маім бацькам рабіў або ў якіх справах ён адзначаўся. Пагода, седзячы крыху ў бок, ліха свіснуў, устрасянуў галавой, сцебануў некалькі раз для форсу пугай гнедую тройку і зверскі закрычаў: «Забыліся мяне п'янага, у-у-у-пп!»—рвануў з месца.

Эх, якая гэта была прыемнасць! Такія хвілікы незабыўна застануцца у памяці на ўсё жыццё, яны прасякнуты радасцю і шчасцем даўно мінуўшага часу, і гэтая радасць падобна на белыя кветкі, расцвіўшыя на горкай глебе даўно праляцеўшага цяжкага дзяцінства.

У брычцы трасло і кідала ва ўсе бакі. Адбівала пячонкі і селязёнкі. Сядзець было нельга—прыходзілася мімаволі падскакваць і ссовацца на цвёрдае дно брычкі.

Павел не дыхаў—ён таксама перажываў радаснае пачуццё язды на паштовай тройцы. Вочы яго былі шырока раскрыты. Ого, паштовая тройка! Гэта вам не земскія коні або там, скажам, сялянская драбінка. Трэсла, і біла, і кідала ва ўсе бакі,—але затое колькі маральнага задавальнення!..

Калі чалавеку з непрывычкі праехаць на паштовай тройцы па нашых гарадскіх вуліцах, на якіх засохлі груды дзесяцігадовай гразі, у сухую пагоду не ўступаючай па цвёрдасці каменню, дык ён пасля такой язды праляжыць, самае меншае, тыдзень. Праляжыць—пакуль патрывожаныя, калі не адбітыя, вантробы не прыдуць у нармальны стан.

Тройка ачмурэла ляцела па вуліцах. Не зварухнуўшы клубамі, карэннік перабіраў задам, і здавалася, што ходзіць не пара, а тысяча дзвесце ног. Гэта іпаходзь. Вялікі гонар для кожнага ямшчыка мець карэнным інаходца. Прысцяжкі, распластаўшыся ў скоку і збочыўшыся адна ўлева, другая ўправа, выцягнуліся ў шалёным намёце і, здавалася, не дакраналіся нагамі зямлі. Пагода час-ад часу пакрыкваў—У-у-у-у-э-п-п.. Сабакі хаваліся ў падваротні. Людзі спалохана спыняліся на вуліцы, доўга гледзячы ўслед ашалеўшай тройцы, ледзь паспяваючы сказаць:—Шчукінскі Пагода, чорт... Загуляў, відаць...

Праляцелі Казульку, яшчэ дзве—тры вуліцы—на адным рагу, з усяго маху, крыху прыстаўшы і прарэзліва свіснуўшы, Пагода асадзіў усю тройку на месцы, і яна стала нерухома—у коней цяжка хадзілі толькі бакі.

Тут нам трэба было злазіць. Далей, да кватэры Паўла, па завулках, праезду на тройцы не было.

Падтрыманы мною і Пагодай, Павел вылез з брычкі. Вочы яго ўсё яшчэ былі шырака раскрыты. Правай рукой ён трымаўся за грудзі.

— Дзякую, Мікалай, дагадзіў ты мне напаследак. век не забуду, удружыў земляку...—ціха прамовіў Павел, згінаючыся ніжэй і ніжэй і ўжо абодвымі рукамі трымаючыся за грудзі. І словы гэ-

тыя, здавалася, вылятал? проста з грудзей, не праходзячы праз горла, і былі падобны на ціхі, ціхі скрып гнілога дрэва, непадобкага на чалавечую мову.

— Для цябе, Паша, як для зямляка... А то і губернатара самога з архірэем так не пракачу...—Пагода пакорпаўся ў кішэнях і выняў кісет з вяровачкай, у якім захоўваў табак і грошы. Пашукаўшы ў кісеце. ён палажыў Паўлу на далонь два медных пятакі і дзве капейкі. Зухальства ранейшага ў ім ужо не было. Мне паказалася, што ён глядзіць на Паўла неяк жаласліва... І, сапраўды, ён зараз стаяў, крыху сагнуўшыся, быццам адчуваючы сябе ў чымсьці перад Паўлам вінаватым.

— Растрасло цябе, напэўна, Паша? У грудзях-то ў цябе нядобра, а я нібы і забыўся на гэта... На вось на сотку, вып'еш і лягчэй будзе.

— Дзякую, Коля, сотку я вып'ю, Коля. Дзякую і за язду—Калупаеў так не кожны дзень ездзіць, як-ты мяне сёння вазіў. У былыя часы сам Платуноў адзін раз у год, на Каляды, так ездзіў у б... А памятаеш, Коля. як я жаніўся, дык ты мяне гэтак-жа з сабору пёр... Толькі коні тады вараныя былі...

Павел не меў сваёй кватэры. Ён жыў у цёткі Маўры. Цётка Маўра сястра яго жонкі, была прачка. Яны жылі не то ў лазні, не то ў напалову разбураным флігелі, у адзін пакой. Павел прыходзіў сюды спаць. Спаў на лаўцы, падсцілаючы стары, брудны, патропаны лямец, а пад галаву падкладваў прапахлы аўчынамі пінжак, з вычашанай і мясцінамі вырванай падбіўкай.

Мы не дайшлі да «кватэры». Павел задыхаўся. Мы селі пад ценем двух рабін, у пустазеллі, каля пахіснутага ад старасці плоту, за два крокі ад высокага, у дзве дошкі, тратуара. Тратуар быў высокі, бо ў сырое надвор'е або ўвосень тут было балота. Зрэшты, не гледзячы на летнюю сухмень, застойным балотам тут пахла і зараз, але было халаднавата і ціха, нават, бадай, не прахладна, а сыра, і гэта ў занадта спякотны дзень было ў пэўнай меры прыемна.

Калі мы селі, Павел, даючы мне медзь Пагоды, сказаў:—збегай, хлопча, па сотку...—але не дагаварыўшы, схаваў грошы ў кішэнь. А потым прашаптаў:— а бадай, не трэба...

Мне здалося, што ў грудзі Паўла быццам ўваткнуты кол і Павел згорблены, не мог выпрастацца. Здавалася, што грудзі яго замерлі, як каменныя, і не дыхаюць. Павел намагаўся адкашляцца, яму хацелася кашляць,—гэта было відаць па зморшчаках на твары, але кашлю не выходзіла. Ён набраў у сябе шмат паветра і не мог яго выдыхнуць. Вочы глядзелі шырэй звычайнага, зрэнкі ўсё больш і больш расшыраліся. Напалову, седзячы Павел прысланіўся да трухлявых дошчак крывога плоту. Пасядзеўшы моўчкі з мінуту, ён ціха, але з вялікай цяжкасцю, як быццам кожнае слова было іржавым цвіком і калола раны, жывыя раны грудзей, загаварыў:

— Памыцца-б, ды бялізну-б чыстую надзець, за ўсё жыццё ні разу чыста не вымыўся. З'еў мае цела пыл сырэйны, грудзі высушыў...

Потым Павел зноў доўга маўчаў. Зараз ужо было відаць, што ён зусім задыхаецца. Мне зрабілася страшна ад Паўла, страшна ад яго вялікіх, шырока раскрытых шэрых вачэй, у якіх купалася бірузовае неба. На ілбе Паўла выступіў пот і ён, у цяню рабін, быў падобен на рассыпаны ў імху срэбны пыл. Але Павел зноў загаварыў і страх знік:

— Не трэба соткі, не трэба...—Ён задыхаўся, яму ўжо зусім было цяжка гаварыць.

— Сенька, памру я зараз,—і ён усміхнуўся.—Вось табе два пятакі, пабудзь толькі каля мяне, бо мне страшна. Калі нікога няма ля мяне, дык мне няма чым дыхаць. Вось табе два пятакі. Пабудзь са мною.

— «Госпадзі,—хутчэй не ад любві, к богу, але ад вялікай радасці, я ў думках усклікнуў: «два пятакі, пятакі... два, чарцякі! Вось гэта та-ак... Абаранкаў і воблы куплю і буду есці, пакуль не забудзіць...

Павел паміраў. Мне да слёз было шкада Паўла: я яго даўно памятаў, амаль з таго часу, як толькі пачаў хадзіць, памятаў. Ён даваў мне часамі капейку, часамі дзве або пасуду з-пад гарэлкі. Але мне было і радасна, што ад гэтага моманту я з'яўляюся ўладальнікам двух пятакоў. Двух пятакоў!

Павел быў белы, як снег. Я не заўважыў, як ён расшпіліў каўнер стракатай рубашкі. На грудзях, на бруднай тасёмцы рыжэў медны пазелянелы ад часу і поту, крыж, абернуты ліцавым бокам к целу.

Вочы Паўла па-ранейшаму былі шырока раскрыты. На твары пачала выступаць жаўцізна, скура зрабілася васковай і бяццам нацягвалася на касцях, становячыся празрыстай. Павел усміхнуўся і гэтая ўсмешка была падобна на ўсмешку дзіцяці. Ён загаварыў шэптам:

— Сеня, дачка ў мяне ёсць. Анютка, дачка. Гуляшчая яна, Сеня, гуляшчая, у Вятцы яна зараз. Можа ўбачыш калі-небудзь, скажы, што Павел Кормшчыкаў, бацька яе, памёр і пакланіся ёй ад мяне. Пакланіся...—шэпт заміраў, шэпту ўжо не было чутна, толькі губы варушыліся. Твар быў мёртвы. Жылі толькі вочы і ў іх зараз плавала зелень рабін.

Яшчэ раз ўсміхнуўшыся нечаму, што зараз нібы выпадкова ўспомнілася, але здарылася даўно-даўно, Павел сціх зусім.

Галава слізганула па плоту і цела выцягнулася каля яго ў цяню тратуара, які высіўся над намі.

Вочы былі адкрыты, яны шырока глядзелі на свет, на неба, скрозь зелень рабін, на лапух, што рос каля плоту. Мне было страшна, бо твар быў мёртвы, а вочы так шырока раскрыты і ў іх зноў сінела біруза. Мне было жудасна ад гэтых вачэй і мне паказалася, што яны ведаюць нейкую няўмольную праўду. Праўду жыцця. Я не мог глядзець у вочы Паўла. Мне было страшна. Я ўспомніў, што калі памёр мой бацька, прастудзіўшыся на пажары, дзе ён ратаваў з агню сям'ю і хатні скарб аднаго рабочага, ад чаго прахварэў толькі пяць дзён і задыхнуўся ад раптоўных сухотаў,—

дык і ў яго таксама вочы былі адкрыты. І бабуля закрыла яму вочы трохкапеечнымі манетамі. Успомніў я гэта і дастаў пятакі. Пятакі былі ў мяне ў руках. Шкада было пятакоў! Гэта-ж багацце! Хіба збегаць размяняць на двухкапеечнікі?.. Я закрыў пятакамі вочы Паўла і, усхапіўшыся, бегма пабег сказаць аб смерці Паўла цётцы Маўры.

Прыйшла цётка Маўра, села каля Паўла і завыла, закрыўшы твар рукамі. Але калі яна адняла рукі ад твару—вочы былі сухія. Потым яна як быццам гэта самая звычайная рэч, узяла пятакі з Паўлавых вачэй і, дастаўшы з кішэні дзве капейкі, сказала мне:— На вось табе два пятакі і дзве капейкі, а ты прынясі мне, сынок, сотку, вып'ем за ўпакой душы навапрастаўленага раба божага, скарняка Паўла Кормшчыкава.

Калі я прыбег з соткай, каля Паўла была ўся вуліца. Уся вулічная галыцьба. Як у горадзе нашым называлі: «кол ды иератыка». Тут былі і халодныя шаўцы, і гарачыя краўцы ў апорках з майстэрні Ракіціна, і разкосчыкі з абжорнага рада, і прачкі «на даму і па людзях». Усе яны маўчалі. Потым цела Паўла яны панеслі ў «кватэру» Маўры. Маўра зноў пачала галасіць, папярэдне забраўшы ў мяне сотку.

Мяне хтосьці ззаду тузануў. Я азірнуўся. Гэта быў мой сябра Колька Хлыбаў з хлапцамі.

— Пойдзем, Сенька, да Калупаева, пастаім каля крамы, а потым як стане цямнець, рушым да татарына Самітава—у яго на задворку гнілыя яблыкі ў скрынках стаяць, красці будзем. Смачныя, мы сёння цягалі...

Неба зацягвалі высокія хмары. Пачаў ісці лёгкі, пяшчотны дождджык.

Мы са свістам і крыкам беглі да гандлёвых радоў. Па дарозе я хваліўся Колю Клыбаву, што мяне сёння катаў па гораду на тройцы Мікіта Пагода. Колька на маю пахвальбу недаверліва хмыкнуў носам.

Кастрычнік 1935 г.
Ялта.

*Васіль Леанідаў*

# БАЛАДА ПРА ВЕСТАВОГА

Асення ноч...
Нябачна дарог...
Танцуюць вятры
па соннай зямлі.
У стэпах глухіх
перад самай зарой
Шумяць кавылі...
Шумяць кавылі...
Трывожная ноч...
Не ўчуць вартавых...
(Варожы залёг
за рэчкаю стан).
Спяшыць веставы,
спяшыць веставы
Сакрэтны пакет
даставіць у штаб.
А з поўдня бягуць
вятры наўздагон,—
Няма ім граніц,
ім вольны прасцяг.
Яшчэ, і яшчэ,
апошні прагон,
І конь, як віхор,
імчыцца наўсцяж.
Імчыцца наўсцяж,
імчыцца наўпрост,
І глуха аб дол
падковы звіняць.
Вось бераг ракі
І спалены мост,
І ўміг веставы
спыняе каня.
За рэчкаю штаб—
рукою падаць.
Пароль не забыт—
хачдыва імя...
Агорнута сном
трывожлівым даль,

А хвалі бягуць,
а хвалі шумяць.
— Дзе кінуцца ў брод?—
ніяк не згадаць,
А ранішні змрок
сплывае, як дым.
Глядзіць веставы:
— ці яў, а ці здань?—
Усталі з зямлі
тры цені прад ім.
— Скачы-ж ты, мой конь,
шпарчэй, і шпарчэй,
Каб смерць прамінуць,
каб волю здабыць!..
Ды стрэл прагучэў
ля самых вушэй,
І спуджаны конь
устаў на-дыбы.
Сакрэтны пакет—
у свежай крыві.
Паслаў веставы
тры кулі ў адказ.
Упаў на сядло.
Конь кінуўся ў вір.
... Варожы набег
стрымала рака.
Вось бераг другі...
Прывольная шыр...
Ды гасне жыццё
ў грудзях маладых.
А думы завуць:
— Спяшы і спяшы,—
У штабе даўно
чакае начдыў.
Трывожыць пакет...
А боль—не суняць.
Гусцее туман
у мутных вачах.
Устаў веставы,
прышпорыў каня.
І к штабу наўскач,
як сокал памчаў.
... Вунь штаб (за курган),
а вунь—вартавы.
— Шпарчэй і шпарчэй
імчыся, мой конь!..
Знямогся, прынік
к сядлу веставы.

Пагас у вачох
назаўсёды агонь.
... Жалобна шуміць
у стэпах кавыль...
Змывае зара
агністы свой след...
Таварыша зняў
з сядла вартавы.
Ён моцна трымаў
ля сэрца пакет.

1935 г.

*Тарас Хадкевіч*

# ДВА ВЕРШЫ

## ТРАДЫЦЫІ

Галасістая медзь трубы
устрывожыла ціш палёў.
Коні рушылі. Грузны пыл
на стаптаныя травы лёг.

Як вясновы разліў ракі—
лавы коннай імклівы рух.
Як узвівы зарніц—клінкі
над ускінуўшым лесам рук.

Чуцен блізкай атакі кліч,
ляскацення сталёвы тон
і прыглушаны стогн зямлі
пад ударамі капытоў.

Полк імчыцца...
                    Успомні—так
па бязмежжы
стэпаў данскіх
праз калючы віхор атак
на Камышын,
                    Растоў,
                        Батайск
вёў Будзённы свае палкі.

Прыгадай хмуры час трывог,
шум клінкоў,
                    нібы шум трысця.
Стынь начэй. Даўжыню дарог
і байцоў, што няслі наўсцяж
палымнеючы гневам сцяг.

Секлі сцюжы і жар марыў,
стэп шумеў і гулі бары.
Узнікала з-за долу рань

пад пявучы знарадны грай
над шэрэнгамі курганаў,
над суровай імглой палян...

Хай-жа свеціць
праз даль гадоў
неўміраючай славы бляск!

Час мінуў. Але мірным днём
не астылі клінкі ў руках.
Мы традыцыі беражом,
як багаты надзейны скарб.

Лёскат зброі гучыць ізноў
і трывожная цемень хмар
паўстае... Мы для тых баеў
набываем высокі гарт.

Эскадронаў паходны строй
захаваў свой круты напор...
Хмарай грознаю, ветравой
на манеўрах
імчыцца полк.

Вунь—
дымкамі успыхнуў бор...
Цені быстрыя на лугу...
Можа грымне
праз момант
бой...
Стоп! Іграе труба...
Адбой...
Заціхае атакі гул.

1935 г.

## З ЛІСТА

Не! Яшчэ не забыў цябе я,
ўспамінаюцца часта мне:
мяккі говар тваіх напеваў,
ветлы позірк і шчыры смех.

І калі на прывале позным
гарманіст разбярэ лады—
як жывы устае твой вобраз
яркі, радасны, малады.

Не хмурнее, не гасне воддаль
дружба наша...

З жыццёвых пор
Комсамол узнімаў, выводзіў
нашу моладасць
на прастор.

Гадаваныя працай рупнай
мы раслі... Я—ад шчодрых ніў
стаў на варце радзімы юнай
і шчаслівай тваёй вясны.

Адкрываецца свет нязнаны,
час імкне, як вясной рака...
Вось прыехала-б—не пазнала-б
задумёнкага юнака.

Сталы думкамі. Памацнеўшы,
цвёрды голас і мужны крок...
След відзён на маёй шынелі
ад паходаў і ад вятроў.

Сінім ранкам мяне спаткала-б,
гарачэй падала-б руку
эскадроннаму запявалу,
варашылаўскаму стралку.

Паглядзела-б...
Да траў на гонях
прыгінаюцца хмызнякі,
як на выездзе скачуць коні
і на сонцы гараць клінкі.

У прытульнай цішы казармы
чула-б песень вясёлы гам
і пра многае расказала-б
вечарамі маім сябрам.

Ты—далёка. Другая восень
пералескамі там шуршыць...
Прыязджай!
Будзеш лепшым госцем,
а не зможаш—дык напішы.

1935 г.

*А. Петроў*

# МАЛЕНЬКІ ГЕРОЙ

Быў досвітак. Мунго *) прачнуўся і вышаў з норкі. Тут ён сеў на заднія лапкі і, азірнуўшыся, соладка пазяхнуў.

Пад гарой шумела рэчка. За ёй скрозь ружовую смугу тэрасамі зелянелі рысавыя плантацыі і ўздымаліся лясістыя горы з цёмнымі выгінамі міжгор'яў. На стромкім беразе рэчкі хаваліся ў пладовых садах бедныя індускія хацінкі. Цёмнаскурыя дзеці, са звонкімі крыкамі плёхаліся ў вадзе і бегалі голыя па беразе.

Мунго пазяхнуў яшчэ раз і, заляскаўшы зубамі, спрытна злавіў у паветры муху. У гэтую хвіліну яго вельмі балюча ўкусіла за бок сночка. Мунго быстрымі рухамі пачасаў бок задняй лапкай і ўскочыў на камень, які служыў для яго мейсцам для наглядання.

З норкі пачуўся піск. Яго дзеці былі галодныя. Мунго сам з ахвотай з'еў-бы кавалак змяі або тлустую яшчарку, але ён не мог адлучыцца. Яго жонка—мунгіна—да гэтага часу не вярнулася з паляванне. Без угавору звяркі бывалі на паляванні па чарзе, бо ў лесе вяліся ворагі, гатовыя паласаваць безабароннай дробязай.

Зыркія вочы мунго абшнырылі кожны кусцік на беразе рэчкі. Дзіўна, вельмі дзіўна! Мунгіна ніколі не адыходзіла далёка ад норкі.

Дзеці пішчалі настойліва. Вушкі мунго нерашуча заварушыліся. Як быць? Пайсці ці яшчэ пачакаць? Ён паварочваўся ва ўсе бакі і нават трохі падняўся на задніх лапах, каб заглянуць у роў. Дарэмна! Мунгіна нібы канула ў ваду.

Сэрца мунго адчула трывогу. Ён пераскочыў на больш высокі камень. Цяпер ён бачыў усю даліну рэчкі. Можа быць мунгіна палявала на плантацыях. Не, якая патрэба прымусіла яе забірацца ў такую далеч!..

З-за гары паказалася сонца. Туман заклубіўся і стаў падымацца па схілах гор. Павольна, са скрыпам, прапаўзлі павозкі, у якіх былі запрэжаны гарбатыя зебу. З паселішча даносіліся зыкі браждзотак і крыкі людзей, якія праганялі з садоў пражэрыстых папугаяў.

Чакаць было бескарысна. Мунго ўбег у норку і абнюхаў сваё патомства, быццам угаварваючы яго пацярпець. Пасля гэтага ён спус-

---

*) Мунго або індыйская мангуста — маленькая драпежная жывёла з сямейства вiверавых. Водзіцца ў Індыі і на выспе Цэйлоне. Вядомая знішчэннем змей.

ціўся ў даліну рэчкі. Мунго не разважаў, як людзі, але ён цвёрда ведаў, што з мунгінай здарылася нешта страшнае і за што з гэтага дня яму давядзецца самому клапаціцца аб дзецях.

Даліна густа зарасла бамбуком. Тут вадзіліся дзікія паўліны, ганарыстыя злыя птушкі, якія начамі ўстрасалі паветра прарэзлівым крыкам. Яны заядла абаранялі сваіх птушанят і не раз прымушалі мунго пускацца наўцёкі.

Ку-ка-ры-ку! Ку-ка-рыку!

Мунго ўбачыў сям'ю дзікіх курэй, якая выгодна размясцілася на галінках дрэва. Гэта была прывабная здабыча. Як шкада, што ён спазніўся! Куры паспелі наесціся і не збіраліся ў хуткім часе злятаць на зямлю. Яны чысцілі аб галінкі дзюбы, круцілі галоўкамі (у небе лятаді каршуны) і старанна выбіралі з пер'яў паразітаў і ніяк не клапаціліся пра мунго і яго галодных дзяцей.

Ад апетыту ў мунго загарэліся вочы. Гэтулькі свежага, смачнага мяса! Ён падпоўз бліжэй і, перавярнуўшыся на спіну, прыкінуўся мёртвым. Ён нават прыплюшчыў вочы і выскаліў зубы, нібы быў сапраўдным мерцвяком. Дурны малады пеўнік угледзеў яго і зляцеў на ніжнюю галінку. Муха ўлезла мунго ў рот; другая разгульвала па кончыку носа. Але мунго цярпліва зносіў мушыную нахабнасць. Пеўнік круціў галавой і то адным, то другім вокам разглядваў дзівосную рэч. Што гэта можа быць? Птушка—не птушка. Звер—не звер... Кучка сухіх лістоў? Не! Кусок кары, аброслы лішайнікам? Таксама не... Ко-ко-ко—дык што-ж сапраўды?! Пеўнік аж гарэў ад цікавасці. Ён зусім забыўся пра асцярожнасць і ўжо збіраўся зляцець на зямлю, каб разглядзець мунго зблізку, але справу сапсавала чапля: яна шумліва паднялася з балотца і спалохала пеўніка.

Мунго паімчаўся па беразе рэчкі. Ён заглядваў у кожную шчылінку і аглядаў кожны куст. Каля вады ён наткнуўся на варана. Гэтая двухметравая яшчарка была яму не па сіле: мунго пераскочыў цераз яе, узляцеў на стромкі берег і, падскочыўшы, траха не схапіў за галоўку зялёную змяю, якая вісела на кончыку хваста над сцежачкай. Нажаль, змяя ў час заўважыла небяспеку і яна ўвачавідкі абвілася навакол галінкі і вылупіла на ворага чырвоныя, як рубін, вочы.

Мунго паімчаўся далей. У рове ён злавіў двух жаб і са здабычай у зубах пабег дадому.

Дзеці, насумаваўшыся, выпаўзлі з норкі. Яны пазіралі на вірлівую рэчку і луг, на якім разгульвалі, шчыпаючы траву якіясьці велізарныя рагатыя жывёліны. Мунго выпусціў з рота жаб і прагавіта накінуўся на свой вывадак. Якая неасцярожнасць! Гуляць на адкрытым месцы, калі над гарой лятаюць драпежныя птушкі... Назад! Хутчэй! Мунго балюча ўкусіў адно малое за зад і загнаў усю чараду ў норку.

Жаб хапіла на ўсіх, за выключэннем мунго. Ён пазіраў на дзяцей, якія прагна глыталі снеданне і час-ад-часу мімаволі аблізваўся.

Прагнаўшы голад, дзеці разлегліся ў кутку. Цяпер мунго мог падумаць аб сабе. Ён пашнырыў каля норкі, але не заўважыў нічога

падазронага і накіраваўся на верхавіну гары. Там сярод цяністага сада, стаяў дом, які належыў «белым» людзям.

Мунго не баяўся людзей, якія жылі ўнізе каля рэчкі. Ён нярэдка займаўся паляваннем у іх садах і нават забягаў у хаціны. Цёмнаскурыя—дарослыя і дзеці—не крыўдзілі мунго і яны лічылі яго сваім другам, бо ён знішчаў ядавітых змей. Але «белых» людзей мунго інстынктыўна абмінаў і хаваўся ў кусты, калі заўважаў іх набліжэнне.

У садзе расло многа прыгожых раслін. Іх даглядаў згорблены старэнькі—індус, з доўгай, да поясу, барадой. Калі ён заўважаў мунго, ён кожны раз гаварыў:

— Добры дзень, любы звярок! Вылаві ўсіх змей.

Вядома, мунго не разумеў яго, але ён ведаў, што можа без апаскі прабегчы міма старога.

Калі мунго прабраўся ў сад, ён раптам натрапіў на знаёмы след, які выгінаўся сярод кустоў. Вядома, гэта быў след мунгіны. Яна сёння прабягала тут!

Мунго паімчаўся па следу. Ён вёў у глыбокі роў. На дне, пад лістамі папараці, мунго ўбачыў срэбрыста-шэры камячок, затулены пушыстым хвосцікам. Мунго як мага хутчэй скочыў у роў і падбег да папараці. Пад ёй ляжала мунгіна. Яна скруцілася камячком, нібы спала. Мунго абнюхаў яе, яна пахла зусім не так, як заўсёды. Гэта быў смурод гнілля, смурод смерці...

Мунго сеў на заднія лапкі і доўга, нібы апантаны, пазіраў на жонку. На галоўцы мунгіны запяклася кроў. Вялікія зялёныя мухі кружыліся навакол і сядзелі на лістах папараці. Здавалася, што яны чагосьці чакалі.

Мунго ціханька піснуў і крануў мунгіну лапкай. Яна не варушылася. Мунго запырхаў і, матнуўшы хвастом, з страшэнным хваляваннем забегаў па рове. Потым ён яшчэ раз абнюхаў жонку, быццам жадаў канчаткова пераканацца ў яе смерці, і, пастаяўшы хвілінку, лізнуў мунгіні халодны носік. Гэта было яго апошняе развітанне. Цяпер трэба было бегчы на паляванне і да дзяцей, якія асталіся без догляду.

Мунго як вокам згледзець узлез на край рова.

Бац! Усё закружылася ў вачах мунго. Нешта з грукатам перакуліла яго і балюча апякло бок. Мунго ледзь не скінуўся ў роў, але ўтрымаўся і ўскочыў на ногі. Каля куста са стрэльбай у руках стаяў «белы» хлопчык.

Мунго шмыгнуў у траву і, стуліўшы вушы, доўгімі скачкамі панёсся з гары. Жах ледзяніў яго сэрца. Упершыню ў жыцці яго пакрыўдзіў чалавек. І як моцна пакрыўдзіў! Хутчэй, хутчэй дадому! Магчыма ўдасца залізаць рану...

Вось абрыў каля ручаіны, вось скала, за якой знаходзілася норка. На срэбрыстай шэрсці мунго ўсё шырэй распаўзалася крывавая пляма. Ён напружваў усе сілы і як вецер шыбануў цераз ствол дрэва, якое ляжала тут недалёка ад скалы.

Вось і норка... Раптам мунго спыніўся. Яго шэрсць паднялася дыбам: промеж камянёў, каля самага ўваходу, заблішчала луска кобры.

Ядавітая гадзіна апусцілася з абрыва і збіралася ўлезці ў норку, куды яе вабіў пах малых.

Мунго падскочыў на месцы і падаў кліч—той слаўны, звонкі кліч, які вызваў на бой яго ворагаў. Ён зусім забыў пра рану. Перад ім быў самы злосны вораг усяго роду мунго. Ён падлазіў да яго дзяцей. Забіць яго, забіць, няхай нават цаною ўласнага жыцця!

Ён кінуўся да змяі. Кобра ўбачыла яго і скруцілася кольцамі. На яе сытай шыі выразна выступіў герб каралеўскіх кобр—рысунак акуляраў. Змяя рыхтавалася даць адпор. Яна не палохалася; яе вочкі зіхацелі і з роту вырывалася злоснае шыпенне.

Мунго перамог нямала кобр. Ён быў спрактыкаваным байцом. Але ён страціў многа крыві, а кобра была вялікая і займала вельмі выгодную пазіцыю.

Мунго пачаў скакаць вакол змяі. Чорныя ножкі, нібы спружынкі, пераносілі яго з каменя на камень. Раз-два! Раз-два! Наперад, назад у бок, ізноў наперад... Здавалася, што ён выконваў нейкі хітры танец. Пушысты хвост мільгаў у паветры, як сцяг вайны, а баявы кліч далёка разносіўся па лесе.

Кобра быстра паварочвала верхнюю частку тулава. Яна ўдала карысталася перавагамі пазіцыі і абаранялася смела і ўпэўнена. Яна нават паспрабавала перайсці ў наступ. Заблішчала цёмкая маланка, але мунго высока падскочыў і ізноў, як ні ў чым не бывала, затанцаваў вакол ворага.

Каля ўваходу ў норку з'явіліся малыя. Яны пачулі шум і вышлі даведацца, што адбываецца каля іх дома. Малышы вытрашчанымі вочкамі пазіралі на змяю і бацьку.

Мунго сабраў апошнія сілы і зрабіў два да адчаю смелых скачкі цераз галаву кобры. Змея збянтэжана заківала галавой, яна не паспела за рухам ворага і на секунду—не, на якуюсьці долю секунды!—спазнілася павярнуцца. У гэты момант мунго схапіў яе за шыю.

Пачаўся апошні бой. Кобра шалёна круцілася і біла мунго аб камяні то галавой, то спінкой, то скрывянелым бокам. У мунго цямнела ў вачах, але ён моцна ўчапіўся зубамі ў халоднае змяінае цела і не выпусціў яго датуль, покуль рухі кобры не спыніліся. Тады ён расчапіў сківіцы і, адсопшыся, выгукнуў голасна пераможны кліч...

Мінула тры месяцы. Мунго ачуняў і хадзіў з сваімі дзецьмі на паляванне. Ён навучаў моладзь рабіць баявыя прыёмы, але яшчэ не дазваляў нападаць на ядавітых змей.

Ён больш не падыходзіў да дома, дзе жылі «белыя» людзі. У садзе напладзілася многа змей, і стары садоўнік з апаскай падыходзіў да раслін.

«Маладога саіба трэба было-б як след пакараць»,—думаў ён. Хіба можна знішчаць карысных жывёлін? Учора змяя ўкусіла работніцу, заўтра ўкусіць яшчэ каго-небудзь. Саіб думае, што яму ўсё можна, таму што ён «белы» і сын гаспадара плантацыі. Памыляецца: яму можна не больш, чым кожнаму хлопчыку—ці то ён «чорны» ці то «белы». Так, так! Паспрабуй сказаць гэта—мігам астанешся без кавалка хлеба.

*Віктар Кавалоўскі*

## ПРЫЙДЗЕМ ДА ПРАРАБА

У кут пастаўлю столак,
За сёмы сяду тур.
А рана ў восем столак
Страшчу з канопель шнур.

Той шнур, нацёрты сажай,
Прыстрою к бервяну.
І чорнай рыса ляжа,
Як шнур рукой крану.

Няхай цясляр абстружа
Па лініі шнура.
Тады з табой мы здружым,
Як выстраім барак.

Бяры брускі й зубілы
У клунак пра запас.
А я направлю пілы,
Праверу ватэрпас.

Мы прыдзем да прараба
І возьмем нумаркі.
Мы знаем вартасць скарба
Майстэрскае рукі.

Няхай—якая сцюжа,
Не зробім зруб на брак.
Тады з табой падружым,
Як выстраім барак.

Я прыкладу ўсю здатнасць,
Аддамся ўсёй душой,
Каб да такой-та даты
Прыняць тварышоў.

У звонкае й густое,
Прасторнае цяпло.
У кут пастаўлю столак
Ї уключу святло.

А там—за стук, за шолах
Памчаць грузавікі
Праложанай шашою
Пшаніцу і цвікі.

5. XII—35 г.
**Пухавічы**

*Віктар Казлоўскі*

# ПАЗВАЦЬ МАІХ РАВЕСНІЦ

Хіба ўвесь дзень ля весніц
З красавіком стаяць
І зваць маіх равесніц
Зайсці ў той палац.

Палац той каля броду,
Стаіць каля крыніц.
Туды яшчэ мой продак
Хадзіў у гонг званіць,

Прыгонных каб на галы
З кутоў сляпых склікаць,
Каб з дна багны вагалі
Каменне на палац.

Туды з дарогі дальняй
Заходзіў дыліжанс.
Там жыў мастак праданы
За тло з этрускіх ваз.

Ён рысаваў узоры
На дарагіх каўрах.
А за каўры за морам
Праслаўлены быў граф.

Ля дрэў, каля веранды
Пілі спакусу він
Купцы з-пад Караганды,
З Каіра і з Афін.

І бляскам кандэлябры
Спадалі на каўры,
А ноч згушчала фарбы
І плакала наўзрыд.

А з-пад цымбальных струнак
Свой сум вымаў юнак.
Тады сабраў свой клунак
І збег за свет мастак.

* * *

Вярнуў свае лятункі
Я з даляў і гляджу
На мармур селі лункі
Ад кропелек дажджу.

Як скончу верш, ля весніц
Я выйду пастаяць,
Пазваць маіх равесніц
Зайсці у той палац,

Каб нам прынеслі красак
І прывіталі каб
Брыгад майго калгаса
Ударны штаб.

7. XII—35 г.
Пухавічы

*Віктар Казлоўскі*

## НЯХАЙ НАКІДКА ЗМОКЛА

Упаў стальны капыт
Пажарнага набата.
Яшчэ адзін іспыт
Здасі ты на выдатна.

Не кінеш свой дазор,
Няхай накідка змокла.
Збяруцца зіркі зор
У акуляр бінокля.

І раптам каланчы
Пляцоўка стане вузкай.
Пачнеш вакол сачыць
Ад Менска і да Глуска.

Не зменіш згіб кален
Да самага світання.
Як толькі крык сірэн
Над горадам устане,

Ты тэлефонны дыск
Крутнеш—такі выпадак!
Пад сіп гудкоў і віск
Сатне свой сон каманда.

Як прывід, як міраж
Табе здарэнне здасца.
З-за агарож гараж
На крык сірэн падасца.

Ты глянеш у бакі.
Трывогу сціснеш моўчкі.
Стрымглаў грузавікі
Памчаць кабат і бочкі.

Перадасі свой пост.
За дроў кастры, за стосы
Гумовы на памост
Мятнеш рукаў касоса.

Пад самы, пад карніз
Ты прымайструеш лескі
Ї падасі ўніз
Праз гоман голас рэзкі.

Памчыш канат на дах
Ї зашмаргнеш за комін.
Ї паляціць як птах
Прымяты гоман комам.

Ї сам сябе ў вакно
Укінеш на канаце.
Ї твар, як палатно,
Убачыш нечай маці.

Табою будзе знят
У свет жыцця кавалак.
Не ператне канат
Карніза востры валак.

Ї сыйдзеш ты на дол,
А побач маці стане...
Зірнеш—а навакол
Перад табой світанне.

Ї ні трывог, ні змог,
Ні заравага бляску.
Ты глянеш у бінокль,
Паправіш з медзі каску.

Спадзе стальны капыт
Трывожнага набата.
Яшчэ адзін іспыт
Здасі ты на выдатна.

6. XII—35 г.
Пухавічы.

*В. Кудзімаў*

# ПАНЫ БАРЫШНІКАВЫ

*Урывак з рамана „Мартын жывапісец“*

І зноў дарога, зноў пагойдванне вазоў, скрып колаў, сумны від сялянскіх палёў з рэдкай рунню, лагчынкі, пясчаныя ўзгоркі, самотныя яміны на схілах, і белявая смаленская далечынь. Далёка ззаду абоза маячыла самотная фігура Север'яніна. Яго від нібы ўвасабляў сабою панурую сялянскую долю, што гнала лёгіёны такіх-жа забітых і цёмных, такіх баязлівых заік, дзеля карысці сільных, гнала іх па няходжаных сцежках, па бясконцых пясчаных дарогах неабсяжнай дзікай Расіі. Учорашняя бяссонная ноч, учорашнія думы аб дзяцінстве—усё гэта лягло сінявой пад вачыма, і Мартын ішоў панура воддаль ад Дземкінскага воза. Няясныя думкі, нейкая неразгаданая трывога паўставалі ў сэрцы, а ногі, заграбаючы дарожны пыл, амаль не гнуліся ад стомленасці і былі быццам чужыя. Не даязджаючы вёрст дзве да Дурава, абоз звярнуў управа, на Вязьму, і Мартын пайшоў адзін. На развітанне Міхей пахлопаў яго па плячы і, пажадаўшы шчаслівай дарогі, скарагаворкай выпаліў:

— Служыў салдат сто лет, не заслужыў і сотні рэп; сыты крупіцай, п'яны вадзіцай: шылам брыецца, дымам грэецца, тры ў яго дактары: гарэлка, часнок ды смерць! Кроч, Мартын, весялей, не шкадуй лапцей, спяшайся, дзіцятка, ато барын скуру спусціць.

Вясёлы стары выцягнуў табакерку і, напхаўшы нос табакаю, махнуў рукою і пабег даганяць сваіх.

Мартын доўга яшчэ стаяў і пазіраў на абоз, які аддаляўся, потым ён выцягнуў з клунка дарожны альбом і, па памяці, намаляваў алоўкам Весяльчака Міхея. «Эх, хітры дзед, хітры і злы старэнькі!»—падумаў Мартын і абуўшыся пашоў напрамкі праз дураўскія палі проста на бельскі бальшак, які вёў да сяла Аляксіно.

Прышоў Мартын у эканомію позна—маёнтак ужо спаў. Падыходзячы да запруды, ён пачуў толькі трашчоткі фабрычных вартаўнікоў ды далей за возерам брэх сабак. Улева ў нізіне была відаць труба і нізкі прадаўгаваты будынак папяровай фабрыкі. Далей раскінулася ў непарадку фабрычная рабочая слабодка. Управа ляжала шырокая гладзь возера, што абмывала паўвостраў—сядзібу. Гнілы пах вады, змешваючыся з гаркасцю, якою цягнула ад фабрыкі, напамінаў

нешта далёкае, роднае. Быццам і не выязджаў Мартын адгэтуль, быццам і не было гэтых трох год, што правёў ён у далёкім Піцеры. Тыя-ж дуплаватыя вербы на беразе, тыя-ж паўзгніўшыя парэнчы на прыстані, што на палову заліты вадою. Шырокая выезджаная дарога цераз плаціну, глухі шум вады ў шлюзах, пахі, брэх сабак, цераз возера, на паўвостраве чоркая палоска панскага парку—усё, усё старое, даўно знаёмае, аб чым не раз думаў у цёмнай каморцы ў Есіпа Жылярды ў Пецербургу, аб чым неаднойчы марыў у бяссонныя ночы, у сумяціцы гарадскога жыцця і далёка ў цяні пецяргофскіх пышных садоў. Ды і людзі пэўна тыя-ж...

— Хто ідзе?—прагучэў раптам побач злы вокліч. Голас быў жахліва знаёмы, і чакаючы, каб не памыліцца, Мартын прамаўчаў.

— Хто ідзе? Адказвай!—у другі раз пачуўся голас, і на грэблю з-за ракіты выступіў чалавек.

— Свае, дваровы жывапісец з Піцера.

— Хто такі?

— Калінкін.

— А, Мартынчык! Ну, будзь здароў піценбургскі жыхар.

— Здаецца дзяцька Савел?

— Ён самы.

— А я і не пазнаў. Думаю—хто гэта такі грозны?

— Маўчы, брат, у нас зараз такія строгасці завялі, не давядзі бог ліхому ліхадзею. Дзень адпрацуеш, як ачмурэлы, а ўначы па чарзе вартуем.

— Чаму так?

— Эх, брат, доўга расказваць. Ты што-ж, зусім да нас?

— Якое там, за грашыма да пана, гаспадар за навучэнне патрабуе.

— Эх-хе-хе... Ну, брат, барыну цяпер не да таго.

— А што?

— Судзіцца з вяземскім магістратам. Тут такія справы зараз— не дай божа! Ты, таго, цераз мост не ідзі—сабакі разарвуць, у нас цяпер з вечара сабак спускаюць, ні праходу, ні праезду нікому.

— А як-жа мне?

— Я цябе на чаўні перамахну, проста да людское перавязу.

— Матуля мая як, ці жыва?

— Домна Сідараўна? Нічога, пажывае. Надоечы пасцёбалі крыху на стайні.

— Пасцёбалі?.. Маці?!

— Так, праштрафілася за нешта на кухні, барын уласнаручна і ўсыпаў. Мы ўжо і так смяемся: нас, моў, Смурыгін сячэ, а табе, Сідараўна, адзнака—барын сам пастараўся.

Абодва змоўклі. Вёсла плаўна апусціліся ў ваду без плёску і лодка ціха слізганула ў чарот, як цень.

Запахла тванню і сырасцю.

— Дух цяпер цяжкі ад возера, цвіце возера...—задумліва заўважыў Савелій.

— Якія навіны ў вас, дзядзька Савел?

Замест адказу, Савел перагнуўся да Мартына і паціху запытаў:

— А ў вас там што гавораць? У народзе што чутно?

Лодка была ўжо на сярэдзіне возера, іх ніхто не мог пачуць і ціхі голас Савела паказаўся Мартыну дзіўным.

— Ды так нічога асаблівага,—голасна і бяспечна адказаў ён.

— Ч-ш-ш... ні шкні, па вадзе далёка чутно! Наконт Яіка што гутараць? У нас тут рознае кажуць.

— Што-ж Яік? Чуў я гаспадарскую гутарку, быццам царыца ў трывозе.

— Ага-ага... так-так...

— Быццам выправілі генерала з войскам і быццам гэты генерал ужо разбіў Ямелю.

— Кінь, хлапец, не быць таму ніколі, ён ім пакажа, ён начэша ім галовы.

— Каму?

— Ды ім, генералам, царыцы... Мы хоць і далёка жывем, а таксама наслухаліся, ды... У нас таксама дзе-ні-дзе пачынаюць. Надоечы расказвалі, што ў Брасаве і Камарычах мужыкі—за сякеры ды за вілы ўзяліся. Няма больш цярпення, няма жыцця простаму чалавеку. Ты думаеш у нас так сабак спускаюць ды караўлы розныя? Не, брат, наш курносы таксама меркаванне мае. Вось пажывеш—убачыш...

Лодка стукнулася аб дзеравяны насціл.

— Ну, злазь, прыехалі... Ідзі проста дарожкаю, акуратна, без шуму, якраз у людскую ўвапрэшся.

Мартын ступіў на падгніўшыя дошкі і, трымаючыся за парэнчы лесвіцы, што вяла на стромкі бераг, павярнуўшыся, ціха запытаў:

— Дзядзька Савел, а Дуня, скотніцы Вусціны дачка, ці жыва?

— Жыва, што ёй зробіцца. На тэатры камедзь ломіць кажуць— з маладым барынам звязалася.

Як нажом па сэрцу разанулі апошнія словы Савела.

Мартын узбег па старых сходах і, як укопаны, спыніўся. Ткнуўшыся ў цемені, ён крануў нейкі куст і начная раса багата пырснула ў твар яго.

«Што гэта я, быццам і сапраўды нешта асаблівае здарылася! Ну і няхай звязваецца, а мне якая справа?»—падумаў ён. Але тут-жа нейкая крыўда, нейкая даўняя гаркота заварушылася ў сэрцы і балючымі сталі словы Савела: «Кажуць—з маладым барынам звязалася».

Высокія кляны цёмнаю сцяною абступілі дарожку. Толькі валавяны прасвет неба недзе высока-высока мільгае сярод ветак. Мартын падбадзёрыўся і ціха пайшоў у напрамку галоўнага дома.

Маёнтак спаў і думы Мартына, здаваліся, спалі. Ён з поўгадзіны ўжо сядзеў на прызбе ля людское. Ён ленаваўся працягнуць руку і стукнуць у нізкае падслепаватае акенца. Ці гэта была стомленасць, ці словы Савела так падзейнічалі на маладога хлапца, што думкі яго выцікалі ў распаленай галаве сумяціцу, а ў глыбіні сэрца засталася толькі гарката ўсведамлення—значыць, Дуня з маладым барынам звязалася.«Так-так... А я-ж ішоў, а я спяшаўся»... Нізкае акенца ў людской было крыху адчынена і да Мартына даносіўся дзіцячы плач, потым прыглушаная гутарка і тоненькая ціхая песня

без слоў і скрып. Відаць, матка закалыхвала дзіця. Усё гэта не даходзіла да свядомасці, але пазней, калі паказаўся дрыготкі агенчык самаробнай газнічкі, Мартын зразумеў, што дзіця было хворае і капрызіла, а спявала калыханку старая. Гэта было прыметна па голасу, па тым дабрадушным мармытанні, што ўласціва адным старэнькім бабкам. Пазней Мартыну ўдалося забыцца і амаль задрамаць. Гэтаму дапамог мерны скрып палкі, на якой вісела калыска, і голас, які ўжо не спяваў, а ціхім рэчытатывам нешта расказваў. Мартын прыслухаўся і з прыемнасцю пазнаў знаёмую з дзяцінства казку-песню.

... Гусі на моры—баярэ,
Качаняты на моры—дваране,
Чырата на моры—селяне,
Вераб'і на моры—халопы;
Усюды верабейчык зрывае,
Бітым верабейчык не бывае.

Мартын усміхнуўся. «Хлусіць казка—халопы бываюць біты, а як-жа мацеру, а іншыя, Дуня...» Але голас старэнькай перашкодзіў дадумаць да канца. Ён слухаў казку.

І лёгка стала Мартыну, так лёгка, быццам у раннім дзяцінстве, калі расказвала яму гэтую-ж самую казку старэнькая бабка Фёкла. Тады казка была непараўнальна даўжэйшая і цікавейшая, Чаму-б гэта?

У кустах чыркнула першая птушка. Тоўстыя вязы, што раслі ля людской, азначыліся выразней і белая грамада барскага дому выступіла ў прасветах голля. Днела. Мартын падняўся і, соладка пацягнуўшыся, ціха стукнуў у акно. У хаце мільгануў агенчык газоўкі і нечая зморшчаная рука, падобная на лапу птушкі, падняла створку акна. Ах які салодкі пах і цяпло знаёмага з дзяцінства жылля! Як мілы гэтыя, пастарэўшыя за гады разлукі знаёмыя твары. Гэты ўскрык, шопат, цёплыя слёзы самага блізкага ў свеце чалавека—маці. Гэтыя без хітрасці размовы, ахканні і вохканні, распытванні і зацікаўленыя позіркі суседзяў і родных. Што-ж з таго, Мартын, што пражыў ты цэлых тры гады ў сталіцы? У душы ты застаўся тым-жа простым мужыком, як і гэтыя дваровыя людзі. Кім бы ні стаў ты, але ўсёроўна цябе родніць з імі адно зласнае слова—раб. Уласны чалавек Івана Сідаравіча Барышнікава. Гэта адчуў Мартын у той-жа дзень. Пра яго прыезд, калі ён спаў яшчэ ў каморцы мацеры, паведамілі барыну. Мартына паклікалі ў галоўны дом.

Іван Сідаравіч, калі ўвайшоў Мартын на яго палову, толькі што скінуў кароткі хатні архулак і знімаў парык. Камердынер Цімка прымаў на выцягнутых гарызантальна руках дарожнае плацце. Мартын пачціва кашлянуў і Барышнікаў, які змочваў квасам рыжаватыя валасы на круглай галаве, плаўна павярнуўся. Ён усміхнуўся і прыплюшчыў і без таго вузкія з татарскім разрэзам вочы.

— Так... Кажы, за чым, за добрым наведаў?

— Есіп, гаспадар, наказаў перадаць: грошы проша.

— Якія грошы?

— За навучанне, за апошняе паўгоддзе...

Барышнікаў, як узяў быў, каб адзець дарожны даламан, рэзка кінуў яго назад на рукі камердынера.

— Чаму дрэнь даеш? Сказана—поўпарадны выезд, памяць адняло? Вось я табе, дармаед!..

Спалоханы Цімка, здаравенны дзядзя, на дзве галавы вышэй свайго барына, спалохана падаўся задам да дзвярэй і стрымглаў кінуўся, каб прынесці другое плацце.

Крута павярнуўшыся да Мартына, барын ва ўпор паглядзеў на мастака.

— Грошы, кажаш? А чаму не адпісалі пісьмова? У вас што там, часу дзяваць няма куды, што раз'язджаеце без майго ведама?

— Ніяк не, бацюхна барын, час самы гарачы, але гаспадар пан Жылярдзі тройчы пісалі вашай міласці і моцна гневаюцца...

— Н-но!..—Барышнікаў узняў галаву і рэзка адсунуў валавяную тарэлку з квасам.—Далей што скажаш, пане мастак?

Мартын узняў спушчаныя ўніз вочы, і проста паглядзеў у прыплюшчаныя гнеўныя вочы свайго гаспадара.

— Так што, як бачыце, ваша міласць, абшарпаліся мы з Яшкам, за харчы вінаваты, людзі смяюцца, моў, барын ваш...

— Досыць! Ты, я бачу, гаваркі стаў, любы! Пойдзеш пакуль да маляра Вахрамея ў падручныя. Будзеш там да майго загаду. А да прыезду майго перакрыеш бяліламі вокны ў гасцінной і зале.

— Воля ваша...

— Ідзі!

— Слухаю.

Насустрач Мартыну вышаў Цімка з паўпарадным кафтанам. Учора цесць вяземскі ваеводскі таварыш Багданаў з карачным паведаміў, што купчыкі зноў зрабілі вялічэзны крык у магістраце, і справа з водкупамі тэрмінова накіравана ў сенат. А там жарты дрэнныя. Прыдзе чыноўнік і калі... Хоць, куды ўжо там! У сенаце, небось, таксама людзі піць-есці хочуць. Барышнікаў усміхнуўся, успомніўшы сардэчнага сябра свайго Івана Назаравіча Благіна, вялікага законніка і аматара судзіцца. Ну цёзка не выдасць, той, калі што, і да матушкі можа схадзіць.

Ён павернуўся да Цімкі і заўсёдная ўпэўненасць і настрой разліліся на рабым, рыжабародым яго твары.

— Армячок з агліцкага сукна захапі, Цімафейка. Дарога неблізкая, далёкая. Ды паставец сярэдні пастаў у брычку. Хто-ж яго ведае, можа і да Піцера давядзецца ехаць!

Барышнікаў па прыродзе сваёй любіў шмат пагаварыць, але толькі ў тых выпадках, калі справа не датычылася куплі-продажу. Там ён бываў дакладны і акуратны. Часта любіў пагаварыць пра набожнае, але калі для карысці справы патрабавалася—мог і пап'янстваваць. У маладосці трапіў ён у світу фельдмаршала Апраксіна на пасаду маркітанта і, прарабіўшы частку прускага паходу, не мала бачыў людзей і прывучыўся да ўсякіх паводзін.

Барышнікаў апрануў кафтан і па дарожнаму прыхлопнуў рукамі

полы. Кафтан добра ляжаў на ім. Потым дабрадушна ткнуў камердынера ў жывот і ўсміхнуўся.

— Жывот выгадаваў, як пад'ячы, а кафтаны путаеш. Глядзі ў мяне, Цімка!

Камердынер аддана ўсміхнуўся і пацалаваў ручку.

— Не гневайся, дабрадзей, замсціла з поспеху! Ах, мне, наконт пастаўца хацелі загадаць?

— То-та—і строга пагразіў пальцам.—Аўдакея Іванаўна ў сябе?

— На сваёй палавіне, толькі што кофей есці хацела.

Барышнікаў, не аглядаючыся, бадзёрым крокам пашоў на палову жонкі. Вось і жонка, прывабная з твару, а хударлявая, хоць і плацце з рабронам, крыху касавокая і белабрысая, словам не з прыгожых, паднялася насустрач мужу і, усміхнуўшыся тонкімі губамі, сказала:

— Паедзеш такі?

— Паеду, Аўдоцця.

— Ну, едзь з хрыстом. Бацюхну кланяйся.

— Ладна. Паглядай тут за гаспадаркай. Калі што, Смурыгу пакліч і каб ніякага патурання нікому. Чуеш?

— Слухаю, бацюхна, Іван Сідаравіч, слухаю...

— Ванечка дзе?

— З акторкамі камедзь ламае, з ранку пашоўшы—усё пра свята стараецца.

— Ведаем мы гэту камедзь,—зноў каго-небудзь абцяжарыць, як у мінулым годзе.

— Ах, ну што ты, бацюхна—дзіцё малое, неразумнае, а ты пра яго такое? У казарме-ж, не ў бацькаўскім доме.

— Ну, ладна. Бывай, Аўдоцця. Рыхтуйся да свята—не шкадуй грошай, народу процьма з'едзецца. Абяцалі быць Яўхімій Балдзінскі і ваявода Смаленскі, а, можа, і сам уладыка загляне.

— Слухаю, бацюхна, усё выканаю, як загадваеш.

— «Эх абманіць баба»—падумаў Барышнікаў, садзячыся ў брычку. «Зноў сканфузіць, як у мінулым годзе. Проста, балюча, простая і прагная да таго-ж. А што шкадаваць, калі ўсё для карысці? Няхай адчуваюць, злыдні, што Барышнікаў не горш за іншых, хоць і не знатнага роду».—Ён грузна апусціўся на сядзенне і падмяўшы пад сябе пакрытае дыванцом сена ласкава сказаў фурману:

— Ну, кранай, Лук'янушка! Ды акуратней вязі, не свавольнічай без патрэбы!

Пара буланых дружна ўзяла з месца і, павярнуўшы за вугал галоўнага дому, адзіным махам вынесла брычку на мост, перакінуты цераз возера. З правага боку мільганула каменная сцяна з старажытнымі прысадзістымі вежамі, што абкружала гаспадарскі двор. Каланча з гадзіннікам, падобная на званіцу, разлапістыя вербы над азёрамі, два велізарных хлебных свірны. Застоеныя буланыя, выгнуўшы дугою галовы, набіралі хуткасць. Дзве трубы паперовай фабрыкі, кантора ў каменным доміку, падобным на замак з вежамі, прамільгнулі маланкай. А пахіленыя халупкі фабрычнай слабодкі ў нізіне, Барышнікаў нават і не разгледзяў. Зразу-ж упра-

ва пацягнуліся зелянеючыя густыя палеткі, хоць з левага боку яшчэ доўга плёскалася ранішняй хваляй возера, абмываючы паўвостраў, дзе размешчан быў родавы маёнтак Алексіна.

Проста ад барына Мартын накіраваўся да малярных спраў майстра Вахрамея. Ён знайшоў яго ў тэатры, у пакойчыку за кулісамі, дзе гэты высокі, з тварам падобным на абраз, чалавек маляваў дэкарацыі да новай пастаноўкі. Венчык сівых валасоў на галаве, падвязаных раменчыкам, прастадушны па-дзіцячаму погляд блакітных вачэй, фартух, замазаны фарбамі, жылістыя ёмкія рукі з закасанымі да локця рукавамі рубашкі—усё было прывабна і схіляла да гэтага старога. Вялікі палатняны заднік з бяздонна-блакітным небам і зелянеючым лугам быў разасланы на падлозе. Нязграбна, нібы гуляючы двума-трыма мазкамі Вахрамей накідваў на палатно контуры якіх колераў. Ён быў так захоплен сваёю работаю, што не заўважыў увайшоўшага Мартына. Не падымаючы галавы, ён толькі запытаў:

— А пэндзалі, Савелій, скора будуць?

— Чычас...—адгукнуўся нехта піскляваым голасам і Мартын убачыў у цёмным кутку ля дзвярэй, што нехта варушыцца. Пазней ён разгледзеў, што Савелій быў кволы маленькі хлапчук, гадоў 8—9, з чорнымі пракідкімі вачыма. Ён мыў пэндзалі ў дзеравяным вядры, смешна сам сабе падсвістваючы, як зяблік. Пазней ён упэўніўся, што гэты Саўка быў адважная галава, не гледзячы на тое, што па зямлі ён хадзіў абапіраючыся на рукі, бо тонкія ногі яго былі пакрыўлены нейкаю хваробаю і не дзейнічалі. Але апошнія абставіны ўсё-ж не перашкаджалі яму перасоўвацца па зямлі даволі хутка і быць вельмі любімым унукам дзеда Вахрамея.

Растлумачыўшы мэту свайго прыходу, Мартын з зацікаўленасцю азірнуўся. Каморка ўся амаль была завалена старымі дэкарацыямі і нейкімі дзіўнымі рэчамі, аб прызначэнні якіх чезнаёмы з тэатральнай справай Мартын і не ведаў. Ля нізенькага падслепаватага акенца, на іржавым цвіку вісеў даволі вялікі кардон, на якім быў намаляваны дзявочы карагод на лузе, на фоне барскай багатай сядзібы, якая нагадвае Алексінскую. Мартын зацікаўлена схіліўся над кардонам. Яго здзівіла, што ў наіўным, па-дзіцячаму малюнку выяўляліся яркія мазкі і дакладныя круглыя лініі, якія былі па сіле спрактыкаванаму майстру.

— Гэта чый?

— Што, добра зроблена?

— Вельмі добра.

— Ці праўда?

— Праўду кажу, дзядзя Вахрамей.

— Табе відней. Ты вучаны, а мы-ж самі па сабе—я, значыць... А малюначак—Саўкі пракурата. Вунь, у кутку, як жук у гнаі корпаецца. Савунька, кінь, залаты, пэндзалі! Збегай, унучак, да маткі і папрасі грэнак цыбулі. Скажы—за справай нешта галава разбалелася. Цыбулькі панюхаць хоча...

— Зараз, дзеду... зараз.

— Ды глядзі, сокал, бабцы на вочы не трапляйся! Не кажы, што мне цыбулю нясеш.

— Ага... я ведаю...—абапіраючыся на рукі, хлопчык хутка, як маленькі павук, знік за дзвярыма.

— Што з ім?

— З маленства... напалохалі сабакі панскія...—неахвотна адказаў Вахрамей. Ён памаўчаў некалькі секунд, але раптам узняўшы галаву і, трымаючы пэндзаль у баку, хутка і любоўна загаварыў:—Але галава, скажу я табе, галава ў хлапца залатая. Гэта што—надоечы просіць раптам: дзед, а дзед! Што, кажу, жучок?—Дай ты мне, кажа, дзед, палатно ды пэндзалі даўжэйшыя—як намалюю я, кажа, мора...—Вахрамей спыніўся і ў захапленні, задраўшы сівую бародку, заліўся старэчым дробным смехам.

— Сіняе-сіняе, кажа, мора... а над ім, кажа, ластаўкі белагрудыя, а ў вадзе, кажа, залатыя рыбкі. Як-жа, кажу, Саванька, намалюеш ты мора, калі і ў вочы яго не бачыў. Бачыў, кажа, у сне мне сніцца. А на моры лодка чорная-чорная, вялікая; а ў лодцы бацька мой у ланцугах сядзіць і вяслом мне махае. А сказаць табе праўду—ён і не памятае бацькі. Яшчэ ў калысцы яго калыхалі, як саслалі таго ў Тэгеран на галеры...—стары прылажыў раптам палец да губ і схіліўшы на бок голаў, прыслухаўся.—Паўзе пракурат, выліты бацька—сарві галава. На парозе паказаўся Саўка. Ён падпоўз да дзеда і, хітра паглядзеў на яго, выцягнуў з-за пазухі некалькі галовак зялёнай цыбулі.

— Дзед, а, дзед! Я і пасаліць захапіў, і хлебца скарыначку на кухні выхапіў.

Вахрамей у захапленні ўдарыў аб полы рукамі.

— Ну, глянь ты на яго, а! Ну, проста такі разумнік! Ах, ты галубочак мой! Ах, ты жук, жучына. Ну калі справа такая, ідзі памалюй крыху—змяні дзеда, а я адпачну.—Вахрамей асцярожна падняў унука і пасадзіў яго на край квітнеючага луга, што намалёван быў на палатне. Ён даў яму пэндзаль і паказаў кропкамі, дзе павінны быць кветкі. А сам шмыгануў у цёмны кут за пыльныя дэкарацыі і аднекуль дастаў зялёную пасудзінку.

— Ужываеш, Мартынка?

— Не прызвычаіўся, дзядзя Вахрамей, дзякую.

— Добрая справа, добрая. Хоць як сказаць? У нашай справе немагчыма без віна. А прывыкнуць паспееш яшчэ.—Ён наліў у нейкі гліняны чарапок гарэлкі і паднёс к роту.

— Ну, за прыемную сустрэчу, з прыездам, Мартынка!—і з асалодаю выпіў. Ён кракнуў і шумна, праз нос, выдыхнуў паветра. Пасыпаўшы цыбулю соллю ён піхнуў яе ў рот.

— Ах ты, госпадзі, твая воля! Вып'еш—і на душы, як хрыстос босы прайшоў, так і разліецца па жылачках акаянная...—Выпіўшы другі чарапок Вахрамей стаў яшчэ весялейшы і гаваркі...

— Ды, вось ён і кажа, Саванька: намалюю, кажа, мора, а? А прызнацца табе, я і сам з роду мора не бачыў, а намаляваць асабліва жадаю. Вось яно якая справа!—на хвіліну ён змоўк і тыль-

ным бокам далоні правёў па сівых вусах, потым акуратна сабраў з жалень хлебныя крошкі і адправіў іх у рот.

— Аднак-жа, што мне з табою рабіць, Мартынка?—задумаўся ён, цярэбячы сівую бародку.—А вось што мы зробім, сам я пайду ды пакланюся маладому барыну, каб дазволіў табе застацца пры тэатры. Работы зараз перад імянінамі не ў праварот. Тут табе і дэкарацыі да балету, тут табе і сядзібу з садам упрыгожваць трэба, а я адзін. Ну, падаконнікі—плёвая справа! Пойдзем ды за паслялолудзень выбялім удвох. Пойдзем, Мартынка, да барына, да Івана Іванавіча!

— А па мне—усё адно, раз трэба—пойдзем!—трасянуў валасамі Мартын. Яму напэўна спадабаўся гэты дабрадушны гаваркі маляр і ён не супроць быў заняцца новай справай.

Праходзячы міма Саўкі, ён патрапаў яго чорныя кудзеркі і падсунуў баначку з кінавар'ю, якую Саўка стараўся дастаць. Нечакана дзверы расчыніліся і ў каморку грузна ўвайшоў смуглы, падобны да цыгана, мужык, з густою качараваю барадой. Абуты ён быў у юхтовыя боты і абапіраўся на тонкі дубовы кіёк. Крыху азызлы, з маленькімі чорнымі вочкамі, твар, чорныя-ж, астрыжаныя, на-круг, з простым праборам валасы на галаве, у накідку на шырокіх плячах амаль новы белы кіцель,—усё ў ім гаварыла, што бурмістр Смурыга ведае сабе цану і карыстаецца барскай ласкаю.

Ён стаў ля парогу, загарадзіўшы сабою праход і спакойна запытаў:

— Ты, чорт стары, чаму ў альтанцы дах не памаляваў? Ці на стайні даўно быў?

Вахрамей нечакана змяніўся: твар старога стаў плаксівы і пакорлівы, ён неяк непрыметна сабраўся і прыдуркавата паглядзеў на бурмістра.

— Іван Максімыч, дабрадзей, ну, паверыш—дыхнуць няма калі! Ну, падумай сам: тут і свята надыходзіць і пры тэатры павінен я без адлучкі быць...

— Ты павінен рабіць усё, што табе загадаюць гаспадар і я.

— Вядома так, без пярэчання зраблю, Іван Максімавіч!

— Ты раб, несамастойны чалавек, разумееш, чорт сівы?

— А вядома-ж, разумею, што-ж я, без пачуцця?

— То-та...—Смурыга глянуў строгім вокам на Мартына.—Адкуль чалавек?

— Мартынка... Сын кухаркі Домны, у Піцеры навукі праходзіў.—Адказваючы, Вахрамей неяк падцягнуўся і прыняў ранейшы натуральны від. Ён, відаць, схамянуўся, што робіцца вельмі пакорлівым пры староннім чалавеку.

Смурыга яшчэ больш грозна глянуў на Вахрамея:

— Чаму мне не паведамлена пра прыезд?

— А пра гэта, міласлівец, пану вядома, прыслаў ён Мартынку ў мае асабістае распараджэнне.

— Гэта-ж як?

— А вось так: загадана састаяць яму пры мне. А пра гэта я і збіраўся ісці табе дакладваць.

— Ты глядзі ў мяне, я цябе навучу, сабака дохлы, умець паважаць!—Смурыга, відаць, адчуў у словах Вахрамея здзек і пагразіў бізуном.

— А што глядзець мне, і так скажы—няладна, і гэтак—нядобра, ну і парадкі! Не ведаеш, якога чорта, даруй госпадзі, і слухаць.

Смурыга пачырванеў і, падняўшы бізун, ступіў да старога.

— Ну, хлоп ты, гавары-гавары, ды не загаварвайся!

Але Вахрамей спакойна адвёў бізун і, жорстка гледзячы проста ў вочы бурмістру, ціха сказаў:

— Ну, не індычся, Ванька! Без году тыдзень, як з гразі ды ў князі, а лаешся, як сабака на прывязі. Я табе не лёкай і неканюх. Пусці-тка з дарогі, мне некалі.

Ашалелы Смурыга выскачыў за дзверы і пагражальна загрымеў адтуль.

— Ну, памятай, чорт пляшавы! Я з табою на стайні інакш пагавару!.. Памятай, воўк стары!..

Не звяртаючы ўвагі на пагрозы бурмістра, Вахрамей пайшоў да выхаду. Спалоханы Мартын, амаль упэўнены, што за дзёрскасць маляра адлупцуюць, крыху адстаў і йшоў следам. Яны прайшлі калідор, перасеклі сцэну і спусціліся ў вялізную глядзельную залю. Вузкія высокія італьянскія вокны былі шчыльна закрыты з сярэдзіны акяніцамі. Сям-там яркія сонечныя праменні прабіваліся ў шчыліны, асвятлялі аксаміт і выцертую пазалоту пярэдніх крэсел, пыльныя, абшарпаныя заднія скамейкі і нямечаную дзеравяную падлогу. У залі было цемнавата і толькі невыразна можна было здагадвацца пра яе веліч, адчуваючы ўперадзе шэрую пустэчу і прахалоду з ледзь даходзіўшым няўлоўным пахам стайні.

Гэты будынак гады тры таму назад быў перароблен з манежа ў тэатр і нездарма яшчэ над галоўным уваходам красаваўся барэльеф галавы каня.

Выйшаўшы з тэатра, Вахрамей павярнуўся да Мартына, усміхнуўся.

— Бачыў, ка́та кашага?—Два гады стогн стаіць ад гэтага ірада. Але даскачацца, памятай слова маё—даскачацца. Мне-ж што! Я—вольны. Сёння тут, а заўтра шукай ветру ў полі. А мужыкі ад яго слёзы кулаком выціраюць.

Мартын здзівіўся.

— Ці-ж ты вольны, дзядзька Вахрамей?

— А то як-жа? Мы пры, шчаслівай памяці, царыцы Елізавет Пятроўне ў бягах састаялі. Быў я, хлапец, за польскім рубяжом, але па царскаму указу ў 63-м годзе вярнуўся *)... Хлябнуў гора... А цяпер сам нібы і вольны, а сям'я ў няволі. Вось як, Мартынка...

Яны звярнулі за рог і пайшлі ў парк. Нечакана ўлева бліснула гладзь возера, паляўнічая хатка на беразе, далей невялічкі востраў з

---

*) Са ўступленнем на прастол Екацерыны II у маніфесце ад 13 мая 1763 г. было абвешчана, што беглыя, якія дабраахвотна з'явіліся, будуць адасланы ў дварцовыя і іншыя дзяржаўныя воласці з дараваннем 6-гадовай ільготы ад усякіх падаткаў і работы; памешчыкамі-ж такія беглыя, што вярнуліся, павінны быць залічаны ў рэкруты.

драўлянымі будкамі для лебедзей, яшчэ далей—востраў, падобны на ўзгорак з велізарнымі вязамі на краёх. Пасярэдзіне белая ратонда альтанкі з стройнымі калонамі ў грэцкім стылі. А зусім далёка зялёныя высокія чараты і сцяна чорнага сасновага бору, дзе любіў рабіць паляванне алексінскі памешчык. Дарожка нечакана звярнула ўправа і пайшла між стогадовых вязаў і ліп, усё далей і далей у прахалоду і невядомасць лясную. Толькі лёгкі сонечны прасвет уверсе скрозь лісцё, ды лёгкі гул высокіх вершалін, ды птушыныя галасы між галін і зразу-ж зноў паварот, зноў нечаканасць— агліцкі сад—гордасць Івана Сідаравіча. Дрэвы ніжэйшыя, акуратна падстрыжаны, роўны шэры гравій дарожак, колеру яечнага жаўтка пясок на вузенькіх сцежках і ўсюды дзівота, усюды «сюрпрыз». Вось на павароце нечакана вырастала дзівосная альтанка. Унізе прыгорка раптам паказваўся грот са ўстаўленымі ў сярэдзіне люстрамі, якія выяўлялі ўваходзячую ў грот фігуру. А то-здалёк, як белая мярэжа, раптам узнікаў мосцік, перакінуты цераз ручаіну, альбо між зелені вырастала гіпсавая статуя багіні, альбо на малюсенькай палянцы біў празрысты фантан з тоўсценькім амурам пасярэдзіне. Усё было багата, цікава і, бадай, радавала гаспадарскае вока.

Мартын здзіўлена аглядаў гэтую пышнасць барскай сядзібы, і міжвольная павага, нават боязнасць закрадвалася ў сэрца яго да таго, хто быў уладаром гэтага саду. І нейкай далёкай, амаль непатрэбнай стала здавацца балбатня Вахрамея. Выйшлі на роўную зялёную палянку, да белага флігеля, падобнага на старажытна-грэцкі храм. Увесь флігель апавіты быў плюшчам і дзікім вінаградам, а ў расчыненыя вокны даносілася складанае пеянне. Потым нечакана зайграла музыка і пеянне, змагаючыся з гукамі труб, узляцела моцнай пругкай хваляй і задрыжэла лісцё на дрэвах, схіліліся кветкі на паляне ад наляцеўшага свавольніка-ветру і стары Вахрамей, спыніўшыся, схіліў на бок галаву і прашаптаў:

— Дзіўна пяюць... Ай, да чаго-ж хораша пяюць нашы дзеўкі! Ну, а пра аркестр і гаварыць не трэба—музыка вядомая, на ўсю акругу.

На рэпетыцыі быў, відаць, кароткі перапынак, калі Вахрамей і Мартын увайшлі ў флігель. Статысткі альбо «фігуранткі», як іх звалі ў той час, сталі паўкругам пасярод залі, узяўшыся за рукі. Дзве стройных дзяўчыны ў белых доўгіх хітонах, да гэтага, відаць, уяўлялі жывую карціну. Яны сталі ў цэнтры, папраўляючы складкі сваёй вопраткі. А кругом мітусіўся нізкаросны тонканогі чалавек, у чорным завітым парыку. Абуты ён быў у фарсістыя пантофлі чырвонага саф'яну і на аднэй з іх выдумная белая пражка адшпілілася. Белае мярэжкае жабо яго збілася на бок, але чалавек, не прымячаючы нічога, моцна жэстыкуляваў, нешта тлумачыў дзяўчатам, а тыя, саромеючыся, апускалі вочы і, гатовыя заплакаць, без прычыны церабілі адна тоўстую касу, а другая—пояс вопраткі. Пауль Францавіч, напалову француз, напалову немец, прывезены Барышнікавым з Пецербурга, быў люты і шалёны. Узятыя год таму назад вясковыя дзеўкі былі непісьменныя і нязграбныя. А з Паулем быў строгі дагавор зрабіць з іх балярын і актораў, каб «таму зусім ад-

павядалі». І бедныя дзяўчаты плакалі моўчкі ад шчыпання і аплявух праклятага немчура. Зараз Пауль быў як ашалелы. Ён плюнуў азвярэла і, у знямозе апусціўшыся ў крэсла, хустачкай выцер успацелы лоб. Але ўскочыўшы нечакана, як пружынны, ён падбег да дваіх дзяўчат і закрычаў на іх, мяшаў рускую і нямецкую лаянку.

— Ві кароў, ві не можат быць балярын, ві дурні дзеўка! Такі маленькі па, такі прыгожы...—Ён падскочыў і патрос сціснутым кулаком.—Я вам не паяц, каб смешкі дазваляйт пускаць, я вам калі гаварыль, трэба слюхаль!..—Балетмайстар махнуў і на хорах зайграла музыка. Ён плаўна закружыўся на месцы, зрабіўшы на твары зачароўваючую ўхмылку. Потым прыгожа выгнуўся і, нібы падтрымліваючы ўяўляемае плацце, зрабіў некалькі крокаў на цыпках. Музыка зрабіла паўзу, мяняючы рытм, і немец плаўкым рухам выкінуў нагу ўперад і падняў яе гарызантальна на ўзровень грудзей. Ад рэзкага руху, пантофля, якая расшпілілася, зляцела з нагі і немец застаўся у чорнай панчосе, з вялізнаю дзіркаю на пальцах. Дзяўчата пырскулі. Тады, зусім трацячы самаўладанне, немец схапіў упаўшую пантофлю і пачаў біць дзяўчат па спінах, па баках, дзіка крычучы:

— Я загадваль рабіць—фаша матушка. Я фам пазбіваль галаўня дур, чшорт фас дзярэ...

Мартын адвярнуўся, каб не бачыць скрыўленага твару немца. Ён таксама не бачыў слёз, якія выступілі на вачах у дзяўчат, калі рабілі яны нясмелыя няўдалыя рухі у такт музыкі, пад удары, якімі ўзнагароджваў іх Пауль. Гневу ў той час у Мартына не было. Была думка, адна-адзіная: «Дык вось, яна якая стала, Дуня цяпер—прыгожая, стройная, бадай і не пазнае!» А Дуня заўважыла Мартына яшчэ як толькі ўвайшоў ён з Вахрамеем. Але не час быў азірацца па бакох. Страшны немец у дзіравых панчохах, з пантофляй у руцэ, стаяў над душою, прымушаў рабіць бессаромныя рухі. А яшчэ страшней быў чалавек у расшпіленым артылерыйскім мундзіры, што сядзеў у глыбокім крэсле ў дальнім канцы пакою. Пры ўваходзе Мартын і не заўважыў яго, хоць Вахрамей даўно ўжо накіраваўся да маладога барына і пад шумок нешта яму дакладваў. Але Іван Іванавіч, 24-гадовы, артылерыі бамбардзірскага палка капітан, дрэнна ўслухоўваўся ў тое, што гаварыў маляр. Адстараніўшы старога правою рукою, ён нахіліўся ўперад і зацікаўлена назіраў сцэну лупцавання Паулем дзяўчат.

— Вось так, паддай, паддай ім жару! Дуньцы, Дуньцы сцерве паддай!—крыкнуў ён голасам злым і тонкім. Заўважыўшы Вахрамея, ён нечакана зазлаваў:—Ну, чаго прыстаў, як банны ліст! Які мастак? Дзе гэты мастак? Я пытаю!

Вахрамей гукнуў Мартына. Той хутка наблізіўся і нізенькі зрабіў паклон.

— Ты што, з Піцера?

— Так, бацюхна барын, у вучнях...

— У бацюхны быў?

— Меў гонар, ваша міласць...—пачціва кланяючыся, адказаў Мартын.

— Ну, ладна... Ідзіце, займайцеся сваёю справай.

— Слухаем, бацюхна...—у адзін голас адказаў Вахрамей і Мартын і падаліся да выхаду.

— Стой! Чаму доўгія валасы? Хто дазволіў?

Мартын на секунду збянтэжыўся. Але, страсянуўшы сваімі валасамі, весела выпаліў:

— Не дадумаўся, бацюхна барын... Загадаеце збрыць?

— Абавязкова, каб быў як бубен! Разумееш?

— Разумею, ваша міласць.

— Ну, пайшлі к чорту! Не загароджвайце мне святло...

Нейкая нечаканая перамена, нейкае свавольства авалодалі Мартынам, ці то смелая гутарка, ці прысутнасць Дуні, але ішоў ён да выхаду ўжо не боязна, а з паднятаю смела галавою і праходзячы міма фігурантак, свавольна падміргнуў Дуняшы. А тая засаромілася ўся і пачырванела да слёз, крыху адвярнуўшыся,—моў, зразумела, чаго ўжо больш.

Выйшаўшы з флігеля, Мартын аглянуўся па баках, нібы ў першы раз бачыў гэты цудоўны сад, і хлопнуўшы па плячы старога, весела сказаў:

— Ну, дзядзька Вахрамей, ты ідзі, а я збегаю да маткі, паседаю, ды і не бачыліся мы з ёю, як след.

Вахрамей здагадліва ўсміхнуўся і кіўнуў у напрамку флігеля.

— Ідзі, ідзі, Мартынка, толькі май на ўвазе, што фігуранткам падміргваць забараняецца ў нас. А Дуняшу для маладога барына сцерагуць...

— А мне напляваць! Што-ж я—у полі абсевак?—трасянуў валасамі Мартын і хутка падаўся ў супроцьлеглы бок.

*З рускай мовы*
*пераклаў З. К.*

*Наіры Зар'ян*

## У БАКУ У НАШЫХ

Многа год прайшло скрозь туман,
Малалецтва майго, дружакі!
Прывітанне Ваган і Нашан!
Вам вітанне сябры і дзядзькі.

Разам вы ўсё ля тых-жа варот,
Той-жа вуліцы, помню вас скуль.
Гэта Хараканіс *, альбо
Стары і далёкі Баку.

Не, якраз, ён зусім не той
Новы наш баявы Баку,
Разліваецца радасць ракой,
Не стрымаць гэтай шыры раку.

Не пазнаць вас у гэты дзень,
Колькі слаўных праароблена спраў.
І магутнага горада цень
Ваш асмугліла радасны твар.

І у знаёмых мне галасах
Дарагая гамонка гудзе.
Як гудзе пад карою сок
У вясновы сонечны дзень.

Гэта ёсць—пакаленне бур,
А раней—успамінаць смехата.
Як гуляючы мы у арбу,
Замест буйвала ўпрэглі ката.

Замест буйвала сёння пар
Ўпрог магутны і творчы наш час.
Гульняў тыхператворан азарт
Ў пераможную працу у нас.

Хараканіс у смузе плыве,
Вочы слепяць яму туманы.
І пачухваюцца у хляве.
Каля буйвалаў чабаны.

(* Хараканіс—армянская вёска ў б. турэцкай Арменіі, радзіма Н. Зар'яна.

Мой пакой запалоньвае свет,
Шафы з кнігамі ля вакна.
І партрэты на шпальтах газет,
Вы як лепшыя змешчаны там.

Невядомы дагэтуль свет
Закасаўшы канцы рукавоў
Мы будуем, неспынны імпэт
Акрыляе штодня змагароў.

Моладзь наша ідзе ў комсамол,
Спрытнасць іх хто сумее суняць?
Ну а той, хто з іх школу прайшоў,
Комуністам рыхтуецца стаць.

Толькі вечар запаліць агні,
І вяртаешся з прамыслоў...
У далёкі свой Хараканіс
Памяць раптам прыводзіць ізноў.

Дзе-ж Хараканіс? Ён вякі
Брудным быў, як пустэльная хмур.
Павучыння там камякі
Са столі ляцяць у апур *.

І калі-б утапіўся павук,
Дык маглі-б яго праглынуць.
А цяпер ты не ведаеш мук,
Чыста й весела ў вас жывуць.

Залацісты настоены чай,
Ён блішчыць як на небе зара,
Дзеці з голаду не крычаць,
Знікла Хараканісцкая гразь.

Гэта тут узнімаецца скрозь
Многа дрэў, каб цвісці і шумець,
Гэта тут пралілі сваю кроў
Камісары—іх дваццаць шэсць.

Але часам, Ваган, друг мой,
Ўспамінаеш свой Хараканіс.
Сум як воблака над табой
Апускаецца змрокам уніз.

І пяеш, Ваган, як даўно
Гэту курдскую «Вайвулэ» **).
Наша прошлае—вось яно,
Як арба па зямлі плыве.

*) Апур—кіслы крупнік.
**) „Вайвулэ"—сумная курдская песня.

Што цікавае ўспомніў там,
Жоўты свет, вапнякі, ды мел?
Там настаўнік наш Аўраам
І рассказ яго Гайк і Бэл *).

Альбо ўспомніў бізун, што як нож,
Лупцаванку Абдэль-кулака.
Альбо раны, калі басанож
Бегаў ты ўвесь худы ў сіняках.

Ты-хачо, ў гэтым месцы бываў,
Цябе гора з бядой траслі.
І мюдур **) цябе лупцаваў.
І пазычкі як чэрві раслі.

Што ўстрывожыла погляд твой?
Успамін твой што акрыліць?
Ў гэтай цемры нямой і глухой
Толькі гора як кат стаіць.

Толькі можа той мілаваць
Дзён маленства свайго чаўнок.
І не нам, а яму сумаваць
Хто спрадвеку цадзіў з нас пот.

Хто над намі, не меўшы клапот,
Жыў і ціснуў на наша жыллё.
Хто правёў плюючы на народ
Залатое дзяцінства сваё.

Хто спакойна нас забіваў,
Рад глядзець быў на нашу бяду,
Соллю нашых слёз паліваў
Ружы ў пышным сваім саду.

Ўспамінаць таму, а вось нам
Не забыць ночы чорнай гразь.
І таго, што мы ніклі к бартам
Скачанелага тыра ***).

Ўспамяну, і нянавісць кране,
Холад ночы прыгонкай тупой.
І нічога не злучыць мяне
З паламанай старэчай арбой.

І за чорны хлеб у той час
Кожны гора тады перанёс.
Нават мары памерлі у нас
Пра другі і пра лепшы лёс.

*) Легенда аб Гайку, які забіў асірыйскага вялікана Бэла; Гайк лічыцца роданачальнікам армянскага народа.

**) Мюдур—турэцкі паліцэйскі.

***) Тыр—укапаная ў зямлю печ, у якой пякуць лаваш (хлеб). На ёй-ж таксама ставяць „курсу" (нізкі стол, накрыты суконнай посцілкай), пад якім грэюцца ў зімовы час.

Дык няўжо-ж гэта тая карціць
Вам радзіма, гамонка аб той?
І табе аб ёй гаварыць?
Успамінаў хочаш аб ёй?

Дзіды прошласці нават мілей
Вам за ружу з краскай тугой?
Колас, вытетраны ў сухавей,
Замест нівы ў палях залатой?

Не, мой любы хлусню на прыцэл,
Змый туман ты з сваіх вачэй.
Я не веру каб ты хацеў
Накалоцца на дзіды яшчэ.

І каб слых твой замест барацьбы
Зноў пачуў-бы мінуўшчыны «рай».
Музыку двухкалёснай арбы
І раз'ятраны крык гызыра *)

І хаця каб адзін яшчэ раз
Зноў завыла смярдзючае дно,
Хцівы квотнік к табе прышоў
У твае пустое гумно?

І мінуўшчына нібы кат,
Чый узняты ужо тапор,
Пачала цябе спатыкаць,
Паглядзела-б табе ў упор?

«Вайгулэ»—гэту нэндзу ціпы
Ты адкінуў-бы прэч пакуль.
З глыбіні ты свае душы
Ўсёй крывёй закрычаў-бы «Баку!»

Комуністы ў ім жывуць
Сотні вышак ўзнімае ён.
Дзе хусцінкі як мак цвітуць
Пралятарак, сярод калон.

Дзе трымаючы руль у руках,
Бачым будучнасць перад сабой.
Дзе цяпер на сваіх прамыслах
Мы да шчасця ідзём з барацьбой.

*Пераклаў* МІКОЛА ХВЕДАРОВІ

---

*) Гызыр—пісар вясковага старшыні.

*М. Клімковіч*

# ЛІТАРАТУРА СОВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ *)

Пленум Праўлення совецкіх пісьменнікаў СССР ёсць пленум дружбы народаў. «А дружба паміж народамі СССР—вялікае і сур'ёзнае завяванне. Бо пакуль гэтая дружба існуе, народы нашай краіны будуць вольныя і непераможныя; ніхто не страшны нам, ні ўнутраныя, ні знешнія ворагі, пакуль гэта дружба жыве і здраўствуе»—так сказаў тав. Сталін таджыкскім і туркменскім калгаснікам.

Ї вось мы, натхняемыя гэтай стальной дружбай народаў, сабраліся тут, на заходнім рубяжы Саюза. Ї тое, што мы сабраліся іменна тут, у совецкай Беларусі, набывае выключнае значэнне. Прадстаўнікі найвялікшай культуры, культуры працоўных усіх народаў Совецкага Саюза на чале з магутным рускім народам сышліся каля граніцы, за якой цягнецца на захад чорная ноч соцыяльнага і нацыянальнага прыгнёту жахлівай бескультурнасці і фашыстоўскага цемрашалу. На фоне гэтай ночы якім грандыёзным помнікам нашай эпосе ўзносіцца ўверх наша культура адзіная і шматмоўная культура пераможнага пролетарыята. Ї першае, што хочацца сказаць, калі бачыш магутны калектыў пісьменнікаў СССР, з'яднаны брацкай любоўю, баявым пролетарскім інтэрнацыяналам, узаемнай падтрымкай і дружбай. «Няма ў свеце сілы, якая-б магла адалець Саюз вялікіх народаў СССР».

Беларусь у гады грамадзянскай вайны на сваёй тэрыторыі бачыла працоўных усіх нацыянальнасцей, якіх вы прадстаўляеце, бачыла ўзброены саюз рабочых і сялян усіх нацый, які змагаўся за вызваленне Беларусі ад белапольскага ярма, а яшчэ раней ад полчышчаў кайзераўскай Германіі. Тым больш радасны для нас прыезд прадстаўнікоў братніх рэспублік, краёў і абласцей, што вы прыехалі, каб асабістым удзелам дапамагаць нам будаваць соцыялістычную культуру, нацыянальную па форме.

Наш пленум і наша дружба, і наш рост ёсць вынік велізарнай работы ВКП(б), ёсць вынік нястомных клопатаў і геніяльнага кіраўніцтва найвялікшага друга, правадыра і настаўніка ўсіх народаў—Іосіфа Вісарыёнавіча **Сталіна**, ёсць рэзультат братняй дапамогі Саюза Совецкіх Рэспублік усім раней адсталым народнасцям, цяпер братнім совецкім рэспублікам.

Я вымушан крыху напомніць вам пра тое, чым была дакастрыч-

* Даклад на 3-м Пленуме Праўлення ССП.

ніцкая Беларусь, так званы Паўночна-Заходні край царскай імперыі, каб ясней было, чаму не магла быць вялікай і багатай беларуская дакастрычніцкая літаратура. Беларусь была перш калоніяй польскіх памешчыкаў і буржуазіі, а пасля стала яшчэ калоніяй рускіх памешчыкаў і буржузаіі.

Тав. Сталін, тав. Жданаў і тав. Кіраў у сваіх «Заўвагах» з поваду канспекта падручніка па «Гісторыі СССР» асабліва падкрэслівалі «анексіянісцка-каланізатарскую ролю рускага царызма, разам з рускай буржуазіяй і памешчыкамі («царызм—турма народаў») і «контррэволюцыйную ролю рускага царызма ў знешняй палітыцы з часоў Екацерыны ІІ да 50-х гадоў ІХ стагоддзя і далей («царызм, як міжнародны жандар»)». Абодвы гэтыя якасці царызма асабліва моцна паспытала дакастрычніцкая Беларусь.

Сумную карціну гаспадарання памешчыкаў намаляваў паэт Дзержавін—сенатар Екацерыны, які ў 1800 г. ездзіў у Віленскую губерню для даследвання прычын сялянскіх паўстанняў.

Вось яго характарыстыка жыцця сялян: «Лепшыя з іх ядуць пушны альбо папалам з мякінаю хлеб, дастаючы і той купляю альбо пазычкаю, а іншыя ўжываюць толькі пятую долю жыта змешваючы з чатырма часткамі мякіны, іншыя і таго-ж не маюць і ядуць варанае шчаўе... Ад такое стравы ўсе наогул вялыя, худыя і бледныя, як мерцвякі»...

А ці-ж так жылі толькі на Віленшчыне? Велізарнае балоцістае Палессе жыло яшчэ горш, пра гэта аднадушна гавораць усе рускія пісьменнікі, якія былі там у той час. Пра гэта гавораць дакументы і песні пра лучыну-лучынушку, пра саху крывую, пра жаночую долю, пра звера-пана, яго аканома, пра тое, як жнеі сустракаюць цёмную ночку на полі злога памешчыка, карэшце пра галечу, голад—вечных спадарожнікаў беднаты.

Вызваленне сялян ад прыгоннай залежнасці пры ўсёй «прагрэсіўнасці гэтага ўкладу жыцця параўнальна з старым прыгонніцтвам» (Ленін) пакінула беларускаму селяніну велізарную колькасць паноў-памешчыкаў, якія працягвалі апутваць яго гаспадарку і яго самога знураючай павуцінаю пазычковай кабалы, штрафаў і апрацовак. Яно не пазбавіла яго ад эксплуатацыі суседа-кулака. 200 тысяч батракоў Беларусі, дзесяткі тысяч эмігрантаў з Беларусі ў Амерыку (гл. аповесць Караленка «Без языка»)—такі вынік гаспадарання памешчыка, урадніка і кулака к пачатку імперыялістычнай вайны, якая яшчэ больш разбурыла краіну. Праводзячы ў жыццё сістэму каланіяльнага грабяжу, вялікадзяржаўная буржуазія не асабліва спяшалася з развіццём мясцовай прамысловасці, адначасова разам з мясцовай буржуазіяй бязлітасна, удвайне эксплуатуе тых рабочых, якія былі заняты ў саматужных і поўсаматужных майстэрнях. Вось чаму сялянскія бунты супроць прыгонніцтва, а потым супроць вельмі вялікіх рэштак яго, у вёсцы бунты і стачкі ў гарадах супроць сапраўды бесчалавечных умоў працы—з'явішча вельмі характэрнае для Беларусі таго часу, калі пачало разгарацца полымя паўстання ўсяго рабочага класа былой Расіі.

Пра непасрэдную і простую сувязь рабочага руху Беларусі з ра-

бочым рухам Расіі мы маем досыць доказаў аж да факту склікання першага з'езда РСДРП на тэрыторыі Беларусі. Усім вядома, як заснавальнік нашай партыі Владзімір Ільіч, наносячы сакрушальныя ўдары каланіяльна-грабежніцкай палітыкі царызма, страсна змагаўся супроць бундаўскага засілля ў рабочым класе тагочаснай Беларусі і Польшчы, супроць разбэшчваючага ўплыву нацыяналізма, яднаючы ўсе атрады рабочага класа супроць царызма, супроць капіталізма, супроць нацыянальнага прыгнёту. А соцыяльны і нацыянальны прыгнёт працоўных Беларусі быў вялікі.

Пачынаючы ад цара Алексея Міхайлавіча, які загадаў «паліць кнігі літоўскага друку», царскія ўрады шчодра сыпалі ўказы за ўказамі, якія забаранялі беларускі друк, урэзвалі правы насельніцтва, у тым ліку яўрэйскага насельніцтва, для якога стварылі «черту оседлости». Беларускія творы друкаваліся часам толькі таму, што ўдавалася пераканаць цэнзара, што кніга напісана на балгарскай мове, гэтак сама як яўрэйскія кнігі выдаваліся за кнігі, напісаныя на нямецкай мове.

У такіх умовах пануючыя класы спрабавалі стварыць літаратуру на беларускай мове (першыя буйныя паэмы на беларускай мове невядомых аўтароў Энэіда навыварат» і «Тарас на Парнасе» з'явіліся ў пачатку XIX ст.). І ў залежнасці ад таго, якая з груп эксплуататараў вылучала свайго песняра, такія былі і яго песні. Калі класу памешчыкаў-прыгоннікаў трэба было праз мастацкую літаратуру прапагандаваць цярплівасць, пакоры і паслухмянства прыгоннага мужыка свайму пану-памешчыку—гэты клас высунуў Дуніна-Марцынкевіча з яго лакіроўкай узаемаадносін паміж панам і мужыком, з яго маскіроўкай сялянскім фальклорам, сялянскімі вечарынкамі—лютай эксплуатацыі прыгонных сялян памешчыкамі (такія—опера «Сялянка»—1846 г.; аповесці—«Гапон»—1855 г., «Вечарніцы»—1855 г., «Купалле»—1856 г., «Шчароўскія дажынкі»—1857 г. і інш.) з яго пратэстам супроць наступаючага на прыгонніка-памешчыка капіталізма (камедыя «Залёты» і «Пінская шляхта»).

Калі класу маладой тады буржуазіі патрабавалася апеляваць да народных нізоў для таго, каб перацягнуць іх на свой бок і з іх дапамогай пашырыць сваё месца пад сонцам—гэты клас высунуў Францішка Багушэвіча (1840—1900 г.) з яго «мужыцкай» тэматыкай, вясковымі вобразамі (каб яны былі зразумелымі селяніну, вёсцы) з яго нацыяналістычнай прапагандай, выгаднай для буржуазіі. Той-жа клас, калі ён зазірнуў у вочы рабоча-сялянскім паўстанням 1905 г. і ўбачыў сваю надыходзячую смерць—высунуў нацыяналістычны ўпадніцкі сімвалізм Багдановіча і буржуазна-кулацкую сугуба-нацыяналістычную контррэволюцыйную газету «Наша Ніва».

І толькі рэволюцыя 1905 г. вылучыла такіх паэтаў, якія здолелі пачуць і перадаць надзеі шырокіх мас сялянства, хоць і не падняліся да [illegible] рэволюцыі 1905 г., да разумення яе вядучых сіл і канчатковых мэтаў.

Праўда, існавала не толькі літаратура, пісаная пісьменнікамі—прафесіяналамі, існавалі і такія казкі, як «Жаласлівая пані», як

«Пан і мужык», як «З чаго ліха на свеце», у якіх народ выключна рэалістычна адлюстраваў сваё жыццё ў часе прыгонніцтва, адлюстраваў люты, жывёльны побыт памешчыка, выказваў свае сімпатыі тым, хто спрабаваў паўстаць супроць памешчыка. Хадзілі па руках вершы, якія пераклікаліся з вершамі лепшых рускіх пісьменнікаў таго часу. Хадзілі ў народзе цэлыя паэмы, у якіх тлумачылася, хай яшчэ недасканала, класавая прырода тых з'яў, з якімі сустракаўся бядняк.

Спраўніка ён не даб'еццэ,
Толькі шыі дастанецца.
Багач скрыўдзэ ў ён і праў.
Бедны скрыўджан і прапаў.
Было-б над цудам цуда,
Каб бядняк праў вышаў з суда.

Дайшла да нашага часу песня аднаго сялянскага паэта—Паўлюка Бахрыма, якога, як відаць, задушыў царскі ўрад і Крошынскі памешчык.

Зайграй, зайграй хлопча малы,
У скрыпачку і ў цымбалы,
А я зайграю ў дуду,
Бо ў Крошыне жыць не буду.
Бо ў Крошыне пан сярдзіты,
Бацька кіямі забіты,
Маці тужыць, сястра плача,
Дзе-ж ты пойдзеш, небарача?

А колькі такіх паэтаў з народу загінула ў невядомасці і колькі іхных песень і казак перайшло ў народ, зрабілася фальклорам! Сярод гэтых песняў і казак ёсць творы высокай літаратурна-мастацкай каштоўнасці і глыбокага палітычнага зместу, якія адлюстроўваюць жорсткую барацьбу беларускага сялянства супроць памешчыка і, ў прыватнасці, супроць польскага памешчыка.

## ЛІТАРАТУРА 1905 ГОДА

На хвалі першай рускай рэвалюцыі падняліся два буйнейшых паэты сучаснай беларускай літаратуры—народныя паэты рэспублікі Янка Купала і Якуб Колас, якія паднялі беларускую літаратуру на ўзровень сучаснай рускай літаратуры, паднялася цэлая плеяда дробна-буржуазных пісьменнікаў і паэтаў. Адны з іх, як Элоіза Пашкевіч («Цётка»), потым адыйшлі ад рэвалюцыі і спрабавалі праз культурніцтва «дапамагаць народу», іншыя-ж, як Алесь Гарун—цалкам здрадзілі рэвалюцыі і адыйшлі ў лагер актыўнай контррэвалюцыі.

ЯНКА КУПАЛА. Сын дробнага арандатара, сам у пачатку сваёй літаратурнай кар'еры быў памочнікам вінакура, а то і проста служыў у памешчыка, добра ведаў быт беззямельнага, быт батрака, быт селяніна. Ён адлюстроўваў гэты быт.

Можна бясконца прыводзіць малюнкі гора, беспрасветнай галечы і памешчыцкага ўціску, якія адлюстраваў Купала ў сваёй творчасці.

Свой складаны шлях паэта-грамадзяніна Янка Купала пачынае магутным заклікам:

„Але хоць колькі жыць тут буду,
Як будзе век мой тут вялік,
Ніколі, братцы, не забуду
Што чалавек я, хоць мужык.
Кожны, хто мяне спытае,
Пачуе толькі адзін крык,
Што хоць мной кожны пагарджае,
Я буду жыць—бо я мужык“.

Паглядзіце вершы Я. Купалы, якія не трапілі ў друк у гэтыя палымнеючыя годы першай рэволюцыі. Тут і грозная перасцярога памешчыкам:

„Пашкадуй-жа ты, брат, мужыка...
... Бо на свет прыдзе многа бяды,
Бо за крыўду сваю адамсціць,
Свіням будзе крыві не пабраць,
Адамсціць, аж зямля задрыжыць,
Аж віхры зашумяць, загудзяць“.

Тут і заклік да свайго народу:

„Што ты спіш, што ты спіш,
Беларускі мужык?
Глянь, усталі усе
Як свет божы вялік“.

Паэт пералічвае ўсе здзекі, якія цярпіць мужык, і прапануе:

„Калі стрэльбу ў цябе
Адабралі тваю,
Ты застрэшку вазьмі
Касу вострую сваю!
... І ідзі і крычы
Прагавітым людзям,—
Няхай хлеба даюць
Табе, жонцы, дзецям“.
(„Што ты спіш“. 1906 г.)

Страсным заклікам да народу гучаць словы паэта:

„Там кроў льецца. там за волю
Барцы на віселькі ідуць,
А вы, вы мучаны найболей,
Спіце, хоць вас даўно там ждуць.
... Ідуць, каб бедным і галодным
Дзянькі сыцейшы зацвілі,
Зрабіць нявольніка свабодным,
Даць беззямельнаму зямлі.
До спаць! Паўставаце грамадою
І ідзіце ім там памагаць
(это значит русскому пролетариату—*М. К.*)
... Хай кроў пральецца дзень, другі
Варожым трупам на падсціл,
Хай у няволі ланцугі
Спадуць ад грому вашых сіл“.

Паэт заклікае не шкадаваць ворага, ён дае лозунг:

„Смерць таму, хто хлеб астатні
У бедных выдзірае.
Смерць таму, хто на люд братні
Кайданы ўздзявае“.

Паданыя вершы як нельга лепш сведчаць пра вучобу Янкі Купалы ў Шэўчэнкі, Некрасава, Кальцова (з перамаганнем «сытого благополучия» апошняга)

У ногу з Янкам Купалай ідзе другі народны дэмакрат—Якуб Колас. Ён вышаў таксама з беззямельнай беларускай вёскі. Яго бацька быў лясніком у памешчыка і вымушан быў пераязджаць з сваёй гаспадаркай туды, куды перакідаў яго памешчык па службе. Бачыў з дзяцінства нястачу і гора. Якуб Колас пачаў сваю літаратурную дзейнасць грамадска-лірычным, поўным суму, вершам:

„Не пытайце, не прасіце
Светлых песень у мяне.
Бо як песню заспяваю,
Жаль вам душу скалыхне".

Таму што:

„Ды на жыццё яго пагляднеш,
Сэрца болем зашчыміць".

Такім-жа сумам напоўнен яго верш, які першым убачыў свет:

„Край наш бедны, край наш родны—
Гразь, балота ды пясок,
Чуць дзе трохі луг прыгодны,
Хвойнік, мох ды верасок.
А туманы, як пяленкі,
Рассцілаюць лес і гай,
Ой, ты бедная старонка,
Ой забыты богам край".

Гэты сум не мог застацца пасіўным, і ўжо ў 1906 годзе Якуб Колас узнімае свой поўны голас супроць пана-памешчыка і супроць царызма.

„Багачы і панства
Нашы „дабрадзеі"
Мы на суд вас клічам,
Каты вы, зладзеі.
... Ужо даўно вам воўка
Вас, паны, чакае
І па вас асіны слёзы праліваюць". (1906 г.)

Успамін пра асіны і вяроўкі, якія рыхтуе панам бядняцка-сялянская Беларусь, не быў апіскай—Якуб Колас запэўняў сваіх чытачоў, што:

„Не, не будзе нам жыцця,
Як паноў не перавешаць".

І тут, як у Купалы, мы маем і пераклічку і вучобу ў рускіх пісьменнікаў, пачынаючы з Пушкіна і канчаючы Нікіціным і Некрасавым.

У той-жа час выступала, з шэрагам вершаў і апавяданняў, накіраваных супроць царызма, паэтэса Элоіза Пашкевіч, як у перыядычным друку, так і ў асобных выданнях «Хрэст на свабоду» (Львоў 1905 г.), «Скрыпка беларуская».

Нацыяналістычная буржуазія добра ведала сілу ўплыву мастацкай літаратуры і прыклала ўсе старанні для таго, каб перацягнуць

Купалу і Коласа на свой бок, ухапіўшыся за нацыяналістычныя настроі, за асобныя вершы, якія адлюстроўвалі іх палавінчасць і хістанні ў соцыяльных пытаннях. (Гэтыя вершы і гэтыя настроі былі абумоўлены дробна-буржуазнай прыродай саміх пісьменнікаў).

Праўда, зарадка 1905 года аказалася такой вялікай, што нават у гады рэакцыі, у гады, калі нацыяналістычны чад атруціў свядомасць і Коласа і Купалы—у іх творчасць урываецца і вострае слова соцыяльнага пратэсту, і заклік да бою, і слова надзеі на лепшую будучыню.

Так Колас у 1907 годзе, калі рэволюцыя была разбіта, бадзёрыў сваіх чытачоў:

„Не бядуй, што звіслі хмары,
Што нам сонца не відаць.
Не бядуй, што ў ноч пажары
Сталі неба залiваць.
Дымам пойдзе ўсё ліхое,
Усё што душыць нас і гне,
Вер, брат, жыцце залатое
Будзе ў нашай старане".

І нават тады, калі царскі ўрад пасадзіў у турму Коласа на тры гады за ўдзел у настаўніцкім з'ездзе 1906 г., Колас прадаўжаў пісаць такія творы, як «Канстытуцыя», «Малебен», «Выхадзі упярод», «Сонкі падвёў», «Соцыяліст», «Недаступны». У гэтых рэчах упарта, выключна трапна і востра Колас нападае на куцую канстытуцыю, увесь сэнс якой у тым, што:

У турму нас павялі,
І таўклі без меры".

У Коласа знаходзіцца мужнае слова, каб з турмы заклікаць:

„Я мужык, я гонар маю,
Гнуся толькі да пары,
Я маўчу, маўчу трываю,
Але скора загукаю,
Стрэльбы, хлопчыкі, бяры". („Мужык" 1909 г.).

У аднолькавай ступені аказалася моцкай зарадка 1905 года і ў Янкі Купалы. Ён таксама як і Колас, часам маскіруе востры, моцны нечаканы ўдар за тонкай ironiяй, за бяскрыўднымі, на першы погляд, радкамі:

„Свеце месяц, свеце
З вечара да рана,
Арэ мужык поле
Не сваё, а пана".

Часамі гэтая іронія набывае форму соцыяльнага сарказму (гл. «Пакуль сонца ўзыйдзе»).

„Ой льюцца слёзы
У дзяцей і ў маткі.
Не плачце, працуйце,
На чыны й падаткі.
„Не плачце вы-дзеці,
Не плач і матуля.
У бядзе вас пацешыць
Ці астрог, ці куля

Мне хочацца напомніць яшчэ выдатныя вершы Янкі Купалы «Перад вісяльней»—вершы 1908 г., у якіх ад імя лепшых змагароў за рэволюцыю 1905 года Купала кідае царскаму ўраду:

„Але не стану біць паклону,
За сваю гібель не змаўчу;
Знаць не хачу вашых законаў,
Знаць вашых суддзяў не хачу!
... Нядоўга-ж ваша панаванне,
Загуба прыдзе і на вас!
... Людской расплаты ўжо над вамі,
Тапор адточаны завіс".

Разглядаючы дакастрычніцкую літаратуру, мы абавязаны асабліва падкрэсліць, што Купала і Колас вылучаюцца з усіх дакастрычніцкіх пісьменнікаў сваім талентам, сваёй культурай вершы, блізкасцю яго да народнага верша, што ў свой час было заўважана і падтрымана Аляксеем Максімавічам Горкім.

Але чым далей ад рэволюцыі 1905 года, тым менш было ў Купалы і Коласа вершаў, падобных на паданыя вышэй і наадварот, тым больш было вершаў з буржуазна-нацыяналістычным зместам.

Праўда, адмоўны ўплыў буржуазных нацыяналістычных партый і «Нашай Нівы» на Цётку, Купалу, Коласа і інш. дробнабуржуазных пісьменнікаў эпохі першай рускай рэволюцыі дае сябе знаць досыць рана—нават на першым этапе іх творчасці. Ён дае сябе знаць, галоўным чынам, у раздуванні «нацыянальных пачуццяў», у нацыяналістычных настроях паэтаў.

«Наша Ніва», прапагандуючы падначаленне і падтрымку царскага ўрада, прапагандуючы сталыпінскія хутары, прапагандуючы самы смярдзючы беларускі нацыяналізм—узмоцнена змагалася за Янку Купалу, за Якуба Коласа, як самых таленавітых пісьменнікаў таго часу. Пад уплывам нацыяналістаў, пад уплывам «Нашай Нівы» Якуб Колас, які ў 1906 г. прапанаваў «перавешаць паноў» (як сродак дамагчыся зямлі), зрабіўся апалагетам хутарской сістэмы гаспадаркі. І ў гэтым яшчэ раз дала сябе знаць дробнабуржуазная прырода паэта.

Тое-ж самае здарылася і з Купалам. Паэт-рэаліст, трыбун рэволюцыйнага сялянства—пад уплывам нацыяналістаў з «Нашай Нівы» кінуўся ад рэалізма да сімвалізма (гл. яго вялікія паэмы «Адвечная песня» і асабліва «Сон на кургане»). Яўны бязбожнік, які высмейваў божаньку, як памагатага багатыроў, пачынае маліцца таму-ж божаньку аб долі народу; паэт, які заклікаў свой народ ісці на дапамогу паўстаўшаму пролетарыяту Расіі—пачынае прапаведваць нацыянальную абмяжованасць, ідэалізуе сярэднявечча і інш. і інш.

У тупік зайшоў паэт са сваім ідэалам бацькаўшчыны, перапяваючы тэзіс пра бяскласавасць беларускай нацыі, пра залаты век феадальнай Беларусі і г. д. Нацыяналізм, як змест, сімвалізм—як форма глушаць вялікую паэзію Купалы. Вобразы яго трацяць рэльефнасць і матэрыяльнасць абмалёўкі, робяцца расплыўкімі, абстрактнымі, мова аддаляецца ад народнае. Варта сказаць, што ў гэтым Купала трапляе ў тон шэрагу рускіх сімвалістаў гэтага часу (А. Беламу, Брусаву і інш.).

Міжвольна прыпамінаецца аналіз, які даў тав. Сталін гэтаму часу:

«А хваля ваяўнічага нацыяналізма, якая з'яўлялася зверху—цэлы рад рэпрэсій з боку «уладу маючых», што помсціліся ўскраінам за іх «свабодалюб'е» — выклікалі адказную хвалю нацыяналізма знізу, які пераходзіў часам у грубы шавінізм».

... «І чым больш ішоў на убыль вызваленчы рух, тым пышней распускаліся кветкі нацыяналізма».

У апошнія два-тры гады «Нашай Нівы» ў беларускую літаратуру прышлі два сучасных нам пісьменнікі—Змітрок Бядуля і Цішка Гартны. Не гледзячы на тое, што Ц. Гартны прынёс у літаратуру рабочую тэматыку (адлюстроўваючы «настрої рамесніцкіх рабочых нашых мястэчак»—Кнорын)—ён астаўся далёкім ад паэзіі рабочага калектыва. Сувязь-жа яго з «Нашай Нівай» і нацыяналістычнай інтэлігенцыяй у Пецярбургу—узмацнілі яго нацыяналізм (гл. яго «Сявец», «Званар» і інш.).

Імперыялістычная вайна яшчэ больш узмацніла нацыяналістычна-ўпадніцкія настроі сярод беларускіх пісьменнікаў.

Вось абеглы агляд дакастрычніцкай літаратуры. Мы прымаем з яе, як дэмакратычную спадчыну, лепшыя вершы Багушэвіча, у якіх ён пратэстуе супроць соцыяльнага і нацыянальнага ўціску сялянства, мы прымаем прагрэсіўныя творы другіх пісьменнікаў, мы прымаем вершы Купалы і Коласа, народжаныя першай рускай рэволюцыяй; мы адкідаем, як нягодны і шкодны хлам кожную спробу залічыць у спадчыну нацыяналістычную буржуазную дакастрычніцкую літаратуру.

## КАСТРЫЧНІК НА БЕЛАРУСІ І ПАЧАТАК ПРОЛЕТАРСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Кастрычніцкая пролетарская рэволюцыя пад геніяльным кіраўніцтвам Леніна і Сталіна ўстанавіла пролетарскую дыктатуру—уладу Со-ветаў, вызваліўшы народы для творчай работы ў брацкім Саюзе Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Але Совецкай Беларусі прышлося амаль пяць гадоў змагацца за права мірна працаваць над стварэннем новага шчаслівага жыцця: царскія генералы, беларускія нацыяналісты, нямецкія і польскія акупанты разам і ў паасобку, потым савінкаўскія і балаховіцкія банды прымушалі працоўных Беларусі разам з працоўнымі ўсёй Расіі ўпарта і гераічна абараняць незалежнасць Совецкай Беларусі.

Гэта барацьба вялася пад кіраўніцтвам нашай партыі, і ў гэтай барацьбе супроць усіх ворагаў рэволюцыі вырасла і загартавалася наша партыя большэвікоў Беларусі, створаная пад непасрэдным кіраўніцтвам таварыша Сталіна. Яна вырасла і загартавалася перш за ўсё ў барацьбе супроць беларускай кулацка-памешчыцкай контррэволюцыі і яе паследкаў, у барацьбе за пролетарскі інтэрнацыяналізм, за стварэнне нацыянальнай па форме, пролетарскай па зместу культуры, у барацьбе за соцыялістычную індустрыялізацыю былога края вечных балот і лясоў, за соцыялістычную пераробку ўбогай і жабрацкай вёскі, так многа раз аплаканай у вершах і прозе дакастрычніцкай беларускай літаратуры.

Гіганты-заводы сёнешніх дзён, амаль паўтарастатысячны рабочы клас, калектывізацыя вёскі на 85 проц., росквіт культуры ўсіх народаў, насяляючых Беларусь, багатае, заможнае, культурнае, вясёлае жыццё, — вось што даў беларускаму народу слаўны шлях, пройдзены ім пад кіраўніцтвам ленінска-сталінскай партыі большэвікоў, пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна.

Шлях гэты часамі быў вельмі цяжкім: рэшткі контррэволюцыйных армій, банд, нацыяналістычных партый і груп, якія, будучы разбітымі ў адкрытай бойцы, залезлі ў шчыліны, каб адтуль перашкаджаць і шкодзіць соцыялістычнаму будаўніцтву. Рэшткі беларускай нацыяналістычнай контррэволюцыі, якая з такою аслінаю ўпартасцю і хамскаю ўгодлівасцю, выконвала сваю ролю лакея-ката пры кайзеры і Пілсудскім, пад новымі маскамі выконвала ўсё тую-ж ролю ў адносінах працоўных мас Беларусі.

Беларускія пісьменнікі ў сваёй большасці спатыкалі Кастрычніцкую рэволюцыю з нацыяналістычных пазіцый. Некаторыя з іх не разумелі, што «вызваленне працоўных мас прыгнечаных нацыянальнасцей і знішчэнне нацыянальнага ўціску нямысліма без таго, каб разарваць з імперыялізмам, нізрынуць «сваю» нацыянальную буржуазію і ўзяць уладу самім працоўным масам» (Сталін); другія не ад страху, а ад сумлення служылі гэтай буржуазіі, поўзалі разам з ёй перад кайзерам і Пілсудскім. Гэта паклала свой адбітак на творчасць дакастрычніцкіх пісьменнікаў у першыя гады рэволюцыі.

Але поруч з дакастрычніцкімі пісьменнікамі пачынаў падымацца ўжо маладняк новай совецкай літаратуры. Спачатку ён быў да некаторай ступені ў палоне старых «нашаніўскіх» літаратурных канонаў не толькі па форме, але і па мове і па вобразах. Але ўжо тады ў паэзіі прагучэла адданасць совецкай уладзе, удзячнасць Чырвонай арміі за вызваленне Беларусі, нянавісць да белапольскай арміі, упэўненасць у перамозе пролетарыята. Першым паэтам, які разгарнуў слаўную першую старонку пролетарскай беларускай паэзіі быў Міхась Чарот (Міхаіл Сямёнавіч Кудзелька), які пад гэты час у значнай ступені вырваўся з-пад нацыяналістычнага ўплыву.

Я прыгадаю яго буйнейшы твор гэтага перыяду «Босыя на вогнішчы» (1922 г.). Гэта бесфабульная паэма—панарама барацьбы за Совецкую Беларусь. Паэма напісана ў плане рэволюцыйна-рамантычнага паказу геройства «босых» і, пры ўсёй устаноўцы на сімвалізм асобных вобразаў, рэалістычна паказвае развіццё рэволюцыйных падзей на Беларусі. Праўда, у гэтым паказе прарываецца часам погляд на рэволюцыю, як на стыхійны рух мільёнаў «босых»—бедных і абяздоленых (вучоба ў Блока), не вылучана, не падкрэслена роля партыі (што з'яўляецца асабліва буйнай заганай паэмы). Але ўвогуле гэта паэма—бяручы на ўвагу час яе напісання і нацыяналістычнае засілле ў літаратуры таго часу—была надзвычай важнай з'явай у літаратурным і грамадскім жыцці краіны.

Вакол паэмы «Босыя на вогнішчы» разгарэлася заўзятая барацьба. Нацыяналісты не адзін раз намагаліся абняславіць яе, заяўляючы, што вобраз «босых» ёсць вобраз «агідных крымінальнікаў і марадзёраў» і што ў паэме «нічога пролетарскага няма». Тав. Кнорын і ін-

шыя не адзін раз выступалі ў абарону «Босых на вогнішчы»—як пролетарскага твору.

Варта сказаць, што нацдэмы ні адзін раз намагаліся перацягнуць Чарота на свой бок, усяляк расхвальваючы тыя яго творы, у якіх былі нацыяналістычныя зрывы.

З іншых твораў М. Чарота трэба адзначыць паэму-фантазію «Чырвонакрылы вяшчун». Крыху пазней, і ўжо ў канцы аднаўленчага перыяду, былі напісаны такія цудоўныя паэмы, як «Ленін», «Марына» і інш. Не гледзячы на тое, што ў іх часам адчуваецца ціск на паэта сялянскіх настрояў, яны адыгралі вялікую станоўчую ролю ў барацьбе супроць нацыяналістычнай літаратуры.

З літаратурных фактаў гэтага перыяду варта асабліва адзначыць арганізацыю часопіса «Полымя» (1922 г.) і часопіса «Маладняк» (1923 г.). «Полымя» стала цэнтрам арганізацыі нацыяналістычных сіл літаратуры, ужо з першага нумару стала прапагандыстам «адраджанізма»—г. зн. контррэволюцыйнай нацдэмаўскай плыні за «адраджанізм» буржуазнай культуры, за рэстаўрацыю капіталізма і ліквідацыю Советаў. За спінай «Полымя» стаяла контррэволюцыйная нацдэмаўская арганізацыя.

«Маладняк», не гледзячы на неаднародны класавы склад арганізацыі і наяўнасці ў ёй часткі нацдэмаўскай моладзі,—адыграў вялікую станоўчую ролю ў аб'яднанні пісьменніцкай моладзі вакол задач соцыялістычнага будаўніцтва.

І тут у «Маладняку» асабліва вырас Андрэй Александровіч.

Пачынаючы сваю паэтычную дзейнасць у 1920—21 г.г. ён таксама аддаў даніну і форме і зместу «адраджэнчай» літаратуры, знаходзячыся пад моцным уплывам паэзіі Купалы. Аднак яго хутка вылучыла сярод іншых паэтаў з іх выключна вясковай тэматыкай—тэматыка совецкага горада. Ужо ў 1923 г. ён надрукаваў верш «Горад», у якім даў шэраг зарысовак працоўнага горада. Гэтым-жа зарысоўкам прысвечаны вершы «Новы Менск». У паэзіі Александровіча ўладарна загаварылі гарадскія рабочыя матывы, якім суджана было шырока разгарнуцца ў наступныя гады:

У шэрым завулку
Разносіцца гулка,
І ў цёмныя ночы
І ў сонечны дзень
Скрыгат суровы
Машыны сталёвай.

Праўда, маладому Александровічу не ўдаваліся партрэты канкрэтных рабочых, яны былі схематычныя і нагадвалі хутчэй саматужнікаў, чым індустрыяльных рабочых. Яго «Друкар», напрыклад, працуе яшчэ ў разладзе з машынай, якая:

Таму руку, таму нагу
Прыцісне, радасна рагоча.

Схематычнасць і агульнасць у падачы партрэтаў рабочых акупалася гарачаю любоўю Александровіча да класа—пераможца і верай у яго канчатковую перамогу.

Яго шавец яшчэ любуецца сваім саматужным інструментам і ўвесь яго вобраз—гэта вобраз запозненага з працаю саматужніка.

Аднак у абстаноўцы барацьбы за ўвядзенне рабочай вытворчай тэматыкі ў беларускай паэзіі, якую нацдэмы спрабавалі сціснуць у рамкі вузка-вясковай тэматыкі, шават гэтыя, часамі наіўныя схематычныя (у духу «Кузніцы»), вершы адыгралі станоўчую ролю. Рэалістычныя бытавыя зарысоўкі, нярэдка авеяныя цёплаю фальклорнай лірыкай, уяўлялі сабою станоўчы кантраст у параўнанні з нацыяналістычнай стылізацыяй Есеніна, як гэта рабілі Дубоўкі, Пушчы і інш. Імкненне да рэалістычных зарысовак з жыцця совецкага горада, увага да «дробязяў» родніць паэта з такою-ж тэндэнцыяй у рускай пролетарскай паэзіі таго часу (Казін, Безыменскі і інш).

У гады аднаўленчага перыяду Александровіч мае шэраг вершаў, якія прадоўжваюць галерэю рабочых партрэтаў ужо з большай мастацкай дасканаласцю («Вартаўнік», «За іголкай»). Александровіч лепш і больш асэнсавана пачынае скарыстоўваць народную творчасць у мове і вобразах і дае шэраг вершаў, якія заслужана лічацца аднымі з лепшых у беларускай літаратуры як па тэматыцы, так і па адзінству формы і зместу. З ліку вершаў я асабліва падкрэсліваю верш «Сасна» (ёсць у рускім перакладзе), верш «Фабрыка смерці» пра Заходнюю Беларусь, якая стогне пад абсацам белапанскай Польшчы і верш «Падарожжа», у якім паэт асэнсоўвае класавы змест нацыяналістычнае плыні ў літаратуры.

Уводзячы, амаль упершыню, рабочыя вобразы ў беларускую літаратуру, уводзячы часам агрублена і празаічна элементы аратарскай мовы, Александровіч паўставаў супроць «лірычнасці слюнявай» і змагаўся за соцыяльна насычаную, палітычную лірыку, вучачыся гэтаму на лепшых творах Маякоўскага. У гэтым яго асноўная заслуга перад літаратурай БССР.

## ПРА КЛАСАВУЮ БАРАЦЬБУ Ў ЛІТАРАТУРЫ Ў РЭКАНСТРУКЦЫЙНЫ ПЕРЫЯД

Праводзячы здрадніцкую работу ва ўсіх галінах народнае гаспадаркі і культуры, беларускія нацыяналісты ў адзінстве з нацыяналістамі іншых колераў і адценняў, у адзінстве з контрразведкамі суседніх краін галоўны ўпор рабілі на падрыхтоўку сваіх кадраў. З гэтай мэтай засмечваліся кулацкімі і папоўскімі элементамі ВНУ і ВТНУ, з гэтай мэтай ствараліся «курсы беларусазнаўства», з гэтай мэтай праводзілася ўзмоцненая апрацоўка пісьменніцкай моладзі, з гэтай мэтай узмоцнена культывавалася багема, есенішчына, упадніцтва. Ходы класавага ворага не былі нечаканасцю.

Рашэнне ЦК ВКП(б) ад 25 мая 1925 г., правільна арыентуючы ўсю партыю ў пытаннях літаратурнай палітыкі, папярэдзіла пра рост буржуазных настрояў у асяроддзі пісьменнікаў, пра вылучэнне пісьменніцкім асяроддзем ідэолагаў растучага кулацтва і новай буржуазіі. Гэтае рашэнне разгарнула цэлую праграму дзеяння для таго, каб дамагчыся гегемоніі пролетарскай літаратуры, вырошчваючы свае кадры і беражліва перавыхоўваючы старых, якія ідуць да нас, пісьменнікаў. Гэтае рашэнне і згуртованая мабілізацыя вакол яго лепшых сіл совецкай літаратуры стварылі пагрозу для нацыяналістычнай літаратуры быць выкрытай. Калі да гэтага дадаць, што

трацкісцка-зіноўеўская апазіцыя ў гэтыя гады прыклала асаблівыя намаганні, каб расхістаць партыю, дык будзе зразумела, што штурхнула нацыяналістаў больш адкрыта весці сваю падрыўную нацыяналістычную работу.

IX з'езд КП(б)Б у 1926 годзе ў рэзалюцыі па дакладу комсамола запісаў, што ў правядзенні нацыянальнай палітыкі «вялікая адказнасць ляжыцца на комсамол, які вылучае з сваіх шэрагаў кадры пролетарскай інтэлігенцыі, пасылаючы моладзь у ВПІ, рабфакі, падрыхтоўваючы яе ў прыватнасці ў шэрагах арганізацый «Маладняку» і інш. Гэта адказнасць і задачы ў асноўным зводзяцца да таго, каб выхаваць новых культурных працаўнікоў на ленінскіх прынцыпах у пытанні нацыянальнай палітыкі, не дапускаючы нацыяналістычных ухілаў, а таксама ўплыву нацыяналістычна настроеных інтэлігентаў на комсамольскую групу інтэлігенцыі».

Гэта перасцярога была больш чым своечасовай. Справа ў тым, што «Маладняк», які быў вельмі рознастайны па свайму складу, ператварыўшыся ў масавую арганізацыю, сапраўды патрабаваў самай пільнай увагі і добрага палітычнага выхавання. У асяроддзі «Маладняка» ішла жорсткая класавая барацьба. Пад відам барацьбы за «культуру» мовы, за «сапраўдны мастацкі» твор і г. д. нацыяналістычная група імкнулася адарваць моладзь ад актыўнага ўдзелу ў жыцці рэспублікі, замкнуўшы яе ў кола вузка-літаратурных, часта фармальна-стылістычных пытанняў, каб лягчэй атручваць літаратурнае асяроддзе атрутай нацыяналізма. Нацыяналісты з маладых пісьменнікаў, уяўляючы сабою найбольш адкрытую фашысцкую частку нацыяналістаў, імкнуліся ператварыць «маладнякізм» у праця́г «адраджэнчаства» ў «амаложаны адраджанізм», які, моў, новымі сродкамі «адраджае» усё тую-ж культуру. Яны нават галасна выказвалі сваю незадаволенасць палымянцамі, не гледзячы на тое, што «Полымя» за 1923—26 гады друкавала шэраг антысовецкіх і ярка нацыяналістычных твораў (п'есы, вершы, крытычныя артыкулы, публіцыстыка). Аднак нацыяналістычнаму крылу не ўдалося перавесці «Маладняк» на свае нацыяналістычныя рэйкі. Яно рашыла вылучыцца ў асобную арганізацыю «Узвышша». Тым больш, што ў гэтым годзе сабралася на свой з'езд беларуская контррэволюцыя (не толькі ўнутраная эміграцыя, але і знешняя) пад сцягам акадэмічнай канферэнцыі. Літаратурныя наццэмы мелі намер пахваліцца ўласнымі «домарошчанымі» кадрамі. «Узвышша» праіснавала тры гады. Па лініі літаратурнай яно адрознівалася стылізацыяй пад народную творчасць, галоўным чынам абапіраючыся на рэгрэсіўныя элементы (напрыклад, застольныя песні кулацтва, рэакцыйная міфалогія), у значнай ступені перапевалі Есеніна падстрыгаючы яго пад нацыянальны грэбень, аздабляючы апісаннем балот, лясоў, саламяных стрэх, туманаў і ненавісцю да совецкай улады. Па лініі літаратурнай крытыкі ўзвышэнцы ад трацкісцкага адмаўлення самой магчымасці стварэння пролетарскай літаратуры, даходзілі да сцвярджання, што нацыяналістычная літаратура ёсць «пролетарская літаратура, перыяду, калі нацыянальны пролетарыят стаіць ва ўладзе». Па лініі публіцыстыкі уся дзейнасць была накіравана на падрыў

давер'я да совецкай улады, да партыі, да Совецкага саюза. Заалагічны нацыяналізм—вось змест часопіса «Узвышша».

І калі узвышэнцы разбалбаталіся вельмі адкрыта, калі яны пачалі выклікаць падазронасць, тады контррэволюцыйны цэнтр, нацдэмакратаў парашыў арганізацыйна аформіць «Полымя», у якім для адводу вачэй павінна было быць партыйнае ядро, спадзяючыся, што пры наліччы нацыянал-апартунізма ў асобных інтэлігенцкіх партячэйках, пры наяўнасці аўтарытэту «старэйшага пакалення пісьменнікаў» удасца і часопіс і арганізацыю ўтрымаць у сваіх руках. Для стварэння такога прыкрыцця нацыяналісты раскалолі «Маладняк», перацягнуўшы ў «Полымя» найбольш выяўленую ў той час групу, кіруючую галоўку «Маладняка», думаючы зусім знішчыць гэтым «Маладняк». Але ў «Маладняку» ужо выраслі кадры комуністаў-пісьменнікаў, якія пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б не толькі аднавілі «Маладняк», але і ператварылі яго ў БелАПП. Актыўную ролю ў аднаўленні «Маладняка», у разгортванні яго работы і ператварэнні яго ў БелАПП адыгралі комуністы пісьменнікі: Міхась Лынькоў, Платон Галавач, Рыгор Мурашка і інш. Аднак, разгортванне творчасці маладых магло адбыцца ў поўнай меры толькі пасля разгрому нацыяналістаў, калі моладзь вызвалілася ад канонаў папярэдняй беларускай літаратуры, калі нацыяналістычная крытыка перастала псаваць моладзь, калі Дом пісьменніка вызваліўся ад сумных іх фігур, ад змяінага шыпення з прычыны кожнага недахопу і саркастычнай ухмылкі з прычыны кожнага дасягнення ў жыцці краіны.

Гэта адбылося ў 1929—30 г., калі была выкрыта контррэволюцыйная арганізацыя нацдэмаў, калі былі выкрыты Ігнатоўскі, Баліцкі, Прышчэпаў, калі шэраг нацыяналістаў пісьменнікаў і крытыкаў—Бабарэка, Чаржынскі, Пушча, Дубоўка, Мрый, Гарэцкі—былі выкрыты як адны з самых актыўных удзельнікаў контррэволюцыйнай арганізацыі, калі былі выкрыты нацыяналістычныя памылкі такіх пісьменнікаў, як Бядуля, Гурло, Зарэцкі, Жылуновіч, Колас, Купала і інш.

Гіганцкія перамогі соцыялістычнага будаўніцтва ў горадзе і вёсцы, мудрая выхаваўчая палітыка партыі, разгром нацыяналістаў прывялі да таго, што Купала і Колас парвалі з нацыяналістычным мінулым і асудзілі яго. І Купала, і Колас актыўна уключыліся ў практыку соцыялістычнага будаўніцтва, пачалі распрацоўваць совецкую тэматыку, стварылі шэраг высокамастацкіх літаратурных твораў. Той-жа шлях прарабілі шэраг іншых пісьменнікаў, якія пачалі сваю ідэйную перабудову (Бядуля, Гартны і інш.).

Пра вынікі гэтае перабудовы казаў у сваёй гутарцы з пісьменнікам Беларусі т. *Гікало*. «Сёння Янка Купала—гэта не той чалавек, які быў некалькі год таму назад. Для нас Янка Купала, Якуб Колас— неадрыўная частка літаратуры Совецкай Беларусі. А вы думаеце, што толькі з'езд зрабіў іх такімі? Гэта работа партыі ў цэлым і ваша—комуністаў-пісьменнікаў, а таксама і воля і жаданне іх саміх перабудавацца, перагледзець свой палітычны творчы шлях на аснове гістарычнага рашэння нашай партыі пра работу пісьменніцкіх арганізацый».

Мне хацелася-б на гэтым закончыць экскурс у гісторыю беларускае літаратуры, хоць я вельмі і вельмі багата чаго не закрануў як з літаратурных фактаў, так і з фактаў класавае барацьбы на літаратурным фронце. Я не сказаў, хоць-бы абегла пра творчасць Міхася Лынькова, Крапівы, Кузьмы Чорнага, Галавача—таму што маю намер аддаць творчасці гэтых пісьменнікаў больш месца пры разглядзе літаратуры апошніх год.

Мімаходзь адзначу толькі творы Міхася Зарэцкага, які на дадзеным этапе быў адным з найбольш яркіх прадстаўнікоў нацыяналістычнай літаратуры, афармляючы ў мастацкіх вобразах тое, што нацдэмы праводзілі ў палітычнай агітацыі. Такі яго «Голы звер» з перапевамі Леаніда Андрэева і Арцыбашава, з паказам пролетарскага горада, як суцэльнага вартэпа рабунку і распусты. Такія яго «Сцежкі-дарожкі», «Крывічы» і інш.

## ГІСТАРЫЧНЫ ПЕРАЛОМ

Калі-б хто-небудзь захацеў даць сціслую характарыстыку усім значным творам апошніх 5 год, дык ён апынуўся-б у досыць цяжкім становішчы. Перад вачыма пісьменніка быстрымі, нябачанымі да гэтага тэмпамі, разгортваліся падзеі вялікай гістарычнай важнасці, падзеі сапраўды непаўторныя, разгортвалася вастрэйшая класавая барацьба, у выніку якой аказаўся ліквідаваным, на базе суцэльнай калектывізацыі, шматлікі клас кулацтва, апошняя апора і надзея капіталізма. Перад літаратурай разгарнуўся працэс перавыхавання і росту людзей амаль з такой-жа сілай і ў такіх-жа маштабах, як у час узброенай абароны рэволюцыі. Толькі ў сучасны момант гэтае выхаванне, перавыхаванне і рост людзей не толькі мелі больш масавы характар, але і суправаджаліся велізарным культурным уздымам, масавым авалоданнем складанейшай тэхнікай, нябачаным ростам палітычнай свядомасці, што вылілася, нарэшце, у стаханаўскі рух, гэта значыць з'явішча, якое паказала перавагу соцыялізма над капіталізмам у рашаючым пытанні—пытанні прадукцыйнасці працы. І, зразумела, што ў нашых літаратараў разбягаліся вочы,—хацелася абняць, паказаць для будучых пакаленняў усю шматкаляровую рэчаіснасць, яе новых людзей—не падобных на герояў папярэдніх эпох, адлюстраваць найвялікшую і разумнейшую тактыку нашай партыі, яе арганізатарскую і выхаваўчую работу.

І беларуская совецкая літаратура ў гэтым шмат зрабіла поспехаў. Былі створаны такія творы, як «Адшчапенец», і «Дрыгва» Якуба Коласа, як «Над ракой Арэсай» Янкі Купалы, як «Напор» і «Шчаслівая дарога» Александровіча, «На чырвоных лядах», «Баян» М. Лынькова, «Качагары» Ільі Гурскага, «Спалох на загонах» і «Праз гады» Платона Галавача, «Міжбур'е» і «Мост» Курдзіна, «Бацькаўшчына» і «Трэцяе пакаленне» Кузьмы Чорнага, «Канец Дружбы» і «Мядзведзічы» К. Крапівы, «Тэорыя Каленбрун» і «Сержант Дроб» Э. Самуйлёнка, «1914 год» П. Броўкі, «Мужнасць» Глебкі, «Зельменяне»—М. Кульбака, «На чужым піру»—Ізі Харыка, «Сям'я Варанцовых» В. Кавальскага і інш. Мы маем за гэтыя пяць год

творы, адзначаныя ўсёй грамадскасцю, як лепшыя і мастацкі высокія. У нас ёсць шэраг твораў з добрымі замысламі, але з слабым выкананнем не толькі ў розных пісьменнікаў, але і ў аднаго і таго-ж пісьменніка ў розны час. З'ява гэта, вядома, нармальная, таму што абсалютная большасць пісьменнікаў пачалі сваю літаратурную дзейнасць у 1925 годзе. Асаблівы рост нашай літаратуры, як, напэўна, і ўсіх нацыянальных літаратур, мы маем пасля гістарычнага рашэння ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка 1932 года, калі былі знішчаны арганізацыйныя формы БелАПП, якія сталі з сродку збірання пролетарскіх сіл літаратуры, у тормаз яе далейшага развіцця. Гэтае рашэнне паскорыла канчатковы і беспаваротны пераход на бок пролетарыята ўсяго, што было сапраўды таленавітага ва ўсіх пісьменніцкіх арганізацыях. Яно паскорыла выкрыцце і адсеў ад літаратуры, як замаскаваных ворагаў нашых, так і каля-літаратурнай брацii. Востра пастаўлена было пытанне барацьбы за якасць твораў, як галоўнага крытэрыя ў ацэнцы месца і ролі пісьменніка ў совецкай літаратуры. Мы не можам сказаць, што мы дасягнулі занадта вялікіх поспехаў у гэтай галіне, хоць безумоўныя поспехі мы маем. Такія творы як «Сыходзіш вёска з яснай явы», «А ў Вісле плавае тапелец», як «Дзве Марысі», «Лён», «Старыя акопы» Янкі Купалы амаль беззаганны і ў сэнсе мастацкай формы і зместу. Але, зразумела, старая песенная форма верша, фальклорная форма, якую так трапна, з такім майстэрствам і на новай, больш высокай аснове, аднавіў Янка Купала, не заўсёды беззаганна гарманіруе з новым зместам, надзяляючы паэта альбо некаторай часткай схематызма, альбо некаторай часткай зніжэння філасофскай значымасці твора. Таксама зразумела, што такія рэчы, як «Сцяна бясстрашных», «Галодная раніца», «Беларуская казка» і шэраг іншых вершаў А. Александровіча амаль беззаганны, і з поўным правам могуць лічыцца аднымі з лепшых вершаў саюзнай літаратуры, аднак, зразумела, і тое, чаму аратарскі голас лірыкі Александровіча часамі пераходзіць у звычайную аратарскую прамову.

Зразумела—я яшчэ раз кажу, іменна таму, што наша совецкая літаратура маладая літаратура, улічваючы і час перабудовы дакастрычніцкага пакалення.

Аднак, і маладосць літаратуры, і паспешка—няхай сабе выкліканая бурным ходам жыцця, а не якімі-небудзь іншымі прычынамі,—не з'яўляюцца прычынай для таго, каб патрабаваць скідкі на якасць сваіх твораў. П. П. Постышэў абсалютна правільна на пленуме Саюза Совецкіх пісьменнікаў Украіны сказаў: «Ні аднаму пісьменніку няма чаго зараз разлічваць хоць бы на малейшую скідку па пытанні якасці нашай прадукцыі. Наш пісьменнік не павінен быць саматужнікам. Не трэба задавальняцца і захапляцца лёгкім і праходзячым поспехам. Наш пісьменнік павінен быць сапраўдным мастаком, які імкнецца ствараць помнікі нашай вялікай эпосе для цэлых пакаленняў».

Вось чаму ў заключнай частцы мы бяром толькі тыя творы, якія ў большай альбо меншай ступені прэтэндуюць на права такіх пом-

нікаў беларускай літаратуры пры ўсіх сваіх слабасцях і недахопах, пры чым творы галоўным чынам пасляз'ездаўскія.

Я не бяру вершаў Я. Купалы. Каштоўнасць і іх мастацкі ўзровень ацэнены адпаведным чынам усім совецкім друкам Саюза і Саюзных рэспублік. На фоне квітнеючай народнай творчасці, на фоне калгаснага фальклора—вершы, песні Янкі Купалы—народнага паэта рэспублікі набываюць асаблівае значэнне. Невымеральна радуюць яны нас там, дзе прыгожая форма спалучана з глыбокімі абагульненнямі, дзе гэтыя абагульненні пераклікаюцца з квінтасэнцыяй спрадвечнай народнай мудрасці, але не той, якая была навязана народу яго рабскім становішчам у мінулым, а тою, якая падсказана яго становішчам калектыўнага творцы працоўных каштоўнасцей і ў мінулым, і зараз. Гэтае спалучэнне прыгожых форм і глыбокіх абагульненняў Янкі Купалы патрэбна ўсяляк узмацняць, каб яшчэ больш павялічыць і філіgranна адпрацаваць сваю частку вялікага помніка эпосе, які ставіць і паставіць ёй наша літаратура.

З творчасці апошніх пяці год Андрэя Александровіча асабліва вызначаюцца такія творы, як «Цені на сонцы», «Напор», «Пагранічная вясна», «Шчаслівая дарога» і шэраг лірычных вершаў.

«Цені на сонцы» справядліва лічацца ў нас у беларускай літаратуры выдатным літаратурна-паэтычным памфлетам. Пабудаваная ў плане падачы галерэі партрэтаў ворагаў рабочага класа, толькі часткова звязаная ў другой і трэцяй частках слабай сюжэтнай ліпіяй, паэма «Цені на сонцы» мела асноўнай задачай узмацняць мастацкім словам і вобразам тыя ўдары па нацыяналістах, якія наносіла ім наша партыя, дапамагчы шырокаму чытацкаму актыву зразумець усю агіднасць і прадажнасць нацыяналістаў. І трэба сказаць, што гэтую задачу Александровіч выканаў бліскуча, партрэты ворагаў атрымаліся жывымі, яснымі і дакладнымі. Тут і кум, і кума:

„Славуты кум дарогай камяністай
Да славы ідучы не раз змяняў свой грым,
Ен земгусарам быў, чыноўнікам, міністрам,
У Скарападскага па справах нутраных.

Тут і зяць, у якога:

„Ідэалогія наша і ваша
Нашы і вашы хваробы слоў.

Тут і крытык, які быў:

„Расіец заўзяты ў расійскім народзе
Выходзіў палякам на польскі парад,
Цяпер беларус пры совецкай уладзе,

а па сутнасці прыстасаванец, хамелеон і адначасова заядлы вораг совецкай улады і совецкай літаратуры.

Тут і прэм'ер—ветэрынар, які ходзіць лёкаем перад княгіняй Радзівіл, даглядае яе суку і шчанят, і які б'е па твару дзяўчынку-сірату над трупам яе маці-карміліцы гэтых шчанят, калі дзяўчынка працягвае сваю руку за міласцінай.

Тут «столпы» беларускай контррэвалюцыі і той звілісты крывавы двурушніцкі «шлях», па якому ішлі гэтыя ворагі народу.

Александровіч разумее, што гэтыя ворагі толькі здрадніцкія цені, якія «ў кустах прылеглі» пакуль працоўныя масы «карчуюць пні», што яны не могуць павярнуць назад кола гісторыі, хоць папсаваць шмат што могуць. Александровіч гэта разумее, бо перад яго вачыма былі неаднаразовыя ўказанні партыі на здрадніцкую ролю нацдэмаўскай інтэлігенцыі, а таксама ў час напісання другой і трэцяй частак была выкрыта ўся агіднасць нацыяналістычнай контррэвалюцыі. А. Александровіч правільна мабілізуе ненавісць працоўных супроць гэтай контррэвалюцыі і агіднасць да яе носьбітаў.

П'еса «Напор» пры ўсіх яе недахопах і слабасцях (якія ідуць, галоўным чынам, па лініі недастатковага напружання сюжэтнай лініі, па лініі апісальніцтва, па лініі бездапаможнасці аўтара ў вытворча-тэхнічных пытаннях завода, якія ён закранае) абсалютна няправільна на нашу думку закінута і крытыкай, і тэатрам. Калі гаварыць пра адпаведнасц п'есы рэчаіснасці тэмы патрэбна сказаць, што ў беларускай літаратуры няма іншага твора, які-б з такой паўнатой адлюстроўваў жыццё рабочага калектыва ў час узнікнення соцыялістычнага спаборніцтва, як п'еса «Напор». Ды і з боку мастацкага у сэнсе тыпізацыі персанажаў п'есы, яна мае вялікую каштоўнасць.

Асноўная мэта—паказаць, як згуртаваў партком і камітэт комсамола рабочы калектыў вакол задачы,—даць шахцёрам Данбаса тысячы стандартных дамоў—была Александровічам выканана і палітычна, і мастацкі правільна. П'еса з'явілася натуральным завяршэннем яго «рабочай партрэтнай галерэі», якую ён пачаў яшчэ на першым этапе сваей творчай дзейнасці.

Зараз А. Александровіч падрыхтаваў зборнік, у які ўвайшлі чатыры паэмы, у тым ліку, апошняя паэма для дзяцей «Шчаслівая дарога», заслужана выклікаўшая адобранне нашай крытыкі, і вершы 1932—1935 гг.

«Шчаслівая дарога»—паэма пра перавыхаванне чалавека, пры тым у такім узросце, калі гэтае перавыхаванне, асабліва лёгкае, гэта значыць ў дзяцінстве. Сын кулака—«сінявокі хлопчык Грыша»—парывае з лясным кулацкім гняздом бацькі, і ідзе ў людзі. Шчаслівая выпадковасць прыводзіць яго на мяжу і пагранічнікі выхоўваюць яго разам з сваімі дзецьмі. Уся паэма насычана прыгожымі пейзажнымі замалёўкамі сучаснай Беларусі, напісана добрым лёгкім вершам, пабудавана на шэрагу добрых эпізодаў (Бура ў лесе, сустрэча з сабакамі, турэцкая люлька, сустрэча з сястрой дыверсанткай).

Недахопам паэмы з'яўляецца тое, што дыдактычныя месцы паэмы не заўсёды мастацкі паданы, арганічна не звязаны з усёй тканінаю паэмы, і таму некалькі выпіраюць з агульнага кантэксту.

Паэма «Пагранічная вясна»—становіць сабой прыклад вельмі добрага скарыстання фальклорных зваротаў мовы ў спалучэнні з аратарскай, трыбуннай установкай твору. Гэта між іншым з'яўляецца паказчыкам таго, як маладыя атрады літаратараў усіх рэспублік растуць і мацнеюць на вучобе ў Маякоўскага. «Пагранічная вясна»

пабудована на кантрасце між Заходняй і Совецкай Беларуссю. Александровіч знайшоў словы і фарбы, знайшоў лакалізованыя вобразы: (аір над возерам, віленскія гоні і нават «сонца ў трусіках»), каб перадаць глыбока і поўна гэты кантраст між капіталістычным уціскам над Заходняй Беларуссю і між шчаслівым жыццём Совецкай Беларусі.

Да недахопаў паэмы трэба аднесці залішнюю награмоджанасць слоўных метафар, якія ствараюць непатрэбную квяцістасць мовы і псуюць асобныя часткі добрай і вялікай паэмы.

У апошнія гады Александровіч напісаў шэраг цудоўных вершаў, у якіх спалучыў вялікія вобразы («Сцяна бясстрашных», якая прымае прах С. М. Кірава, галодная раніца ў горадзе, захопленым фашыстамі) з беражлівасцю ў словах і прастатой мовы—ад чаго гэтая прастата становіцца мастацкай прастатой, з велізарным пачуццём абагульняючы пачуцці мас. Іменна таму так моцна загучалі яго вершы апошняга перыяду. Выданне зборніка яго вершаў на беларускай і рускай мовах, выданне гэтакіх-жа зборнікаў Купалы, Броўкі, Коласа, Глебкі і шмат каго з іншых паэтаў у гэтым годзе з'яўляюцца асабліва сімптаматычным. Нашы паэты нібы падрыхтоўваюць вынікі свае мінулае творчасці, каб тварыць далей ужо на больш высокай аснове. І трэба сказаць, што гэтыя вынікі вельмі і вельмі нядрэнныя. А для Александровіча гэта добрыя вынікі. Александровіч значна вырас за апошнія гады, навучыўся працаваць над вершам, навучыўся назіраць і абагульняць з'явы жыцця. Навучыўся правільна карыстацца фальклорам, жывой народнай мовай.

## ПРА ЯКАСЦЬ НАШЫХ ТВОРАЎ І ЗАДАЧЫ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ У ГЭТАЙ ГАЛІНЕ

Поспехі Александровіча, пра якія я толькі што казаў, ёсць адзін з вынікаў тае барацьбы, якая разгарнулася пасля ўсесаюзнага з'езда пісьменнікаў ва ўсёй совецкай літаратуры вакол пытанняў якасцей твораў.

Усесаюзны з'езд стаў у гэтай справе—датай выключнага значэння, выклікаўшы сапраўды соцыялістычнае спаборніцтва паміж брацкімі літаратурамі за лепшую якасць, вялікую палітычную завостранасць, вялікую глыбіню і карыснасць твораў. Не маючы магчымасці прадэманстраваць на прыкладзе ўсіх твораў, якія вышлі за апошні год—паўтары вынікаў гэтай барацьбы, я хацеў-бы сказаць па некалькі слоў пра тыя з іх, якія дасягнулі станоўчых вынікаў асабліва цікавым для нас чынам.

Да такіх твораў я перш за ўсё хачу аднесці навелы тав. Лынькова («Баян», «На вялікай хвалі», «Сінія галіфе» і інш.). Яны цікавыя перш за ўсё тым, што авеяны вялікай любоўю да чалавека, які будуе соцыялізм і разам з гэтай будоўляй зменьвае сябе, перавыхоўваецца, ачышчаецца ад бруду капіталістычнага мінулага. Гэтая любоў да чалавека Лыньковым укладаецца ў яркія жыццерадасныя, рамантычна-прыўзнятыя вобразы, прыхарошаныя значнай доляй народнага

гумару. Лынькоў рамантык, які сваёй творчасцю пацвярджае, што рэволюцыйная рамантыка ёсць сінонім соцыялістычнага рэалізма. Навелы Лынькова характэрны яшчэ і тым, што ў іх Лынькоў перамагае тую расплыўкасць, якая назіралася ў яго ў рамане «На чырвоных лядах», у вельмі добрым рамане, у якім многа надзвычай тыповых для даваеннай Беларусі герояў, незабыўных здарэнняў і сцэн. але які хварэў на недастатковую сюжэтную напружанасць. Навелы Лынькова пры цікавасці сюжэту, сцісласці самога твору і нутраным цяпле, якім ахутаны станоўчыя героі, з'яўляецца выдатным узорам барацьбы за якасць.

Калі параўнаць навелы Скрыгана, сярод якіх ёсць вельмі нядрэнныя навелы («Каця Лапянкова», «Бацькі і дзеці», «Зноў на дарозе») з навеламі М. Лынькова, то зразу кідаецца ў вочы, што палажэнні і вобразы у навелах Лынькова жывыя, патрэбныя нам, а вобразы ў навелах Скрыгана часцей за ўсё не маюць апоры ў нашай рэчаіснасці, яны не жывыя, не патрэбныя нам, нават не рэальныя.

Барацьба за любоўную падачу такіх вобразаў, якія патрэбны краіне, якія карысны ёй, якія будуць любімы масамі чытачоў—вось што ўключыў Лынькоў у сваё разуменне барацьбы за якасць,—і гэта правільна. Правільна для яго і другое—глыбокая, усхвалёваная нянавісць да ворага, крапатлівы аналіз самых заблытаных яго хадоў і выхадаў, заўсёдная насцярожанасць і заклік да пільнасці на прыкладах, якія паказваюць, што вораг прыстасоўваецца, маскуецца значна хітрэй, чым гэта звычайна думаюць. Вось гэтую нутраную цяплыню пры паказе нашага совецкага чалавека, гарачую нянавісць да ворага, якую вядзе глыбока абгрунтоўваючы яе цвярозы розум. варта развіваць у нашай літаратуры замест бясстраснага, часам прыкрытага налётам гуманізма або аб'ектыўнасці, паказу ворага.

Дакладчыкі па пытаннях паэзіі будуць гаварыць пра палітычную лірыку, пра трыбунны, што забівае ворага, радок паэта. Нешта ад гэтага патрэбна ў нашай прозе, асабліва той, якая гаворыць пра героіку грамадзянскай вайны. Прыкладам можа быць кніга тав. Яноўскага «Коннікі», пра героіку будаўніцтва.

У Лынькова прыгожая, блізкая да народнае мова і цёплы гумар. Гэта асабліва яскрава відаць у рамане «На чырвоных лядах» і ў яго апошніх трох аповесцях для дзяцей.

Некалькі слоў пра дзіцячую літаратуру.

Апошні год быў-бы асабліва бедным у галіне дзіцячай літаратуры, калі-б не тры аповесці для дзяцей Міхася Лынькова. Папярэдні год быў асабліва ўраджайным. У мінулым годзе вышла паэма Александровіча «Шчаслівая дарога», паэма Якуба Коласа «Міхасёвы прыгоды», вышла кніга Т. В. Т.—надзвычайна карысная і цікавая кніга Янкі Маўра, вышла кніга другога нашага дзіцячага пісьменніка Якімовіча «Незвычайны мядзведзь», вышаў шэраг кніг на яўрэйскай мове, у тым ліку паэма Ізі Харыка «Ад полюса да полюса». Гэтымі кнігамі совецкая беларуская літаратура з гонарам рапартавала тады Ўсесаюзнаму з'езду. Нажаль, пасля з'езду шэраг пісьменнікаў так і не пакрылі свае запазычанасці перад нашай совецкай дзетварой. Іменна, нажаль, таму, што прыход у дзіцячую літа-

ратуру лепшых пісьменнікаў БССР, як паказаў ужо наш вопыт, узнімае дзіцячую літаратуру на новую вышыню, павышаючы яе мастацкі і пазнавальны ўзровень. Вось чаму так прагна накінулася дзетвара на добрыя мастацкі паўнацэнныя аповесці М. Лынькова, засыпаючы аўтара падзячнымі лістамі. Вось чаму цёплы лірычны верш Купалы «Хлопчык і лётчык» перакладаецца на ўсе мовы і аўтар атрымлівае лісты захаплення ад сваіх чытачоў-дзяцей з усіх канцоў Саюза.

Нарада па дзіцячай літаратуры пры ЦК ВКП(б), выступленне тав. Андрэева, т. Косарэва ўзнімае пытанне пра дзіцячую літаратуру на новую ступень і гэта павінны ўлічыць нашы пісьменнікі.

Апошнія раманы Платона Галавача («Праз гады»), Кузьмы Чорнага («Трэцяе пакаленне»), Змітрака Бядулі («Набліжэнне»)—ставяць яшчэ раз перад літаратурай пытанне сюжэтнасці і яшчэ ў большай ступені пытанні глыбокага ведання матэрыялу. Беларускай нацыяналістычнай літаратуры быў уласцівы паўзучы эмпірызм, голае бытавое апісальніцтва. Сюжэтныя раманы былі, але, галоўным чынам, бульварна-дэкадэнцкага тыпу. Перамаганне пабытовага апісальніцтва як рэштак уплыву нацыяналістычнай літаратуры—з'ява надзвычай станоўчая і яе трэба вітаць. У гэтым сэнсе—поўнае падначаленне матэрыяла дакладна прадуманаму плану ў рамане Галавача «Праз гады» асабліва паказальна. Галавач бярэ толькі тыя падзеі, якія непасрэдна ўздзейнічаюць на фармаванне светапогляду яго герояў, або кіруюць іх учынкамі. Дзякуючы гэтаму так дакладна паказаны новыя для беларускай літаратуры тыпы, як памешчык Пілацееў, праф. Галынскі, звязаны з піцерскай партыйнай арганізацыяй бальшэвік Павел Буднік, які арганізуе абурэнне сялян супроць памешчыка.

Тут варта сказаць пра некаторую своеасаблівую функцыю падобных Галынскаму вобразаў інтэлігенцыі ў беларускай совецкай літаратуры. Беларускія нацыяналісты, як вядома, шмат смакавалі вобраз інтэлігенцыі як «солі зямлі», «асветніка», «добродетеля народа» і інш. Перад совецкай літаратурай Беларусі стаяла задача (як і перад іншымі нацыянальнымі літаратурамі) па новаму, праўдзіва паказаць гэты вобраз, паказаць соцыяльнае распластаванне сярод інтэлігенцыі, жорсткую класавую барацьбу ў яе нібы «адзіных» шэрагах.

Паказам прафесара Пілацеева і Галынскага, паэта Ягуплы, ды і самога Паўла Будніка П. Галавач робіць цікавую спробу для беларускай літаратуры паказаць розныя пласты інтэлігенцыі і класавую барацьбу ў яе шэрагах.

Больш глыбока паказаў тав. Галавач селякіна-ўласніка. Тарэнта Шкробат, беззямельны бядняк, быў адарваны капіталістычным ладам ад уласнае зямлі. З яшчэ большай прагнасцю ён прысмактаўся да яе, калі бальшэвікі выгналі памешчыкаў. Ён ваяваў супроць памешчыкаў, але калі вярнуўся да мірнага жыцця, ён стаў на подступах да становішча заможнай верхавіны вёскі. Таму ён цяжка, значна цяжэй, чым яго прыяцель і таварыш па Сібіры Мікола Жук ідзе да калектывізацыі і прыходзіць толькі тады, калі ўваскрасіў у сабе лепшыя пачуцці, думы і ідэі з часоў грамадзянскай вайны,

калі заглушыў уласніцкае свінства хутараніна. У сэнсе сюжэтнай напружанасці, прадуманасці, глыбокага вывучэння матэрыялу раман Галавача—адзін з добрых раманаў. Праўда, яму шкодзіць: вельмі сухая мова, вялікая колькасць засушаных гэтай мовай пейзажаў, бясстраснасць расказа нават у тых мясцінах, дзе закрычаў-бы камень (смерць Паўла Шкробата). Але нават у параўнанні са «Спалохам на загонах»—аповесцю, якая на агульную думку цудоўна паказвае калектывізацыю ў беларускай вёсцы—раман «Праз гады» з'яўляецца творчай удачай Галавача.

Вялікім майстрам псіхалагічнага рамана паказаў сябе Кузьма Чорны ў «Трэцім пакаленні».

Мы ўжо казалі, што сярод савецкіх празаікаў Беларусі К. Чорны быў адным з тых, каго больш за ўсё прыкоўваў аналіз псіхалагічных працэсаў. Але варта ўспомніць шэраг яго мінулых псіхалагічных аповесцей (хаця-б «Зямля»), каб пераканацца ў тым, як цяпер пісьменнік зусім па-новаму пачаў будаваць свой псіхалагічны малюнак. Калі раней Кузьма Чорны бачыў перад сабою ізаляванага абстрактнага чалавека і ізаляванае душэўнае жыццё яго «вне дел» (па вядомаму выразу Леніна, г. зн. па-за соцыяльнай практыкай), дык цяпер К. Чорны бачыць тую соцыяльную практыку, якая служыць асновай псіхалагічных канфліктаў яго герояў. Пісьменнік паводле геніяльнай фармуліроўкі тав. Сталіна ёсць інжынер чалавечых душ: «заглянуць у душу сваіх герояў», а не абмежавацца паказам іх вонкавай дзейнасці пад выглядам барацьбы супроць буржуазнага псіхалагізма—вось шлях, цяжкі, але неабходны шлях, па якім пайшлі К. Чорны, Галавач, Лынькоў і інш.

Галоўны герой рамана—батрак Міхал Тварыцкі, які з дзяцінства атручан прагай да ўласніцтва, прышчэпленай яму кулаком Скуратовічам. Праз усё жыццё праносіць ён гэтую прагу, абматэрыялізаваную аўтарам у выглядзе схованага ў зямлі кулаком і перахованага Тварыцкім золата. І калі Тварыцкі прыходзіць да свае дачкі Славы, да «Трэцяга пакалення», дзеля якой ён хаваў золата, выяўляецца, што жыццё ўжо не тое, ідэалы не тыя, людзі не тыя: асабістае багацце стала бяссэнсавым.

«Людзі—воўкі» зрабіліся таварышамі па працы, яго любоў да дзіцяці па сутнасці і ператварылася ў сваю супроцьлегласць: зрабіўшыся ворагам грамадства, ён зрабіўся ворагам свайго дзіцяці. Такія вобразы, як Тварыцкі, як яго жонка Зоська, як комуністНазарэўскі і Несцяровіч, чотка абрысаваныя праз паказ псіхалагічных перажыванняў чалавека—з'яўляюцца каштоўным укладам у беларускую літаратуру. Недахопам рамана з'яўляюцца хібы, як у мове герояў (Тварыцкі, будучы неразвітым і прымітыўным чалавекам, часам гаворыць як сапраўдны інтэлігент), так і ў мове асобных частак рамана, крыху «аселяненай» без патрэбы (хоць К. Чорны наогул, і ў гэтым рамане ў прыватнасці, з'яўляецца вялікім майстрам беларускага мастацкага слова), у крыху пераўвялічаным ускладненні псіхалагічных перажыванняў галоўнага героя і недарысоўцы гэтых перажыванняў у станоўчых герояў. Важна адзначыць, што т. Чорны ў выбары тыповага пайшоў па новаму для беларускае літаратуры

шляху: паказу дыялектычнай супроцьлегласці становучых якасцей чалавека ў розных соцыяльных сістэмах. Гэтым характэрна «Трэцяе пакаленне», гэтым характэрна п'еса «Бацькаўшчына», у якой паднят каларытны вобраз патомкаў ткачоў Леапольда Гушкі, які спрабаваў знайсці бацькаўшчыну ў царскай Расіі і знайшоў яе толькі ў Совецкім Саюзе, а поруч з ім—Гушкам—стаў спакойны, удумлівы вобраз комуніста падпольшчыка Евеля Цывіна. Па сваёй дынаміцы, па грамадскай значымасці іх учынкаў, гэтыя вобразы вышэй за вобразы Тварыцкага і нават Зосі. Аднак, вобразы Тварыцкага і Зосі больш дэталёва выпісаны, адшліфаваны, паказаны праз тысячы дэталей і дум. Вы самі разумееце, што спалучэнне гэтых двух якасцей абяцае К. Чорнаму і яго чытачам наступны, які стаіць на яшчэ больш высокім узроўні, твор.

Тав. Бядуля ў «Набліжэнні», тав. Колас у «Дрыгве»,—паказалі прыклад простага, глыбокага сюжэтнага апавядання на фактычных матэрыялах. Бядуля адчувальна ярка паказаў карціны з жыцця прыфрантовай паласы 1914 г., якая скончылася ўсенародным бежанствам і ад жахаў бою і ад жахаў пагрому з боку «абаронцаў бацькаўшчыны». Тав. Колас з яшчэ большай маляўнічасцю і большай ідэйнай насычанасцю расказаў пра героіку партызанскай барацьбы супроць белапольскай акупацыі. У «Дрыгве» асабліва ярка выступае роля сюжэтнасці твору. Аднак, наша літаратура, як і руская літаратура, ведае прыклады так званых бессюжэтных, або слабасюжэтных твораў, якія сцэментованы вялікай ідэяй і з асобных навел, з шкуматкоў, з «самародкаў», узятых з жыцця і ўвотканых у тканіну мастацкага вымысла—выходзіць вялікае каштоўнае палатно. Такія, напрыклад, «Мядзведзічы» К. Крапівы, такія «На чырвоных лядах» Лынькова, шэраг аповесцей Мікуліча, дзве аповесці Шынклера і інш. Што злітоўвае, накіроўвае апавяданне ў такім выпадку? Гэта—паказ якой-небудзь вялікай грамадска значнай падзеі (будаўніцтва фабрык, вясновая сяўбовая кампанія, землеўпарадкаванне), на фоне якога развіваюцца падзеі, перажыванні галоўных герояў твору. І чым больш палітычнае значэнне гэтай падзеі, чым больш глыбокая палітычная ідэя, якая яднае раз'яднаныя кавалкі аповесці, тым больш цэльным здаецца ўвесь твор (з рускае літаратуры можна прывесці прыклад з Эрэнбурга і інш.). Мне здаецца, што ў барацьбе за якасць твораў варта поруч з націскам на цікавае развіццё сюжэту сугубую ўвагу звяртаць на глыбіню абагульняючай увесь твор ідэі.

Вядома, усё гэта мажліва толькі ў тым выпадку, калі пісьменнік ведае жыццё не толькі з кніг, бачыць жыццё не толькі з акна вагона, калі ён актыўна ўдзельнічае ў практыцы соцыялістычнага будаўніцтва. Нажаль, мы не можам сказаць, каб усе нашы пісьменнікі глыбока вывучалі завод, калгас, быт рабочага, калгасніка, чырвонаармейца, тэхніку той вытворчасці, якая фігуруе ў творы. Вельмі часта такое знаёмства з'яўляецца павярхоўным, а асноўны матэрыял бярэцца з успамінаў, з кніг—нават тады калі справа ідзе пра нашы дні. Не дзіўна, што героі такіх твораў недастаткова поўнакроўны. Соцыялістычны рэалізм мае на ўвазе як адну з неабходнейшых

умоў—глыбокае вывучэнне жыцця, класавае асэнсаванне яго. Без ведання жыцця—без удзелу ў соцыялістычным будаўніцтве, немажліва даць твор, пра які можна было-б сказаць, што метадам стварэння яго быў соцыялістычны рэалізм, г. зн. адзіны метад, якім можна правільна і мастацкі высока адлюстраваць рэчаіснасць у літаратуры.

Нашы пісьменнікі абавязкова павінны ўзмацніць вывучэнне гэтай рэчаіснасці і тады ў нас з'явяцца поўнакроўныя вобразы рабочых, ударнікаў, стаханаўцаў, чаго на жаль, пакуль што няма. Гэта будуць вобразы новых людзей, людзей, якія змагаюцца пад кіраўніцтвам партыі за знішчэнне розніцы між разумовай і фізічнай працай. Гэта будуць вобразы людзей, якія жывуць поўнакроўным жыццём, багатым ідэйным зместам. Пісьменнік абавязан будзе паказаць у дыялагах такіх людзей, у сюжэтных канфліктах не толькі вялікія пачуцці, але і вялікія думкі, якія хвалююць гэтых людзей. У нас-жа, на жаль, вельмі часта бывае абмежаваны кругавід думак нашых вобразаў. З такім кругавідам нельга паказаць стаханаўца—«прафесара сваёй справы» ні тым больш таго-ж стаханаўца, калі ён скончыць промакадэмію. Стаханаўскі рост людзей нашай краіны патрабуе ад пісьменнікаў такога крутога ўздыму ўверх, такога стаханаўскага ідэйнага і творчага ўздыму, які адпавядаў-бы запатрабаванням гіганцкі вырасшага нашага чытача.

Як бачыце старыя «тэхнічныя нормы», якія існавалі да гэтага часу ў літаратуры і тут з прыходам стаханаўцаў павінны быць пазялічаны ў шмат разоў.

У мэтах азнаямлення з рабочым жыццём сёлета мы прарабілі цікавы і карысны вопыт: мы паслалі групу пісьменнікаў напісаць гісторыю Магілеўскай шоўкавай фабрыкі. Пісалі яе рабочыя фабрыкі, але пісьменнікі арганізоўвалі і апрацоўвалі матэрыял, вельмі добра пазнаёміліся з жыццём вялікай фабрыкі, што абавязкова дасць сябе знаць на іхнай творчасці. Гэты метад мы думаем у бліжэйшы час значна шырэй ужыць. Станоўчым з'явішчам, якое дало ўжо вынікі, мы лічым пасылку пісьменнікаў на работу над матэрыяламі грамадзянскае вайны. Гэта ўзбагаціла пісьменнікаў веданнем жыцця і дало грамадскасці шэраг літаратурных кніг. Змагацца з натуралізмам, з фатаграфічнасцю, з паўзучым апісальніцтвам можна толькі глыбокім веданнем жыцця, матэрыялу.

Другі вывад хочацца зрабіць, калі гаварыць пра якасць твораў, гэта неабходнасць максімальна павысіць вучобу нашых пісьменнікаў, вучобу палітычную, вучобу літаратурную, вучобу ў пролетарскіх пісьменнікаў, у Аляксея Максімавіча Горкага, у класікаў рускае літаратуры. У вучобе мы вельмі і вельмі адстаем, асабліва па лініі моладзі.

## ПРА МОЛАДЗЬ

Праўда, наша моладзь—Самуйлёнак, Мікуліч, Куляшоў, Шынклер, Агняцвет, Піваварaў—сваімі апошнімі кнігамі і асобнымі творамі моцна пашлі наперад у сэнсе ідэйнага і мастацкага росту. Для прыклада можна прывесці тав. Мікуліча, кнігі якога ў парадку дапамогі пісьменніку былі прадметам творчай дыскусіі на перадапошнім пле-

нуме Саюза. У гэтым годзе тав. Мікуліч, пабыўшы з групаю пісьменнікаў у Грузіі, напісаў невялікую аповесць «Дружба», якая, не гледзячы на некаторую спешку, з'яўляецца каштоўным укладам у беларускую літаратуру, як па сваіх мастацкіх якасцях, так і па тым, што з'яўляецца першай кніжкай, якая знаёміць беларускага чытача з жыццём брацкіх нам народаў Саюза, праз мастацкае слова. Гэтай-жа справе служылі вершы Хведаровіча і нарысы таленавітага празаіка Самуйлёнка.

Тав. Самуйлёнак гады два таму назад увайшоў у літаратуру сваёй кніжкаю «Тэорыя Каленбрун». Зараз гэтая аповесць перароблена тав. Самуйлёнкам у п'есу «Сержант Дроб», якая з поспехам ідзе ў 3-м Дзяржтэатры, як юбілейная п'еса.

У «Полымі Рэволюцыі» і ў «ЛІМ'е за апошні год надрукаваны вершы і апавяданні пачынаючых пісьменнікаў: В. Кандрацені, М. Гваздова, Краўчанкі, Е. Садоўскага, А. Стаховіча, М. Седнева—прозвішчы якіх ўпершыню ўбачылі старонкі тоўстага часопіса, а таксама апавяданні і вершы трох маладых рускіх пісьменнікаў: Чэлюскінца Міронава, В. Глазырына і Ал. Шарапава. З'яўленне гэтых таварышоў у тоўстым часопісу пры вельмі строгім адборы матэрыяла з'яўляецца паказчыкам творчага росту нашай літаратурнай моладзі. Сведчаннем велізарнай цягі да літаратуры, да літаратурнай творчасці моладзі, з'яўляюцца такія зборнікі, як «Аднагодкі», «Атака» і інш. У «Аднагодках» друкаваліся 18 пачынаючых пісьменнікаў, сярод якіх ёсць, безумоўна, таленавітыя людзі.

## ДРАМАТУРГІЯ

Беларуская дакастрычніцкая драматургія служыла тым-жа класавым мэтам, што і ўся буржуазная літаратура ў цэлым: гэта была нацыяналістычная, невысокай літаратурнай якасці агітка за нацдэмаўскія ідэалы. Гэтыя-ж ідэалы ў больш ці менш замаскаваным выглядзе нацдэмы спрабавалі культываваць і на совецкай сцэне. («Вір», «Апраметныя», «Тутэйшыя», «Кастусь Каліноўскі»). Маладая пролетарская драматургія пачала змагацца супроць нацыяналістычнай драматургіі яшчэ тады, калі ля кіраўніцтва тэатрамі стаялі нацдэмы. У барацьбе за пастаноўку перакладаў пролетарскіх п'ес, перакладзеных з рускай і іншых моў, супроць чаго асабліва ярка супярэчылі нацдэмы (прыгадаем тэатральную дыскусію 1927 г.), за пастаноўку першых буйных твораў пролетарскай драматургіі—«Гуты» Рыгора Кобеца і «Качагары» Ільі Гурскага перамагла пролетарская драматургія і нацыяналісты былі выкінуты з тэатраў.

Абедзве п'есы прайшлі з велізарным поспехам, выклікаючы шалёную злосць ворагаў. Следам за гэтымі п'есамі былі пастаўлены «Мост» Рамановіча, «Міжбур'е» і «Контратака» Курдзіна. Рабочая тэматыка, вобразы рабочых моцна заваявалі беларускую сцэну, чаго нельга, на жаль, сказаць пра ўсю нашу літаратуру. Была пастаўлена п'еса «Напор» Александровіча. Лепшыя п'есы Совецкага Саюза былі перакладзены на беларускую мову і пастаўлены ў нашых тэатрах. Перад з'ездам пісьменнікаў мы мелі дзве добрыя пастаноўкі: «Бацькаўшчына» Кузьмы Чорнага і «Канец дружбы» Кандрата Крапівы.

Абедзве гэтыя пастаноўкі наша крытыка, а яшчэ больш гледачы, прынялі вельмі прыхільна, ацанілі—у першай высокі палітычны ўзровень, удалую тыпізацыю шэрагу герояў і абстаноўкі, у другой—глыбокую ідэйную насычанасць і паказ з'яў, вельмі характэрных для Беларусі, спробу паказаць унутрыпартыйнае жыццё, не гаворачы ўжо пра другія мастацкія вартасці гэтых п'ес. Пасля з'езда мы мелі дзесяць новых пастановак. З кінодраматургіі варта паказаць на кінокарціну «Новая бацькаўшчына» па сцэнарыю Вольнага і сцэнарый Іл. Барашкі «Дняпро ў агні». Цяпер шэраг пісьменнікаў працуе над новымі п'есамі да 20-годдзя савецкай улады.

Якія праблемы распрацоўвала наша драматургія апошняга перыяду?

Перш за ўсё—праблему станаўлення новага чалавека. Гэтую задачу спрабавалі вырашаць амаль усе: паказваючы жорсткую схватку з ворагамі на франтах грамадзянскай вайны і пасля такую-ж схватку ў часе ліквідацыі кулацтва (Зарэцкі «Сымон Карызна», Глазырын «Фронт» і «Апраўданая трагедыя», Кавальскі «Сям'я Варанцоў», Гурскі «Маці» і інш.).

Часам на дапамогу заклікаліся больш аддаленыя гістарычныя схваткі («Велікадушша») або схваткі з варожым акружэннем пры капіталізме («Сімфонія гневу»). Часамі-ж пісьменнік паказваў больш будзённую, але жорсткую барацьбу з рэшткамі капіталізма («Напор», «Контратака», «Скатабоец Берман»). Героі, на паказе якіх нашы пісьменнікі дэманстравалі нараджэнне новага чалавека, былі рознастайныя: хворы лятуценнік Лакота, дэмабілізованы чырвонаармеец, яго любімая Насця, актывісты па арганізацыі калгаса (Зарэцкі), інтэлігенцкая моладзь—хоць часам з рабочым «пашпартам» (Глазырын), саматужнік па нутру—сумленны работнік, які перамагае уплыў мяшчанства (Галаўчынер). Бадай што ніколі не браўся звычайны рабочы, якому не трэба «перабудоўвацца» і якому трэба проста расці ўгору. Абсалютна недастатковае веданне жыцця рабочых, а з другога боку, вялікае веданне жыцця інтэлігенцыі, якая «перабудоўваецца», накладалі свой адбітак на вобраз станоўчага героя. Пры гэтым вельмі часта станоўчы герой не быў носьбітам вялікай ідэі (выключэннем з'яўляецца Гушка Кузьмы Чорнага), таму якія-б ён ўчынкі не рабіў, як бы тонка не абмалёўваў яго аўтар, вобраз станоўчага героя, як правіла, быў цмяны. Прыніжае яго і тое, што станоўчы герой у нашых п'есах больш рэзанёрствуе, разважае, а не дзейнічае.

У барацьбе супроць малазначымасці ідэйнага зместу станоўчага героя былі спробы браць так-званыя «вечныя праблемы» любові, рэўнасці, сяброўства, бацькаўшчыны, здрады і інш. Калі драматург падыходзіў да гэтай справы як мастак-стваральнік, а не як «закройщик из Торжка», здольны толькі пераніцаваць старую вопратку,—п'еса мела поспех («Канец дружбы» Крапівы, «Бацькаўшчына» К. Чорнага). На жаль, часцей за ўсё ўтакіх выпадках выходзіла наадварот: тав. М.Ільінскі, які напісаў нядрэнныя п'есы «Начальнік», «Нехацімец», паднімаючы тэму рэўнасці, даў вобраз «пераніцоўкі» старых ісцін і з п'есай праваліўся. У той-жа час увагу драматургаў

не прыцягвалі вялікія новыя якасці душы совецкага грамадзяніна, пра якога гаварыў П. П. Постышэў. Другая праблема, якая хвалюе нашу драматургію—гэта паказ абароны краіны, паказ неабходнасці быць гатовым да абароны. Гэта праблема ўкліноўваецца амаль ва ўсе драматургічныя творы беларускае літаратуры.

Трэцяя асаблівасць беларускай драматургіі—гэта тэматыка, звязаная з пытаннямі класавай пільнасці. Між іншым, гэта не толькі асаблівасць драматургіі. Гэта асаблівасць усёй літаратуры: вобраз класавага ворага, яго пошукаў-махінацый, самых нечаканых і нахабных—адзін з цэнтральных вобразаў нашай літаратуры—у сілу асабавострых класавых сутычак на Беларусі.

Я не хацеў-бы, каб мяне зразумелі так, быццам беларуская драматургія стаіць на нізкім узроўні. І «Канец дружбы», і «Бацькаўшчына», і «Велікадушша», і «Сімфонія Гневу»—гэта добрыя п'есы, добрыя спектаклі. Але вучыцца, узнімаць якасць і даганяць драматургію братніх рэспублік, якая пашла наперад—наша неадкладная задача.

## ПРА ФАЛЬКЛОР

На працягу шэрагу гадоў у працы Наркомасветы і Галоўмастацтва мы мелі яўную недаацэнку народнае творчасці, у выніку чаго былі ў загоне хор народных песень, збіранне гэтых песень, ансамблі народных інструментаў, народныя танцы і г. д. Трэба шчыра і чыстасардэчна сказаць, што і цяпер, не гледзячы на спецыяльныя ўказанні ЦК КП(б)Б, патрэбнага пералому ў органах Наркомасветы і БелАН мы не маем. Там не прыцягваюцца да збірання фальклору комсамольцы, настаўнікі, рабселькоры, раённыя газеты. А між тым народ стварае такія казкі, як казка пра Леніна, як «Крынічкажывічка», «Каваль», стварае новыя песні і частушкі:

Ой, з-за лесу, лесу цёмнага
Выплывалі хмары чорныя.
Каля лесу, лесу шумнага
Сабіраліся хлопцы моцныя.
Яны гуртам задумляліся.
Яны разам умаўляліся
Ўладу панскую разбіць,
Долю лепшую здабыць.

Песні пра тав. Сталіна:

А на небе многа зорак
Адна зорка ўсіх ярчэй
Сталін кажа, што ў калгасе
Жыццё будзе нам лягчэй.
Прыедзь, Сталін,—паглядзі—
Нам у калгасе добра жыць.
У калгасе мы жывем
Толькі прыпяваем—
У час сеем, добра жнем.
Свае дабро маем
СССР адна краіна,
Две цара не маецца,
Новай уладай пролетарскай
Моц яе трымаецца.

А між тым, якім жа фальклорам карыстаюцца пісьменнікі? Старымі зборнікамі Шэйна, Раманава, Сержпутоўскага (чаму, між іншым, не выбраць адтуль лепшыя і каштоўныя народныя казкі і легенды і не перавыдаць іх), песнямі, казкамі, прыказкамі, якія слухалі ў сваім дзяцінстве альбо ў час нядоўгіх падарожжаў па Беларусі па пуцёўках партыйных і совецкіх органаў па кампаніях. Які магутны паток новых слоў і новых вобразаў мог-бы ўліцца ў літаратурную мову, калі-б паставіць сур'ёзна зараз гэтую справу. І тут я пераходжу да пытанняў мовы.

## ПЫТАННІ МОВЫ

Літаратурная беларуская мова да Кастрычніка складалася досыць саматужным чынам, без адзінай граматыкі і арфаграфіі. Кожны пісьменнік лічыў мажлівым пісаць на мове сваей маткі, гэта значыць на дыялекце воласці, у лепшым выпадку павету—двух. Тыя-ж словы, якіх не хапала ў пісьменніка (хоць у мове яны і былі) ён дапаўняў альбо рускімі (калі ён выхоўваўся на рускай літаратурнай мове), як Максім Багдановіч, Каганец, альбо польскай (калі гэтая культура была бліжэй да яго, як Дунін-Марцінкевіч, Багушэвіч.

Літаратурная мова больш або менш усталявалася з узмужаласцю паэзіі Купалы і Коласа, па мове якіх сталі раўняцца больш маладыя пісьменнікі таго часу, аднак, дыялектызм у мове быў настолькі моцным, што да апошніх твораў можна было смела сказаць, у якой мясцовасці нарадзіўся пісьменнік. Па-сур'ёзнаму сталі развівацца літаратурная мова разам з літаратурай толькі пасля Кастрычніка. На жаль, пытанні мовы і мовазнаўства доўгі час знаходзіліся ў руках нацыяналістаў. Яны праводзілі сваю лінію, якая заключалася ў 3-х прынцыпах:

1. Як мага далей ад рускай мовы, каб не было ніводнага слова падобнага на рускае, нават такое, якое ўласціва жывой народнай мове (напрыклад слова «разговор», «говорили» замянялася абавязкова—«размова», «размаўлялі», «зюкалі», «прастарэкалі» і інш.

2. Совецізмы-ж і словы аднолькавых для беларускай і рускай мовы замяняліся архаізмамі і неолагізмамі, створанымі па тыпу архаічных слоў, пры гэтым, палітычныя тэрміны перакладалі такімі неалагізмамі, якія-б дыскрэдытавалі самыя тэрміны. Вось прыклад,— «элегия» перакладалася неалагізмам,—«прычытанне», «эрмітаж», словам «клецъ», «энтузиазм» словам «захват», «демократия и демократизм»—перакладаліся адным словам «народніцтва», «пролетарий»—«бядота», «убоства», «коммунизм»—«грамадзейства», «интернационал»—«міжнародня», «тормаз»—«таркач» і інш. і інш.

3. Рэштку слоў, якіх не хапала, браць альбо з польскай альбо адшукваць такія дыялектызмы, якія-б ні ў якім выпадку не нагадвалі сабою рускіх слоў, маючых тое-ж значэнне. Напрыклад: гарнизон— залога, казарма — кашары, брыж — гзымс, литейный завод — гісэрыя і інш.

Палітычная падаплёка гэтых прынцыпаў зразумела без каментарыяў.

Такім чынам нацдэмы да 1929 года шукалі беларускай мовы, як толькі маглі у слоўніках, у тэхнічнай тэрмікалогіі, у літаратуры. Пасля разгрома нацыяналістаў, пасля выкрыцця іх «прынцыпаў», зусім зразумела, што пачалося папраўленне мовы і развіццё ў бок збліжэння з сучаснай народнай мовай, узбагачонай назвамі рэчаў і разуменняў, якія прынеслі ў народ соцыялістычная індустрыялізацыя і калгасны лад. І калі аказалася, што шэраг правіл старога правапісу з'яўляецца тормазам у развіцці мовы, урадавым дэкрэтам быў уведзен новы правапіс.

На фронце мовы ў нас былі гарачыя дыскусіі. Мы атакавалі мову Віцбіча да тых пор, пакуль не дасягнулі таго, што ён выкінуў з сваёй мовы весь архаічны і палонафільскі хлам, які ён набраў з папсутых нацдэмамі слоўнікаў, не ведаючы жывой беларускай мовы. Праўда, разам з атакаю на мову, Віцбічу далі і за палітычныя памылкі ў змесце яго твораў. Трэба сказаць, што крытыка памылак Віцбіча не прайшла для яго дарма. І ён зараз даў шэраг апавяданняў высокамастацкай якасці, правільных і патрэбных нашаму чытачу.

Гэтай-жа крытыцы падпала мова і сінтакс Хадыкі, творы якога былі абсалютна не зразумелы масам. Зноў такі разам з крытыкай мовы, Хадыку далі і за змест яго твораў. І атрымалася вельмі добра і для Хадыкі і для яго чытачоў.

Нацыяналістычная небяспека ў пытаннях мовы як і ва ўсёй літаратуры, безумоўна, і зараз застаецца галоўнай небяспекай. Аднак, мы не павінны забывацца пра новую тактыку нацыяналістаў: яны кінуліся ў другі бок—яны пачалі выкідваць з мовы нават такія бытавыя словы, як «снеданне», «рушнік», «хата», і г. д.

Зразумела, тут папрацавалі не толькі вульгарызатары, але і звычайныя абыватэлі, якія «на ўсякі выпадак» замянялі незразумелыя для іх беларускія словы («як бы чаго не вышла»).

ЦК КП(б)Б катэгарычна забараніў такія безадказныя адносіны да мовы і прыняў шэраг захадаў, якія забяспечылі-б развіццё літаратурнай мовы. Вітаючы мудрае ўказанне ЦК партыі, пісьменнікі абавязаны і самі падцягнуцца, а то ў апошні час мы маем шэраг прыкладаў дрэнных адносін да слоў, да фразы з боку пісьменнікаў. Часта наша мова занадта сухая і бедная, і як часта мы не разумеем, што простасць мовы павінна ісці не за кошт беднасці яе, а за кошт багацця. У гэтым сэнсе прыкладам можа быць Янка Купала, у якога вельмі простая і вельмі багатая мова.

## ПРА КРЫТЫКУ

Разам з ростам літаратуры расце і наша крытыка, хварэючы на тыя-ж хваробы і недахопы, як і ўся наша літаратура, і разам з ёй паднімаючыся на новую, больш высокую ступень. Мы ў значнай ступені зжылі вульгарнае соцыялагізаванне (хоць і не да канца), у значнай ступені наблізілі нашу крытыку да канкрэтнага разгляду твораў (часам нават праз меру канкрэтнага). Безумоўна выраслі нашы маладыя крытычныя кадры (Куніцкі, Шарахоўскі, Галубок і інш.). Вырас тав. Модэль па лініі тэатральнай крытыкі. Варта ад-

значыць асаблівую заслугу т. Браштэйна ў справе ўзняцця ўзроўню нашае крытыкі. Беларуская крытыка апошняга году была накіравана, галоўным чынам, па двух лініях. Па-першае, на выкрыццё трацкісцка-зіноўеўскай кантрабанды (у сувязі са справай Дунца), больш глыбокае выкрыццё нацыяналістычных рэцыдываў літаратурных канцэпцый, у сувязі з шэрагам сігналаў пра нацыяналістычныя рэцыдывы іменна на фронце крытыкі. Па-другое, на распрацоўку літаратурных праблем, якія дапамаглі-б чытачу больш глыбока разабрацца ў беларускай літаратуры, у тым ліку і ў літаратурнай спадчыне.

Мы маем сур'ёзныя сігналы ў галіне крытыкі, якія ставяць перад крытычным фронтам задачу вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца, узмацняючы сваю палітычную пільнасць. Першы сігнал—справа Дунца. Трацкісцкая кантрабанда, захвальванне трацкісцкіх кніг Дунцом, доўгі час асталіся не выкрытымі, дзякуючы прытупленню класавай пільнасці, нізкаму ўзроўню, сямейнасці і кругавой паруцы.

Другі сігнал—гэта гісторыя з Бэндэ. Выпадковасць, не навуковасць яго крытыкі да апошняга часу і грубае вульгарызатарства не патрабуюць доказаў (пры гэтым яшчэ раней былі выкрыты трацкісцкія памылкі Бэндэ).

У чым-жа сутнасць урокаў Бэндэ і як мог пратрымацца на паверхні літаратуры такі крытык такі доўгі час, прычым яго крытычныя памылкі цалкам не раззброены ні ім, ні крытыкай і на сёння. У чым-жа тут справа? Справа тут перш за ўсё ў заціску самакрытыкі, які меў месца ў часы Бэндэ, і ў манаполіі на крытыку, якую ён упарта праводзіў, не выпускаючы на шырокую дарогу ні аднаго з маладых крытыкаў. Без манаполіі на «артадаксальную» крытыку бэндэўская крытыка зжыла-б сябе значна раней. Сутнасць бэндэўскай крытыкі заключаецца ў тым, што аналіз твораў падменьваўся сухой схемай. Творы вымерваліся вокладкай ад «Капітала», а не самім «Капіталам». Усё, што не змяшчалася ў гэтай схеме, абвяшчалася ерэссю і адкідвалася. Глыбіня крытыкі падменьвалася бойкасцю, маркса-ленінская тэорыя—цытатамі. Выратоўвала Бэндэ толькі тое, што ён часцей за ўсё браў творы выяўленых партыяй ворагаў, тут асаблівага аналізу не патрабавалася (ён ужо быў зроблен да крытыка).

Трэці сігнал—справа Вольскага. Тав. Вольскі выступаў з шэрагам дакладаў супроць нацдэмаўшчыны, ні аднаго разу не сказаўшы пра свае сугуба нацыяналістычныя памылкі, зробленыя ім у пачатку літаратурнай дзейнасці. Без тэарэтычных «азоў» ён пускаецца ў філалагічныя доследы і падносіць крышанку з розных буржуазных тэорый. Гэтая крышанка была вельмі выгоднай нацдэмам з «Узвышша» і яе друкавалі з падкрэсленым смакаваннем. Але хай гэтыя безгрунтоўныя прэтэнзіі на навуковасць маглі падвесці Вольскага на першым этапе яго творчасці. Чаму-ж Вольскі потым не раскрытыкаваў сваіх памылак? Тав. Вольскі тлумачыць гэта інтэлігенцкай сарамяжлівасцю.

Чаму не былі выкрыты памылкі Вольскага кім-небудзь другім апрача яго? Другога адказу, як той, што тав. Вольскі ўсыпіў нашу

пільнасць, я не магу знайсці (вядома, гэта не зусім бліскучы атэстат нашай пільнасці).

Пасля мы мелі вядомы артыкул А. Некрашэвіча, які паставіў нацыянальную форму (нацыянальную тэматыку, нацыянальныя кадры) «во главу угла» усёй кінаработы на шкоду зместу гэтай работы, гіпербалізуючы значэнне нацыянальнага элементу ў кіно. Пад канец году быў змешчан пра творчасць Бядулі нацдэмаўскі артыкул невядомага аўтара ў «Литературном Ленинграде».

Якія вывады з гэтых сігналаў у галіне крытыкі? Першы вывад— вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца, вывучаць маркса-ленінскую тэорыю, без якой не можа быць крытыкі. Па-другое,—самым сур'ёзным чынам ставіцца да ўсяе работы, адчуваючы адказнасць перад партыяй, перад чытачом за літаратурную справу. Нам патрэбна ўпартая, удумлівая, сур'ёзная работа.

Асабліва хочацца адзначыць крытычныя работы саміх пісьменнікаў да нашага пленуму. Вось работа К. Чорнага пра С. Знаёмага, якая глыбока аналізуе мову пісьменніка, шляхі развіцця гэтае мовы і крыніцы яе. Вось работы Пятруся Глебкі пра Куляшова, якая правільна арыентуе маладога паэта ў пытанні рэльефнасці вобраза. Вось сур'ёзная крытычная работа К. Крапівы пра творчасць Цішкі Гартнага. Не гледзячы на востры тон і жорсткую крытыку самых дробных памылак і недахопаў у гэтай творчасці,—гэтая крытыка насычана жаданнем дапамагчы чалавеку канчаткова перабудавацца. Глыбокі аналіз твораў, разуменне спецыфікі літаратуры, не трафарэтны выклад сваіх думак, свежасць не толькі формы выражэння, але і саміх мыслей,—гэта тое, што павеяла свежым здаровым ветрам у крытычных работах нашых двух апошніх год. Ідэалам, якога варта было-б дасягнуць у 1936 г., было-б такое становішча, калі-б не знайшлося-б ні аднаго пісьменніка, што не прымаў-бы ўдзелу ў крытычных работах. Думаю, што мы гэтага дасягнем.

## ПРА БРАТНІЯ ЛІТАРАТУРЫ

У братняй сям'і літаратур БССР, дапамагаючы адзін аднаму, супольна змагаючыся за ленінскую нацыянальную палітыку і супроць ворагаў яе—нацыяналістаў усіх колераў, супольна змагаючыся за высокую якасць літаратуры, растуць і развіваюцца яўрэйская, польская, літоўская і руская літаратуры. Мы маем, безумоўна, бурны рост яўрэйскай і польскай літаратуры, некаторую стабілізацыю складу рускіх пісьменнікаў і ўпэўнены ход наперад шмат каго з іх (Шапавалава, Глазырына, Шарапава, Крапачова). Пра рост В. Кавальскага я ўжо сказаў, успамінаючы яго п'есу. Пра гэта з яшчэ большай падставай можна было гаварыць, аналізуючы два зборнікі яго вершаў, якія вышлі ў гэтым годзе.

У гэтым годзе трэба вітаць Ізю Харыка не толькі з 15-гадовым юбілеем творчасці, але з добрай паэмай «На чужым піру», у якой з велізарнай сілай, выляплен вобраз мястэчковага музыканта, зацкаванага кагальным асяроддзем. Уся наша крытыка згадзілася на тым, што гэта паэма па сваім мастацкім якасцям з'яўляецца буйнейшым

дасягненнем Ізі Харыка і па вобразах—працягвае добрую традыцыю тав. Харыка спалучаць глыбокае асвятленне народнай творчасці і класічнай спадчыны яўрэйскай літаратуры з творчым перамаганнем кананізаваных вобразаў, рытмаў, з узрываннем адвечнай руціны і клерыкальна-кагальнага накіпу, пры адначасовым максімальным набліжэнні сваіх твораў да народу.

Гэтак сама можна вітаць тав. Кульбака, як з заканчэннем другога тома «Залманяне» (з усіх шматтомнікаў—ён першы выканаў сваю запазычанасць перад чытачом) так і з п'есай.

Тав. Тэйф у гэтым годзе выдаў кнігу вершаў «Пралетарка—сястра мая», паэму пра хлопчыка, які выратаваў цаною ўласнага жыцця атрад чырвонаармейцаў.

Буйным дасягненнем яўрэйскай савецкай лірыкі з'яўляецца апошняя кніга вершаў З. Аксельрода.

Варта асобна адзначыць, як вялікую заслугу—пераклад вершаў Янкі Купалы т. Аксельродам (выдана цэлая кніга да юбілея).

Таксама цікаўным з'явішчам у літаратурным жыцці быў «Агітцягнік» тав. Доўгапольскага, як вопыт аб'яднаць нарысавыя накіды сваіх уражанняў аб перабудоўваючайся вёсцы з фабульным расказам. Цікавая паэтычная работа паэта Каменецкага, які насычае сваю страфу гераічнай рамантыкай.

## АБАРОНА КРАІНЫ І БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

Нам—літаратуры пагранічнай рэспублікі можна паставіць пытанне: «а ці не забылі вы пра абарону краіны, абарону Савецкага Саюза, заходнім фарпостам якога з'яўляецца Савецкая Беларусь?» Мы маем права адказаць: «не, не забылі». Я ўжо неяк прыгадваў вершы П. Броўкі, які адкрыў свой каштоўны зборнік вершаў вершам «Радзіме»:

Мы прасторы твае
Сваім сэрцам абнімем,
За граніцы наўсцяж
Мы адкажам сваёй галавой.
Гэта наша зямля,
Гэта наша радзіма,
Дзень, высокі, як сонца,
Шугае над ёй.

Гэтую адказнасць за моц «браніраваных граніц» (Александровіч) асвядомліваюць самі пісьменнікі. Я прыводзіў вам прыклад з «Дрыгвы» Якуба Коласа. Можна прывесці такія прыклады з «Канца дружбы» К. Крапівы, з «Сям'і Варанцоў» Кавальскага, з апавяданняў Лынькова, з апавяданняў І. Гурскага («Партбілет»), а з паэзіі іх прывядзе тав. Александровіч—у прыватнасці, напэўна, прыгадае вельмі ўдалую паэму П. Броўкі «Праз горы і стэп». Усе гэтыя творы (а пералік іх можна множыць і множыць) уваскрашаюць перад чытачом слаўныя баявыя традыцыі Чырвонай арміі, загартоўваюць дух і волю да будучай перамогі. Мы-ж ведаем, што значыць гітлераўскі фашызм для небяспекі новае вайны, мы ведаем таксама і тое, што нашы мілыя суседзі з Захаду палезуць к чорту

ў зубы, прададуць за тры грашы апошнія рэшткі дзяржаўнасці іх «любімай бацькаўшчыны», абы толькі атрымаць гарантыю ад пролетарскай рэволюцыі ў сваёй краіне. Мы гэта добра ведаем. Таму абарона краіны—адна з генеральных тэм нашае літаратуры.

За два гады ў беларускай літаратуры з'явіліся 24 кніжкі з ваеннай тэматыкай, 5 альманахаў «Атака», два альманахі «Байцы», «Бронированные рубежи» Кручкина, зборнік «Баявыя будні», кнігі вершаў «Дзяржынцы» і «Большэвікі граніцы»—Шапавалава, зборнік вершаў Шарапава «Маршавы крок» і «Дзве сустрэчы», Хадыкі «Чырвонаармейская лірыка», Лімаоўскага—кніга апавяданняў пра Чырвоную армію, «Разведчык Коля» Глазырына, «Скрыпка і ордэн» Садоўскага.

Я думаю, што абмяжуюся толькі ўказаннем, што сярод названых мною пісьменнікаў абсалютная большасць—гэта пісьменнікі Чырвонай арміі, выхаваныя нашай арганізацыяй і што сярод названых мною кніг ёсць шэраг апавяданняў, вершаў, высокіх па сваёй мастацкай якасці.

Асноўны змест вершаў і апавяданняў маладых чырвонаармейскіх пісьменнікаў—гэта жыццё, быт, вучоба Чырвонай арміі, яе героіка (успомніце хаця-б «Пра геройства і валёнкі» Шапавалава, Іваньковіча—«Баллада о ручье», Шарапава «Баллада о двух товарищах».

Акрамя гэтага за апошнія два гады досыць грунтоўна распрацоўваліся тэмы, звязаныя з імперыялістычнай вайной 1914—18 г.г. Тут трэба назваць «На шляхах волі» Якуба Коласа, «Набліжэнне» З. Бядулі, «1914» П. Броўкі, «Герой нацыі» Эдуарда Самуйлёнка—усе гэтыя творы мелі сваёй мэтай не толькі паказаць жах вайны, але і галоўным чынам паказаць яе імперыялістычны характар, паказаць, як салдат царскай арміі прыходзіў да вываду, што адзіным выйсцем з імперыялістычнай вайны можа быць толькі рэволюцыйнае выйсце. Нажаль, паказ таго, як нямецкі салдат на вопыце нямецкай арміі прыходзіць да таго-ж вываду—покуль што адсутнічае, а паказаць гэта трэба абавязкова.

Я сказаў-бы няпраўду, калі-б сцвярджаў, што тэматыцы абароны краіны мы аддаем дастаткова ўвагі. Гэтага, на жаль, яшчэ няма ў такой меры, у якой нам гэта патрэбна. У нас пад рукамі багацейшы матэрыял пра ахову нашай граніцы,—гераічныя прыклады гэтае аховы давалі і даюць нам нашы пагранічнікі і калгаснікі. У нас багацейшыя прыклады авалодання тэхнікай. У нас невычэрпальная крыніца гераічнага мінулага Чырвонай арміі. Мы павінны даць вобраз селяніна з Глівена, які правёў праз Бярэзіну першы полк Чырвонай арміі пад Барысавым і тым самым дапамог разбіць ворага і ўзяць «беларускі перакоп», затым рушыць усе сілы на Варшаву. Мы павінны даць вобраз нашага беларускага Чапаева—тав. Салаўя—комунара, арганізатара партызанскага атрада, які ўліўся потым у Чырвоную армію. Ён паклаў сваю адважную галаву на подступах да Варшавы. Шмат што ў нас пад рукамі, каб стварыць неўміручыя творы пра гераізм Чырвонай арміі. І мы павінны іх стварыць, усяляк узмацняючы любоў да радзімы, узмацняючы наш совецкі патрыятызм.

# ЛІТАРАТУРА ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ І СОВЕЦКАЯ ЛІТАРАТУРА ПРА ЗАХОДНЮЮ БЕЛАРУСЬ

Беларускія літаратары цікавяцца і думаюць пра тую частку беларускага народу, якая пакуль яшчэ знаходзіцца пад уладай польскага памешчыка і жандарма, цікавяцца заходняй беларускай літаратурай.

Заходняй Беларусі прысвечана «Пагранічная вясна» Александровіча з выключнымі вершамі, пра якія гаварылася вышэй.

Заходняй Беларусі прысвечан цэлы шэраг вершаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, наш майстра баек Кандрат Крапіва, «праехаўся па зубах» беларускіх нацдэмаў Заходняй Беларусі выключнай сатырай з «Фашыстоўскай падваротні», якая канчаецца напамінкам:

Ланцугі аднак-жа рвуцца:
Будзе пану, будзе й сучцы
Будуць суку біць, біць
Будзе з панам выць.

Ёсць вершы пра Заходнюю Беларусь у т. Глебкі і ў т. Чарота. Амаль нічога няма пра Заходнюю Беларусь у прозе акрамя З. Бядулі.

Заходняй Беларусі прысвечан фільм «Да заўтра», які паказвае лёс беларускай школы ў Заходняй Беларусі».

Што тычыцца Заходня-беларускіх пісьменнікаў, то іх вельмі мала. Становішча з літаратурай там намнога горшае, чым было ў Беларусі ў часы царызма. Мы не можам паскардзіцца на адсутнасць жадання пісаць, такое жаданне ёсць у многіх, у тым ліку ў моладзі, якая пабыла ў нацыянальна-вызваленчым руху. А вось пра мажлівасць пісаць мне расказваў адзін таварыш з Заходняй Беларусі: рабочага паэта пасадзілі ў турму за рэволюцыйныя вершы. Каб прымусіць яго кінуць пісаць—яму не перадаюць у турму ні кніг, ні алоўка, ні паперы. І таварыш творыць свае вершы вусна, ціханька дэкламуе іх, каб добра запомніць, каб запісаць калі выйдзе праз 3—4 гады з турмы. У такіх умовах цяжка спадзявацца на разгортванне літаратуры.

Вось перад намі зборнічкі і апошнія вершы, надрукаваныя ў часопісі «Калоссе»—двух найбольш відных пісьменнікаў Заходняй Беларусі—паэтэсы Натальі Арсеневай і паэта Міхася Машары. Паэтэса Арсеньева—лірык, сымваліст тыпа Максіма Багдановіча, пад уплывам якога яна знаходзіцца.

Ні гуку пратэсту супроць нацыянальнага прыгнечання, якое так раз'юшана пануе ў Заходняй Беларусі ў Арсеньевай мы не знаходзім. Чаму-ж так бязрадасна, так замагільна гучаць вершы Арсеньевай, калі яна належыць да пануючай зграі? Справа, як відаць, у тым, што для беларускай буржуазіі і для паноў-акупантаў 1921-24 гг., калі пачынала пісаць Арсеньева, лепшых настрояў цяжка было чакаць: глеба пад іх нагамі ўсё яшчэ нагартавана, а вызваленчы рух не даваў ёй астыць. Вось чаму ў Арсеньевай выяўляецца імкненне да абсалютнага супакою да абыякавасці тупіка.

У 1922 г. Арсеньева пытала лёс:

Дык няўжо-б так жыццё нас зваліла,
Што не знойдзем хацення і сілы
Усміхнуцца праз слёзы і мы.

Вось яе вершы 1932 г.

„Нежывой зімовай ночкай
Сніцца мне ліпнёвы змрок,
А вясной пляла-б аховча
З лісцяў восені вянок.
Цемнатою, бездарожжам
Аднаго-б пайшла шукаць,
Што ніколі мець не можам,
Што ніхто не можа даць".
(„Калоссе" № 1—1935 г.).

Перапевы самой сябе, пустэча ў ідэйным сэнсе, рафінаваная гладкая пісаніна, за якой няма ніякага вобраза, самазадавальненне ўласнымі оханнямі і аханнямі сытае барыні—вось што ўяўляе сабою сімвалізм Арсеньевай.

Упадніцкая рамантыка Арсеньевай карысна і для пропаведзі непраціўлення злу (гл. верш «Калі людзі пакрыўдзяць цябе»).

Калі людзі пакрыўдзяць цябе,
Калі хочацца плакаць, маліцца,
Ты ідзі у цямнеючы лес,
Там ў цішы гэтак лёгка забыцца.
... І пачуеш у шэпце лісця:
„Ты даруй неразумным, як я"
Ўцяміш ты, што нядоля твая,
Гэта кропля у моры жыцця,
Дзе ўсюды і боль і бяда.

Арсеньева была-б вельмі здзіўлена, даведаўшыся, што частка сялян Заходняй Беларусі паслухала яе парады і калі паны крыўдзілі іх, яны ішлі ў «цямнеючы лес» і адтуль так «даравалі» панам, што ў яснавяльможным панстве настрой рабіўся абсалютна сугучным настрою самой Арсеньевай.

Вывесці Арсеньеву як паэтэсу з таго тупіка, у які яна трапіла, можа толькі сувязь з працоўным народам, калі такая сувязь для яе мажліва і сур'ёзны аналіз гісторыі сімвалізма ў беларускай літаратуры, хоць-бы на прыкладзе творчасці Янкі Купалы. Іншага выйсця няма, як-бы не лічыла сябе таленавітай Арсеньева.

Некалькі іншае становішча ў Міхася Машары—досыць здольнага паэта, былога настаўніка, які за ўдзел у масавых нацыянальна-культурных арганізацыях прасядзеў тры гады ў Лукішках. З турмы Машара, як відаць з яго твораў, вышаў раздвоеным (гл. яго вершы «З турэмных настроеў»). Яму хацелася на волю, у родныя мясцы, яму хацелася заснуць і бачыць у сне гэтую волю яшчэ ў турме. Ён марыць аб тым, як выйдзе з турмы:

А тады пайду на ўзгоркі,
Цалаваць шаўковы мох,
П'яны воляй—гаркну звонка:
„Пракляну цябе, астрог".

Яму не хацелася думаць пра вясну, пра сям'ю, але думкі самі лезуць. Вось прыгожы рэалістычны малюнак:

„Пэўна бацька дома,
Выехаў араць,
Вельмі стар, вядома,
Будзе гараваць,
І не раз дакорам
Гляне ў неба сінь,
Я-ж стары і хворы,
А дзе-ж сын, мой сын.
Успомніць бедны сына,
І змахне слязу“.

Тут няма соцыяльнага пратэсту, тут ёсць толькі індывідуальнае перажыванне—цяжкае і змрочнае. Яно гучыць у шэрагу лірычных вершаў пра прыроду, якія афарбаваны ў тыя-ж тоны безнадзейнасці адчаю, індывідуалізма.

А поруч з гэтым у Машары з'яўляецца і соцыяльны пратэст. Вось сцэнка звароту дамоў з турмы:

„Ты не ўчы мяне пакоры,
Я не за кратамі кінуў
... Хаты к вербам у трывозе
Прытуліліся, маўчаць.

— Працы, працы—па дарозе
Усцяж шагі чыесь скрыпяць.
Цяжка... нудна, нудна стала,
Так ратунку просіць хтось.
— Хлеба, дайце! Хлеба мала!!
Душыць вёску чорны госць“.

Паэт чуе часамі, чаго хоча селянін:

„Толькі б выгаднае лета
Ды... крыху болей зямлі“.

Праўда, тут няма яшчэ сапраўднага разумення, няма класавага асэнсавання самой грамады—паэт яшчэ не можа дакладна размежаваць дзе яго сябар, хоць ворагаў часткова бачыць: гэта скупнік, эксплаататар, у якога ён, у якасці рабочага трапае лён і які яго абважвае і абмервае. Гэта пан, у якога ён парабкам выводзіць «радкі» траплом, лапатаю, касою. Гэта нарэшце той, хто стаіць на кожным вуглу вуліцы ў час кірмашу, каб не збіралася моладзь—паліцэйскі.

Паэт не адчувае яшчэ, што яго вершы «Сенажаць», «На руні», «Аб працы», «Вайсковая хата», «У хаце», «Навала», «Кірмаш» «Мама, кінь ты плакаць», са зборніка «На сонечны бераг» значна вышэй па сваёй мастацкасці, рэчавасці вобразаў, па багаццю дэталяў, чым песня пра жабрака, які толькі і радуецца таму, што ён жабрачыць у Беларусі.

На гэтых прыкладах Машара мог бы ўпэўніцца, што яго слова пачынае гучэць там, дзе яно карысна абяздоленаму сялянству, працоўным наогул, а не там, дзе штучная патэтыка і рытарычнасць. («Наперад», і «На сонечны бераг», ці «На пералом», у «Калос-

сях». Там звычайная барабаннасць, пустазвонства, якое нікога не вабіць, нікога не палохае, а толькі паказвае, што за гучнай фразай без зместу хаваецца звычайны інтэлігенцкі страх, калі не што небудзь горшае. Характэрны ў гэтым выпадку верш пра страх перад турмой з зборніка «На прадвесні». А што можа быць і горшае—паказвае шэраг нацыяналістычных рэчаў Машары—«На смерць Кастуся Каліноўскага» і інш.

Пратэстуючы супроць нацыянальнага прыгнечання Машара, аднак, ідзе на моцным повадзе ў вядомых нацыяналістаў тыпа ксенза Станкевіча, ксенза Шутовіча і інш. А на гэтым повадзе можна прыйсці толькі ў цёплыя абдымкі дыфензівы і нікуды больш.

І калі Машара прапаноўвае сваёй дарагой спяваць, таму што

„Дарагая! Шлях наш—мука—
Усіх працоўных шлях цяжкі—
Ты вось бачыш гэты рукі
Ўжо насілі ланцугі...“

то нам здаецца, што тут не спяваць трэба, не супакойваць сябе песняю, не закалыхваць сябе вершам, а рваць усе і ўсякія ланцугі, якія скоўваюць не толькі рукі, але і думкі, і душу. Ці захоча зрабіць гэта Машара, пакуль што невядома і залежыць выключна ад яго. Ва ўсякім выпадку, Машара стаіць на раздарожжы, з якога лёгка пайсці ў любы бок—у творчасці яго закладзены мажлівасці і стаць сапраўдным прадстаўніком дэмакратычных мас вёскі, і стаць ярым ворагам народа, ворагам, які загіне бясслаўна, як лакей у лакеяў. Няхай выбірае. На жаль, зборнік «На прадвесні» 1935 г. покуль не дае мажлівасці сказаць, у які бок хіліцца Машара. Ці ў бок адзінага антыфашысцкага фронту, ці ў бок захавання адзінага фронта з беларускімі фашыстамі.

Акрамя Арсеньевай і Машары часта друкуецца нейкі Хв. Ільяшэвіч—абсалютная бяздарнасць, барабанны вершаплёт, вершы якога часам нагадваюць трызненне вар'ята.

У гэтым годзе пачаў выходзіць у Вільні часопіс «Калоссе». У часопісі змяшчаюцца часам творы асобных совецкіх пісьменнікаў і рэцэнзіі на кнігі, якія выходзяць у нас. Робіцца гэта беларускімі нацыяналістамі, вядома, не ад добрага жыцця. Яны вымушаны такім чынам адказваць на велізарную цікавасць з боку працоўных Заходняй Беларусі да Совецкага Саюза, совецкай літаратуры. Зусім зразумела, што іх інфармацыя тройчы пераблытаная і тройчы перахлушаная, але чытач стараецца прачытаць між радкоў тое, што хацела-б схаваць ад яго рэдакцыя. І яму гэта зусім удаецца, бо калі ён чытае, што прайшоўшы Ўсебеларускі з'езд пісьменнікаў, на якім удзельнічала звыш 150 пісьменнікаў, калі ён чытае, што Янка Купала атрымаў лёгкавую машыну ад урада БССР, а Машара тры гады турмы ад ураду Польшчы, калі ён чытае, што Белдзяржкіно выпусціла звыш 40 кінокарцін і г. д., то якія-б не былі каментарыі ад рэдакцыі, чытач будзе бачыць нашы поспехі, чытач будзе параўноўваць іх з беспрасветным нацыянальным і соцыяльным прыгнётам, які пануе ў Заходняй Беларусі.

І калі параўнаеш жыццё ў Заходняй Беларусі з нашым жыццём,

з нашымі дасягненнямі, з нашымі перспектывамі — яшчэ больш рэльефней стане найглыбейшае бяздонне паміж светам капіталізма і светам соцыялізма.

Якія прасторы, якія мажлівасці раскрыла перад літаратурай дыктатура пролетарыята і мудрае кіраўніцтва КП(б)Б. Заможнае, вясёлае, калгаснае жыццё ў вёсцы, такое-ж заможнае, такое-ж вясёлае, культурнае жыццё ў горадзе, адсутнасць чорных клопатаў пра заўтрашні дзень—усё гэта цвёрда аснована на сталёвым фундаменце нашых гаспадарчых поспехаў, на соцыялістычнай індустрыялізацыі, на механізацыі соцыялістычнага земляробства. Якога-ж больш фундамента жадаць для нашай жыццярадаснай літаратуры! Гэта не толькі сталёвы фундамент для стварэння помнікаў эпохі, гэта багацейшая глеба, якая здольна ўзрасціць найлепшыя мастацкія творы.

Краіна соцыялізма—гэта ёсць найбольш спрыяючае асяроддзе для росту індывідуальнай творчасці, накіраванай на карысць усяго калектыва, тым больш творчасці літаратурнай. Велізарная ўвага партыі і ўрада, велізарныя клопаты рабочых мас, шчырая любоў, якой гэтыя масы акаляюць пісьменніка, аж да жадання падсказаць—прыходзьце да нас, у нас выдатныя людзі, у нас сталёвы паток новых людзей, які не толькі ломіць старыя тэхнічныя нормы ў вытворчасці, але які пераплаўлівае чалавека, робіць яго членам комуністычнага грамадства.

Прыходзьце да нас, бярыце цэлыя кавалкі прыгожага жыцця, апрацоўвайце іх з такім-жа жаданнем, з такім-жа веданнем тэхнікі і з такой радасцю, як гэта робім мы, стаханаўцы—перадавыя людзі сталінскай эпохі. І тады, вы, таварышы, пісьменнікі створыце сапраўды цудоўныя творы. Чалавек зараз рашае ўсё. Увага да новага, узброеннага тэхнікай, асядлаўшага тэхніку чалавека стала сцягам эпохі. Увага да гэтага чалавека павінна стаць асноўным лозунгам літаратуры.

Стаханаўцы—людзі новага пакроя, людзі сталінскай закалкі, заваёўваючы новыя і новыя галіны ў вытворчасці, яны не могуць не з'явіцца і ў галіне літаратуры ў абодвых планах—і ў якасці герояў літаратуры, і ў якасці герояў—літаратараў.

Да выканання гэтай задачы—заўсёды аб'яднаная баявым пролетарскім інтэрнацыяналізмам, аб'яднаная дружбаю, пад сцягам партыі Леніна—Сталіна, будзе крочыць вялікая ўсесаюзная літаратура і ў яе шэрагах—яе родная дачка—Савецкая Беларуская літаратура.

---

*В. Кірпоцін*

# ВЯЛІКІ КРЫТЫК І ПУБЛІЦЫСТ

*(Да стагоддзя з дня нараджэння Н. А. Дабралюбава)*

5-га лютага споўнілася сто год з дня нараджэння Нікалая Аляксандравіча Дабралюбава. Совецкі Саюз святкуе юбілей Дабралюбава, як вялікага крытыка, які сваёю дзейнасцю прынёс вялікую карысць развіццю рускай літаратуры, як выдатнага рэволюцыйнага байца супроць самадзяржаўя, як аднаго з самых відных утапічных соцыялістаў Расіі.

Дабралюбаў нарадзіўся ў часе самай чорнай нікалаеўскай рэакцыі, шмат пазней пасля разгрому дэкабрыстаў і задоўга да пачатку масавай народнай рэволюцыйнай барацьбы. Ён рос у асяроддзі, якое акружала яго сцяною забабонаў, некрытычнага следвання рэлігіі і манархічнай ідэалогіі. Маладому Дабралюбаву трэба было перш за ўсё самому вызваліцца ад уціску сілы рэлігійнай і манархічнай ідэалогіі і дапамагчы іншым скінуць з сябе яе путы. Выхаваны на рэлігійных паданнях Дабралюбаў, аднак, робіцца матэрыялістам. Як і яго старэйшы сучаснік і друг Нікалай Гаўрылавіч Чэрнышэўскі, ён чэрпае з філасофіі Фейербаха, як з крыніцы свайго новага светапогляду. Фейербахаўская матэрыялістычная філасофія цікавіла Дабралюбава не як сістэма адцягненай навукі, а як абаснаванне практычнай дзейнасці. Дабралюбаў зразумеў брыдасць і рэакцыйнасць расійскага самадзяржаўя—і ён паўстаў супроць яго. Для таго, каб вызваліць сваіх сучаснікаў ад сляпой веры ў цара, яму неабходна было выбіць з галавы застарэлыя погляды рэлігіі—служкі самадзяржаўя. Матэрыялізм Дабралюбава меў рэволюцыйны характар. Матэрыялізм меў у сабе многа элементаў дыялектыкі.

Лепшыя артыкулы Дабралюбава прасякнуты ідэяй неабходнасці рэволюцыйна-дэмакратычнага пераўтварэння Расіі. Артыкул «Цёмнае царства» на аснове дэталёвага аналізу рада п'ес Астроўскага паказвае, што самадурства ў замаскварэцкай купецкай сям'і было адлюстраваннем самадурства ў краіне. Рэжым ў старазаветным, бескультурным купецкім быце быў падобны да дзяржаўнага і соцыяльнага рэжыму ўсёй краіны. Вывад, да якога прыводзіў Дабралюбаў свайго чытача, складаўся з таго, што неабходна не толькі ліквідаваць уладу самадура ў сям'і, але перш за ўсё трэба скінуць усерасійскага самадура—самадзяржаўнага цара. Дабралюбаў з-за цэнзурных умоў вымушан быў гаварыць ускосна, інасказаннямі, аналогіямі. Але літаратурнае

майстэрства Дабралюбава было такое вялікае, што ён і праз цэнзурныя рагаткі здолеў ясна і зразумела для чытачоў правесці сваю думку.

У адрозненне ад народнікаў, якія меркавалі, што рэволюцыю можа зрабіць нязначная жменька інтэлігентаў, Дабралюбаў лічыў, што самадзяржаўе можа загінуць толькі пад ударамі масавай народнай рэволюцыі. Ён не ідэалізаваў сялянства, але ён верыў у народ, у масы і менавіта ад іх чакаў рэволюцыйнага ператварэння расійскай сапраўднасці.

У выдатным сваім артыкуле «Прамень святла ў цёмным царстве» Дабралюбаў спалучае свае надзеі на рэволюцыйнае паўстанне народу з вобразам Кацярыны з «Гразы» Астроўскага. Кацярына не магла ўжыцца ў асяроддзі Кабанавых, Дзікіх. Яна абрала дабраахвотную смерць, як жыць у няволі. У гэтай рашучасці Кацярыны Дабралюбаў бачыў сімптом таго, што народ дайшоў да такога становішча, пры якім ён больш не мае намераў цярпець ярмо самадзяржаўя і эксплуатацыі. Ва ўчынку Кацярыны ён разумеў, што вызваленне народу не можа адбыцца без крыві, без ахвяр. Усю сілу свайго розуму і таленту ён прысвяціў таму, каб паказаць няўхільнасць, неабходнасць рэволюцыйнай барацьбы.

Рэволюцыйнасць Дабралюбава была паслядоўная і пазбаўлена апартуністычных хістанняў. Ён страсна ненавідзеў лібералаў за іх агіднае поўзанне перад самадзяржаўем. Дабралюбаў вёў з лібераламі непрымірымую барацьбу. У артыкуле «Што такое абломаўшчына» ён з дзіўнай для таго часу глыбінёю і майстэрствам ускрывае класавыя карэнні расійскага лібералізма. Змагацца за сваё вызваленне можа толькі той, хто ў ім кроўна зацікаўлен,—вось лейтматыў гэтага артыкула. Лібералы па сваім класавым становішчы з'яўляюцца памешчыкамі, памешчык зацікаўлен у эксплуатацыі сялянства, народу. Ад эксплуатацыі сялян чарпае ліберал-памешчык сродкі для свайго існавання. Таму рускі ліберал выступае ў ролі Абломава. Калі ён і даходзіць да слоў спачування к пакутам народу, дык ён ніколі не пацвердзіць прыгожых, душэўных слоў рэволюцыйнай справай. Адзінства рэволюцыйных пераконанняў і рэволюцыйнай практыкі можна шукаць толькі ў сапраўдных дэмакратаў, у самым прыгнечаным народзе.

Дабралюбаў жыў у тую эпоху, калі, як указаў В. І. Ленін, дэмакратызм і соцыялізм яшчэ спалучаліся разам. Дабралюбаў быў не толькі вялікім дэмакратам, але і паслядоўным соцыялістам. Соцыялізм Дабралюбава таксама выгодна адрознівае яго ад народнікаў, якія соцыялізм разумелі толькі як ідэалізаванне ўласніцкай гаспадаркі. Дабралюбаў-жа хоць і быў яшчэ утапічным соцыялістам, усё-ж разумеў, што соцыялізм можа быць пабудаваны толькі на аснове буйнай грамаджанай гаспадаркі. Як соцыяліст Дабралюбаў крытыкаваў не толькі прыгонніцкія адносіны ў краіне, але і капіталістычныя парадкі, пры гэтым не толькі тыя, якія зараджаліся ў нас у Расіі, але і тыя, якія існавалі ў капіталістычнай Заходняй Еўропе. У гэтых адносінах вельмі выдатны яго публіцыстычны артыкул «Ад Лейпцыга да Масквы».

Філасофскія і грамадскія пераконанні Дабралюбава паслужылі за аснову яго крытычнай дзейнасці. Дабралюбаў стаяў на пункце по-

гляду грамадскага служэння мастацтва. З тэорыяй «чыстага мастацтва» ён вёў непрымірымую і бязлітасную вайну. Тэорыя «мастацтва для мастацтва» была праграмай ліберальна-рэакцыйнага лагера. Вядучы паслядоўную барацьбу з лібералізмам, ён праследваў яго ва ўсіх яго праявах, у тым ліку і ў тэорыі літаратуры і літаратурнай крытыцы.

Следам за Бялінскім апошняга перыяду яго дзейнасці і разам з Чэрнышэўскім Дабралюбаў лічыў неабходным, каб мастацкая літаратура служыла рэволюцыі. Аднак як крытык Дабралюбаў не быў дактрынерам. Ён не адмятаў выдатных твораў сучаснай для яго літаратуры толькі за тое, што іх аўтары не падзялялі яго палітычныя перакананні. Наадварот, з найвялікшым майстэрствам ён здолеў прымусіць служыць вызваленчаму руху творы такіх пісьменнікаў, як Астроўскі, Ганчароў, Тургенеў,—пісьменнікаў, якія ніколі не былі рэволюцыянерамі. І ў гэтым не было ніякай нацяжкі. Сапраўдны твор мастацтва заўсёды ў нейкай меры адлюстроўвае важныя змест сапраўднасці.

Аналізуючы сэнс сапраўднасці так, як яна была паказана ў цікавым для яго творы літаратуры, Дабралюбаў умеў з пераканаўчай настойлівасцю зрабіць з яго рэволюцыйныя вывады. Але ў той-жа час Дабралюбаў разумеў, што самым выгодным для развіцця літаратуры і мастацтва з'яўляецца спалучэнне перадавой рэволюцыйнай ідэалогіі з вялікай мастацкай дасканаласцю. Менавіта на гэтым шляху збліжэння навукі і мастацтва, саюза навукі і мастацтва ён чакаў плённых вынікаў.

Падобна таму, як па філасофскіх сваіх поглядах Дабралюбаў быў матэрыялістам, ён як крытык паслядоўна абараняў пункт погляду рэалізма. Дабралюбава можна назваць як аднаго з самых выдатных барацьбітоў за рэалістычны кірунак у рускай літаратуры. Ён змагаецца з ілюзорна-рамантычным паказам жыцця, але ў той-жа час ён бясконца насміхаецца з натуралістаў, якія не ўмеюць адрозніць дробязей ад асноўнага зместу жыцця, якія падмянялі мастацтва роўнадушным фатаграфічным маляваннем усяго таго, што трапляецца пад рукі. Пісьменнік—творчы работнік, перад ім ляжаць неабдымныя прасторы жыцця, у якім ёсць галоўнае і другараднае, асноўнае і выпадковае, вялікае і дробязнае. Мастак павінен умець у сюжэтным ходзе свайго апавядання вылучыць галоўнае, тыповае, тыповыя характары, тыповыя абставіны. Рэалізм Дабралюбава мы можам назваць крытычным рэалізмам. У абставінах самадзяржаўнай, прыгонніцкай Расіі, у якой пачалі ўжо дзейнічаць першыя Калупаевы і Разуваевы, «дзеячы» першапачатковага капіталістычнага накаплення, Дабралюбаў патрабаваў ад літаратуры, каб яна бязлітасна выкрывала ўсё зло сапраўднасці, усе яе недахопы, каб яна абуджала ў чытача ўсведамленне несправядлівасці самадзяржаўя і эксплуатацыі і пачуццё пратэсту. Гэтым самым Дабралюбаў патрабаваў ад мастацтва перспектыўнасці.

З вышэйадзначаным цесна звязана тое, як Дабралюбаў уяўляў сабе задачу крытыка. Дабралюбаў выступаў рэзка супроць чыста

эстэцкай крытыкі, супроць дробязнага бібліяграфічнага і сінтакса-правапіснага разбіральніцтва мастацкіх твораў. Дабралюбаў патрабаваў ад крытыка перадавых, рэвалюцыйных перакананняў і ўмення ўскрываць на аснове падрабязнага аналізу тыпаў і сюжэт літаратурнага твору, рэальныя супярэчлівасці жыцця. Дабралюбаў даў нам выдатныя ўзоры спалучэння літаратурнага разбору мастацкага твору з публіцыстычнай накіраванасцю. Ліберальна-буржуазныя гісторыкі рускай літаратуры не аднойчы спрабавалі запэўніць чытача, што Дабралюбаў ігнараваў эстэтычны бок разбіраемых ім твораў. Гэта няверна. Гэтае абвінавачванне мела на мэце паспрабаваць зменшыць значэнне Дабралюбава. Дабралюбаў не аднойчы падкрэсліваў, што літаратурны твор для таго, каб ён здолеў адыграць сваю грамадскую ролю, павінен перш за ўсё быць дасканалым з мастацкага боку, але значныя творы мастацтва заўсёды спалучаюць дасканаласць формы з важнасцю зместу. Менавіта таму Дабралюбаў мог арганічна спалучаць у сваіх артыкулах крытыку і публіцыстыку.

Пасля ўсяго вышэйсказанага нам зразумела, чаму Дабралюбаў лічыў такім важным развіццё сатырычнага жанру ў рускай мастацкай літаратуры. Разам з Чэрнышэўскім ён вітаў сваім вельмі цікавым артыкулам першы буйны твор нашага вялікага сатырыка Салтыкова-Шчэдрына «Губернскія нарысы». Дабралюбаў сам паказаў сябе незаўрадным сатырыкам у цэлым радзе сваіх выступленняў у «Свістку»—спецыяльным сатырычным дадатку да «Современника» (часопіс, у якім ён адыгрываў ролю галоўнага крытыка).

Дабралюбаў памёр у 1861 г. Ён памёр ад злых сухотаў, набытых ім у выніку жабрацкіх, поўгалодных умоваў свайго існавання ў студэнцкія гады ў Пецербурзе, у выніку неймаверна цяжкіх умоў работы рэвалюцыйнага літаратара ў абставінах царскай Расіі. Ён літаральна згарэў на рабоце. Горка аплаквалі смерць Дабралюбава Чэрнышэўскі, Некрасаў, а разам з імі і ўся мыслячая і адукаваная Расія таго часу. Ён дзейнічаў у літаратуры ўсяго якіх-небудзь чатыры гады, але след, пакінуты ім, быў глыбокі і існуе па сёнешні дзень. Маркс і Энгельс ведалі творы Дабралюбава і высока цанілі яго. Яны параўноўвалі яго з Дзідро і Лесінгам. Энгельс называў Дабралюбава сацыялістычным Лесінгам. Ленін у сваіх творах не адзін раз успамінае Дабралюбава, ён цаніў яго, як аднаго з творцаў тых тэарэтычных і рэвалюцыйных традыцый, якія з'яўляюцца папярэднікамі ў адносінах да ўзнікнення марксізма ў Расіі. Ленін пісаў, што «нам дарагі пісьменнік, які страсна ненавідзеў самаўпраўства і чакаў народнага паўстання супроць «унутраных турак»—супроць самадзяржаўнага ўрада» (Ленін, артыкул «Пачатак дэманстрацый», том IV, стар. 346).

Вось чаму юбілей Дабралюбава з'яўляецца вялікім грамадска-культурным і літаратурным святам для ўсіх працоўных Савецкага Саюза.

*С. Левін*

# У ПОШУКАХ ГЕРОЯ

*(Творчасць П. Глебкі)*

П. Глебка належыць да тэй групы нашых паэтаў, якія выступілі на літаратурную сцэну ў гады аднаўленчага перыяда і ў першыя гады сваёй творчасці неслі на сабе сляды значных уплываў беларускай буржуазна-нацыяналістычнай паэзіі і толькі потым, у гады моцнага наступу соцыялізма па ўсяму фронту, у гады рашучых перамог соцыялістычнага будаўніцтва, разам з вялікай групай пісьменнікаў старэйшага пакалення і найбольш здольнымі з маладых рашуча павярнулі ў бок пролетарыята.

Уплывы буржуазна-нацыяналістычнай паэзіі ў творчасці Глебкі яскрава выступаюць у яго кнізе вершаў «Шыпшына» (1927 г.).

Што ёсць у «Шыпшыне»?

Абстрактная самабытная Беларусь у заштампаваным вобразе «тыповай» беларускай дзяўчыны, з «шаўкавіцай у касе», з «васільковымі сінімі вачыма», «вечар над калінай», «клёны і вербы крывыя», за якія паэт «на чужыне маліўся», традыцыйная зязюля, тысячу разоў перапетае нацыяналістамі шалясценне асенніх лістоў...

Гэта ўсё сабраў П. Глебка у «Шыпшыне»—першай кнізе сваіх вершаў:

„З вазёраў, лясоў і палёў,
З багністых, прадоністых нетраў
Сабраў гэты россып—золата слоў
Няхай не разметаюць ветры".

П. Глебка так даражыў гэтым залатым «россыпам слоў», што не хацеў яго аддаваць нікому: «ні сябру, ні брату, ні сёстрам сваім». Ён гэты россып трымаў толькі для нейкай абстрактнай, самабытнай Беларусі:

„Ні сябру, ні брату, ні сёстрам сваім
І нават не дзеўчыне русай
Я гэты шаўковы вяночак завіў
Завіў я яго Беларусі".

Падобны залаты «россып слоў» (не залаты, а па нацыяналістычнаму пазалочаны!) заўсёды выкарыстоўваўся буржуазна-нацыяналістычнай літаратурай у барацьбе супроць пролетарскай літаратуры.

Кніжка П. Глебкі «Шыпшына» сведчыць аб тым, што ён знаходзіўся пад моцным уплывам буржуазна-нацыяналістычнай паэзіі.

Аб гэтым сведчыць уся вобразная тканіна вершаў, змешчаных у гэтай кнізе, усё яе мастацкае абрамленне.

Гэта—гульня на дробязях, гэта маляванне заштампаваных пейзажаў таннай нацыяналістычнай кістачкай.

Гэта—плюшч каля чужога дрэва. Гэта—раскраска па чужому, гатоваму ўжо рысунку.

Асноўны настрой, якім прасякнута кніга П. Глебкі «Шыпшына»,— гэта сум, безнадзейнасць...

Сродкі для пазбаўлення ад гэтага суму і безнадзейнасці няправільныя.

Іх паэт бачыць то ў маленні нейкай абстрактнай красе:

„Зацвіце мая радасць—шыпшына
Вецер пах у палях разнясе,
Бо ніхто яшчэ з песняй не згінуў,
Не адзін—хто маліўся красе“.

То ў каханні:

„Прыгалублю дзяўчынку ізноў
І журбы тады будзе ўжо меней“.

То ў радасці паасобных мімалётных хвілін:

„На што туга? Навошта роспач?
Нырцуй глыбей, глыбей у вір:
Хай моладасць—хвіліна проста,
Дык кожны міг жыцця лаві“.

Але калі мы гаворым пра П. Глебку, як пра савецкага пісьменніка, які цяпер аддана служыць сваёй мастацкай зброяй працоўнаму народу, дык трэба знайсці тыя элементы, якія адрознівалі кават на першым этапе яго творчасць ад творчасці прадстаўнікоў беларускай буржуазна-нацыяналістычнай літаратуры.

Трэба сярод гэтага «россыпа слоў» знайсці тыя вершы, тыя радкі і словы, у якіх яшчэ ў зародкавым стане, прабіваліся тыя бадзёрыя радкі, якія знайшлі сваё далейшае развіццё і сваю далейшую канкрэтызацыю ў наступных кнігах паэта.

Да вершаў такога парадку належаць: «Не кажы», «Ах, не», «Зіма» і інш.

У гэтых вершых праз усхваленне туманнага і далёкага Заўтра (з вялікай літары!) праступаюць кантрастуючыя з агульным тонам кнігі радкі.

Не нам прапасці, не нам загінуць
Хай зубы ляскаюць у роспачы ў другіх
Снягі... Зіма... Імкненні не застыгнуць
Калі свет будучы так моцна дарагі“.

Змагаючыся з сваімі няяснымі настроямі смутку і радасці, паэт накіроўвае наступныя радкі па адрасу буржуазна-нацыяналістычных хныкальшчыкаў:

„К чорту роспач, к чорту усхліпы,
Калі ветры усходнія веюць".

Гэтае прыняцце і апяванне ўсходняга ветра—ветра рэволюцыі праходзіць у радзе іншых вершаў П. Глебкі.

Кніга «Шыпшына» сведчыць аб тым, што П. Глебка займаў левафланговае месца ва «Узвышшы», што ён імкнуўся з самага пачатку знайсці шляхі да новага жыцця і апець яго, але гэтаму ўсяму перашкаджала тое нацыяналістычнае абкружэнне, у якім ён знаходзіўся.

Пэўны пералом у тэматыцы і ў ідэйнай накіраванасці ў творчасці П. Глебкі адбываецца ў наступных яго кнігах вершаў: «Урачыстыя дні» (1930 г.) і «Хада падзей» (1932 г.).

Калі ў «Шыпшыне» бадай што ўсе вершы прасякнуты вузка-індывідуалістычнымі матывамі, калі ў «Шыпшыне» П. Глебка аддаў моцную даніну буржуазна-нацыяналістычнай паэзіі, то ў кнізе «Урачыстыя дні» мы маем вершы пераважна на соцыяльныя тэмы, якія радасна апяваюць новае жыццё.

Але паэт у гэтай кнізе не паказвае нам яшчэ штодзённага жыцця, не паказвае канкрэтных працэсаў класавай барацьбы, канкрэтных людзей, барацьбітоў за новае жыццё. Гэтае жыццё паказана толькі як свята, як урачыстасць, паэт аслеплен гэтым новым светам, гэтай новай урачыстасцю, і ён яе славіць у такіх словах:

„Я слаўлю гэтую урачыстасць,
Я слаўлю выбраныя дні,
Калі у праменнях залацістых
Над краем вольным і квяцістым
Гарацъ святочныя агні".

П. Глебка, як і ў «Шыпшыне» зварачаецца да Заходняй Беларусі. Але цяпер гэтыя заклікі больш бадзёрыя, больш упэўненыя. Паэт бачыць перспектыўнасць пролетарскай рэволюцыі—верыць у сусветную рэволюцыю:

„Комуна над светам. З усходу на захад,
Ад мора да мора без краю...
Дзе шлях векавечны ўсіх варогаў вабіў,
Маяк і гарыць і палае..."

Урачыстасцю рэволюцыі, урачыстасцю нашых перамог прасякнуты амаль усе вершы ў кнізе «Урачыстыя дні».

Некаторую няяснасць у агульны тон кнігі «Урачыстыя дні» ўносіць верш «На спатканні гадоў». У гэтым вершы паэт хоча давесці нейкаму нацыяналісту, які сцвярджае, што цяпер «беларусы ў загоне», росквіт нашага новага жыцця. Паэт згаджаецца давесці гэтаму нацыяналісту няправільнасць яго сцверджанняў, ён з ім ходзіць па новым Менску, перад імі разгортваецца прыгожы соцыялістычны горад, яны слухаюць прамовы правадыроў, прамовы рабочых і сялян. Трапляюць яны таксама і ў глухія куткі Нямігі, дзе захаваліся яшчэ

ворагі пролетарыята. Паэт тлумачыць свайму спадарожніку, што гэта ад іх, ад гэтых ворагаў ідуць такія чуткі, што «беларусы ў загоне». Пабачыўшы горад, спадарожнік паэта адказвае «Я судзіць не бяруся—толькі веру расце БССР». Гэтыя словы спадарожніка гучаць вельмі бледна, няшчыра, фальшыва. Узнікае пытанне: ці трэба было траціць час, каб вадзіць гэтага нацыяналіста па горадзе? На што ўкладаць у вусны гэтага нацыяналіста словы аб тым, што «расце БССР». Буржуазных нацыяналістаў мы не пераконваем, а жорстка змагаемся з імі, адкідаем іх з нашай дарогі.

Тыя-ж матывы, што і ў кнізе «Урачыстыя дні» мы маем у кнізе «Хада падзей».

Калі ў кнізе «Урачыстыя дні» зусім не было жывых канкрэтных людзей—герояў, дык яны намячаюцца ўжо ў кнізе «Хада падзей».

У кнізе «Хада падзей» П. Глебка рашуча адштурхоўваецца ад буржуазна-нацыяналістычнай паэзіі.

У паэме «Трывожны сігнал» П. Глебка паказвае сваё разуменне ўсёй нікчэмнасці старой «незацікаўленай» эстэцка-сузіральнай паэзіі і рашуча выступае супроць тых буржуазна-нацыяналістычных рамантыкаў, якія спяваюць «пра каханне і цемру совецкіх начэй» і свае песні хаваюць «у старым чамадане».

Супроць гэтай паэзіі, а значыць і супроць сваёй ранняй лірыкі, супроць свайго ранняга «россыпа слоў» выступае П. Глебка ў наступных радках:

„А ў кожнай пульсацыі сэрца,
У кожным размаху рукі—
Ты бачыў, паэт,
Як імкнецца
Жыццё разламаць берагі?!
Ты бачыў задумныя вочы,
Калі нечаканая гаць
Хаду прыпыняе рабочых—
Ці вышаў ты ім памагаць?!“

П. Глебка цяпер ужо разумее, што ёсць рамантыка і рамантыка!

Нацыяналістычна-рэакцыйнай рамантыцы ён проціпастаўляе рэволюцыйную рамантыку пролетарыята. Зварачаючыся да нацыяналістычных рамантыкаў ён гаворыць:

„Тваё распраданае сэрца
Романтыкай тэй не гарыць,
Як мускул ад працы ірвецца—
Імкнецца комуну стварыць
Не знае рамантыкі й іншай,
Калі забіваў брата брат,
Каб сонца в далёкіх узвышшаў
Данесці у цвятлівісты сад“.

У кнігах «Урачыстыя дні» і «Хада падзей» значна мяняецца слоўнік паэта. Там ужо няма традыцыйных зязюлек, «крывых вербаў» і т. д. На змену ім прышлі новыя словы і вобразы.

У кнізе «Урачыстыя дні» намячаюцца ўжо канкрэтныя людзі—героі.

Гэта—рабочыя, якія ідуць да цара прасіць лепшай долі, прасіць хлеба, і, абманутыя царом, падаюць пад кулямі царскіх жандармаў на аснежаных прасторах пецербургскіх вуліц, гэта—змаганцы рэвалюцыянеры ў Заходняй Беларусі, гэта Рыгор Асташэня, які адыходзіць у дальнюю дарогу, каб здабыць волю, гэта—слаўныя чэкісты, якія змагаліся з рэшткамі бандыцкіх банд, гэта—дзяўчынка-ударніца Эма, гэта—легендарныя паўстанцы Максім і Алеся, гэта—вобраз вялікага Леніна...

Пра кнігі «Урачыстыя дні» і «Хада падзей» многа гаварыць—цяжка. Калі ў кнізе «Урачыстыя дні» зусім няма канкрэтных людзей, канкрэтных герояў, то ў кнізе «Хада падзей» яны толькі намячаюцца.

Трэба сказаць, што амаль усе вершы ў кнігах «Урачыстыя дні» і «Хада падзей» яшчэ глыбока не распрацоўваюць якую-небудзь пэўную, канкрэтную тэму, а маюць характар агульнага ўсхвалення новага жыцця.

Але як-бы там ні было, гэтыя кніжкі сведчаць аб вялікім ідэалагічным пераломе, які адбыўся ў творчасці П. Глебкі.

У кнігах «Арлянка» (1932 г.) і «Арка над акіянам» (1932 г.) П. Глебка, замест агульнага ўсхвалення рэвалюцыі і новага жыцця, спрабуе ў больш канкрэтнай форме паказаць тых людзей, якія змагаліся за гэтае жыццё і ўдзельнічалі ў соцыялістычным будаўніцтве.

«Арлянка»—паэма аб днях грамадзянскай вайны на Беларусі, аб барацьбе з белапалякамі, аб гераічнай Чырвонай арміі і партызанскіх атрадах.

«Арлянка»—паэма аб контррэвалюцыйнай, здрадніцкай ролі беларускіх нацыянал-дэмакратаў, паэма аб агульна-пролетарскім інтэрнацыянальным фронце.

«Арлянка»—паэма пра калмыкоў, грузінцаў, армян, татар, украінцаў, якія змагаліся разам з працоўнымі беларусамі за соцыялістычную Беларусь, якія прайшлі тысячы вёрст, якія цярпелі холад і голад, якія 11 ліпеня 1920 г. імклівай лавінай праследвалі па менскіх вуліцах крывавыя банды белапольскіх акупантаў. Гэтыя ўсе нацыянальнасці змагаліся за Беларусь разам з працоўнымі беларусамі,—наперакор контррэвалюцыйным сцверджанням беларускай буржуазіі:

> Бо вяла іх упартасць адна
> Скасаваўшы граніцы ўсіх нацый—
> Рэволюцыі сцягі ўзняць,
> Каб не ведаць прыгону у працы".

І ўсіх іх вітае паэт, усіх іх лічыць сваімі братамі.

Паэма «Арлянка» адзін з лепшых твораў П. Глебкі, у ім ёсць багата пластычных вобразаў, многа такіх мясцін, якія пэўным рытмам, пэўнымі гукамі дасягаюць таго, што чытач бачыць як перад вачыма тую ці іншую падзею, той ці іншы эпізод.

Як адзін з такіх прыкладаў надзвычайнай пластычнасці вобразаў прывядзем малюнак пагоні за чырвонаармейцам:

„І ласкава цяжкою рукой
Песціць коннік шырокую шыю:
Быццам віхар
Імчыся мой конь,
Каб цябе не дагналі чужыя!
Нам патрэбна хвіліна адна
На жыццё
І на ростань з палямі
Калі возьмем яе—
Не дагнаць,
Не злавіць нас тады за лясамі.
Дык імчыся жыццю на ўздагон
Недалёка ускраіна гаю
Выгінаецца стомлены конь
Да зямлі жыватом прыпадае".

Ідэйнаму раскрыццю тэмы П. Глебка ў паэме «Арлянка» падпарадкуе і пейзаж. Паэма напісана рознастайным рытмам у залежнасці ад таго, што хоча перадаць паэт.

У паэме пададзены вобразы партызана Азорыча і валявая натура камісара Розіна. П. Глебка паказаў нам у гэтай паэме вобраз тыповага буржуазнага нацыяналіста Рацкага, які ўносіў дэзарганізацыю ў рады рэволюцыянераў і які дзейнічаў па загаду контрвыведкі, змагаючыся не столькі за сваю Беларусь, колькі за «бацькаўскі млын».

Паэма «Арка над акіянам» распрацоўвае тэму аб соцыялістычным будаўніцтве.

На раскінутых у глыбіні Палесся балотах, сярод «лясоў шумлівых і лазы» звіняць кельні, «рупяцца муляры», «грабары шпурляюць глей»,—там працуюць над пабудовай электрастана.

На пабудове працуюць інжынеры Яновіч і Яцына. Яновіч—гэта ідэаліст па сваіх поглядах, ён увесь час носіцца са сваім утапічным праектам пабудовы аркі, увесь час сядзіць у габінеце над гэтым праектам і не прымае ўдзелу ў штодзённай працы. У Яновіча разрыў паміж тэорыяй і практыкай. Калі нават арка была пабудавана, але не ў тых маштабах, якія былі паводле Яновічавага плана, ён зусім адыходзіць ад будаўніцтва, вар'яцее, канчае жыццё самагубствам.

Другі інжынер—Яцына—гэта замежны шпіён, які ўсімі сродкамі і спосабамі змагаецца супроць пабудовы электрастана, які выконвае дырэктывы замежнага буржуазнага ўрада, займаючыся шкодніцкай работай.

Сцверджанні некаторых таварышоў аб тым, што Яновіча трэба было ўвесці ў будаўніцтва, што трэба было паказаць яго дадатным тыпам—зусім беспадстаўныя. Раней, чым даць Яновічу пашпарт адданага совецкага інжынера, яму трэба было папрацаваць на нізавой рабоце, і добра зрабіў П. Глебка, калі ў вобразе Яновіча ён паказаў крах ідэалістычнай філасофіі.

Але зусім слушна, што вобраз Яновіча атрымаўся супярэчлівым. Калі паводле плана твору вобраз Яновіча павінен быў быць адмоўным, дык не трэба было надзяляць яго тымі дадатнымі ры-

самі (гутарка Яновіча з Яцынай, водгукі аб Яновічу рабочых і інш.), якія далі повад некаторым крытыкам недаўмяваць, чаму гэта Яновіч не перарадзіўся і не стаў сапраўдным удзельнікам соцыялістычнага будаўніцтва. П. Глебка значна ідэалізаваў вобраз Яновіча.

Да недахопаў паэмы «Арка над акіянам» трэба аднесці тое, што вобразам Яновіча і Яцыны не проціпастаўлены дадатныя вобразы савецкіх інжынераў.

Што-ж датычыцца вобраза рабочага Гафрона, які бярэцца кіраваць пабудовай электрастана, дык трэба сказаць, што ён атрымаўся даволі бледкым, без твару, без псіхалагічнага партрэта. Пра Гафрона больш расказана ў паэме, чым паказаны яго канкрэтныя дзеянні. Апрача таго не індывідуалізаваны вобразы астатніх рабочых.

Гэтыя недахопы паэмы ні ў якім разе не здымаюць яе вялікага ідэйнага значэння.

Значэнне гэтай паэмы ў выкрыцці буржуазнага гуманізма, нейтралісцкіх настрояў старой інтэлігенцыі, у выкрыцці так званай пазакласавасці навукі.

П. Глебка ў гэтай паэме знайшоў новы пейзаж. Глухія забалочаныя мясцовасці Палесся ператварыліся пад рукамі будаўнікоў-энтузіястаў, якія істотна змянілі іх краявід:

„Высцілаецца роўны прастор,
Быццам стэп ненаглядны навокал,
І гаворань жыты аж да зор
Наліваюцца ядраным сокам!
І чумее вясной ярына,
І шалеюць мурожныя травы,
Непраходных балот—не пазнаць
І звычайнаю песняй не ўславіць.
Толькі звон залатых правадоў,
Што напнуты, як струны над краем,
Толькі рокат турбін над вадой
Урачыстыя маршы сыграюць“.

У цэлым па сваёй маляўнічасці і эмацыянальнасці паэма П. Глебкі «Арка над акіянам» стаіць значна ніжэй за паэму «Арлянка».

Новая кніга вершаў П. Глебкі «Чатыры вятры» прасякнута вялікай любоўю да нашай краіны, да яе герояў будаўнікоў соцыялізма.

У тэматычным плане кніга падзяляецца на тры часткі: сучасная рэчаіснасць, мінулае рэволюцыі і мінулае гісторыі.

Кніга «Чатыры вятры» па сваёй агульнай настраёвасці становіць сабой адно цэлае: яна вучыць мацней любіць нашу краіну, мацней ненавідзець яе ворагаў.

Асноўным недахопам новай кнігі вершаў П. Глебкі з'яўляецца яшчэ няізжытая ў многіх мясцінах агульшчына, абстрактнасць, адсутнасць пэўных канкрэтных рэчавых вобразаў.

Але паасобныя вершы правільна намячаюць той шлях, па якім павінна развівацца далейшая творчасць паэта.

Гэта вершы: «Перамога», «Трывога», «Вернасць», «Вясёлыя

песні» і інш. Яны хвалююць чытача цікавасцю ідэй, шчырасцю выражаных думак і канкрэтнасцю вобразаў.

У гэтых вершах П. Глебка хоча паказаць, што ўсе індывідуальныя пачуцці, пачуцці сяброўства, кахання—у нашых умовах неадрыўна звязаны з работай, соцыялістычнай практыкай і гэтым яны вымяраюцца:

„Апошняе слова
Сказаў трактарыст,
А мы падпісалі ўмову з дзяўчынай:
Хто першы закончыць
Сяўбу да пары,
Таму не жаніцца
Не будзе прычыны".

Сяброўства вымяраецца праз дачыненне людей да соцыялістычнай практыкі. Рабочыя вымяраюць сваё сяброўства на «лічбы заводскага росту»:

„Яны яго мераць
Як дужасць сваю,
На лічбы заводскага росту
І гэта адзіны сапраўдны саюз,
Сапраўдная мэта сяброўства".

Не гледзячы на рад сваіх безумоўна дадатных якасцей, верш «Сяброўства» вызначаецца некаторай абстрактнасцю ў тым сэнсе, што мы не бачым у ім партрэтаў тых людзей, пра якіх гаворыцца ў вершы. Верш «Сяброўства» значна выйграў-бы, калі-б у ім былі паказаны поўнакроўныя вобразы жывых людзей.

Паэзія мае поўнае права на так-званы жанр агіткі, на рытарычна-патэтычны жанр. Толькі не трэба, каб ён зніжаўся да рыторыкі ў горшым разуменні гэтага слова. Трэба, каб праз радкі, напісаныя ў такім жанры, прабіваўся сапраўдны пафас.

Гляньце, колькі пафасу, колькі страснасці ў наступных рытарычна-патэтычных радках з паэмы «Мужнасць»:

„Але вырасла мужнасць класа,
Падняла нас ізноў на бой:
Над палётам планет,
Над часам,
Над праклятай суровай зімой,
Над снягамі,
Над горам,
Над жалем,
Над законамі смерці й жыцця,
Падымаецца ленінец Сталін,
Узнімаючы ленінскі сцяг".

І якім пафасам і страснасцю прасякнуты наступныя радкі з гэтай паэмы, дзе П. Глебка таксама ў рытарычна-патэтычных словах перадае прамову таварыша Сталіна над магілай Леніна!

Рытарычна-патэтычны жанр, жанр агіткі, нельга зніжаць у нашай паэзіі!

Трэба толькі змагацца супроць голай, супроць таннай рыторыкі, ад якой, замест пафаса і страснасці, вее холадам і абыякавасцю.

Уся творчасць П. Глебкі характарызуецца тым, што паэт увесь час шукаў героя, які-б яго хваляваў, натхняў і якому-б ён мог аддаць свае песні. Гэтыя героі намеціліся больш-менш выразна ў яго новай кнізе «Чатыры вятры». Гэта—дзяўчына, якая не спіць па начах у трывозе за калгасную маёмасць, гэта—вясёлыя маракі, гэта—тры пакаленні рабочых, якія мераюць сваё сяброўства на «лічбы заводскага росту».

Але гэтых герояў яшчэ мала.

Праблема паказу герояў нашых дзён стаіць перад П. Глебкам больш, чым перад кім у беларускай савецкай паэзіі.

Але, каб правільна паказаць герояў нашага часу, нельга ўжо карыстацца тымі прыёмамі, якія былі ў папярэдніх Глебкавых вершах. Сёнешні рабочы, сёнешні калгаснік істотна адрозніваецца ад рабочых і калгаснікаў, якія ў нас былі некалькі год таму назад.

Жыццё ў нас становіцца заможным. «Жыць стала лепш, таварышы, жыць стала весялей»,—гэтыя геніяльныя словы тав. Сталіна знаходзяць сваё пацверджанне на кожным кроку нашага жыцця.

За апошнія гады выразна змяніўся твар нашай краіны. Калі некалькі год таму назад у нашай краіне здымаліся старыя, трухлявыя хібаркі з вішнякамі і садамі, каб уступіць сваё месца магутным фабрычна-заводскім карпусам і рабочым пасёлкам, дык цяпер ужо шэрая строгасць нашых пабудоў пераплятаецца з зелянінай, з кветкамі. Тое, што краіна наша аплецена зелянінай і гірляндамі кветак, гэта паказчык заможнасці, паказчык культурнасці нашага жыцця.

Але зазначаючы на гэта, нам ні ў якім разе нельга паніжаць нашай класавай пільнасці. Праблема выкрыцця класавага ворага ў нашых творах застаецца вельмі актуальнай.

Калі мы паказваем нашых герояў-стаханаўцаў, дык яны не павінны выглядаць шэрымі, суровымі, і толькі пры выкананні свае работы. Трэба іх паказаць за культурным адпачынкам, у сямейна-бытавых абставінах, ва ўсёй многагранкасці іхнага радаснага жыцця.

Паказаць такіх герояў нашых дзён вельмі важная справа для ўсяе нашай літаратуры.

Многія ранейшыя вершы П. Глебкі характарызаваліся пэўнай аднастайнасцю памера, матэматычна-дакладнай, рацыяналістычкай рытмікай. Гэта баязлівасць адступіць ад пэўных фармальных канонаў не давала прастора Глебкавым вершам: словы былі ўціснуты ў пэўныя, як-бы прыгатаваныя для іх загадзя, формы.

У наступных сваіх кнігах П. Глебка павінен перамагчы тую сухасць, тую рацыяналістычнасць, якой не мала яшчэ засталося ў кнізе «Чатыры вятры».

Тыя іскаркі страснасці, якія ўспыхваюць у паасобных вершах гэтай кнігі, П. Глебку трэба раздуць у вялікае полымя любові да нашай краіны і нянавісці да яе ворагаў.

Вершы П. Глебкі характарызуюцца чоткасцю і стройнасцю сваёй кампазіцыі, уменнем аперараваць усімі кампанентамі мастацкага твору.

Гэтаму варта павучыцца ў Глебкі некаторым нашым паэтам.

А П. Глебку ў сваю чаргу не пашкодзіць павучыцца некаторым рэчам, якіх у яго бракуе, хаця-б у такога паэта, як П. Броўка.

Шляхі, намечаныя ў паасобных вершах новай кнігі П. Глебкі «Чатыры вятры»—правільныя.

П. Глебка—здольны паэт. Ён зможа яшчэ многа даць нашай паэзіі.

Трэба, каб праз радкі наступных яго кніг прайшлі са сваімі справамі, і дзеямі, думкамі і настроямі, з усёй рознастайнасцю сваіх пачуццяў:

„Героі фабрык і садоў,
Высозных гор,
Марэй вялізных,
Героі сёл і гарадоў,—
Будаўнікі соцыялізма“.

## БІБЛІЯГРАФІЯ

### ХВЯДОС ШЫНКЛЕР—„ПЕТРЫК-ЗАВАДАТАР“ (АПОВЕСЦЬ).

**ДВБ—Юндзетсектар, 1935 г., стар. 100, цана 1 р. 50 к.**

Аповесць «Петрык-завадатар» безумоўна адносіцца да ліку цікавых і карысных кніг нашай дзіцячай мастацкай літаратуры. Першае, што робіць кнігу цікавай—гэта сама тэма, той матэрыял, які аўтар падняў і зрабіў яго даступным для нашага школьніка-піонера. Другое—гэта абрысоўка дзейнасці персанажных вобразаў кнігі.

Аповесць пабудована выключна на матэрыяле жыцця і працы рабочых чыгункі і іх дзяцей. Яна складаецца з цэлага раду невялічкіх навел, зарысовак, амаль не звязаных паміж сабой адзінай сюжэтнай лініяй. Аднак, не гледзячы на тое, што аповесць не мае адзінага моцнага сюжэта—яна чытаецца з цікавасцю. Аўтар зацікаўлівае чытача не сюжэтнай лініяй, не інтрыгай дзеяння, а багаццем цікавага матэрыялу, які добра ведае і перадае праз выразныя мастацкія сродкі.

Аўтар жыццё і працу чыгуначных рабочых і іх дзяцей разгарнуў перад чытачом у досыць шырокім плане. Тут закранаецца жыццё і праца чыгуначнікаў у дарэволюцыйныя часы і ў сучасны момант. Робіцца спроба раскрыць вобразы рабочых і чыгункі трох пакаленняў (Петрык, яго бацька і дзед). У пэўных межах паказваецца, у сучасным, праца палітаддзела чыгункі, чыгуначная ахова, быт рабочых, вучоба дзяцей і іншае. Разгортванне тэматычнага плана ў шырыню робіцца аўтарам свядома, каб прадставіць перад чытачом большае багацце матэрыялу, каб даць шырокае знаёмства чытачу—школьніку з жыццём чыгункі. А таму аўтар у паасобных мясцах спыняецца на самых дробных дэталях, на паасобных назвах прадметаў і рэчаў з чыгуначнага абыходу. Напрыклад, некалькі старонак адводзіцца аўтарам для тлумачэння назваў розных сістэм паравозаў, гутаркі пра азбуку морзэ, як манеўрыруюць паязды і іншае. І трэба сказаць, што ўсё гэта мае свой сэнс і тым больш, што аўтар гэта падае жыва, проста, з педагагічным падыходам.

Але асноўнае ў аповесці не рэчы, не толькі апісанне тых або іншых працэсаў працы на чыгунцы, а людзі. Аўтар паставіў перад сабою мэту нарысаваць ва ўсіх адносінах дадатны вобраз піонера-школьніка, з сям'і чыгуначніка. У імя гэтага піонера-Петрыка напісана аповесць.

Піонер Петрык, які скончыў чатыры класы сярэдняй школы і мае трынаццацігадовы ўзрост, паказваецца аўтарам, як завадатар. Ён сапраўды стварае прыемнае ўражанне. Петрык з вялікай любоўю адносіцца да жывёлы. Ён арганізаваў паказальную гаспадарку трусоў. Ён любіць лавіць рыбу. Адначасова Петрык прасякнут вялікай цікавасцю да працэсаў працы на чыгунцы. Яго цікавіць праца тэлеграфа, машыны, дэпо, працэсы працы друкарні. У дачыненні да ўсяго гэтага ў Петрыка вялікае жаданне пазнаць, засвоіць, жаданне самому рабіць тое, што робяць дарослыя.

Петрык пададзен дзейным, гаспадарлівым, руплівым. Кожны яго крок абдуман і змеран. У яго глыбока развіты пачуцці калектывізма, пачуцці класавай самасвядомасці. Апошняе ў аповесці ярка падкрэслена, калі Петрык ловіць кулака, які крадзе з вагонаў збожжа, а таксама клапатлівасць Петрыка аб тым, каб арганізаваць піонераў па ахове грамадскай уласнасці на чыгунцы.

Паступкі і дзеянні Петрыка на працягу ўсёй аповесці паказаны ў дынамічным руху. Аўтар аб іх не расказвае, а паказвае. Гэта вельмі важна.

Але калі гаварыць адносна паўнаты паказу вобраза Петрыка, як прыкладнага піонера-школьніка, дык тут трэба адзначыць, што гэта паўната аднабаковая. Петрык добра і адносна поўна паказан як піонер у грамадскім жыцці. Добра раскрыты яго грамадскія дзеянні і паводзіны ў дачыненні да працэсаў працы на чыгунцы, у дачыненні да палітычных і гаспадарчых задач нашага часу. Але Петрыка як школьніка мы амаль не бачым. Пра Петрыка-школьніка ўсяго тое і гаворыцца, што ён скончыў чатыры класы сярэдняй школы і едзе з дому (Рудні) на буйны чыгуначны вузел вучыцца далей. Як Петрык вучыўся і як ён працягваў вучобу далей,—чытач адказу не атрымоўвае. А чытаючы аповесць, сочачы ўвесь час за дадатнымі дзеямі Петрыка—грамадскага працаўніка, чакаеш, калі-ж аўтар пакажа поспехі Петрыка за вучобай. Хочацца ўбачыць спалучэнне добрых грамадскіх якасцей піонера-Петрыка з добрымі яго якасцямі, як вучня. Гэта аўтару трэба было паказаць абавязкова. Гэта выклікаецца самой пастаноўкай пытання аўтарам аповесці. Гэта-б надало паўнату Петрыку-піонеру, як вобразу.

Вельмі яркімі і праўдзівымі з'яўляюцца старонкі аповесці, дзе аўтар абрысоўвае нам вобраз старога машыніста Петрыкавага дзеда.

Вобраз машыніста—дзеда канцэнтруе ў сябе асноўныя характэрныя рысы старых кадраў рабочых. Праз гэты вобраз аўтар паказвае дзікія і цяжкія ўмовы працы чыгуначнікаў да рэвалюцыі. Доўгая гутарка дзеда з Петрыкам раскрывае перад чытачом прымітыў і ўбоства чыгуначнай тэхнікі ў мінулым, і магутны рост, на аснове калектыўнай працы, у сучасным.

Асабліва з'яўляецца характэрным вобраз дзеда як рабочага, у яго дачыненні да працы на чыгунцы. Адчуваецца, як дзед жыве кожнай рэччу, кожнай справай жыцця і працы чыгункі. Яго любоўная дапамога калектыву дэпо, яго шчырыя ва ўсім парады падкупаюць чытача.

Вобраз дзеда ў паасобных сваіх рысах сапраўды аўтарам зроблен з любоўю, з веданнем чалавечага матэрыялу, з веданнем рабочага-чыгуначніка.

Па сваёй псіхалагічнай глыбіні вобраз дзеда вырысоўваецца ярчэй, чым вобраз піонера-Петрыка. У Петрыка якраз, трэба сказаць, нехапае паказу іменна яго ўнутранага зместу, нехапае абумоўленасці ўсіх яго дзей з нутра, псіхалагічна.

Праз вобразы Петрыка і дзеда-машыніста ў аповесці зроблена ўдалае супастаўленне ўмоў росту чалавека да рэволюцыі і ў сучасны момант. «Не тое, што цяпер,—гаворыць дзед Петрыку,—навучаюць цябе лагодзяць! Колькі маладых машыністаў ёсць. А раней не тое. Пагібнеш, пакуль правае крыло завоюеш...»

Не дрэнна паказаны ў аповесці паасобныя рысы вобраза начальніка палітаддзела чыгункі. Начальнік палітаддзела выступае не якім-небудзь адміністратарам, а чалавекам, які прасякнут вялікім пачуццём, вялікай любоўю да рабочых чыгункі, да тых спраў, якімі заняты рабочыя. Наведванне начальнікам палітаддзела кватэры дзеда машыніста, цёплая гутарка з дзедам аб справах чыгункі і пасля яго загад завезці дзеду на кватэру дроў,—усё гэта гучыць рэалістычна, праўдзіва і пераканаўча. У асобе начальніка палітаддзела рабочыя чыгуначнікі адчуваюць сваю апору, свайго старэйшага таварыша, які ва ўсім дапамагае. А таму поўным рэзанансам і цяплынёй гучаць і словы старой бабулі—жонкі дзеда-машыніста адносна начальніка палітаддзела:

— «От якое начальства пашло цяпер... Ці-ж бачыў свет калі, каб такі начальнік вялікі ў госці прыходзіў? Да старога майго, да інваліда нядзэшлага пошоў! Ну каб да машыніста, дык той-жа працуе, патрэбны на рабоце. А Сымон—ён-жа адпрацаваў сваё. От гэта начальнік!»

У адрозненне ад праўдзівасці паказу дадатных вобразаў людзей аповесці, найгорш паказан вобраз кулака. Замест раскрыцця класавай сутнасці кулака Шардыка, замест паказу яго асноўных ідэалагічных рыс, якія абумоўліваюць яго варожыя дзеянні ў дачыненні да пролетарыята, да грамадскай уласнасці нашай дзяржавы, аўтар абмежаваўся знешнімі фізіялагічнымі зарысоўкамі, надаючы ім звярыны выгляд, характарызуючы іх, напрыклад, такімі эпітэтамі, як: «рыпнуў зубамі», «вылупіў вочы», «воўчым зіркам» і інш. Гэты прыём не ўскрывае і не паказвае нам варожай класавай сутнасці кулака. Гэты прыём і паказ з'яўляецца не характэрным і ён не ствараe адпаведнага ўражання, не мае пазнавальнай і функцыянальнай каштоўнасці.

Трэба сказаць, што аповесць слаба аўтарам распрацавана з кампазіцыйнага боку. Акрамя таго, што яна складаецца з невялікіх навел, зарысовак і не мае адзінай моцнай сюжэтнай лініі,—аповесць не па ўсіх лініях кампазіцыйна даведзена да канца. Напрыклад, аўтар у пачатку аповесці многа спыняецца на вобразах маці і бацькі Петрыка. Нават робіць спробу паказаць паасобныя рысы іх характару. А пасля гэтыя вобразы неяк знікаюць і не з'яўляюцца. Толькі

ў самым канцы зусім нечакана ні з таго, ні з сяго з'яўляецца бацька Петрыка. Наогул, з кампазіцыйнага боку, атрымалася так, што аўтар стрэльбу павесіў, але забыўся «выстрэліць».

Аднак, не гледзячы на рад недахопаў аповесці,—яна будзе чытацца з зацікаўленасцю і чытач школьнік атрымае многа цікавага з жыцця і працы рабочых чыгункі і іх дзяцей. У гэтых адносінах вялікую ролю адыгрывае мова.

Мова аповесці жывая, простая і маляўнічая. Сказы ў большасці кароткія і лагічна закончаныя. Месцамі некалькімі словамі аўтару ўдаецца стварыць шырокі вобраз, перспектыву.

У дачыненні да ранейшых твораў, у сэнсе мовы аўтарам прароблена шмат. У данай аповесці адсутнічаюць тыя правінцыялізмы і архаізмы, якія маюць месца хоць-бы ў такім творы Шынклера, як «Сонца пад шпалы».

Аповесць «Петрык—завадатар» павінна для Хв. Шынклера з'явіцца добрым пачаткам для стварэння яшчэ лепшых і цікавейшых твораў для дзетвары нашай соцыялістычнай радзімы.

*С. Куніцкі.*

## „АДНАГОДКІ". ЗБОРНІК ТВОРАЎ МАЛАДЫХ АЎТАРОЎ

Выданне ДВБ, 1936 г., цана 1 руб. 50 кап.

Чацверты па ліку зборнік маладых аўтароў «Аднагодкі» вылучаецца поўнай літаратурнай сталасцю. Калі ў першых зборніках сустракаўся выпадковы матэрыял, які часам і не гаварыў аб праяўленнях здольнасці аўтара, дык зборнік «Аднагодкі» з'яўляецца смелым уласным голасам маладой беларускай літаратуры.

У зборніку ўдзельнічае восемнаццаць аўтароў. Усё гэта моладзь, большасць якой нарадзілася пасля Кастрычніцкай рэволюцыі, якія не адчулі на сабе праклятага мінулага. Творчасць гэтых таварышоў прасякнута совецкім аптымізмам, перапоўнена ўпэўненасцю ў нашы перамогі, любоўю да нашай соцыялістычнай радзімы. У сваёй творчасці гэтыя людзі імкнуцца авалодаць тэхнікай верша, глыбокім зместам, цікавым сюжэтам, вобразнасцю і г. д.

З празаічных твораў вылучаецца сваёй мастацкай свежасцю, апавяданне Краўчанкі «На крутым павароце». Гэта апавяданне пра тое, як наша Чырвоная армія перавыхоўвае не толькі адсталага і малакультурнага селяніна, а нават і такіх людзей, як цыган (вандроўнік Алек, які, вярнуўшыся з Чырвонай арміі, парашыў асесці на зямлю і стаць кавалём, які потым выратоўвае калгасных коней). Алек агітуе свайго бацьку не голымі, траскучымі сказамі. Ведаючы, што бацьку цяжка зразумець яго, Алек кажа:

— «Асядзем. Купім хату, як зрабіў стары Іван, каваць будзем, на зямлі навучымся рабіць. Тата, у арміі мяне шмат чаму навучылі. Бачу я: нуднае валацужнае жыццё цыгана. Вось дзьме халодны сівер, вільгаць ломіць косці. Сёння холад, голад, заўтра холад, голад. Ці-ж гэта жыццё...»

Краўчанка маляўніча дае зарысоўкі пейзажа: «Алек глядзіць проста перад сабою ў лес, бо дарога завярнулася некуды ў бок,

вядучы за сабою стройную лінію тэлеграфных слупоў. У лесе з дрэў па адным адрываюцца і ляцяць, кружачыся, жоўтыя лісточкі. Тонкім слоем іх усланы ўвесь лес, дарога і здаецца зямля ад гэтага жоўтая, дзіўная. Палеткі, што сустракаюцца з бакоў дарогі, таксама жаўцеюць зжатай пожняй, чарнеюць паворанай раллёй, а ўверсе над лесам, незамкнутым трыкутнікам ляцяць, скрыгочучы, жураўлі...»

Трэба адзначыць некаторую раскіданасць і адрыўчывасць у распрацоўцы сюжэта апавядання. У асобных мясцінах аўтар нібы адводзіць увагу чытача апісаннем непатрэбных дэталей.

Апавяданне Ф. Бірылы «Свежая вада» паказвае як калгас будаваў калодзеж і як брыгада комсамольцаў узялася за гэтую справу і скончыла яе ўдарнымі тэмпамі. Валодаючы простай апавядальнай мовай, Бірыла не пазбег некаторай натуралістычнасці ў апісанні сходу і паасобных паводзін герояў.

Цікавыя апавяданні Ів. Грамовіча «Ружавіўся ўсход» і Міколы Лупсякова «Нечаканае». Праўда, Грамовіч яшчэ вельмі слаба валодае стылістычнымі сродкамі, але адно відаць, што і Грамовіч і Краўчанка, і Лупсякоў, і Бірыла сур'ёзна, удумліва працуюць над мовай. Мова ў іх вобразная і зразумелая. Пазбегшы правінцыялізмаў, яны густоўна часам ужываюць новатворы. Пры далейшай працы над падвышэннем культурнага ўзроўню яны ў наступных творах могуць праявіць сябе як майстры мастацкага слова.

Найбольш цікавым у зборніку з'яўляюцца вершы Бурдзеля. Бурдзель у вершы «Спадчына» кажа аб сваёй краіне:

Сілай сокаў набракаюць долы,
Сколькі скарбаў адчыняюць горы,
Шырацца прыземістыя сёлы,
Гарады выцягваюцца ў гору
Вокнамі на сонечны маяк.—
Самая вялікая на свеце
Спадчына багатая мая.

Вершы «Іпрыт», «Мой антыпод» цікавыя і свежыя па сваёй тэме. Аўтар змог скупой мастацкай мовай паказаць, як фашысты выкарыстоўваюць навуку ў сваіх інтэрвенцкіх мэтах, бесперспектыўнасць навукі ў капіталістычных краінах.

Пярэсціцца вуліцы душны тонэль,
Крыклівымі шыльдамі банкаў і бараў,
Куды прытуліцца, мо возьме готэль
Берлінскі готэль на пасаду швэйцара,—

кажа малады вучоны ў раздуме, стоячы на вуліцы капіталістычнага горада.

Перад Бурдзелем адчыняюцца шырокія перспектывы. Авалодаўшы тэхнічнымі сродкамі верша, Бурдзель павінен працаваць над моўнымі сродкамі, каб верш быў больш музычным і сакавітым.

Звяртае на сябе ўвагу малады паэт Панчанка сваёй рытмічнасцю верша і своеасаблівай паэтычнай цяплынёй вобраза. У зборніку змешчаны два яго вершы: «З песняю вясны» і «Сустрэчы». У вершы

«З песняю вясны» Панчанка дае самастойныя лірычныя вобразы вясенняга пейзажа.

За працаю штыкі і дзетвара:
Трашчаць буслы падпёршы дзюбай сонца,
На цёмна-сінім вадзяным абрусе
Флатыльля крыл выходзіць на парад...

Верш «Сустрэча» вылучаецца своеасаблівай настраёвасцю. Гэта верш пра любоўную сустрэчу, аднак пазбаўлены плаксівасці і перайманьня старых паэтаў. Наш малады чалавек нашай слаўнай эпохі мае адменныя пачуцці і адносіны да «каханай дзяўчыны». Гэтая настраёвасць праяўляецца праз наступныя радкі.

А ўвечары у клубе
Сіл мясцовых пастаноўка,
Там мяне крытыкавалі
За благую якасць лоўка—
Аж смяяліся навокал.
А гучней усіх і звончай
Тая дзеўчына, што хвалі
Увнімала ў маім сэрцы
І прыкоўвала мой позірк.

Панчанка, будуючы свой верш, адыходзіць ад даўно засвоеных вершаваных канонаў. Верш атрымліваецца свежым, бадзёрым і ўзнятым.

Упершыню друкуюцца ў альманаху вершы М. Сяднёва «На скрыжаванні дарог» і «На вуліцы». У вершы «На скрыжаванні дарог» Сяднёў дае малюнак вялікага сібірскага шляху, па якім калісьці жандармы гналі сялян паўстанцаў:

Ляжаць дарогі гэтыя вякамі
На іх надзьмулі сіверы пяску.
Адна ідзе на вёску Белы Камень,
Другая на Іркуцк.

Гэта малюнак суровы, паўстае сібірская дарога, пустынная, бясконцая дарога, па якой ідуць людзі, закутыя ў кайданы.

Навокал глуха, з торбай за плячыма
За ім цягнуліся дзесяткі чарадой.

Паказаць праклятае мінулае—гэта таксама важная задача для паэта. Як відно, гэта Сяднёву да некаторай ступені ўдаецца. У вершы «На вуліцы» Сяднёў імкнецца даць лірычныя зарысоўкі. Аднак у яго не хапае паэтычнай сілы, каб верш зрабіць глыбока прачутым і эмацыянальным.

У вершах Бацюшкова «Вясна», аўтар спрабуе адыйсці ад звычайнай рытарычнасці і надуманасці вобраза, якія так часта сустракаліся ў ранейшай творчасці паэта. Бацюшкоў напісаў верш «Вясна» ў лірычных танах народнай песні:

Загукаю борам, загукаю,
Выйду ў поле, сонца запытаю,
Яснавочка, дай свой голас краю
Калі ворыва пачаць ратаю.

Праўда, гэта яшчэ толькі спробы і нясмелыя шуканні. Бацюшкову і надалей трэба вывучаць народную творчасць, каб верш быў больш пявучым і шчырым.

Вершы Бачылы, Калачынскага, Няхая, Матэвушава, Пацемкіна, Леанідава кажуць пра наяўнасць паэтычных здольнасцей у таварышоў. Аднак не ўсе яны шчыра працуюць над вывучэннем мовы, над вобразнасцю верша, над тэхнічнай апрацоўкай кожнага радка. Вершы часам зрываюцца рытмічна, часам сустракаюцца надуманыя і няўдалыя вобразы, сказы. Трэба каб кожны радок узнімаў у чытача пачуцці, меў такую мастацкую сілу, каб змог хвалявать, ствараць настраёвасць у чытача. Кожны твор павінен быць напоўнены любоўю да нашай радзімы, да чалавека будаўніка, нянавісцю і гневам да класавых ворагаў. Толькі праз штодзённую вучобу можна дасягнуць поўных вынікаў.

Выхад альманаха, якасць твораў, змешчаных у ім—факт вялікага культурнага значання, які гаворыць, што расце здольная літаратурная моладзь.

*Х. М.*

# ХРОНІКА

## III ПЛЕНУМ ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ

16 лютага скончыў сваю работу III пленум праўлення саюза совецкіх пісьменнікаў СССР. Пленум заслухаў даклады пра совецкую літаратуру Беларусі т. Клімковіча, і даклад аб башкірскай літаратуры Т. Тагірава.

Асаблівую ўвагу пленум аддаў пытанням совецкай паэзіі. Былі заслуханы даклады: пра паэзію РСФСР т. Суркова, БССР т. Александровіча, УССР т. Сенчанка.

У спрэчках па дакладах Клімковіча і Тагірава выступілі Бруно Ясенскі, Лідзін, Бахмецьеў, Леўман, Лынькоў, Галавач, Чорны і інш. У выступаўшых па дакладах пра беларускую і башкірскую літаратуру пераважаў у большасці таварышоў сур'ёзны і строгі падыход.

Па пытаннях паэзіі ў спрэчках выступалі тт. Безыменскі, Пастэрнак, Эйдэман, Пракофьеў, Кірсанаў, Сельвінскі, Ізі Харык, Уткін, Вера Інбер, Тычына, Броўка, Бажан, Бранштэйн, Галодны і інш.

Абгаварэнне пытанняў паэзіі насіла дзелавы таварыскі характар. Паэтаў аб'яднала ўсведамленне аднаго, што перад імі стаяць агульныя задачы: песняю, лозунгам, паэмай дапамагаць соцыялістычнаму будаўніцтву, выхоўваць новых людзей, узмацняць абароназдольнасць нашае краіны.

З вялікімі прамовамі выступілі на пленуме сакратар ЦК КП(б)Б Н. Ф. Гікало і старшыня СНК БССР т. Галадзед.

## РЭЗАЛЮЦЫІ III ПЛЕНУМА ПРАЎЛЕННЯ ССП СССР ПА ДАКЛАДАХ БЕЛАРУСКАГА І БАШКІРСКАГА САЮЗАЎ СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

Трэці пленум праўлення саюза совецкіх пісьменнікаў, заслухаўшы даклады тт. Клімковіча і Тагірава і выступленні па дакладах, канстатуе: літаратура Беларусі і Башкірыі ў рэзультаце пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва і разгрому класавага ворага вырасла ў значную сілу соцыялістычнай культуры і выхавання працоўных мас у духу соцыялізма.

За час, што прайшоў з першага з'езда пісьменнікаў, праўленні ССП Беларасі і Башкірыі прарабілі вялікую работу па ідэйнаму згуртаванню пісьменніцкіх кадраў пад сцягам самаадданай барацьбы за соцыялістычную радзіму сусветнага пролетарыята—СССР.

Аналіз творчасці беларускіх і башкірскіх пісьменнікаў, дадзены ў дакладах і спрэчках, сведчыць пра рост майстэрства пісьменнікаў, пра пашырэнне яе тэматычнага кола, павышэнне яе якасці.

Перакладчыцкая работа, што разгарнулася пасля з'езда, з'явілася фактарам велізарнага культурна-рэволюцыйнага значэння, фактарам, умацоўваючым дружбу паміж народамі. Для маладой башкірскай літаратуры перакладчыцкая работа, апрача павелічэння літаратурнага багацця народу класічнымі ўзорамі сусветнай літаратуры, мела і той несумненны рэзультат, што спрыяла развіццю літаратурнай мовы і павысіла мастацкае майстэрства башкірскіх пісьменнікаў.

Пленум даручае сакратарыяту ССП пашырыць перакладную работу, звярнуўшы асаблівую ўвагу на якасць, прыцягваючы да перакладаў лепшых майстроў паэзіі і прозы.

Аднак, у святле стаханаўскага руху, які падняў усю краіну на вышэйшую

ступень гістарычнага развіцця, недахопы літаратуры, яе адставанне вастрэй і відней. І гэта становішча патрабуе рашучага павышэння ўзроўню майстэрства пісьменніка, безумоўнага пашырэння яго кругавіду і глыбокага вывучэння нашай рэчаіснасці.

Гераізм, які стаў у краіне свядомым і звычайным імкненнем кожнага перадавога пралетарскага рэвалюцыянера гэты гераізм, які захапіў мільёны працоўных, не ўцелавён пакуль дастаткова поўна ў вобразах мастацкай літаратуры. Не паказаны тыпы пралетарыяў-стаханаўцаў, няма сапраўднага паказу новага чалавека, героя, якога хацела-б пераймаць моладзь краіны соцыялізма. Ва ўсім гэтым таксама значная віна крытыкі, што не здолела накіраваць імкненняў пісьменнікаў да раскрыцця актуальных тэм сучаснасці. У Беларусі і Башкірыі крытыка асабліва слабая. Стварэнне перадавой, вядучай літаратуры, крытыкі з'яўляецца асноўнай і рашаючай задачай гэтых літаратур.

Пленум звярачвае ўвагу ўсяго Саюза і ў першую чаргу Беларусі і Башкірыі на неабходнасць карэннага пералому ў справе дапамогі і выхавання маладога пакалення пісьменніцкіх радоў, якое ідзе і прыйшло ўжо ў літаратуру.

Пленум выказвае ўпэўненасць, што на базе прынцыповай ідэйнай крытыкі і самакрытыкі літаратуры Беларусі, якая стаіць на граніцы, і Башкірыі, якая знаходзіцца ў глыбокім „тыле" з аднолькавай сілай будуць змагацца пад сцягам партыі Леніна—Сталіна за непарушную дружбу народаў, за пралетарскі інтэрнацыяналізм, за абарону краіны супроць фашызма, за сусветную рэвалюцыю.

## ПА ДАКЛАДАХ т. т. СУРКОВА, СЕНЧЭНКІ І АЛЕКСАНДРОВІЧА

Заслухаўшы і абмеркаваўшы даклады тт. Суркова, Сенчэнкі і Александровіча пра савецкую паэзію, III пленум праўлення ССП канстатуе, што літаратура народаў СССР уладае цвёрда склаўшымся адзіным атрадам таленавітых паэтаў. Паэты братніх народаў СССР усё больш згуртоўваюцца ў адзіны паэтычны атрад нашай літаратуры. Сыны вялікай соцыялістычнай радзімы, савецкія паэты, не маюць іншых мэт, апрача мэт рабочага класа ўсіх нацыянальнасцей Саюза, што будуюць, пад кіраўніцтвам партыі і нашага вялікага Сталіна комунізм.

Акружаныя любоўю і ўвагай працоўных, працуюць паэты ва ўсіх рэспубліках Саюза. Любоў і ўвага краіны абавязваюць паэта працаваць над сабою, над удасканаленнем свайго таленту больш і лепш. двеінічаць арганізаваней, каб у найкарацейшы гістарычны тэрмін, апраўдваючы давер'е працоўных, стварыць творы, вартыя вялікіх спраў і гераічных людзей нашых часоў. Такія творы могуць быць створаны паэтамі, смелымі наватарамі, што спалучаюць у мастацкіх вобразах высокую бальшавіцкую ідэйнасць і высокае паэтычнае майстэрства. Процістоячы фармалізму і самамэтнаму эксперыментатарству, процістоячы бяскрыламу эпігонскаму прымітыву, савецкая паэзія будзе расці,—як сапраўды народная соцыялістычная паэзія, блізкая і зразумелая мільёнам будаўнікоў соцыялізма.

Пленум лічыць, што паэзія наша яшчэ адстае ад спраў і людзей нашай дзівоснай рэчаіснасці. Карэнні гэтага адставання ў нас саміх. Вось чаму з усёй палкасцю мы патрабуем ад кожнага паэта, каб ён быў перадавым чалавекам нашага часу і ў сваёй творчасці і ў жыцці.

Пленум лічыць зусім неабходным перабудаваць работу саюза так, каб дзейнасць кожнага паэта была вядома літаратурнай грамадскасці, сустракала нязменную ўвагу і сяброўскае падтрыманне, асанованае на таварыскай крытыцы і самакрытыцы.

Асаблівая ўвага—маладым паэтам, чаго цяпер няма і чаго далей нельга трываць.

Словы таварыша Сталіна аб тым, што Маякоўскі быў і застаецца лепшым таленавіцейшым паэтам нашай савецкай эпохі, прынятыя савецкай грамадскасцю з пачуццём найвялікшай радасці абавязваюць нас да таго, каб прыняць усе меры да найшырэйшай прапаганды творчасці Маякоўскага сярод мільённых мас працоўных і ўважліва і любоўна вывучаць вопыт вялікага паэта-наватара.

Пленум даручае праўленню саюза склікаць у пачатку 1937 году ўсесаюзную паэтычную нараду—агляд творчасці нашых паэтаў.

## УДЗЕЛЬНІКІ ПЛЕНУМА ПІСЬМЕННІКАЎ НА ПРАДПРЫЕМСТВАХ МЕНСКА

14 лютага на заводзе імя Кірава адбылася сустрэча рабочых з пісьменнікамі і паэтамі—дэлегатамі III пленума Саюза савецкіх пісьменнікаў.

Пісьменнікі і паэты Беразоўскі, Суркоў, Бела Ілеш, Стэндэ, Кузьма Чорны, М. Галодны агледзелі цэхі. Пасля ў новым механічным цэху адбыўся мітынг. Ад імя III пленума савецкіх пісьменнікаў таварыскае прывітанне кіраўцам перадалі пісьменнікі Суркоў, К. Чорны, венгерскі рэвалюцыйны пісьменнік Бела Ілеш і рускі пісьменнік Беразоўскі.

Польскі рэвалюцыйны паэт Стандэ і рускі паэт Міхаіл Галодны прачыталі свае вершы. Стаханаўцы завода паднеслі гасцям падарункі—манаграмы.

Пісьменнікі Новікаў-Прыбой, Віктар Гусеў, Фефер, Шведаў, Фрэнкель, Твардоўскі, Галаваніўскі, наведалі кандзіцерскую фабрыку „Комунарка". Пісьменнікі азнаёміліся з вытворчасцю фабрыкі. На адбыўшайся таварыскай вячэры з прамовамі выступілі тт. Новікаў-Прыбой, Фефер. Паэты Гусеў, Твардоўскі, Галаваніўскі чыталі свае творы.

## НАРАДА ПА ПЫТАННЮ ДРАМАТУРГІІ

13 лютага адбылася нарада сакратарыята секцыі драматургаў пры праўленні ССП СССР разам з драматургамі Масквы, Ленінграда, БССР, Абхазіі, Юга-Асеціі, Чувашыі, пры ўдзеле рэжысераў і артыстаў беларускіх дзяржаўных тэатраў і працаўнікоў кінематаграфіі. На нарадзе абмяркоўвалася пытанне аб падрыхтоўцы да дваццаціггоддзя Кастрычніка і даклад аб становішчы беларускай драматургіі. У працы нарады прыняў удзел старшыня СНК БССР т. Галадзед.

Даклад пра беларускую драматургію зрабіў т. Модэль.

Ніводнага буйнага драматургічнага твору не атрымаў беларускі пралетарыят у спадчыну ад рэвалюцыйнай літаратуры. Маладая драматургія Савецкай Беларусі прайшла складаны шлях развіцця, вытрымала ўпартую барацьбу з нацыяналістычнымі ўплывамі і высунула плеяду маладых таленавітых драматургаў — Кобеца, Гурскага, Александровіча і інш.

Тав. Модэль падкрэсліў велізарнейшую ролю рускай пралетарскай культуры, у прыватнасці рускай савецкай драматургіі, у выхаванні і творчым фармаванні беларускіх савецкіх драматургаў.

Гаворачы пра падрыхтоўку да 20-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі, тав. Модэль спыніўся на тэматыцы, над якой працуюць драматургі, сказаўшы, што галоўнымі тэмамі з'ўляюцца— героіка грамадзянскай вайны і барацьба за дыктатуру пролетарыята, праблема перамагання перажыткаў капіталізма ў свядомасці людзей і нараджэння новага ладу мысляў і пачуццяў, праблемы пролетарскага інтэрнацыяналізма і мастацкага выкрыцця буржуазных нацыяналістаў і інш.

Тав. Кобец спыніўся на некаторых пытаннях, не асветленых у дакладзе Модэля, адзначыў, што беларускія драматургі па баявому возьмуцца за работу над адказнейшымі юбілейнымі тэмамі, ім неабходна толькі цесная сувязь з усесаюзнай драматургіяй і творчая дапамога.

Узаемаадносінам драматургаў з тэатрамі прысвяціў свае выступленне тав. Рафальскі, які адзначыў між іншым, што тэатр оперы і балета, рэжысерам якога ён з'яўляецца, яшчэ не мае п'есы да 20 гадавіны Кастрычніка. Усё гэта звязана з нашай рэчаіснасцю, з нашай барацьбой—тэма грамадзянскай вайны, тэма будаўніцтва, тэма стварэння новага чалавека,—усіх нас хвалюе і павінна быць адлюстравана ў нашым юбілейным рэпертуары.

Тав. Рамашоў гаварыў пра неабходнасць барацьбы за стварэнне высокамастацкіх драматычных твораў, высокага паэтычнага гучання, якія былі-б на ўзроўні велізарнейшага росту нашай соцыялістычнай краіны і яе перадавых людзей—стаханаўцаў соцыялістычнай прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

З заключнай прамовай на нарадзе выступіў старшыня Бюро секцыі драматургаў пры ССП СССР вядомы драматург тав. Кіршон. Тав. Кіршон у сваёй цікавай і змястоўнай прамове

спыніўся на велізарнейшых палітычных і мастацкіх задачах, якія стаяць перад драматургамі ў сувязі з работай над новымі творамі да 20-годдзя вялікай пролетарскай рэволюцыі. Тав. Кіршон падкрэсліў велікае значэнне артыкулаў ЦО ВКП(б) „Правда" ў сувязі з операй „Лэдзі Макбет" і балетам „Светлы ручай" Шэстаковіча для ўсяго фронту мастацтва, у тым ліку і для драматургаў.

Тав. Кіршон сказаў, што з гэтых артыкулаў вынікае неабходнасць самай рашучай барацьбы з лявацкім нявечаннем, з фармалістычнымі кунштюкамі ў драматургіі, за стварэнне страсных, высока мастацкіх характараў, за стварэнне драматычных твораў, вартых нашай вялікай сталінскай эпохі. Ён заклікаў усіх драматургаў да дружнай сумеснай работы над новымі творамі, у якіх павінна быць адлюстравана барацьба пролетарыяў, працоўнага сялянства за дыктатуру пролетарыята і за перамогі ў соцыялістычным будаўніцтве.

## ВЫСТАЎКА ЛІТАРАТУРЫ НАРОДАЎ СССР ДА ПЛЕНУМА

Да пленума Праўлення Саюза Совецкіх пісьменнікаў СССР Дзяржаўная Бібліятэка і бібліяграфічны інстытут імя Леніна арганізавалі ў будынку бібліятэкі вялікую літаратурную выстаўку. На выстаўцы былі творы рускіх, беларускіх, яўрэйскіх, латышскіх, украінскіх, армянскіх, татарскіх, казахскіх, башкірскіх, бурата-мангольскіх, польскіх і іншых пісьменнікаў. Усяго было прадстаўлена твораў больш 90 паэтаў і пісьменнікаў.

Вялікае месца на выстаўцы займаў аддзел дзіцячай літаратуры СССР і аддзел фальклору.

## ВЕЧАР АРМЯНСКАЙ ПАЭЗІІ

У Доме культуры Совецкай Арменіі ў Маскве 19 лютага адбыўся вечар армянскай паэзіі. Выступалі маскоўскія і ленінградскія паэты, якія працавалі ў якасці перакладчыкаў у „Анталогіі армянскай паэзіі", якая ў бліжэйшы час будзе выдадзена выдавецтвам „Акадэмія". Яны чыталі пераклады народнага эпаса сярэдневяковай паэзіі і лепшых твораў паэтаў усходніх і заходніх армян XIX стагоддзя. Затым былі прачытаны пераклады твораў сучасных армянскіх паэтаў (Чарэнца, Акап'яна, Вштуні, Алазана, Наіры Зар'яна і інш.).

Выступалі Антакольскі, Тіханаў, Пастэрнак, Спаскі, Лазінскі, Звягінцава, Шэрвінскі і інш.

---

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *Я. Бранштэйн, П. Галавач, П. Глебка, З. Жылуновіч, К. Зарэмбоўскі, М. Клімковіч, Я. Колас, П. Крапіва, М. Лынькоў, К. Чорны.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Совецкая, 68, Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394

# ЗМЕСТ



---




Рэдактар *М. Лынькоў* Тэхрэдактар *Абрамава*

Здана ў набор 8/II-36 г. Падпісана да друку 10/III-36 г.
Аб'ём 11½ друк. аркуш. Знакаў у друк. арк. 62.200 Папера 72×110 1/16.
Тыраж 2.000 экз. Уп. Галоўлітбела № Б 1068.

Друкарня імя Сталіна. Менск, Энгельса, 2.

